*УДК 947.6*
*ББК 63.3(4Беи)*




*ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА прысвячаецца той Гародні, якой мы ганарымся.*
*Дзякуем усім, хто з намі.*

---

**Каардынатар кніжнай серыі**
**"ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА":**
Павал Мажэйка
**Ідэя серыі:** Эдвард Дмухоўскі

---

Гарадзенскі соцыум 2013. Гісторыя і памяць. XV-XX стст. / Пад рэд. А.К.Краўцэвіча і А.Ф.Смаленчука.
РЭЦЭНЗЕНТ:
Доктар гістарычных навук З.В.Шыбека, кандыдат гістарычных навук Сяргей Токць

Матэрыялы зборніка ***Гарадзенскі соцыум*** прысвечаныя пераважна палітычнай і сацыяльнай гісторыі Гародні ды іншых гарадоў Беларусі. Галоўным героем зборніка з'яўляецца ***гараджанін*** як суб'ект лакальнай гісторыі, а таксама гісторыка-культурнае асяроддзе, у якім праходзіла яго жыццё.
Кніга адрасаваная ўсім, каго цікавіць гісторыя Беларусі.

**Графічная апрацоўка і вёрстка:** Іван Паўлёнак
**Вокладка:** Іра Саранчукова

ISBN



*Памяці беларускага гісторыка і археолага*
*Міхася Чарняўскага (1938-2013)*
*прысвячаецца*

# ЗМЕСТ

# Прадмова

Зборнік ***Гарадзенскі соцыум*** уключае матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі, якая адбылася ў Гародні ў лістападзе 2013 г. Яе арганізатарамі з’яўляліся Беларускае гістарычнае таварыства, Інстытут славістыкі Польскай Акадэміі навук, Таварыства беларускай школы і выдавецкая серыя “Гарадзенская бібліятэка”.

На працягу пяці гадоў (2008-2012) гісторыкі вывучалі Гродна/Горадню/Гародню як пэўны “палімпсест”. У выніку атрымалася аднавіць фрагменты многіх знішчаных і забытых старонак гісторыі горада, а Гародня ператварылася ў адзін з буйнейшых у Беларусі цэнтраў па вывучэнню лакальнай гісторыі. Прыйшоў час, калі на першы план павінна выйсці інтэрпрэтацыя і рэканструкцыя мінулага, у цэнтры якога знаходзіцца чалавек.

Мы распачалі новы навуковы праект ***Гарадзенскі соцыум***, які прапануе ў большай ступені засяродзіцца на праблематыцы сацыяльнай гісторыі. У цэнтры даследчай увагі – сацыяльнае жыццё горада, яго структура, сістэма сацыяльных адносінаў ды іх эвалюцыя. Галоўным героем гэтага праекту з’яўляецца ***гараджанін*** як суб’ект лакальнай гісторыі, а таксама гісторыка-культурнае асяроддзе, у якім праходзіла яго жыццё.

Праект заахвочвае да міждысцыплінарнага падыходу з выкарыстаннем метадаў антрапалагічна арыентаванай гісторыі. Для апошняй характэрна імкненне дасягнуць найбольш глыбокіх гістарычных рэаліяў – ментальных, матэрыяльных і палітычных.

Важным элементам праекту з’яўляецца таксама параўнальны аналіз тых працэсаў, якія адбываліся ў сацыяльнай гісторыі іншых гарадоў рэгіёну. Кампаратывістыка дазваляе сумясціць натуральнае імкненне даследчыка да абагульненняў з павагай да гістарычнай адметнасці і своеасаблівасці.

Адначасна праект прадугледжвае працяг вывучэння Гародні як палітычнага, гаспадарчага, канфесійнага і культурнага цэнтру рэгіёну. Прадметам вывучэння таксама застаюцца нацыянальныя працэсы і праблематыка памяці. Але ў гэтых даследаваннях варта паспрабаваць адысці ад апісальнага характару падзеяў і паглядзець ***на гісторыю як на праблему.***

Першая канферэнцыя ў рамках новага праекту сабрала навукоўцаў з Менску, Варшавы, Вільні, Гародні, Віцебску, Магілёва,

Полацка, Вроцлава, Беластоку і Коўна. Тэматыка рэфератаў была досыць шырокай. Між іншым яна ўключала спробу зразумець гарадзенцаў Сярэднявечча (Алесь Краўцэвіч), характарыстыку сацыяльнай ролі гарбаты ў другой палове XIX ст. у Гарадзенскай губ. як аднаго з паказчыкаў станаўлення спажывецкага грамадства (Аэліта Амбрулевічутэ), аналіз памяці храніста на прыкладзе кляштарных хронік XVII – XVIII стст. (Ганна Паўлоўская), параўнанне гісторыі Гародні і Беластока ў міжваенны перыяд (Ежы Мілеўскі), апісанне збіцця як элемента крымінальнай штодзённасці Гародні XVI ст. (Віталь Галубовіч), аналіз месца Гародні і гарадзенцаў у літоўскай палітыцы 1918 – 1923 гг. (Тамаш Блашчак), характарыстыку ўдзелу мяшчанства ў вайсковых канфліктаў пачатку XVII ст. (Віктар Якубаў) ды інш.

Не ўсё з намечанага атрымалася рэалізаваць. Але гэта толькі пачатак. Спадзяемся, што гісторыкі і прадстаўнікі іншых гуманітарных дысцыплінаў (сацыёлагі, культуролагі, сацыяльныя антраполагі, лінгвісты ды інш.), зацікавяцца праектам і падтрымаюць нашыя намаганні.

*Алесь Смалянчук*

*Краўцэвіч Аляксандр, доктар гіст. навук*
*(Гародня)*

# Раннесярэднявечныя гарадзенцы (XI – XIII ст.)

Пра асобы сярэднявечных гарадзенцаў вядома вельмі мала па прычыне вялікага недахопу пісьмовых крыніц. У летапісах Гародня пачынае ўпамінацца з XII ст., хоць горад узнік нашмат раней – у канцы X ст. Ва ўсходнеславянскіх летапісах, польскіх і крыжацкіх хроніках можна сустрэць імёны выбітных гарадзенцаў, найперш, мясцовых князёў, а таксама згадкі пра чыны звычайных але безымянных людзей.

З іншага боку, інфармацыю пра жыццё і побыт шэраговых гарадзенцаў прыносяць археалагічныя даследаванні, бо культурныя наслаенні захоўваюць сляды найперш масавай, сапраўды народнай, матэрыяльнай культуры і вельмі рэдка ў іх можна сустрэць артэфакты культуры элітарнай.

Першая звестка пра горад у пісьмовых крыніцах адносіцца менавіта да яго важнейшага жыхара – князя "Усеваладкі з Городна" (літаральна: "Всеволодка из Городка [*Примѣчанія*: Буква *к* передѣлана *изъ н*]"[1]. Той жа летапіс называе жонку князя Агату (Агаф'ю) Уладзіміраўну (дачка Манамаха), ягоных сыноў: Барыса, Глеба, Мсціслава. Мы ведаем, што гарадзенскія князі ў XII ст. знаходзіліся ў васальнай залежнасці ад кіеўскіх і мусілі прымаць удзел у вайсковых выправах кіяўлянаў, часам нават у далёкі паўднёвы стэп. З летапіснай інфармацыі пра дынастычныя шлюбы даведваемся, што гарадзенскі княскі род пасваячыўся не толькі з кіеўскімі, але тураўскімі ды чарнігаўскімі князямі.

Гіпатэтычна, але са значнай доляй верагоднасці сучасныя даследчыкі вызначылі імя знакамітага гарадзенца, які жыў у другой палове XII ст. і будаваў у горадзе (у 80-я гады XII ст.) цудоўныя мураваныя храмы, стварыўшы ўласна гарадзенскую архітэктурную школу – невялікую па колькасці помнікаў, але самую ўнікальную ва ўсходнеславянскім свеце. Вядомы даследчык архітэктуры старажытнай Русі Павал Рапапорт вывеў на аснове падабенства гарадзенскіх і некаторых украінскіх помнікаў, што дойліда звалі Пётр Міланег[2]. Гэты, вядомы з летапісу архітэктар, на замову

кіеўскага князя Рурыка Расціслававіча ў 1199 г. узвёў цагляную сцяну ў Выдубіцкім манастыры (другая мураваная сцяна знойдзеная толькі на гарадзенскім Старым замку). Акрамя таго, будаўнічыя прыёмы з Гародні былі ўжытыя ў оўручскім храме (увядзенне шліфаваных камянёў у муроўку фасадаў), у Белгарадзе на фасадзе замацаваныя маёлікавыя пліткі, а ў Пятніцкай царкве ў Чарнігаве вуглы зрэзаны падобна гарадзенскім цэрквам. Да таго ж яшчэ даследчыкі выявілі ўжыванне галаснікоў і амфар у муроўцы оўручскай і чарнігаўскай цэркваў, ды супадзенне некаторых знакаў на плінфах з Гародні і з царквы ў Чарнігаве. На падставе гэтых аналогій П.Рапапорт выказаў меркаванне, што Пётр Міланег пачынаў сваю кар’еру ў Гародні, а потым пераехаў у Кіеў разам з гарадзенскай будаўнічай арцеллю.

Пра гарадзенцаў XIII ст. найбольш звестак утрымліваюць Галіцка-Валынскі летапіс і хроніка Тэўтонскага ордэна Пятра Дусбурга. Гэта звязана са значнай роляй Гародні ў пачатковай гісторыі ВКЛ і выключна важным яе значэннем як галоўнага пункта абароны Літвы ў вайне з Тэўтонскім ордэнам.

Летапіс пераказвае цікавыя, часам унікальныя, звесткі пра барацьбу галіцка-валынскіх князёў за Панямонне з новапаўсталым ВКЛ. З тых звестак адназначна вынікае, што гарадзенцы былі на баку вялікіх князёў літоўскіх – мужна бараніліся ад галіцка-валынскіх войскаў і ўдзельнічалі ў паходах на галіцка-валынскія землі. У прыватнасці, у 1275 г. па загаду вялікага князя Трайдэна гарадзенская дружына знянацку, уначы захапіла горад Драгічын на Падляшшы і жорстка расправілася з яго жыхарамі. У апісанні гэтай падзеі называецца імя чалавека, які дапамог гарадзенцам заспець драгічынцаў знянацку – нейкі Трыд. (“*... і Трыд з імі быў; ён ведаў пра горад, як можна яго ўзяць, улезлі ноччу, і так узялі на самы вялікдзень, пабілі ўсіх ад мала да вяліка*”[3]) Відавочна, гэты чалавек не быў карэнным гарадзенцам, а хутчэй мігрантам – уцекачом або перабежчыкам. Дарэчы, летапіс паведамляе пра ўцекача ці перабежчыка ад галіцка-валынскага войска два гады пазней, які прынёс гарадзенцам вестку пра набліжэнне ворага. Тады ў 1277 г. горад дапамагалі бараніць балцкія мігранты, якіх летапіс называе “прусамі і бортамі” (Бартыя – вобласць у Прусіі). Як сугучна інфармуюць і Галіцка-Валынскі летапіс і Хроніка Пятра Дусбурга, вялікі князь Трайдэна пасяліў прускіх выхадцаў каля Гародні і Слоніма[4].

Рэгулярныя паходы ордэнскіх войскаў на Гародню пачаліся ад 1284 г. адразу пасля заваёвы крыжакамі апошніх земляў у Прусіі. Пётр Дусбург назваў імя яшчэ аднаго некарэннага гарадзенскага

жыхара – Скуманда, яцвяжскага правадыра з Судовіі. Той перасяліўся са сваім племям у Літву, каб не патрапіць пад уладу крыжакоў. Потым аднак вярнуўся, пакарыўся Ордэну, прыняў каталіцтва і быў выкарыстаны ордэнскім кіраўніцтвам як праваднік у паходзе на Гародню. Але ў тым жа паходзе крыжацкія воі схапілі і забілі выхадца з Прусіі з племені бартаў, які не здрадзіў новай айчыне[5].

Хроніка Дусбурга апісвае цікавыя, часам драматычныя эпізоды з жыцця абаронцаў Гародні. У 1296 г. крыжацкі атрад пад Гародняй перабіў ліцвінскі дазор і толькі адзін вой, русін[6], як падае храніст, хоць быў цяжка паранены, але здолеў скінуць крыжацкага ваяра з каня, ускочыць на яго і ратавацца ўцёкамі. Аднак з-за вялікай страты крыві ён моцна аслабеў і быў ужо не ў стане бараніцца ці падганяць каня. Адзін з крыжакоў накіраваўся па слядах крыві на снезе, дабіў непрытомнага воя (напэўна, гарадзенца), забраў каня і вярнуўся да сваіх.

З хронікі Дусбурга вынікае, што гарадзенскія рыцары не саступалі ў баявым майстэрстве тэўтонскім і на роўных біліся імі ў адкрытым полі. Таксама жыхары горада ці яго ваколіцаў выступалі як разведчыкі.

Часам і ў нашыя часы можна натрапіць на сляды таго сярэднявечнага змагання. У 1988 г. гарадзенскія школьнікі знайшлі пад Гародняй на беразе Нёмана комплекс узбраення рыцара-русіна, які падобна загінуў падчас вайны з крыжакамі ў канцы XIII – пачатку XIV ст.[7]

Інфармацыю пра штодзённае жыццё, побыт, этнічны склад сярэднявечных насельнікаў Гародні прыносяць археалагічныя раскопкі, найперш на тэрыторыі Старога замку, дзе за больш чым тысячагоддзе існавання паселішча накапіўся культурны слой таўшчынёй да 10 м, у якім выдатна захоўваюцца арганічныя матэрыялы.

Горад актыўна разрастаўся і найбольшага росквіту і памераў за ўсё сярэднявечча дасягнуў у XII – XIII ст. У ім сфармавалася тыповая для ўсходнеславянскага горада планіровачная структура: дзядзінец (Стары замак) вакольны горад (Новы замак) – неўмацаваныя пасады. Старажытны горад меў радыяльна-кальцавую планіроўку.

Акрамя рэпрэзентатыўнага мураванага княскага харому, большага па памерах за палацы полацкіх і смаленскіх князёў, археолагі адкрылі некалькі дзесяткаў дамкоў і гаспадарчых пабудоваў замкавай чэлядзі, парэшткі вулічных маставых і насцілаў двароў. Як усюды ў часы сярэднявечча, халупы чаляднікаў непасрэдна суседзілі з шыкоўным княскім харомам. Падобнае суседства раско-

шы і бядоты ў тыя, ды і пазнейшыя часы, успрымалася як норма і нікога не здзіўляла.

Несумненна, святам для гарадзенцаў ад канца XII ст. было наведванне мураваных цэркваў – вялікіх, незвычайна прасторных (у параўнанні з храмамі ў іншых гарадах), багата аздобленых фасадным дэкорам.

Звыклае жытло раннесярэднявечных гарадзенцаў было зрублена з сасновых бярвенняў і мела плошчу каля 12 кв.м (3 х 4 м). Дамкі беднякоў такіх памераў вядомыя з інвентароў Гародні яшчэ ў XVI ст. Забудова мела дваровы характар нават на Старым замку, нягледзячы на цеснату – дворык-сядзіба з дзвюх – пяці пабудоваў памерамі ад 1,5 х 1,4 м да 4,5 х 5 м адгароджваўся невысокімі ўбітымі ў зямлю бярвеннямі. Гарадское жыццё ў Сярэднявеччы найбольш інтэнсіўна праходзіла ў XI – XIII ст. – часах агульнаеўрапейскага дэмаграфічнага ўздыму. Усяго на гарадзенскім Старым замку ад пачатку паселішча да канца XIII ст. зафіксавана 18 будаўнічых ярусаў[8].

На падставе даных археалогіі можна меркаваць, што дамы бедных гарадзенцаў былі малымі, дрэнна асветленымі (ваконныя шчыліны закрываліся драўлянымі засаўкамі), абаграваліся каменна-гліянымі рабочымі печамі і ў літаральным сэнсе патаналі ў гразі. Смецце выкідвалася проста на падворак, які не прыбіраўся, адсюль хуткае нарастанне культурнага слою і гразь, асабліва пасля дажджоў. Таму дворыкі і праходы паміж дамамі вымошчваліся паленамі і кавалкамі дошак. З-за скучанасці па прычыне недахопу месца ўнутры ўмацаванняў на Старым замку (дзядзінец) і Новым замку (вакольны горад) сапраўднай бядой іх жыхароў былі пажары. Шчыльная забудова выгарала рэгулярна з прамежкам у некалькі гадоў, пра што сведчаць частыя новабудоўлі і характэрныя сляды пажару на парэштках бярвенняў. Напрыклад, на працягу стагоддзя ад пачатку XII ст. да пачатку XIII ст. драўляная забудова Старога замка аднаўлялася 15 разоў.

Асноўным жыццёвым клопатам сярэднявечных гарадзенцаў, як і паўсюдна ў сярэднявеччы, з'яўлялася здабыванне ежы. З прадуктамі заўсёды была праблема па прычыне недасканаласці тэхнікі земляробства, нізкіх ураджаяў і моцнай залежнасці ад кліматычных умоваў. Асноўнай зернявай культурай Панямоння ад XI ст. было азімае жыта. Далей ішлі пшаніца, ячмень, проса, авёс, грэчка, бабовыя культуры (конскія бабы, віка, гарох, сачавіца; тэхнічныя культуры: лён, каноплі).

Сярэднявечныя гарады лічацца цэнтрам рамяства і гандлю,

але не менш, а можа і больш часу чым рамесная ці гандлярская дзейнасць у гарадзенцаў забірала земляробства. Кожны гараджанін па меры магчымасці ды заможнасці стараўся трымаць прысядзібны агарод у горадзе і поле каля горада. Адметнасцю Гародні сярод усёй Усходняй Еўропы быў незвычайна вялікі ўдзел у рацыёне жыхароў прадуктаў палявання, што не дзівіць пры блізкасці знакамітай Гарадзенскай пушчы, якая хоць і была дзяржаўнай, але даступная і простым гараджанам.

Гарадзенцы ад самых пачаткаў горада мусілі асцерагацца крадзяжоў. Ужо ў ранніх слаях XI ст. археолагі знайшлі на дзіва вялікую колькасць замкоў і ключоў да навясных і ўнутраных замкоў, буйных ключоў ад дзвярэй і невялікіх – ад сундукоў і ларцоў[9]. Асноўнае хатняе начынне выраблялася з падручных танных матэрыялаў, найперш з дрэва, косці і гліны.

Па меры росту горада і наладжвання знешніх сувязяў яго жыхары ўводзілі ў побыт прывазныя рэчы. У XII – XIII ст. гарадзенскія жанчыны любілі насіць, акрамя караляў і пацеркаў, шкляныя бранзалеты на руках, якія прывозіліся, галоўным чынам з кіеўскіх шкляных майстэрняў. Бранзалеты дыяметрам каля 10 см і ў сячэнні каля 4 – 5 мм, гладкія ці рабрыстыя мелі самыя разнастайныя колеры: цёмна-сіні, цёмна-зялёны, фіялетавы, светла-жоўты, чорны, карычневы з жоўтай спіральнай палоскай і інш.[10]

Археалогія дапамагла здабыць звесткі і пра этнічны склад сярэднявечных гарадзенцаў. Першымі жыхарамі горада ад канца X ст. і амаль да канца XI ст. былі ўсходнія славяне-язычнікі, якія прыйшлі сюды з поўдня – земляў дрыгавічоў і валынянаў. Пра язычніцтва сведчыць адсутнасць у культурных наслаеннях рэчаў хрысціянскага культу да другой паловы – канца XI ст.

Матэрыяльная культура Гародні была тыповай для сярэднявечнага ўсходнеславянскага горада. Знаходкі керамікі мазавецкага тыпу, а таксама рэчаў балцкага паходжання сведчаць пра ўдзел у фармаванні гарадзенскага насельніцтва выхадцаў з мазавецкіх і балтыйскіх земляў[11].

Сярэднявечныя гарадзенцы наладзілі шырокія гандлёвыя і культурніцкія сувязі. Пра першыя сведчаць шматлікія імпартныя прывазныя рэчы: ад масы шкляных бранзалетаў з Кіева да рэдкіх, як вадалей з нямецкіх земляў. Жыхары Гародні былі адкрытыя як на ўсход, так і на захад. Рэканструкцыя падкупальнага ўзору падлогі Ніжняй царквы (збудаванай у візантыйскай традыцыі) на Старым замку паказала, што ў кампазіцыі ўзору выка-

рыстана сімволіка, якая шырока выкарыстоўваўся ў еўрапейскім храмавым будаўніцтве XI – XIII ст. Ідэаграма ў выглядзе пяці дыскаў – аднаго ў цэнтры і чатырох вакол яго, азначала сонца і чатыры яго станы. Гэты арнамент быў асіміляваны хрысціянскім мастацтвам. У заходнееўрапейскай гістарыяграфіі такая структура называецца Quincunx (лац. – размеркаванне па кутах квадрата з пятым элементам пасярэдзіне). Таксама дэкаратыўныя элементы малюнка падлогі прадстаўляюць аграрна-магічныя сімвалы, якія *"з'яўляліся своеасаблівымі замовамі, апрадмечанымі ў арнаменце"*[12].

Мураваная вежа на гарадзенскім дзядзінцы, упамянутая ў летапісе, па ўсёй верагоднасці належала да г.зв. вежаў валынскага тыпу і была адной з першых у Беларусі пабудоваў гатычнага стылю.

У нас няма дакладных звестак пра распаўсюджанне пісьмовасці, але вядома, што ў тагачаснай Гародні былі пісьменныя людзі і сярод простых гараджанаў. Адно са сведчанняў гэтага кірылічныя надпісы, у тым ліку выдрапаны на праселцы: *"Госпадзі, памажы рабе сваёй ..."*[13].

Гарадзенскія месцічы XI – XIII ст. былі тыповымі людзьмі сярэднявечча. Шмат часу і сілаў ім забірала змаганне за элементарнае выжыванне. Але можна заўважыць адну важную нетыповасць – яны былі жыхарамі этнічнага пагранічча. Пры дамінаванні ўсходніх славянаў, сярод іх знаходзіліся выхадцы з балцкай ваколіцы, прускія эмігранты і мазаўшане. Гарадзенцы ад самых пачаткаў іх места мусілі праходзіць навуку талерантнасці, якая дала свой плён ужо ў сярэдзіне XIII ст. калі на Панямонні пры актыўным удзеле гарадзенцаў пачала ствараецца новая язычніцка-хрысціянская дзяржава – Вялікае Княства Літоўскае.

---

[1] Полное собрание русских летописей (далей ПСРЛ). Москва, 1962. Т. 2. Стб. 292.

[2] Раппапорт П.А. Пётр Міланег — гродзенскі дойлід XII стагоддзя // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі 1987. №4. С.21 – 22.

[3] ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 205; 1908. С. 871.

[4] ПСРЛ. Т. 2. 1843. С. 206; 1908. Стб. 874; Piotr z Dusburga. Kronika ziemi Pruskiej. Toruń, 2004. S. 150.

[5] Piotr z Dusburga. Kronika ziemi Pruskiej. S. 138, 165.

[6] Piotr z Dusburga. Kronika ziemi Pruskiej. S. 190. Верагодна, русінаў разпазнавалі па формах даспехаў і ўзбраення.

[7] Краўцэвіч А.К. Комплекс зброі і рыштунку XIII ст. з-пад Гродна // З глыбі вякоў. Гісторыка-культуралагічны зборнік. Мн.: Навука і тэхніка, 1992. С. 40 – 46.

[8] Трусаў А. і інш. Стары замак у Гродне 11 – 18 стст.: Гіст.-археал. Нарыс Мн.: Навука і тэхніка, 1993. С. 35 – 36.

[9] Воронин Н.Н. Древнее Гродно. Москва: Издательство Академии Наук СССР, 1954. С. 37.

[10] Воронин Н.Н. Воронин Н.Н. Древнее Гродно. С. 67.

[11] Гуревич Ф.Д. Древние города Белорусского Понеманья. Мн.: Полымя, 1982. С. 45.

[12] Дубінін А.Б. Хрысціянская і паганская сімволіка ў арнаменце маёлікавай падлогі Ніжняй царквы XII ст. у Гродне [у:] Беларусь – Украіна: гістарычны вопыт узаемаадносін: Матэрыялы міжнар. навук. канф. (Менск, 18-19 сакавіка 2003 г.). Мн., 2004. С. 68 – 72.

[13] Воронин Н.Н. Воронин Н.Н. Древнее Гродно. С. 67.

*Альбіна Семянчук, канд. гіст. навук*
*(Гародня)*

# Святы Казімір (1458-1484) – нябесны абаронца Гародні

## ГІСТАРЫЯГРАФІЯ І МЕТАДАЛОГІЯ

Звярнуцца да постаці святога Казіміра нас прымушае не толькі набліжэнне 530-й гадавіны яго смерці (4 сакавіка 1484 г.) і не толькі той факт, што ён памёр менавіта ў Гародні, нават не тое, што ён з'яўляецца патронам Гарадзенскай дыяцэзіі, апекуном моладзі і да т.п., а тое, што пры ўсім гэтым ніхто з гісторыкаў не паглядзеў на асобу святога каралевіча Казіміра з перспектывы беларускай гісторыі і культуры. А калі быць яшчэ больш дакладным, - з перспектывы гарадзенскай, г.зн. з пункту гледжання этнакультурнага і поліканфесійнага памежжа.

Пра жыццё Казіміра Казіміравіча напісана даволі многа прац на польскай мове, аўтары якіх былі людзьмі пераважна духоўнага стану. У першую чаргу трэба ўзгадаць манаграфію ксяндза А.Ліпніцкага "Жыццё, цуды і гонар святога Казіміра, каралевіча польскага, вялікага князя літоўскага", якая ўпершыню была апублікавана ў скарочаным варыянце ў 1858 г., а перавыдадзена ў 1907 г. у Вільні[1]. Прычым ў другім выданні тлумачыцца немагчымасць з-за цэнзурных меркаванняў у 1858 г. апублікаваць ўсе цуды св.Казіміра. Напрыклад, апісанне цуда пад Полацкам у 1518 г., калі постаць святога на кані явілася беларуска-літоўскаму войску ў цяжкі момант бітвы з маскоўскім войскам і дапамагла атрымаць перамогу, адсутнічае ў першым выданні і з'яўляецца толькі ў выданні 1907 г. У манаграфіі асноўная ўвага нададзена працэсу кананізацыі каралевіча Казіміра на пачатку XVII ст. У значна меншай ступені гаворыцца пра жыццё святога і спробу яго кананізацыі ў пачатку XVI ст., якія, па вядомых прычынах, нас цікавяць больш, чым другі, агульна вядомы, кананізацыйны працэс.

Да постаці св.Казіміра звяртаўся на пачатку XX ст. і вядомы польскі гісторык Фрыдэрык Папэ ў сваёй кнізе "Штудыі і нарысы з часоў Казіміра Ягелончыка"[2]. Яму належаць таксама манаграфіі пра братоў святога – Яна Ольбрахта і Аляксандра Ягелончыка[3]. Так што

можна сказаць, што дадзены аўтар стварыў шырокі гістарычны фон, на якім працякала нядоўгае, але вельмі яскравае жыццё св.Казіміра.

Акрамя кнігі А.Ліпніцкага жыццю і культу св.Казіміра прысвечана яшчэ манаграфія літоўскага даследчыка П.Рабікаўскаса, другое выданне якой выйшла ў 1997 г. у Кракаве на польскай мове "Святы Казімір, патрон Літвы"[4]. Ксёндз Генрык Даміян Вайтыска прысвяціў даследаванню культа св.Казіміра некалькі артыкулаў. Першы з іх, дарэчы, апублікаваны ў альманаху "Analecta Cracoviensia" ў юбілейным 1984 г., калі адзначалася 500-годдзе смерці святога. У дадзеным зборніку былі надрукаваны іншыя артыкулы, прысвечаныя сыну Казіміра Ягелончыка і яго эпосе[5]. Значэнню постаці св.Казіміра для польскай і літоўскай культур прысвечаны таксама артыкул Вайтыскі – "Казімір Ягелончык – святы на ўсе часы"[6].

Апошняй працай пра св.Казіміра з'яўляецца невялікая брашура К.П.Прокапа "Св.Казімір Ягелончык"[7] з серыі "Вялікія людзі касцёла", якая па сутнасці не ўносіць новай інфармацыі ў даследаванне жыцця і культа святога, але чарговы раз прыцягвае ўвагу да гэтай важнай постаці культурнага і духоўнага жыцця Вялікага Княства Літоўскага ў супярэчлівы перыяд пераходу ад Сярэднявечча да гуманізму і Рэнесансу.

Св.Казімір дачакаўся таксама артыкула ў Польскім Слоўніку Біяграфічным[8]. Для нашай тэматыкі ўяўляецца вельмі важным артыкул Аляксандра Ядзевіча, які быў напісаны на пачатку XX ст. як студэнцкая праца на семінары нашага земляка прафесара Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя Станіслава Касцялкоўскага, а прысвечаны такой важнай праблеме, як месца смерці св.Казіміра[9]. Тут канчаткова была пастаўлена кропка ў спрэчцы, дзе памёр каралевіч Казімір – у Вільні, Медніках ці Гародні - на карысць апошняй.

Беларускія аўтары амаль не звярталіся да постаці св.Казіміра. З нешматлікіх артыкулаў (пераважна ў энцыклапедыях) варта ўзгадаць працу Аляксандра Ярашэвіча "Святы Казімір ў гісторыі і мастацтве"[10]. Аўтар на прыкладзе шматлікіх цудаў, здзейсненых з дапамогай малітвы да св.Казіміра, паказаў, што яго культ сапраўды быў пашыраны на беларускіх землях і менавіта адсюль распаўсюдзіўся па ўсёй Рэчы Паспалітай і за яе межы. Таксама беларускі аўтар прааналізаваў шматлікія выявы святога з тэрыторыі Беларусі. Некаторыя факталагічныя памылкі[11] не змяншаюць важнасці працы А.Ярашэвіча для беларускай гістарыяграфіі.

Трэба зазначыць, што самая першая біяграфія святога напісана яшчэ на пачатку XVI ст. італьянцам Захарыем Ферэры (1579 - 1524),

папскім легатам, які даследаваў ягонае жыццё на прадмет святасці з мэтай наступнай кананізацыі: *Vita beati Casimiri confessoris ex serenissimis Poloniae regibus et magnis Lituaniae ducibus clarissimi a Reverendissimo patre dno Zacharia Ferrerio Vicentino pontifice Gardien: in Polonia et Lituania legato apostolico ex fide dignore testium depositionibus scripta (1521).*

Кніга Ферэры, якая налічвае 55 старонак, з'яўляецца для нас адной з найважнейшых крыніц да біяграфіі святога. У той жа час у ёй акрамя жыццяпісу змешчаны эпітафіі і сафічныя гімны ў яго гонар, а таксама "Oratio Reverendiss. Patris Zachariae Ferrerii Vicentini Pontificis Gardiensis in Poloniam et Lithvaniam Legati Apostolici Habita Thorunii in Prussia ad Serenissimum Poloniae Regem Sigismundum pro Eodem Rege et Magno Prussiae Magistro Apostolica Authoritate Invicem Reconciliandis". Да зместу дадзенай працы звернемся далей.

Ва ўсіх працах па вядомых прычынах націск робіцца на духоўную састаўляючую вобразу св.Казіміра, таксама падкрэсліваецца важнасць яго персоны для польскай альбо літоўскай гісторыі і культуры, але ніхто з даследчыкаў не прааналізаваў значэнне гэтага святога для беларускай гісторыі і культуры, у прыватнасці для соцыа-культурнага кантэксту Гародні. Нягледзячы на тое, што ён знаходзіўся тут вельмі кароткі час, легенда і памяць пра святога Казіміра жывыя ў горадзе і дагэтуль. Так, як днём памяці святога заўсёды становіцца дзень яго смерці, так і месца смерці робіцца "месцам памяці" (тэрмін Пьера Нара) для розных сацыяльных груп, якія ўшаноўваюць дадзенага святога. Да такіх сацыяльных груп можна аднесці не толькі этна-канфесійные групы палякаў-католікаў ці беларусаў-католікаў. Каралеўская годнасць св.Казіміра дае падставы меркаваць, што ён з'яўляецца постацю, блізкай усім тым, хто цікавіцца гісторыяй ВКЛ, Рэчы Паспалітай і сярэднявечча ў цэлым. А гэта не толькі каталікі і не толькі палякі, беларусы ці літоўцы. Акрамя таго, месца смерці Казіміра нельга назваць выпадковым, гледзячы з перспектывы гісторыі: праз восем год тут памрэ ягоны бацька вялікі князь літоўскі, кароль польскі Казімір Ягелончык, якога з Гародняй даволі шчыльна звязваюць шматлікія нябачныя (пакуль не даследаваныя) ніці.

Існуе меркаванне, што будучы святы Казімір непрыхільна ставіўся да іншых канфесій, у прыватнасці, праваслаўнай. Гэта "чорная легенда" нарадзілася з-за недарэчнага выказвання яго першага біёграфа З.Ферэры, аб тым, што ён нібыта забараняў будаваць цэрквы, не спрыяў "схізматыкам". Аднак гэты міф, як некаторыя іншыя, таксама быў развеяны на пачатку XX ст. Янам Фіяла-

кам у ягоным артыкуле “Памяць пра св.Казіміра і рускія цэрквы ў Вільне”[12], дзе раскрываецца сутнасць касцельнага і дзяржаўнага права, заснаванага на велюньска-калішскім статуце 1420 г. *De scismaticis* (Аб схізматыках), якога строга прытрымліваліся прадстаўнікі ўлады[13]. Акрамя таго, самым небяспечным ворагам ВКЛ як ў канцы XV, так і на пачатку XVI ст., было праваслаўнае Вялікае Княства Маскоўскае, з якім перманентна распачыналіся ваенныя канфлікты. Для папскага легата яно было ўвасабленнем “схізмы” і зла. Непрымірымасць да гэтага зла магла б “упрыгожыць” будучага святога ў вачах не толькі папскага прастола, але і ўсіх вызнаўцаў каталіцтва.

Наблізіць постаць св.Казіміра да сучаснага даследчыка і чытача можна зазірнуўшы ў час, калі ён жыў, паглядзець на яго асобу з усіх бакоў - з пункту гледжання псіхагісторыі, культурнай антрапалогіі, тэорыі культурнай памяці. У пэўным сэнсе трэба заняцца дэканструкцыяй агульнапрынятых стэрэатыпаў, якія (барані Божа!) не падаюцца нам трывіяльнымі ці плыткімі, але сучасныя метадалогіі гісторыі дазваляюць нам ставіць новыя пытанні да старых крыніц, з новымі меркамі падыходзіць да даўніх падзей, са здзіўленнем знаходзячы ў іх мноства новых, не заўважаных раней алюзій. З гэтай мэтай трэба не толькі зноў звярнуцца да гістарычных крыніц (Я.Длугаша, М.Мяхоўскага, Б.Вапоўскага, М.Кромэра і г.д.) але і да навуковых прац М.Багуцкай[14], Ф.Папэ, О.Г.Эксле[15] і інш. Недасягальным узорам сучаснай гістарычнай біяграфіі святога, які адначасова быў каралём Францыі, з’яўляецца манаграфія Жака Ле Гофа “Святы Людвік”[16].

## ПАНЯЦЦЕ MEMORIA І МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ТРАДЫЦЫЯ Ў СЯРЭДНІЯ ВЯКІ

Метад дэканструкцыі дазваляе як бы прэпарыраваць звыклы вобраз гістарычнай асобы, прасачыць працэс трансфармацыі чалавека (хаця б і каралеўскай крыві) у постаць з алтарнага абраза, у “фігуру памяці” (тэрмін Яна Асмана). З гэтай мэтай Ж.Ле Гоф падзяляе сваю 800-старонкавую біяграфію св.Людвіка на тры часткі: першая прысвечана жыццю святога, другая мае назву “Стварэнне памяці пра караля: кім на самой справе быў Людвік Святы?”, а трэцяя – “Людвік Святы – кароль ідэальны і незвычайны”. Зараз мы не ставім перад сабой такой мэты адносна св.Казіміра, але нам таксама цікава, чаму менавіта ён? Чаму менавіта ў гэты час ён робіцца папулярным святым? Якім чынам адбывалася стварэнне яго культа?

Культ святых і культ памерлых выраслі з аднаго кораня – з *memoria* , з памінавення жывымі памерлых[17]. Ён забяспечваў камунікацыю жывых са светам памерлых, а таксама з Богам. Так званая псіхакультура дазваляе нам зазірнуць у сутнасць псіхічных і эмацыянальных прычын узнікнення культа памерлых і святых. У Сярэднявеччы немагчымаць вербальнай камунікацыі з памерлымі прыводзіла да пошукаў іншых адэкватных спосабаў выражэння павагі і любові да іх[18]. Гэта прывяло да таго, што над магіламі раннехрысціянскіх пакутнікаў сталі ўзводзіць помнікі архітэктурнай *memoria*, а таксама ўшаноўваць святых у цэнтральнай частцы імшы.

Яшчэ з язычніцкіх часоў у традыцыйным грамадстве было прынята ўшаноўваць памяць продкаў. У праваслаўнай царкве дзеля гэтага існуюць памяннікі, памятныя кнігі. Спісы памерлых агучваюць таксама ў касцёле пад час набажэнстваў. З антычных часоў хрысціянства пераняло традыцыю памінаць памерлых на трэці, сёмы (ці дзевяты), трыццаты (ці саракавы) дзень, а таксама ў гадавіну смерці. Сярэднявечная мемарыяльная традыцыя – *memoria* – была формай выражэння літургічнага памінавення жывых і памерлых і адначасова яго "пісьмовым субстратам"[19]. У еўрапейскія *libri memoriales* было прынята ўпісваць тэксты асобных малітваў ці нават цэлай імшы, што ўказвае на іх літургічныя функцыі і на тое, што падчас імшы такая *liber memoriales* ляжала на алтары. Часта *liber memoriales* перапляталі разам сакраментаром альбо евангеліярам (евангеллем)[20], часам асобныя імёны ўносіліся прама ў літургічную кнігу, у евангелле ці сакраментар. Напрыклад, *Лаўрышаўскае Евангелле* (поўны апракас[21]) было не проста богаслужэбнай кнігай, але адначасова кнігай упісаў фундушавых запісаў на царкву ці манастыр[22]. Самі гэтыя ўпісы рабіліся на памяць аб сабе альбо сваіх родных памерлых на ўспамін душы. Прычым данатар ахвяраваў сваё наданне не кляштару ці царкве, а непасрэдна святой Багародзіцы. Змяшчэнне свайго імя на такім сакральным прадмеце, як напрастольнае Евангелле, якое пад час набажэнства размяшчалася на алтары, успрымалася фундатарам як удзел у сакральным дзеянні. Змяшчэнне тут фундушавага запісу давала надзею, што ахвяра не забудзецца ніколі.

Тое ж самае было характэрна для каталіцкіх святынь. На касцёлы ахвяравалі грошы і маёнткі з мэтай захаваць памяць пра сябе і на ўспамін сваіх памерлых. 19 красавіка 1437 г. "Івашка Гаштольд разам з жонкай сваёй Даротай дае францішканскаму касцёлу Найс-

вяцейшай Марыі Панны ў Вільні 20 бочак жыта, адну карову, аднаго вепра і капу грошай з двара свайго Геранён з абавязкам адпраўлення дзвюх імшаў за здароўе сваё і за памерлых"[23]. Князь Ян Свірскі разам з жонкай Даротай і сям'ёй 13 ліпеня 1443 г. запісаў віленскім францішканам "на Пяску" ахвяру са збожжа, а менавіта грэчкі з вёскі сваёй Мядзеля, просячы аб адпраўленні штотыдзень дзвюх імшаў і "*упісання ва ўспамінкавыя кнігі пасля іх смерці*"[24]. Пасля Дарота з сынам Талімунтам, князем на Свіры, надавала таму ж касцёлу дзесяціну[25]. Кодэкс дыпламатычны Віленскай Катэдры поўны падобных наданняў. Прыводзім тут запісы на францішканскі касцёл НМП у Вільні таму, што менавіта віленскія францішкане пазней сталі ініцыятарамі беатыфікацыі каралевіча Казіміра. Каб забяспечыць рэгулярнае памінавенне, імёны знатных памерлых запісвалі на бачным месцы ў самой святыні на каменных табліцах. Падобныя рытуалы датычыліся ўсіх катэгорый ахвярадаўцаў.

17 ліпеня 1484 г. у Вільні быў выдадзены прывілей, паводле якога "Казімір Ягелончык, кароль польскі і вялікі князь літоўскі за душу свайго сына Казіміра фундуе ў віленскім кафедральным касцёле св.Станіслава вячысты аніверсаж, які павінны спяваць самі прэлаты і канонікі таго касцёла кожны чацвер пасля Папельца; запісвае на гэтыя мэты паўтары грыўны, якія мусіць плаціць віленскі гараднічы з корчмаў каралеўскага города Вільні, а ў разе немагчымасці выплаты – з вялікакняскага скарбу, прычым пабор гэтай квоты аддае ў рукі выключна касцёла"[26]. Паколькі св.Казімір памёр 4 сакавіка 1484 г. у першы чацвер вялікага посту, таму на гэты дзень тыдня і быў прызначаны аніверсаж.

Уяўленні аб памерлых знаходзілі выраз у такіх катэгорыях, як веліч, моц, непахіснасць, незнішчальнасць, бессмяротнасць. Матэрыяльным увасабленнем гэтага былі спачатку розныя мегалітычныя пабудовы, каменна-земляныя курганы, а пазней хрысціянскія святыні, у тым ліку капліцы.

Без месца і даты вядомы дакумент, у якім Казімір Ягелончык фундуе і ўпасажвае капліцу ў віленскай катэдры Найсвяцейшай Марыі Панны, св.св.Андрэя і Станіслава, у якой пахаваны ягоны сын св.Казімір[27]. Тэкст прывілея не захаваўся, але звестку пра фундацыю гэтай капліцы можна ўбачыць у булле папы Аляксандра VI з дня 10 мая 1501 г., атрыманай віленскім пробашчам Эразмам Цёлакам, які, дарэчы, займаўся працэсам беатыфікацыі каралевіча Казіміра на пачатку XVI ст., але не паспеўшы дакончыць справу, памёр у Рыме ў 1522 г. Пры гэтым кананізацыйныя дакументы зніклі пры не высветленых да канца абставінах.

## ...VITA BREVIS. ЖЫЦЦЁ СВ.КАЗІМІРА (1458, КРАКАЎ – 1484, ГАРОДНЯ)

Бацькам св.Казіміра быў Казімір Ягелончык (памёр у 1492 г. таксама ў Гародні), маці - Альжбета з Габсбургаў (Ракушанка) (памерла ў 1505 г.). Чацвёра ягоных братоў (старэйшы Ўладзіслаў (1456), кароль Чэхіі і Венгрыі, малодшыя – Ян Ольбрахт (1459), Аляксандр (1461) і Жыгімонт (1467) сталі каралямі, а пяты Фрыдэрык (1468) – кардыналам і прымасам Польшчы. З шасці сясцёр будучага святога дзве памерлі ў дзяцінстве, а чатыры павыходзілі замуж за еўрапейскіх манархаў, дзякуючы чаму ў жылах усіх сённяшніх манархаў у Еўропе цячэ хаця б кропля крыві Ягелонаў[28].

Як апавядаў Ян Длугаш, кароль Казімір Ягелончык тэрмінова прыбыў у Кракаў з тэатру вайсковых дзеянняў 13-гадовай вайны з крыжацкім Ордэнам, таму што ў вігілію св.Францішка, г.зн. 3 кастрычніка 1458 г. на досвітку тут, у Кракаве нарадзіўся яго другі сын, ахрышчаны кракаўскім біскупам Тамашом у нядзелю пасля Ўсіх Святых[29]. Узгаданы Ян Длугаш, на той момант кракаўскі канонік, з 1467 г. стаў выхавацелем каралевічаў[30], пазней (з 1472 г.) да яго далучыўся не менш знакаміты гісторык Філіп Буанакорсі (Калімах)[31]. Варта адзначыць, што з малога ўзросту Казімір вылучаўся сярод сваіх братоў незвычайнай кемлівасцю і здольнасцю да навук. Гэта адзначалі не толькі яго настаўнікі[32]. Захаваліся некалькі ягоных прамоваў, у тым ліку адна, якой ён вітаў папскага легата Марка Барбо ў Кракаве, у 1472 г. Паводле яго слоў, чалавек Божы злучае ў сабе розум з верай, набожнасць з ведамі, сціпласць і цноту. Згодна з пануючымі на той час аўгустыніянскімі ідэаламі, улада без рэлігійнасці – самы кароткі шлях да тыраніі[33]. У 1474 г. у Любліне, дзе ў гэты час знаходзіліся каралевічы з Янам Длугашам, па дарозе ў Маскву спыняўся папскі пасланнік Аброджыа Кантарыні, і менавіта 15-гадовы Казімір вітаў яго лацінскай прамовай[34].

У вельмі раннім узросце на плечы Казіміра выпала недзіцячае выпрабаванне. У 1471 г. 13-гадовы каралевіч мусіў уступіць у барацьбу за ўладанне венгерскай каронай з пануючым там каралём Мацеем Корвінам, супраць якога ўчынілі змову мясцовыя дыгнітары і шляхта[35].

Такі юны ўзрост не быў перашкодай для пачатку палітычнай кар'еры. Па-першае, працягласць жыцця ў сярэднявеччы была значна карацейшая, адпаведна падлеткі рана сталелі і ўваходзілі ў дарослае жыццё. Па-другое, сам Казімір Ягайлавіч, калі заняў

прастол у Вільне ў 1440 г., меў таксама 13 год. Да 1447 года, калі яго абралі каралём польскім, ён паспеў зарэкамендаваць сябе ў Літве як моцны самастойны палітык[36]. У значнай ступені, зразумела, дзякуючы сваім польскім апекунам - Яну з Чыжова, Дабяславу з Алясніцы і Яну Гловачу з Алясніцы, а таксама Дзержаку з Рытвян і Яну з Шчэкоцін, - якія павінны былі кантраляваць каралевіча і ўсе ягоныя дзеянні[37]. Відаць, з дапамогай іх парадаў малады Казімір Ягелончык вырашыў праблемы ў Смаленску (1440) і на Жмудзі (1442), аддаў Свідрыгайлу Валынь і літоўскую частку Падолля. Адзінай памылкай у працэсе цэнтралізацыі дзяржавы пад кіраўніцтвам юнага вялікага князя была перадача кіеўскага княства ўнуку Альгерда Алельку Ўладзіміравічу[38], адкуль пазней зыходзіла сталая небяспека жыццю Казіміра. Такім чынам, бацька даваў усім сваім сынам знакаміты прыклад удалага і мудрага кіравання вялізнай краінай пад назвай Вялікае Княства Літоўскае.

2 кастрычніка 1471 г. 13-гадовы каралевіч Казімір Казіміравіч вырушыў на Венгрыю разам з наёмным 12-тысячным войскам, на чале якога стаяў Пётр Дунін з Праўковіц. Гэты эпізод палітычнай кар'еры будачага святога, маляўніча апісаны храністамі, мусіць, адзіны ў яго біяграфіі, які гаворыць аб яго ўдзеле ў вялікай палітыцы. Мацей Корвін здолеў сабраць 16-тысячнае войска і ўмацаваць прадмесце Буды – Пешт. Акрамя таго аказалася, што змова не мае падтрымкі ў насельніцтва, самі змоўшчыкі пераходзілі на бок Мацея Корвіна. У гэтай сітуацыі войску Казіміра прыйшлося завярнуць назад са значна меншымі сіламі. Пад час паходу маладому каралевічу прыходзілася назіраць жорсткія карціны гвалту і рабавання наёмнікамі мірнага насельніцтва, паколькі плаціць ім не было чым, а стрымаць было немагчыма[39]. Асаблівай жорсткасцю адрозніваўся атрад татараў, які быў сярод наёмнікаў. Гэта сур'ёзная псіхічная траўма, думаецца, адбілася на душы будучага святога.

Даследчыкі адзначаюць, быццам у Вялікае Княства Літоўскае св. Казімір упершыню трапіў на Вялікдзень у 1475 годзе[40], хаця ёсць звесткі, што і раней ён мог разам з Янам Длугашам бываць на замку ў Медніках[41]. Пачынаючы з 17-гадовага ўзросту каралевіча разам з яго братам Янам Ольбрахтам паступова пачынаюць уводзіць у палітычныя справы, паколькі іх старэйшы брат Уладзіслаў да гэтага моманту (21.08.1471 г.) ужо стаў каралём Чэхіі[42]. Невядома было, які трон – польскі ці венгерскі – прыдзецца заняць Казіміру, аднак Ян Длугаш падкрэсліваў, што "гэтага шляхетнага маладзёна... належыць хутчэй для бацькаўшчыны захаваць, не аддаючы яго чужым".

На той час у Літве нарасталі сепаратысцкія настроі. Пачынаючы з 1478 г. літоўскія магнаты настойліва прасілі Казіміра Ягелончыка прызначыць каралевіча Казіміра сваім намеснікам у Вялікім Княстве[43]. Незадаволеныя працяглымі перыядамі адсутнасці Казіміра Ягелончыка ў Літве ў сувязі з вайсковымі дзеяннямі 13-гадовай вайны з крыжакамі і іншымі вайсковымі акцыямі ў Каралеўстве польскім і за яго межамі, літоўскія магнаты неаднаразова спрабавалі адхіліць яго ад улады, у тым ліку метадам фізічнай расправы. Храністы гавораць аб сямі замахах супраць улады Казіміра Ягелончыка. Адзін з першых адбыўся ў 1442 на чале з князем Юрыем Лінгвенавічам[44]. Усе дзяржаўныя перавароты ўдавалася прадухіліць, у тым ліку і ў 1481 г., правадыром якога быў Міхаіл Алелькавіч Слуцкі, а ўдзельнікамі Іван Гальшанскі і Фёдар Бельскі. Першыя два былі пакараныя праз чацвертаванне[45].

У гэтай сітуацыі кароль стаў усё ж такі сам больш часу праводзіць у Літве, дзе ўскладнілася сітуацыя і ў сувязі з пагрозай з боку Масквы, а сына Казіміра пакінуў сваім намеснікам у Кароне з тытулам “secundogenitus regis Poloniae”[46]. Апошні знаходзіўся пераважна не ў Кракаве, а ў Радаме. Гэты горад, размешчаны ў палове дарогі паміж дзвюма сталіцамі, быў зручным месцам для дзяржаўных нарадаў, сеймаў, пастояў каралеўскай сям’і. Па-другое, усе прадстаўнікі дынастыі Ягелонаў, пачынаючы з самога Ягайлы, былі людзьмі набожнымі і часта па дарозе з Кракава ў Вільню і наадварот наведвалі кляштар бенедыктынаў на Лысай гары[47], які месціцца недалёка ад Радама. Гэта быў самы важны санктуарый у Польшчы ў XV ст.

У гэты перыяд раскрыліся арганізацыйныя здольнасці маладога каралевіча. Ён падтрымліваў гандаль на Вісле і экспарт збожжа з Кароны, кіраваў строга, але справядліва[48]. У адзіным захаваным лісце каралевіча Казіміра да ўрацлавян як раз падкрэсліваецца: “справядлівасць перад усім я павінен захоўваць”[49]. У апошнім яму дапамагалі дарадцы, у тым ліку да 1480 г. Ян Длугаш, які характарызаваў маладога каралевіча як “маладзёна шляхетнага, рэдкіх здольнасцяў і годнага памяці розуму”. Але тут здарылася нечаканае.

У 1481 г. бацькі вырашылі ажаніць 23-гадовага сына з дачкой імператара Фрыдэрыка III Габсбурга Кунегундай. Ён адмаўляецца, спаслаўшыся на прадчуванне блізкай смерці, бо ўжо быў хворы на сухоты. З вясны 1483 г. каралевіч знаходзіўся ў Вільні. Тут ён выконваў розныя абавязкі, не характэрныя для свайго стану: выдаваў грашовыя квітанцыі, што раней рабіў памерлы падканцлер Анджэй Апароўскі, некаторыя сам упісваў у рэестр[50]. Польская

даследчыца Ўршуля Баркоўская піша, што каралевіч гэта рабіў па ўласнай ініцыятыве, такім чынам паказваючы сваю пакору[51]. Тады ж Казімір здабыў сабе папулярнасць сярод віленскага люду як абаронца ўбогіх і бедных. Ён рэгулярна раздаваў міластыню і стараўся як мага часцей бываць у касцёле. Казімір захоўваў чысціню цялесную і духоўную, на што звяртаюць увагу ўсе біёграфы. Пад каралеўскім убраннем насіў валасяніцу, маліўся ў касцёле не толькі ўдзень, але і ўначы. Гэтыя аскетычныя практыкі, магчыма, і пагоршылі стан яго здароўя.

З канца 1483 г. каралевіч знаходзіўся ў Гародні. Дагэтуль у горадзе захавалася паданне (дзякуючы Ю.Ядкоўскаму), што і тут ён маліўся перад закрытымі дзвярыма Фары Вітаўта ўначы. Аднак яшчэ на пачатку XX ст. не было пэўнасці, што св.Казімір памёр у Гародні. Яго культ настолькі ўкараніўся ў Вільні, што многія адназначна звязвалі ягоную смерць з гэтым горадам[52]. Прычыніўся да такога меркавання польскі храніст доктар медыцыны і рэктар Кракаўскай акадэміі Мацей з Мяхова. А за ім і іншы выдатны храніст Марцін Кромэр сцвярджаў, што Казімір памёр на сухоты ў Вільні[53]. Праўда, Тэадор Нарбут у сваёй "Старажытнай гісторыі літоўскага народу" сцвярджаў, што св.Казімір памёр 4 сакавіка 1484 г. на замку ў Медніках[54]. Аднак дзве верагодныя крыніцы, сінхроныя апісваемым падзеям, дазволілі Фрыдэрыку Папэ сцвердзіць, што месцам смерці святога ўсё ж такі была Гародня[55]. Гэта зусім розныя крыніцы. Адна з іх – ужо згаданы твор Захарыя Ферэры, а другая – нататка з Пскоўскага II летапісу, якую хочацца тут прывесці цалкам: "Тоя же зимы (6992 г. – А.С.) послаша псковичи в Литвоу к королю многых исправъ просити посадника Василья Епимаховича, и Андрея Роублова, и инех с ними. Они же наехаша короля за Вилном в Городне. Он же наскоре подаваше имъ исправу о всем с кротостию и, много почествовавъ и одаривъ их, отпусти; и при после нашем тогда преставися в него сынъ"[56].

З.Ферэры таксама ў якасці месца смерці святога называў Гародню ("Obijt autem apud Velliam sive Vilnam Lituaniae seu Litalianiae primariam civitatem, in Grodno oppido Anno ab virgineo et salutisero partu Millesimo quadringetesimo octuagesimo quarto: die quarta martii illucesente aurora"). Існуе яшчэ адна тагачасная крыніца – Ўроцлаўскі бенедыктынскі кодэкс (Kodeks benedyktyński wroclawski), - які сведчыць, што св. Казімір „in Lituania in Grodno defunctus est"[57].

Кароль Казімір, даведаўшыся пра цяжкі стан здароўя сына на сейме ў Любліне 20 лютага 1484 г., паспяшаўся ў Гародню, дзе быў ужо 1 сакавіка. На досвітку 4 сакавіка на Ніжнім Замку ў дзень пас-

ля Папяльцовай Серады каралеўскі сын сканаў на руках свайго сакратара і сябра Яна Канарскага, пазнейшага кракаўскага біскупа (з 1503 г.). Апошні асабліва прычыніўся да працэсу кананізацыі свайго заўчасна памерлага сябра. Потым цела каралевіча Казіміра перавезлі ў Вільню.

## ПЕРШАЯ КАНАНІЗАЦЫЯ КАРАЛЕВІЧА КАЗІМІРА ПАПАМ ЛЯВОНАМ X У 1521 Г.

***Важнасць яго фігуры для розных сацыяльных груп (каралеўскага дома Ягелонаў, шляхты, мяшчанства, духавенства, грамадства ВКЛ у цэлым).***

На момант смерці св.Казіміра дынастыя Ягелонаў ужо амаль 100 год знаходзілася на прастоле ў Польшчы і Літве. Аднакніводны яе прадстаўнік не быў кананізаваны, нават заснавальнік дынастыі, які прывёў да святога хрышчэння апошні паганскі народ у Еўропе – ліцьвінаў. Хочацца тут падкрэсліць гэтую гістарычную несправядлівасць, бо Ягайла праз свой вялікі духоўны і палітычны чын, а таксама асабістую набожнасць, якую ён выказваў усё астатняе жыццё (з моманту хрышчэння), у тым ліку пад час Грунвальдскай бітвы, безумоўна, заслугоўваў кананізацыі. Аднак недабразычлівая пазіцыя з боку "айца польскай гісторыі" Яна Длугаша на доўгія стагоддзі наклала цень на вобраз заснавальніка дынастыі і хрысціцеля. На той час усе суседзі мелі святых з ліку правячай дынастыі: чэхі – св.Вацлава, Русь – св.Вольгу і яе ўнука св.Уладзіміра, венгры – св.Стэфана і яго сына св.Эмерыка. Палякі таксама фактычна не мелі святых з ліку папярэдняй дынастыі Пястаў (калі не лічыць прадстаўніц жаночага полу)[58].

Ініцыятарамі кананізацыі каралевіча Казіміра, акрамя вялікага князя Аляксандра і іншых братоў памерлага каралевіча, былі віленскія францішкане. У петыцыі да Рымскага папы 17 лютага 1517 г., яны адзначалі, што не толькі ліцьвіны, "але таксама суседнія і чужыя народы шануюць яго і адчуваюць цудоўнае заступніцтва"[59].

***Зацікаўленасць Рымскага прастолу ў кананізацыі. Дзейнасць Захарыя Ферэры па ўвекавечанні памяці св.Казіміра. Vita beati Casimiri Confessoris ex Serenissimis Poloniae Regibus et Magnis Lithuaniae Ducibus clarissimi***

Ужо 15 мая 1501 г. папа рымскі Аляксандр VI удзяляе ўсім вернікам адпушчэнне грахоў тэрмінам на 20 год за наведванне

з ялмужнай у Божае Нараджэнне, у свята Маці Божай Грамнічнай і Унебаўзяцця капліцы Найсвяцейшай Марыі Панны, святых Андрэя і Станіслава ў віленскім касцёле, збудаванай і ўпасажанай памерлым каралём польскім Казімірам, у якой спачывае *ззяючы шматлікімі цудамі* Казімір, брат Аляксандра, вялікага князя літоўскага[60]. Арыгінал гэтага дакумента, як ужо было сказана, загінуў разам з іншымі паперамі Эразма Цёлака, але ў Ватыканскім архіве знаходзіцца копія, з чаго мы даведваемся пра пачаткі культу св.Казіміра.

Асабліва культ пачаў развівацца пасля перамогі пад Оршай. Паэт і на той час кракаўскі канонік (пазней біскуп) Андрэй Крыцкі ўжо ў 1513 г. маліўся перад труной св.Казіміра перад паходам Жыгімонта Старога на масквіцінаў, каб той дапамог Айчыне і не пакінуў свайго брата[61]. Знакаміты польскі літаратуразнаўца Тадэвуш Улевіч адзначае, што паэтычныя творы прысвечалі св.Казіміру яшчэ раней. Так, Рудольф Агрыкола Малодшы напісаў у яго гонар верш *De diuo Kazimiro, regio Polonie et Lituanie principe, signis ac miraculis clarissimo...* яшчэ ў 1511 г.

Захарый Ферэры падае тэкст малітвы, якую адмаўлялі вернікі перад Аршанскай бітвай 8 верасня 1514 г.: "Благаславёны Казімір, верым, што ты асаблівы абаронца нашага народу і Айчыны перад Богам. Зірні на гэты наш смутак і прыніжэнні; зрабі, каб не панавалі над намі нашыя нячыстыя ворагі... Злітуйся над умаляючай Цябе аб падтрымцы Айчыне, дзе ты нарадзіўся і выхаваўся. А калі выпросіш паратунак, то будзем умаляць Папу рымскага і даб'ёмся, каб змясціў Цябе між святымі для хвалы рэлігіі хрысціянскай і ўзвышэння Твайго народу". (А 7 г.) Словы гэтай малітвы сведчаць аб тым, што на гэты момант Казімір ужо быў беатыфікаваны, але не кананізаваны.

Справай яго кананізацыі як раз і займаўся ў Вільні Захарый Ферэры. Так, ён знайшоў дакумент, што 22 верасня 1486 г. у Вільне Кшэслаў з Куразвенк, гнезненскі дэкан і кракаўскі кантар, канцлер, і Гжэгаж з Любраньца, пробашч свента-фларыянскі і шкальмерскі, архідыякан кракаўскі, падканцлер Каралеўства Польскага, пакліканы з волі караля ў якасці арбітраў у спрэчцы паміж Андрэем (Шэлігам – А.С), віленскім біскупам і яго касцёлам і капітулай гэтага ж кафедральнага касцёла ў Вільні (поўны склад названы) аб падзеле мшальных і пахавальных ахвяраванняў у цэлым, а ў прыватнасці: а) аб лупы, належачыя з адпраўленага ў віленскай катэдры пахавання с.п.Казіміра, другога сына караля Казіміра, б) тое ж самае па памерлым без завяшчання члену капітулы, нарэшце, в)

аб раскіданых пазасталасцях пасля памерлага Андрэя, віленскага кусташа. Выдаюць вырак, шырока абгрунтаваны, у курыі названага біскупа Андрэя ў прысутнасці Яна Ласкага, кантара познанскай катэдры, каралеўскага пісара, у тым ліку і дадзенай справы. Вырак гэты, выдадзены на падставе і ў духу статутаў гэтай жа капітулы, залагоджваў спрэчкі і акрэсліваў на будучыню падзел паміж біскупам і капітулай ахвяраванняў і пахавальных лупаў як пасля памерлых канонікаў і іншых духоўных Віленскай дыяцэзіі.

Арыгінал гэтага дакумента на пергаменце захоўваўся ў Архіве капітулы віленскай катэдры яшчэ ў 1830 г., аб чым сведчыць каталог з гэтага года. Паводле яго на тым жа арыгінале знаходзіўся напрыканцы наступны запіс з дня 15 кастрычніка 1520 г.: Anno Domini millesimo quingentesimo vigesimo, quindecima die octobris, Vilne im domo providi Mek civis Vilnensis, hora vesperorum, per venerabiles dominos Joannem Albinum et Joannem Siluium Amatum decretorum doctores, canonicos Vilnenses et nomine omnium canonicorum Vilnensium in suplementum probacionis coram reverendissimo domino legato oblata. Гаворка вядзецца пра Захарыя Ферэры з Віцензы, біскупа гвардыянскага, нунцыя ў Польшчы і Літве[62], які збіраў сведчанні святасці каралевіча Казіміра. Акты, сабраныя З.Ферэры, у якіх утрымліваліся каштоўныя матэрыялы біяграфіі св.Казіміра, на жаль, зніклі, праўдападобна, ў 1527 г. пад час захопу Рыма імператарскімі войскамі Карла V[63]. Сам Захарый Ферэры памёр за тры гады да гэтага, за пяць год (1522) памёр Эразм Цёлак. Справа кананізацыі Казіміра, якая распачалася пры пантыфіку Аляксандры VI, не завершылася яшчэ пры Лявоне X (памёр у 1521 г.). Яна была спынена на доўгія 80 год. Праўда, копіі дакументаў захаваліся ў выданнях так званых баландыстаў[64], якімі пазней карысталіся даследчыкі культу святога Казіміра.

Для каталіцкага касцёла пачаліся не самыя лепшыя часы, якія мы называем перыядам Рэфармацыі. Пратэстанты крытычна ставіліся да культу святых. Відавочна, ідэалагічная барацьба наклала свой адбітак і на працяг кананізацыйнай справы Казіміра. Нават у перыяд так званай контррэфармацыі яе ідэолаг Пётр Скарга не адразу звярнуўся да вобраза св.Казіміра. Так, у выданне “Жыцій святых Старога і Новага Запаветаў” (*Zywoty świętych Starego i Nowego Zakonu*, Вільня, 1579 г.) ён яшчэ яго не ўключыў, відаць, не маючы на гэта дакументальных пацверджанняў. “Жыціі святых” П.Скаргі перавыдаваліся шмат разоў, і толькі ў выданні 1610 г. нарэшце з’яўляецца святы Казімір, нарыс пра якога аўтар дадаў пасля афіцыйнай кананізацыі 1604 г.[65]

## ЧАМУ КУЛЬТ СВ.КАЗІМІРА РАСПАЎСЮДЖВАЎСЯ З УСХОДНІХ МЕЖАЎ ВКЛ? РОЛЯ БЕРНАРДЫНАЎ У ПАШЫРЭННІ КУЛЬТА

Звяртае на сябе ўвагу факт, што актыўна развіваецца культ св.Казіміра пачаў пад час вайны з Маскоўскім Княствам (1512-1522), у цяжкі для краіны момант.

Найбольш вядомы цуд звязваюць з заступніцтвам св.Казіміра пад час ваенных дзеянняў 1518 года (у Ліпніцкага – каля 1520 г.), калі войскамі ліцьвінаў камандаваў полацкі ваявода Альбрыхт Гаштольд. Маскоўскія войскі цяснілі ліцьвінаў, на шляху апошніх была рака Дзвіна. У гэты момант у воблаку над нашым войскам з'явілася ззяючая постаць рыцара на белым кані, які паказаў брод і натхніў ваяроў на перамогу[66]. Пра фіксацыю гэтай цудоўнай з'явы, відаць, паклапаціўся сам ваявода Гаштольд – натхняльнік, калі не сказаць стваральнік, "Хронікі Вялікага Княства Літоўскага". Магчыма, ён даручыў гэтую справу Полацкім бернардынам, якія менавіта ў 1517 г. выдзеліліся ў асобны ордэн з ранейшых францішканаў[67].

Падобны цуд паўтарыўся праз сто год пасля вышэй апісанага і таксама дапамог перамагчы маскоўскія войскі[68]. Гэтай падзеі была прысвечана ранняя ода маладога езуіта Мацея Казіміра Сарбеўскага *S.Casimirus in oppugnanda Polocia milites trans Dunam ducit*[69]. Пазней кароль Стэфан Баторы даў прывілей на будаўніцтва касцёла св.Стэфана полацкім езуітам, якія на месцы цуда збудавалі касцёл св.Казіміра (1674)[70]. У 1654 г., пасля захопу Полацка маскоўскімі войскамі, ваявода князь Шарамецеў загадаў пасвіць быдла ў ваколіцах гэтага касцёла. Пастухам з'явілася постаць св.Казіміра, які сказаў: "Бог пакрыўджаны грахамі польскага народу, але выбачыць іх, а вас так пакарае, што будзеце шукаць паратунку аж за Волгай"[71].

Пры тым, што Казімір памёр вельмі рана ад цяжкай хваробы, у цудоўных вобразах ён з'яўляецца ў рыцарскім абліччы і натхняе войскі на перамогу. Такім у сярэднія вякі было ўяўленне аб святых мужчынскага полу: яны павінны былі з'яўляцца ў вобразе рыцараў, абаронцаў Радзімы. Сярод цудаў святога Казіміра вылучаюць цудоўную дапамогу прыватным асобам, а таксама дапамогу ў публічных справах[72]. Такімі публічнымі справамі былі пераважна справы вайсковыя. Так, малітва да св.Казіміра дапамагла Яну Каралю Хадкевічу перамагчы ў бітве пад Кокенгаўзенам (1601) і Белым Каменем (1604).

Святы прастол у Рыме быў адназначна зацікаўлены ў тым, каб умацаваць каталіцкі касцёл у Вялікім Княстве Літоўскім праз стварэнне тут культу ўласных святых, асабліва з ліку каралеўскай дынастыі. Яшчэ да 1520 г. менавіта на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ў Вільні, Гародні, Полацку і іншых гарадах склаўся культ святога каралевіча, да чаго прычыніліся не толькі яго родны брат кароль Жыгімонт Стары, але і шматлікія “простыя людзі”, якія, паводле Ферэры, шукалі нябеснага заступніцтва каля магілы каралевіча Казіміра. Цуды былі зафіксаваны і пазней выдадзены канонікам віленскага касцёла кс.Рыгорам Свянціцкім пад назвай *Theatrum S.Kazimiri in quo ipsius prosapia, vita, miracula, et illustris pompa in solemni eiusdem apotheoseos instauratione, Vilnae Lithuaniae metropoli instituta, graphice proponunter...* (Vilna 1604). Менавіта ксёндз Свянціцкі ў 1603 г. ездзіў у Рым да папы Клеменса VIII за новай кананізацыйнай булай. Яго кніга, выдадзеная ў друкарні віленскіх езуітаў, набыла вялікую папулярнасць. Пазней з яе чэрпалі інфармацыю ўсе далейшыя аўтары прац пра св.Казіміра. Менавіта ксёндз Свянціцкі сабраў максімальную колькасць цудаў святога (больш за 400). Сапраўды большасць з іх звязана з тэрыторыяй Беларусі (Ружаны, Рэпля, Геранёны, Слонім і г.д.). На 217 старонках яго працы таксама былі апісаны кананізацыйныя ўрачыстасці 10 мая 1604 г.[73] У сярэдзіне XIX ст. ксёндз А.Ліпніцкі на падставе сведчанняў Свянціцкага і яго сучаснікаў дакладна апісаў кананізацыйныя ўрачыстасці пачатку XVII ст.

## ДРУГАЯ КАНАНІЗАЦЫЯ СВ.КАЗІМІРА Ў 1604 Г. УРАЧЫСТЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ Ў ВІЛЬНЕ І РОЛЯ ЕЗУІТАЎ У ІХ

Да ідэі кананізацыі каралевіча Казіміра касцёльныя і свецкія ўлады вярнуліся на пачатку XVII ст. Галоўнымі прапагандыстамі культа маладога, разумнага і чыстага каралевіча – ідэальнага ўзору для выхаванкаў іх калегій – сталі езуіты[74]. Асаблівую ролю адыграў першы рэктар Полацкай калегіі, а затым Віленскай акадэміі – Пётр Скарга.

Калі ў 1602 годзе адкрылі труну Казіміра, цела яго аказалася нятленным, у галавах ляжаў гімн у гонар Марыі *Omni die dic Mariæ* (Кожны дзень праслаўляй Марыю), аўтарства якога ранейшымі польскімі гісторыкамі прыпісвалася самому Казіміру, але высветлілася, што ён значна старэйшы і хутчэй за ўсё створаны св.Бернардам у XII ст.

Кананізацыйныя ўрачыстасці адбыліся ў 1604 г. у віленскай катэдры. У кнізе кс.А.Ліпніцкага на падставе крыніц XVII ст. апісаны ўсе ўрачыстасці, галоўнымі выканаўцамі якіх былі вучні езуіцкай акадэміі. Да "люду паспалітага" прамаўлялі канцлер Леў Сапега, віленскі біскуп Бенедыкт Война, канонік Рыгор Свянціцкі і інш. У 1636 г. астанкі св.Казіміра ўрачыста перанеслі ў новую капліцу, якую фундаваў Жыгімонт III і яго сын Уладзіслаў IV. З гэтага моманту культ святога пачаў шырока распаўсюджвацца з Вільні па ўсім Вялікім Княстве Літоўскім.

Такім чынам, неўзабаве пасля смерці сына Казіміра Ягелончыка, які ўжо пры жыцці вызначаўся цнатлівасцю, чысцінёй і шляхетнасцю і памёр у арэоле святасці, распачаўся кананізацыйны працэс. Напрыканцы XV ст. на магіле будучага святога пачалі адбывацца цудоўныя з'явы аздараўлення хворых, якія далі падставы прадстаўнікам каралеўскай сям'і выступаць перад папскім прастолам аб яго кананізацыі. Першым каралеўскім пасланнікам у Рыме быў выдатны гуманіст каралеўскі сакратар, потым біскуп Эразм Цёлак. У Рыме ён сустрэў разуменне сваёй місіі. Папа Аляксандр VI меў шырокія погляды на справы ўмацавання каталіцкага касцёла ў ВКЛ, у тым ліку праз дзейнасць ордэна францішканаў, з якога пазней вылучыўся асобны ордэн бернардынаў. Культурна-асветніцкая дзейнасць апошняга на ўсходзе ВКЛ вядома нам па біяграфіі Францішка Скарыны і "Хронікі Вялікага Княства Літоўскага", якая па ініцыятыве Альбрыхта Гаштольда хутчэй за ўсё стваралася ў гэтым асяроддзі[75]. Таму не выпадкова, што самы першы цуд св.Казіміра звязаны з тэатрам ваенных дзеянняў маскоўска-літоўскай вайны 1512-1522 гг. на ўсходніх рубяжах, у тым ліку з Аршанскай бітвай 8 верасня 1514 г. Пасля таго ў Вільню прыбыў папскі легат З.Ферэры для збору дакументальных матэрыялаў аб жыцці будучага святога і цудаў, якія адбыліся з яго дапамогай. Смерць усіх персанажаў, якія займаліся першай кананізацыяй св.Казіміра (папаў Аляксандра VI і Лявона X, біскупа Э.Цёлака, легата З.Ферэры), і страта ўсіх сабраных дакументаў прывялі да неабходнасці другой кананізацыі, якая адбылася праз 80 год. Гістарычныя ўмовы за гэты час змяніліся вельмі моцна, але культ св.Казіміра быў жывы надалей і знайшоў сваіх прыхільнікаў як у асяроддзі звычайных жыхароў ВКЛ, так сярод свецкіх і духоўных уладаў.

[1] A.Lipnicki. Życie, cuda i cześć świętego Kazimierza królewicza polskiego, wielkiego księcia litewskiego. Wilno 1858, 1907.

[2] Papee F. Swięty Kazimierz / Studya i szkice z czasów Kazimierza Jagiellończyka.Warszawa 1907.

[3] Papee F. Jan OlbrachT. Kraków 2006; яго ж: Aleksander Jagiellończyk. Kraków 2006.

[4] Rabikauskas P. Święty Kazimierz, patron Litwy. Kraków 1997.

[5] Rożek M. Święty Kazimierz – patron Rzeczypospolitej Obojga Narodów. Szkic historyczno-ikonograficzny // "Analecta Cracoviensia" 16 (1984). S.113-137; Ulewicz T. Święty Kazimierz w polskiej kulturze umysłowo-literackiej // "Analecta Cracoviensia" 16 (1984). S.153-185 (гэты ж артыкул быў надрукаваны ў зборніку прац Т.Улевіча пад назвай *Z kultury duchowej polskiego średniowiecza* (Kraków 2003), далей спасылкі на яго); Wojtyska H.D. Początki kultu i procesy kanonizacyjne św.Kazimierza // "Analecta Cracoviensia" 16 (1984). S.187-230.

[6] Wojtyska H.D. Kazimierz Jagiellończyk – święty na wszystkie czasy // Chrzest Litwy. Geneza – przebieg - konsekwencje. Lublin 1990. S.137-148.

[7] Prokop K.R. Św.Kazimierz Jagiellończyk. Wydawnictwo WAM. Krakow 2008.

[8] Górski K. Kazimierz Jagillończyk (1458-1484), święty, królewicz // PSB t.12, Wrocław-Warszawa-Kraków 1966-1967, s.286-288.

[9] Jodziewicz A. Miejsce zgonu sw. Kazimierza // Ateneum wileńskie rok III. Zeszyt 9. Wilno 1925. S.95-103.

[10] Ярашэвіч А. Святы Казімір у гісторыі і мастацтве // Наша Вера. № 1(19). 2002.

[11] Напрыклад, услед за кс.А.Ліпніцкім А.Ярашэвіч паўтарае, што св.Казімір памёр у Вільні, а не ў Гародні, і некаторыя іншыя.

[12] Fijałek J. Cześć św.Kazimierza i cerkwie ruskie w Wilnie // Ateneum Wileńskie. № 2. 1924. s.131-158.

[13] Chodynicki K. Kościół prawosławny a Rzeczpospolita Polska. Zarys historyczny (1370-1632). Warszawa 1934. S.79 і наступныя.

[14] Bogucka M. Kazimierz Jagiellończyk i jego czasy. Kraków 2009

[15] Эксле О.Г. Действительность и знание: очерки социальной истории Средневековья. М.: Новое литературное обозрение, 2007.

[16] Le Goff J. Święty Ludwik. Warszawa 2001. 806 s.

[17] Эксле О.Г. Действительность и знание… С.239.

[18] Kowalewski A.P. Królestwo Tanatosa. Z genealogii wyobrażeń związanych z miejscami chowania zmarłych / Srodowisko pośmiertne człowieka // Funeralia Lednickie. Spotkanie 9. Poznań 2007. S.127.

[19] Эксле О.Г. Действительность и знание... С.234.

[20] Сакраментар - богаслужэбная кніга, утрымлівае тэксты, якія прамаўляе святар падчас імшы; евангеліяр, ці евангелле – богаслужэбная кніга з евангельскімі тэкстамі, размеркаванымі ў адпаведнасці з літургічнымі чытаннямі ў пэўныя каляндарныя дні.

[21] Апракас поўны – зборнік, дзе евангельскія тэксты змяшчаюцца на ўсе дні літургічнага году, акрамя будзёных дзён Вялікага посту.

[22] Семянчук А. Лаўрышаўскае Евангелле // Silva rerum nova: Штудыі ў гонар 70-годдзя Георгія Я.Галенчанкі. – Вільня-Мінск: AIDAI-ATHENAEUM, 2009. – С.236-246.

[23] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej. Tom I, zeszyt 1-3. Wyd. Ks.J.Fijałek i W.Semkowicz. Kraków 1932. № 149a. S.748.

[24] Kodeks dyplomatyczny... № 176. S.201.

[25] Kodeks dyplomatyczny… № 195. S.202.

[26] Kodeks dyplomatyczny… № 341. S.396. Kurczewski J. Kościół Zamkowy. T.II, s.111/2.

[27] Kodeks dyplomatyczny…№ 386, c.442

[28] Prokop K.R. Św.Kazimierz Jagiellończyk. Wydawnictwo WAM. Krakow 2008. C.23; Bogucka M. Kazimierz Jagiellończyk… s.161.

[29] Dlugossii Joannis. Annales seu cronicae incliti Regni Poloniae. Liber duodecimos 1445-1461. Cracoviae 2003. Wydawnictwo naukowe PWN. S.311.

[30] Papee F. Jan Olbracht… S.12.

[31] Тамсама, с.14.

[32] Ulewicz T. Święty Kazimierz… C.71.

[33] Wojtyska H.D. Kazimierz Jagiellończyk – święty na wszystkie czasy… s.142.

[34] Ulewicz T. Święty Kazimierz… C.72.

[35] Kromer M. Kronika Polska. Ksiąg XXX. Sanok, 1857. S.1229.

[36] Bogucka M. Kazimierz Jagiellończyk... S.57-60.

[37] Тамсама, с.49.

[38] Тамсама, с.57-58.

[39] Kromer M. Kronika Polska. S.1229-1235; Dlugossii Joannis. Annales seu cronicae… Liber duodecimos 1462-1480. Cracoviae 2005. P.275-279.

[40] Prokop K.R. Św.Kazimierz Jagiellończyk… S.32.

[41] A.Lipnicki. Życie, cuda i cześć świętego Kazimierza królewicza polskiego, wielkiego księcia litewskiego. Wilno, 1907. S.10.

[42] Kromer M. Kronika Polska... – S.1229.

[43] Bogucka M. Kazimierz Jagiellończyk... S.

[44] Супрасльский список / Западнорусские летописи. (Полное собрание русских летописей. T.XVII). – М.:Языки славянских культур, 2008. – С.68-69. Уваровский список / тамсама, с.108.

[45] Скеп’ян А.А. Князі Слуцкія. – Мінск: Беларусь, 2013. С. 21-22.

[46] Prokop K.R. Św.Kazimierz Jagiellończyk… S.34.

[47] Kromer M. Kronika Polska... S.1282

[48] Górski K. Kazimierz Jagillończyk… S.287-288.

[49] Wojtyska H.D. Kazimierz Jagiellończyk – święty na wszystkie czasy… s.141-142.

[50] Papee F. Swięty Kazimierz… S.143.

[51] Borkowska U. Życie religijne polskich Jagiellonów. Zarys problematyki // Chrzest Litwy. Geneza – przebieg - konsekwencje. Lublin 1990. – S.169-172.

[52] Kraszewski J. (Wilno, t.I, s.163 i t.II s.207), Balinski (Starozytna Polska wyd.2, t.IV, str.125 i 174 Historia miasta Wilna t.II, s.32), Przyałgowski (Zywoty biskupów Wileńskich, t.I, s.66), ks. Lipnicki A. (Zycie, cuda i cześć sw. Kazimierza, wyd.2, s.43), Kirkor A (Przewodnik po Wilnie, wyd. 3, s.105), Zahorski (Katedra wileńska, s.71-72) Gizbert-Studnicki (Wilno. Przewodnik ilustrowany, wyd I, s.129).

[53] Kromer M. Kronika Polska... S.1299.

[54] Narbut T. Dzieje starożytne narodu litewskiego. Wilno, T.VIII, s.230.

[55] Papee F. Studia i szkice z czasów Kazimierza Jagiellończyka.. S.141-154.

[56] Псковские летописи. (Полное собрание русских летописей. T.V. Выпуск 2.). - М.: Языки русской культуры, 2000. – с.63.

[57] Monumenta Poloniniae Historica.T.III p.231.

[58] Prokop K.R. Św.Kazimierz Jagiellończyk. Wydawnictwo WAM. Kraków 2008. S.12-13.

[59] Wojtyska H.D. Kazimierz… S.144.

[60] Kodeks dyplomatyczny…№ 488. C.574-575.

[61] Krzycki A. Ad tumulum Divi Casimiri, fratris regii, salutatio in primo adventu Vilnae Andreae Cricii // Carmina. Wyd.K.Morawski. Kraków 1888. S.54; Ulewicz T. Święty Kazimierz… s.76-77.

[62] Kodeks dyplomatyczny…№... Fijałek J. Pierwszy synod diecezji wileńskiej w katedrze św.Stanisława r.1520/21. Kwartalnik Teolog.Wileński. R.I (1923). S.81-83

[63] Jodziewicz A. Miejsce zgonu sw. Kazimierza … S.98; Ulewicz T. Święty Kazimierz… S.78, 82.

[64] Acta Sanctorum Martii a Joanni Bollando. S.J collegi feliciter coepta. Antverpiae apud Jacobum Meursium – anno MDCLXVIII edito. Tom I, die IV pag.356. Далей справу Баланда працягвалі Годфрыд Геншан і Даніэль Папеброк. Пра дадзенае выданне ўзгадвае *Lipnicki A. Życie* … S.222, 228

[65] Ulewicz T. Święty Kazimierz… S.83.

[66] A.Lipnicki. Życie, cuda i cześć świętego Kazimierza…1907. S.233.

[67] Kłóczowski J. Wspólnoty chrześcijańskie w tworzącej się Europie. Poznań 2003. S.419-424.

[68] Тамсама, s.228-231.

[69] Ulewicz T. Święty Kazimierz… S.90.

[70] Encyklopedia wiedzy o jezuitach

[71] Lipnicki A. Życie, cuda i cześć świętego Kazimierza…1907. S.235.

[72] Тамсама, с.60

[73] Ulewicz T. Święty Kazimierz… S.85-86.

[74] Wojtyska H.D. Kazimierz Jagiellończyk – święty na wszystkie czasy… s.145.

[75] Семянчук А. Полацк і Полацкая зямля ў гістарычнай памяці жыхароў Вялікага Княства Літоўскага XVI ст. // Вестник Полоцкого государственного университета. Гуманитарные науки. № 1. 2013. С.19-28.

*Ганна Паўлоўская, канд. гіст. навук*
*(Варшава)*

# Памяць храніста (на прыкладзе гарадзенскіх кляштарных хронік другой паловы XVII - XVIII ст.)

*... tymczasem to niech będzie pro memoria*[1]

Храністы былі прызначаныя і памазаныя ордэнам для захоўвання памяці кляштараў. Яны тварылі пісьмовую гісторыю. Стваралі тэкст, які павінен быў захоўвацца з пакаленняў у пакаленні і змяшчаць памяць пра сучасныя ім падзеі. Яны абіралі з шэрагу падзей тыя, што падаваліся найбольш годнымі ўвагі і пераўтваралі іх у аповед пра сучаснасць, які зможа аднаўляцца падчас кожнага чытання і актуалізаваць памяць манаскай супольнасці пра сваю мінуўшчыну.

Памяць групы з'яўляецца падставовай умовай для функцыянавання самой групы, захавання яе тоеснасці. Гэта група выбірае асноўныя гістарычныя падзеі, якія вызначаюць яе сутнасць, пэўным чынам міфалагізуе іх і пераўтварае ў аб'ект памяці.

У працы мы будзем абапірацца на панятак "сацыяльнай памяці", выпрацаваны ў пачатку XX ст. Марысам Альбваксам, а таксама на паняцці "камунікатыўнай" і "культурнай памяці", вылучаныя ў межах сацыяльнай памяці Янам Асманам[2]. Гэтыя паняцці падаюцца нам асабліва прыдатнымі дзеля таго, каб зразумець механізмы функцыянавання памяці групы і спосабы пераўтварэння вуснай памяці ў пісьмовую.

Камунікатыўнай памяццю паводле Асмана з'яўляюцца ўспаміны, звязаныя з нядаўнім мінулым, агульныя для сучаснікаў, аповед пра якія перадаецца вусна. Тыповым яе прыкладам з'яўляецца памяць пакалення. Звычайна межы такой памяці сягаюць трох-чатырох пакаленняў – часу, калі жывуць яшчэ старыя прадстаўнікі групы – носьбіты памяці пра сучасныя ім падзеі.

Культурнай памяццю з'яўляецца памяць пісьмовая, якая была створана групай і захоўваецца ёй. Гэтая памяць у значнай меры перажыла ўплыў цэнзуры і з'яўляецца афіцыйнай памяццю групы, незалежна ад таго, наколькі свядома адбываліся працэсы яе фарміравання.

“Для культурной памяти важна не фактическая, а воссозданная в воспоминании история, и только она. Можно сказать также, что в культурной памяти фактическая история преобразуется в воссозданную воспоминанием, то есть в миф. Миф – это обосновывающая история, история, которую рассказывают, чтобы объяснить настоящее из его происхождения”[3].

Феномен кляштарных хронік у тым, што гэтыя тэксты знаходзяцца на мяжы камунікацыйнай і культурнай памяці. Выступаючы ў працэсе камунікацыі, несучы інфармацыю пра сучасныя звесткі, наратыў набывае пісьмовую форму і, пасля праходжання цэнзуры ўнутры манаскай групы, пераўтвараецца ў пісьмовы тэкст, пакліканы захаваць памяць і ідэнтычнасць групы.

Такім чынам, хронікі з’яўляюцца тэкстамі, што захоўваюць сведчанне пра культурную памяць групы і, адначасова, адлюстроўваюць індывідуальную памяць храністаў і камунікатыўную памяць групы, у некаторых выпадках дазваляюць убачыць рэальнае функцыянаванне вуснай памяці групы.

У дадзеным даследаванні будуць прааналізаваныя наступныя тэксты: хронікі кляштараў бернардзінцаў: “Хроніка гарадзенскіх бернардзінцаў за 1677–1783 гады”[4], “Дамавая гісторыя гарадзенскага кляштара айцоў бернардзінцаў, распачатая 2 ліпеня 1763 года”[5], а таксама фрагменты хронік таго ж ордэна, прысвечаных усёй правінцыі, якія датычаць гарадзенскіх кляштараў (мужчынскага і жаночага): “Апісанні некаторых манастыроў ордэна братоў меншых абсервантаў”[6], “Храналогія ордэна братоў меншых абсервантаў правінцыі Малая Польшча і Вялікае Княства Літоўскае” Тамаша Дыганя[7], “Вінаградная лаза, выбраная з Малой Польшчы, пераўтвораная ў новую правінцыю св. Казіміра 1469-1772”[8], кармелітаў босых: “Хроніка кляштара кармелітаў босых у Гародні”[9], езуітаў: “Гісторыі і штогадовыя лісты езуітаў”[10] (усе мужчынскія хронікі) і кляштара брыгідак: “Гісторыя капітул манашак св. маці Брыгіты гарадзенскага кляштара”[11] (жаночая).

Гэтыя тэксты ствараліся пераважна на лацінскай мове. Яны захаваліся ў рукапісах у кляштарных і грамадскіх архівах.

## АЎТАРЫ ТЭКСТАЎ

Аналіз сацыяльнай памяці трэба пачынаць з памяці індывідуальнай і з прадстаўлення асоб аўтараў тэкстаў.

Кляштарныя хронікі ствараліся на працягу доўгага часу многімі аўтарамі, якія звычайна захоўвалі ў тэкстах ананімнасць.

Адна з аналізаваных хронік была складзена пераважна адным храністам (на падставе матэрыялаў іншых асоб і з дапаўненнямі іншых асоб), аўтарства якога пазначана на тытульным аркушы кнігі. Гэта "Храналогія ордэна братоў меншых абсервантаў правінцыі Малой Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага", аўтарам якой з'яўляецца а. Томаш Дыгань (Dygoń, Digon)[12]. Томаш Дыгань (1588 – каля 1681) паходзіў з сям'і віленскага патрыцыяту, уступіў у кляштар у 1615 г. У ордэне ён выконваў функцыі прапаведніка (1642 Вільня, таксама Коўна), кусташа (1645–1647, 1659–1666 Вільня), спаведніка сёстраў бернардзінак (1650 Коўна), гвардыяна (1639 - Ворша, 1651 - Гародня, таксама Вільня, Коўна). У 1653 г. увайшоў у склад кіраўніцтва правінцыі, выконваючы функцыю дэфінітара і быў абраны храніграфам правінцыі[13]. Акрамя "Храналогіі" Томаш Дыгань склаў хроніку віленскага канвента (1668) і выдаў друкам тры панегірыкі[14]. "Храналогію" ён напісаў у 1653–1656 гг., займаючы высокую пазіцыю ў ордэне.

Выняткам з правіла ананімнасці з'яўляецца таксама "Хроніка кармелітаў босых", якая паўставала ў 1673–1790 гг. Аўтары гэтай хронікі, пачынаючы сваю дзейнасць як храніграфаў, часта пакідалі аб гэтым інфармацыю ў тэксце. Хроніка захоўвае імёны сямі аўтараў:

- а. Лявон ад Усіх Святых – Мельхіёр Балчацкі (Melchior Bełczacki (1697–1748)), гістарыёграф у 1739 г., перад тым выконваў функцыю падпрыёра ў Любліне ў 1737, 1739 г.[15],
- а. Рамуальд ад св. Стэфана – Юзаф Мельчарковіч (Józef Mielczarkowicz (?–1772)), пакінуў нататкі за 1739–1745, быў прыёрам у Познані, Варшаве, прапаведнікам у Глыбокім, у 1739–1745 гг. быў прыёрам у Гародні[16],
- бр. Клімент ад Ахвяравання Бласлаўлёнай панны Марыі – Міхал Ёдка (Michał Jodka (?–1768)), гістарыёграф у 1757–1760 гг., раней быў падпрыёрам у Вільні ў 1754–1757 гг.[17],
- бр. Сямён ад св. Тадэвуша, гістарыёграф у 1760 г.[18],
- бр. Максіміліян ад св. Марыі – Андрэй Карповіч (Andrzej Karpowicz (1732–1770)), гістарыёграф у 1761, вядомы прапаведнік і лектар тэалогіі[19],
- а. Амброзі ад Дабравешчання Найсвяцейшай панны Марыі, гістарыёграф да 12 чэрвеня 1787 г.[20],
- бр. Мацвей ад св. Марыі, гістарыёграф ад 12 чэрвеня 1787 да 1790 г[21].

Акрамя таго хроніка кармелітаў босых у Познані сведчыць, што ў 1754 г. храністам у Гародні быў а. Бянігн ад Усіх Святых – Міхал Дзяжкоўскі (Michał Dzierzkowski (? - 1766))[22].

Аўтарам пачатка хронікі мог быць а. Язафат ад Бласлаўлёнай Панны з гары Кармель - Казімір Тышкевіч (Kazimierz Tyszkiewicz (?-1677)), які быў прыёрам у Гародні ў 1671-1676 гг.[23], або адзін з яго супрацоўнікаў - а. Іпаліт (? - 1678) ці брат Макары данат (? - 1678)[24].

"Дамавая гісторыя бернардзінцаў" пакінула згадку толькі аб адным з аўтараў. Гаворыцца, што ім быў "айцец магістр студыяў" (*pater magister studii*)[25].

Усе вядомыя нам аўтары выконвалі функцыю гістарыёграфаў, займаючы дастаткова высокую пазіцыю ў кляштары. Часта яны раней былі падпрыёрамі, прапаведнікамі, часамі прыёрамі ці лектарамі тэалогіі.

Аўтарамі езуіцкіх гісторый, па меркаванню даследчыкаў, звычайна былі прафесары рыторыкі ці лектары тэалогіі[26]. Запісаныя звесткі спраўджваліся рэктарамі калегій. Акрамя таго, на змест гісторый уплывалі "кансультанты", якія працавалі на ўзроўні правінцыі ордэна і дапамагалі падрыхтоўваць справаздачы[27]. Апошняй інстанцыяй, якая адпавядала за змест гісторый, быў сам правінцыял[28].

Жаночая хроніка, складзеная ў кляштары брыгідак, мае двух асноўных аўтараў — ксенію кляштара Тэрэзу Храптовіч (1711-1773) і яе ананімную сакратарку. Аўтарству ксеніі належаць пропаведзі на кляштарных капітулах, сакратарка ж пісала асноўны тэкст хронікі, аснашчала каментарамі казанні ксеніі.

Такім чынам, аўтары тэкстаў пераважна імкнуліся заставацца ананімнымі і запісваць аб'ектыўную (групавую) гісторыю, што бачна асабліва на прыкладзе езуітаў. Тым не менш, як рэальныя людзі — удзельнікі пэўных падзей — яны не маглі не пакінуць суб'ектыўных згадак на старонках хронік. Больш за тое, яны часта падкрэслівалі факт, што самыя былі сведкамі падзей, выкарыстоўваючы асабістую памяць дзеля павелічэння верагоднасці апісанняў.

Так "Хроніка гарадзенскіх бернардзінцаў" не аднатоўвае імёны аўтараў, але змяшчае аўтабіяграфічную інфармацыю. Апавядаючы пра народзіны двух дзіўных дзяцей у Вільні ў 1668 г., аўтар адзначае, што быў сведкам гэтага здарэння, хоць адбылося яно даўно, у час яго навучання ў Віленскай Акадэміі: "sed et nos, qui haec scribimus, utrius huius monstri naturae testes esse possemus, Vilnae protunc studiis in Academia indulgentes, et oculati et bene a dignis fide, ab authoritatheque ordinaria informati" ("але і мы, якія пішам гэта, мелі магчымасць быць сведкамі абодвух гэтых дзіваў, займаючыся ў той час навучаннем у Вільні ў Акадэміі, і бачыўшы на ўласныя

вочы, і паінфармаваныя асобамі годнымі даверу, выступаючымі ў царкоўным аўтарытэце")[29].

Вельмі шмат асабістых згадак і выражэння суб'ектыўных меркаванняў знаходзіцца ў хроніцы кляштару брыгідак[30].

Насамрэч, пераважная большасць апісанняў хронік, незалежна ад таго пазначана гэта ў тэксце ці не, з'яўляецца апісаннем фактаў, сведкамі якіх былі аўтары і памяць пра якія яны захоўвалі асабіста. Таму хронікі з'яўляюцца сведчаннем камунікатыўнай, вуснай памяці, хоць і адлюстроўваюць яе часткова.

## КАМУНІКАТЫЎНАЯ ПАМЯЦЬ

Гарадзенскія кляштарныя хронікі з'яўляюцца тэкстамі розных тыпаў – штодзённымі, гадавымі ці нерэгулярнымі запісамі. Нават штодзённыя запісы – "Дамавая гісторыя бернардзінцаў" – уносіліся ў белавік раз на некалькі месяцаў, пра што сведчыць частата зменаў почыркаў падчас вядзення хронікі. Такім чынам, найменшы, найкарацейшы абсяг памяці сягае ад некалькіх дзён да некалькіх месяцаў.

"Хроніка гарадзенскіх бернардзінцаў" і "Гісторыі езуітаў" складаліся з перапынкамі ў адзін ці тры гады. У дадзеным выпадку храніст павінен быў утрымліваць у памяці і асэнсоўваць падзеі за гэты перыяд. Вядома, хронікі павінны былі пісацца на падставе пісьмовых нататак, якія рабіліся непасрэдна пасля падзей, аднак для пераасэнсавання здарэнняў, аўтар павінен быў засноўвацца на вуснай — уласнай ці групавой — памяці.

Пры даследаванні памяці групы найбольшую цікаўнасць для мяне асабіста прадстаўляюць прабелы ў памяці. Сведчанні незахавання памяці пра нейкія падзеі выяўляюць сілу і глыбіню самой памяці, могуць паказваць працэсы выцірання з памяці. Хронікі, хоць і ў невялікай ступені, аднак змяшчаюць сведчанні падобнай няпамяці.

Прыкладам можа служыць апісанне канфлікту адносна цагельні, якое знаходзіцца ў дзвюх хроніках бернардзінцаў. Спрэчка адбылася паміж бернардзінцамі і езуітамі ў 40-я і 50-я гады XVII ст. Яна падрабязна апісаная ў "Храналогіі" Томаша Дыганя, які прыводзіць дэталі справы, цытуе юрыдычныя дакументы, змяшчае ўласныя каментарыі[31].

Цагельня знаходзілася ў маёнтку Панямунь, недалёка да Гародні, каля Гарадніцкага двара, і спачатку належала бернардзінцам. Аднак пазней, пасля пакупкі езуітамі зямлі вакол цагельні, яна ста-

ла прадметам маёмаснай спрэчкі. Канфлікт разглядаўся ў свецкіх судах розных інстанцый і канчаткова быў вырашаны на сеймавым судзе ў 1654 г. У справу ўключылася кіраўніцтва абодвух ордэнаў, што кажа пра яе значнасць. Езуіты, імкнучыся здабыць агульную прыхільнасць, надрукавалі брашуру з апісаннем свайго бачання стану рэчаў. Падчас гэтага канфлікту аўтар хронікі, Томаш Дыгань, жыў у гарадзенскім кляштары. Напэўна таму яго апісанне справы такое падрабязнае і асабістае.

Той самы маёмасны канфлікт быў прадстаўлены праз 20 год у іншай з даследаваных хронік[32]. Сцісласць апісання сведчыць пра тое, што хоць памяць пра яго факт захавалася, аднак падрабязнасці былі сцёртыя з сацыяльнай кляштарнай памяці. "Litigia exorta et finita sunt inter nos et admodum reverendos patres Societatis Iesu ipsismet temporibus circa laterariam, ad littus Niemni, et nunc ad Poniemonium collegii grodnensis praedium spectantem, quae est praefato collegio Societatis Iesu per decretum serenissimi Ioannis Casimiri, regis nostri regni, protunc adiudicata. Sed huius litis series si plenior de illa capietur informatio, seorsim in omnem subiungetur casum" ("Судовая спрэчка паўстала і скончылася ў гэтыя часы паміж намі і вялебнымі айцамі таварыства Ісуса адносна цагельні, (размешчанай) на беразе Нёмана, і звернутай цяпер да Панямунскіх уладанняў гарадзенскай калегіі. Цагельня ў тыя часы была прысуджана названай калегіі Таварыства Ісуса дэкрэтам найяснейшага Яна Казіміра, караля нашага каралеўства. Але ход гэтай справы, калі будзе знойдзена аб ёй больш інфармацыі, павінен быць апісаны асобна"[33].

Такім чынам, аўтар хронікі сам сцвярджае недастатковасць апісання і выказвае патрэбу ў дадатковых звестках. Само апісанне надзвычай кароткае. Адрозніваецца ў гэтых фрагментах і стаўленне да супраціўнікаў у справе — нейтральнае і поўнае павагі ў другім выпадку.

Розніца ў часе вядзення хронік складае каля 20 год (каля 1654 і каля 1677) — вельмі малы адрэзак у кантэксце камунікатыўнай памяці, дзе звычайна як даўжыня вымяраецца пакаленнямі роду. Аднак за гэтыя 20 год з памяці былі сцёртыя значная колькасць звестак адносна канфлікту. Напэўна, галоўнай прычынай заціранне памяці ў дадзеным выпадку з'явіліся падзеі Маскоўскай вайны 1654–1667 гг., калі былі забіты ці ўцяклі ў іншыя асяродкі манахі кляштара – носьбіты гістарычнай памяці – і часткова знішчаны кляштарны архіў[34]. Ваенныя падзеі таксама, напэўна, змянілі прыярытэтнасць фактаў, якія памятала супольнасць. Многія па-

дзеі, якія былі значнымі для жыцця супольнасці да вайны, павінны былі перайсці ў катэгорыю менш важных, не вартых запамінання.

Уплыў ваенных дзеянняў на паслабленне кляштарнай памяці падкрэслівае сам аўтар другой з хронік. Адна з частак хронікі змяшчае копіі архіўных дакументаў кляштара, таксама як і "Храналогія" Томаша Дыганя. Праўду кажучы, "Хроніка гарадзенскіх бернардзінцаў" змяшчае амаль усе дакументы, працытаваныя ў ранейшай "Храналогіі" (акрамя дакументаў адносна цагельні). Аднак, пасля прывядзення тэкстаў гэтых дакументаў, аўтар змяшчае наступную заўвагу: Deberet consequenter hic conscribi authenticae plures literae, praesertim translativae iurium cum suis anterioribus privilegiis seu diplomatibus tam super praefatas areas, a nostris occupatas, quam super hortum nobis in perpetuas perpetuitates resignatum. [...] Sed quia vetus archivum (quod fuisse supponitur) imo omnes scripturae antiquae conventus huius vel hostilitatis vel conflagrationis vel aliquo alio casu perierunt ("Трэба было б адпаведна перапісаць тут і іншыя многія аўтэнтычныя дакументы, асабліва тыя, якія замацоўваюць правы ранейшымі прывілеямі і дыпломамі вышэйназваным землям, займаным кляштарам, а таксама саду, перададзенаму нам на вечнасць. Але дзеля таго што стары архіў (які, мяркуем, што існаваў), а ў кожным выпадку ўсе старажытныя дакументы гэтага канвента або ад ворагаў, або ад пажараў, або з якой іншай прычыны былі знішчаныя"[35].

Такім чынам, аўтар падкрэслівае факт ваенных знішчэнняў і перарванасць камунікатыўнай памяці супольнасці. Найбольшай праблемай аўтар называе знішчэнне старога архіва. У сувязі з тым, што храніст цытуе амаль усе дакументы ранейшай хронікі, бачна, што знішчылася памяць пра аб'ём і змест самога архіва. У пасляваеннай сітуацыі манаская супольнасць да запамінаных фактаў дадае факт знішчэння архіва і знішчэння памяці канвента.

## ПІСЬМО. ВАЖНАСЦЬ ДЛЯ ЗАХАВАННЯ ПАМЯЦІ

Аўтары хронік засноўваюцца не толькі на вуснай, але і на пісьмовай памяці. Яны робяць папярэднія занатоўкі, на падставе якіх складаюць тэкст, і выкарыстоўваюць нататкі іншых аўтараў.

Выдатны прыклад такога дзеяння прыведзены ў "Хроніцы кармелітаў босых", калі ў 1757 г. пасля перапынку ў 17 год (1740 г.) узнаўляецца вядзенне хронікі. Аўтар пачынае свой аповед ад прадстаўлення сябе і названня часу вядзення хронікі, а пазней прыводзіць тэкст пра падзеі 1739-1740 гг., які ён знайшоў на лістах

паперы. Храніст ведае імя аўтара цытаванага тэксту, называе яго і выказвае меркаванне, што гэты чалавек — Рамуальд ад св. Стэфана — быў папярэднім хранiстам кляштара.

"Anno D(omi)ni 1757 [...] Ego fr(ater) Clemens a Prae(sentatione) B(eatae) V(irginis) Mariae destinatus huius conventus n(ostri) grodnensis historiographus haec inscribo acta sub felicissimo regimine priori nostri reverendi patris Joachim a Protectione s(ancti) p(atris) n(ostri) Joseph. Et prima quidem quae in schedulis inveni scripta ab adm(o)du(m) r(everendo) p(atre) n(ostro) Romualdo a s(ancto) Stefano protunc ut suppono huius conventus historiografo, quae sequuntur" (У 1757 г. Госпада. Я брат Клімент ад Ахвяравання Бласлаўлёнай панны Марыі, прызначаны быць гістарыёграфам гэтага нашага гарадзенскага кляштара, упісваю гэтыя дадзеныя ў часы шчаслівага праўлення нашага прыёра, вялебнага айца Яхіма ад Апекі святога айца нашага Юзафа. І ў першую чаргу [я запісваю] тое, што знайшоў занатаваным на картках вялебным айцом нашым Рамуальдам ад св. Стэфана, які быў на той момант, як мяркую, гістарыёграфам гэтага канвента, што і далей прыводжу")[36].

Праблема ў тым, што ў папярэднім тэксце хронікі, адну старонку раней (!), на тым жа аркушы паперы (!) пазначана, што ў 1739 г. гістарыёграфам гарадзенскага канвента быў абраны а. Лявон ад Усіх Святых, а а. Рамуальд ад св. Стэфана — прыёрам таго ж кляштара[37]. Такім чынам, гэты фрагмент паказвае як важнасць пісьмовых звестак для аўтара, збіральнікам якіх ён выступае, так і адсутнасць цікаўнасці да іх. Урывак з'яўляецца выразным сведчаннем таго, што храніст не чытаў папярэдняга тэксту хронікі або чытаў яго няўважліва. Ён выступае, такім парадкам, толькі ў ролі аўтара, не чытача тэксту, у ролі стваральніка гісторыі, не яе адрасата. Сама ж кляштарная супольнасць праз 18 год не памятала імя свайго былога прыёра.

Падобнае стаўленне да тэксту хронік не з'яўляецца паўсюдным. Першыя 26 аркушаў той самай "Хронікі кляштару кармелітаў" змяшчаюць шмат падкрэсліванняў, заўваг на палях, што сведчыць пра ўважлівае чытанне тэксту манахамі. Гэтая частка хронікі апісвае працэс набыцця зямель гарадзенскім кляштарам. Выразна відаць, што ў наступныя гады манахі часта звярталіся да гэтай інфармацыі і выкарыстоўвалі дзеля гэтага хроніку.

Хронікі таксама самыя кажуць пра важнасць пісьмовага тэксту дзеля захавання памяці. Ва ўступе да "Храналогіі", калі аўтар абгрунтоўвае сваё заняцце пісаннем гісторыі, ён кажа: "Infirma aevi conditio saepissime hoc efficere solet ut res in variis provinciis

gestae et celebres[38] mortaliumque hominum digna notitia ex hominum memoria sensim evanescunt et nisi a variis vivis fide dignis vel amanuensibus illorum calamo adnotentur et conscribantur illas sine dubio in perpetuum delebit oblivio humana” („Нетрываласць гэтага свету часта прыводзіць да таго, што падзеі, якія адбыліся і былі знакамітыя ў розных правінцыях, і вартыя [памяці] звесткі аб смяротных людзях паступова сціраюцца і людская няпамяць без сумніву знішчыць іх навечна, калі яны не будуць занатаваныя пяром і запісаныя рознымі жывымі [сведкамі], вартымі даверу ці іх сакратарамі”[39].

Шмат разоў аспект памяці падкрэслівае Тэрэза Храптовіч і сакратар “Гісторыі капітул”. На пачатку некалькіх пропаведзяў ксенія кажа пра тое, што будзе чытаць іх з карткі, “abym zastąpiła słabość pamięci, [...] aby ta karta w czasie potrzeby była świadectwem; którą [kartę] chować będę”[40]. Сакратар таксама падкрэслівае вагу гэтага аспекту[41].

## КУЛЬТУРНАЯ ПАМЯЦЬ — НАЙБОЛЬШ ГЛЫБОКАЕ СЯГАННЕ ПАМЯЦІ

Пісьмо выкарыстоўваецца сацыяльнымі групамі, каб аформіць і захоўваць памяць культурную — афіцыйную памяць супольнасцяў. Культурная памяць спрычыняецца да выпрацоўкі тоеснасці групы і захавання яе адзінства.

Найбольш важным аспектам падобнай памяці з’яўляецца зберагание звестак пра заснавальнікаў пэўнай супольнасці. Акцэнтаванне памяці на пачатках роду ці сацыяльнай групы ўласціва найбольш старажытным з іх. Ужо міфалагічныя ці сакральныя тэксты найбольш увагі прысвячалі пачаткам дзеяў. Падобная сістэма вартасцяў уласціва таксама супольнасцям у сучаснасці, у тым радавой ці генеалагічнай памяці. Ян Асман у доказ слушнасці гэтага тэзісу прыводзіць вобразную цытату з даследавання Кейт Томас: “Бесчисленные генеалогии перескакивали непосредственно от мифических предков к современности и напоминали, как выразился один любитель древностей, голову и ноги без тела, два конца без середины”[42].

Гарадзенскія кляштарныя хронікі маюць “целы”, аднак большасць з іх сапраўды пачынаецца з “галавы”, не абавязкова з ім звязанай. З апісанняў працэсу фундацыі кляштараў пачынаюцца “Храналогія” Т. Дыганя, “Хроніка гарадзенскіх бернардзінцаў”, “Вінаградная лаза”, “Апісанні”, “Хроніка гарадзенскіх кармелітаў” —

5 з 8 аналізаваных тэкстаў. Акрамя тэкстаў хронік аповед пра заснаванне кляштараў змяшчаўся ў кожнай візітацыі, адлюстроўваўся на інскрыпцыях у касцёлах, выражаўся ў мастацкіх аб'ектах унутры святынь.

Аповед пра пачаткі мог сягаць раней, чым уласна гісторыя кляштара. Напрыклад, бернардзінцы ў кожным з апісанняў пачаткаў кляштара згадваюць фундацыйны прывілей Аляксандра Ягелончыка 1495 года, які не прывёў да фактычнага заснавання манастыра: "A multo tempore, praesertim vero ab anno Domini millesimo quadringentesimo nonagesimo quarto, ad instantiam omnium nobilium totius districtus grodnensis, regnante protunc serenissimo rege Alexandro, invitati erant patres nostri, ad occupandum locum, ad extruendum monasterium et erigendam ecclesiam in civitate grodnensi. Quorum nobilium postulationibus, affectationibus et piis illorum votis, instantiis et desideriis inclinatus praenominatus serenissimus rex Alexander concesserat pro patribus nostris certam aream, quam et diplomate suo (ut infra patebit) donaverat et perpetuis temporibus assignaveraT. Sed per haeredes Radivillii palatini vilnensis protunc haereticis occupantibus et possidentibus hanc aream denegata est nobis, neque est facta protunc introductio patrum nostrorum: imo diu dilata fuit usque ad Stephanum Battorium et Sigismundum tertium reges Poloniae („Шмат часу таму, а дакладней у годзе Гасподнім тысяча чатырыста дзевяноста чацвёртым, па просьбах усёй шляхты ўсяго Гарадзенскага павету, за часоў панавання найяснейшага караля Аляксандра, нашыя айцы былі запрошаныя для заняцця месца, збудавання кляштара і ўзвядзення касцёла ў месце Гарадзенскім. Пераканаы патрабаваннямі, прагненнямі і пабожнымі абяцаннямі гэтых шляхціцаў, іх стараннямі і жаданнямі, вышэйназваны найяснейшы кароль Аляксандр саступіў нашым айцам пэўны пляц, які (як будзе бачна ніжэй) падараваў сваім прывілеем і перадаў на вечныя часы. Але з-за спадкаемцаў Радзівіла, ваяводы віленскага, якія на той час былі ерэтыкамі і займалі і валодалі гэтай зямлёй, нам было адмоўлена, і ў той час не адбылося ўвядзення нашых айцоў, а наадварот было адкладзена надоўга, аж да часоў панавання Стэфана Баторыя і Жыгімонта Трэцяга")[43].

Гэтае апісанне фундацыі кляштара бернардзінцаў найбольш ранняе з аналізаваных тэкстаў. Апісанні ў іншых крыніцах вельмі падобныя. Усе называюць дату першай фундацыі і прычыну яе правалу. Большасць фраз гэтага фрагмента цытуецца ў іншых хроніках даслоўна (магчыма замена некаторых словаў на сінанімічныя выразы ці замена некаторых фразаў месцамі, на-

прыклад, у некаторых хроніках тэкст прывілея Аляксандра, які тут цытуецца пасля апісання, прыводзіцца перад названнем прычын цяжкасцей). Падобнае ўзаемнае цытаванне звязана з гісторыяй тэкстаў, іх узаемнай залежнасцю. Важна тое, што ў розных з бернардзінскіх хроніках гісторыя гарадзенскага кляштару мае розную ступень разбудаванасці. Так, у "Апісаннях" фрагмент, які тычыцца Гародні, займае толькі адну старонку для мужчынскага кляштара[44]. Для параўнання тое ж апісанне ў "Храналогіі" Дыганя, якая была, напэўна, першасным тэкстам, займае 17 старонак. Вядома, большасць звестак з хронікі Т. Дыганя не прыводзіцца ў "Апісаннях". Аднак фрагмент, які тычыцца пачаткаў супольнасці, прыведзены амаль поўнасцю — даслоўна перапісаная, напрыклад, гісторыя з Радзівіламі. Толькі пачатак гэтага ўрыўка ў пазнейшай хроніцы аўтарскі, аднак і ён змяшчае ўсю важную інфармацыю з "Храналогіі".

Таксама пачатак "Хронікі гарадзенскіх кармелітаў" распавядае пра самыя раннія спробы заснавання кляштара. Ён пачынаецца са словаў: "1652: Hoc anno attentatur fundatio ista: sed hostilitates et peste- *[...]*[45] -unT. Constat autem acceptatio primaria istius fundationis ("1652: У гэтым годзе была здзейснена спроба гэтай фундацыі, аднак варожасць і [заразы перашкодзі]лі. Аднак адбылося першаснае прыняцце гэтай фундацыі")[46].

Гэтую хроніку пачалі весці, хутчэй за ўсё, у 1674 г. Аднак яна апавядае пра больш раннія здарэнні — першых спробах заснавання гарадзенскага кляштара.

Важнасць запісвання інфармацыі пра пачаткі кляштараў падкрэслівалі на капітулах, дзе абмяркоўвалася вядзенне кляштарных хронік: "1739: Iniunctum est etiam patribus praesidentibus ut originem fundationu(m) residentiar(um) suar(um) inquirant ac descirbant [...] ("Даручалася таксама айцамі старшынямі, каб даследавалі і запісвалі пачаткі фундацый сваіх рэзідэнцый")[47].

Такім чынам, сяганне каранёў, падкрэсліванне старажытнасці супольнасці, памяць пра старадаўнія здарэнні мае вялікае значэнне таксама для аўтараў хронік. Менавіта за захаваннем гэтай памяці супольнасць сочыць найбольш уважліва.

## ХРОНІКІ ЯК КЛЯШТАРНЫ АРХІЎ

Пасля апісанняў пачаткаў кляштараў хронікі часта прыводзілі копіі фундатарскіх дакументаў, такім чынам самыя яны пераўтвараліся ў свайго роду кляштарныя архівы.

У выпадку гарадзенскіх хронік гэта тычыцца бернардзінскіх хронік. "Храналогія", "Хроніка гарадзенскіх бернардзінцаў", "Вінаградная лаза" ўтрымліваюць поўныя копіі прававых дакументаў. Гэта звязана з гісторыяй з'яўлення кляштарных хронік у ордэне бернардзінцаў. Генералы ордэна — а. Паала Пізоцці, а. Пётр Манэро — выдаючы ў 1529-1651 гг. распараджэнні аб вядзенні хронік, асаблівую ўвагу надавалі стварэнню копій прававых дакументаў.

Статут ордэна, які ў 1651 г. падрыхтаваў а. Пётр Манэро, загадваў на працягу года стварыць кнігі з копіямі ўсіх дакументаў правінцыі і перадаць яе ў Цэнтральны Архіў[48]. Копіі кніг павінны былі захоўвацца ў Архівах Правінцыі[49]. Сярод дакументаў павінны былі знаходзіцца акты фундацыі, каралеўскія і іншыя прывілеі, апісанні цудатворных ікон, бібліятэк, жыцці святых[50]. Былы сфармуляваныя таксама патрабаванні да формы хронік. Апісана стылістыка тэксту, почыркі, мова, размяшчэнне тэксту на старонцы, пакіданне палёў і г. д.[51]

Бернардзінскія хронікі, што апісваюць кляштары ўсёй правінцыі, з'яўляюцца прыкладам рэалізацыі названых распараджэнняў. Пра гэта сведчыць структура, тэматыка, спосаб запісвання хронік. У тытулах ці прэамбулах храністы падкрэсліваюць, што ствараюць гэтыя творы па распараджэнню ўлад ордэна і капітул правінцыі[52]. Самая ранняя хроніка — "Храналогія" Т. Дыганя — складалася пачынаючы з 1654 г., што было непасрэдным адказам на распараджэнне а. П. Манэро.

Гэтая хроніка ў частцы, якая тычыцца гарадзенскага кляштара змяшчае наступныя дакументы:

- для мужчынскага кляштара: прывілей Аляксандра Ягелончыка 1494 г. аб перадачы зямлі і сада на гары насупрацьракі Нёман для пабудовы святыні і манастыра айцоў бернардзінцаў[53], выпіска з актаў Віленскага трыбунала – тастамент Ганны Друцкай-Сакалінскай з даравальным запісам зямлі і грунту для пабудовы манастыра 1595 г.[54]; выпіска з гродзенскіх гродскіх актаў – наданне зямлі Мацвеем Тарасовічам у 1596 г.[55]; пацвярджэнне папярэдніх зямельных наданняў Жыгімонтам Вазай у 1601 г. [56]; зацвярджэнне прыняцця зямлі для пабудовы манастыра нунцыем Энрыкам Гаэтані 1596 г. [57]; зацвярджэнне таго ж генералам ордэна Францішкам а Соса 1600 г.[58]; дакумент перадачы цагельні Андрэем Эйсмантам 1614 г.[59];
- для жаночага кляштара: зацвярджэнне фундацыі каралём Жыгімонтам Вазай у 1619 г. [60], у якім цытуецца фунда-

цыя (уласна перанос фундацыі) Гераніма Валовіча ў 1619 г. і дазвол на яе віленскага біскупа Астафія Валовіча ў 1618 г.; ліст біскупа Юрыя Тышкевіча з нагоды асвячэння царквы ў 1651 г.[61]; дазвол на еўхарыстычную працэсію ў час актавы свята Божага Цела, выдадзены Юрыем Тышкевічам[62]; індульгенцыя папы Інакенція X на свята асвячэння царквы[63]; індульгенцыя таго ж папы на Задушны дзень[64].

Пры перадачы тэксту дакументаў адзначаецца, калі дакумент быў напісаны на пергаменце і, часамі, характар пячаткі (напрыклад, пасля дакумента генерала Францішка а Соса: *extat in pargameno cum sigillo ordinis appenso*[65] ("захавалася на пергаменце, з падвешанай пячаткай ордэна")[66].

Амаль той самы збор дакументаў мужчынскага кляштара змяшчае "Хроніка гарадзенскіх бернардзінцаў". "Храналогія" мае толькі на адзін дакумент больш (даравальны запіс А. Эйсманта, важны ў справе пра цагельню). Хутчэй за ўсё аўтар карыстаўся тым самым зборам юрыдычных дакументаў, што і Т. Дыгань, але не ведаў самой хронікі Т. Дыганя. Акрамя таго "Хроніка" змяшчае шмат іншых дакументаў з канца XVII — паловы XVIII ст. (напрыклад, лісты Міхала Паяца з просьбай аб продажу зямлі дзеля пабудовы палаца (1678–1679)[67]; канстытуцыя Бенядзікта XIII, што пацвярджала прывілеі ордэна кармелітаў (каля 1724–1730[68]); дакумент Казіміра Яна Сапегі, які пацвярджае, што набыты ў бернардзінцаў пляц вернецца да кляштара пасля смерці яго і яго спадкаемцы (1684[69]); дакументы, якія тычацца працэсу Гарадзенскага магістрату з кляштарамі (базыльянамі, дамініканцамі, езуітамі, бернардзінцамі, кармелітамі босымі) адносна юрыдык у 1721 г.[70] і іншыя).

На падставе дзвюх вышэйназваных хронік у 1738-1744 гг. была створана "Вінаградная лаза". Цытуючы тэксты хронік, аўтар прыводзіць таксама тэксты юрыдычных дакументаў. Акрамя таго, хроніка змяшчае ўклееныя арыгіналы ці копіі іншых дакументаў.

Такім чынам, паўтарэнне поўных тэкстаў прававых дакументаў у кляштарных хроніках сведчыць пра важнасць падобнай інфармацыі для іх аўтараў і выкарыстанне хронік як своеасаблівых архіваў кляштараў.

## ФАРМІРАВАННЕ КУЛЬТУРНАЙ ПАМЯЦІ

Камунікатыўная памяць на шляху да культурнай перажывае жорсткі ўплыў цэнзуры, толькі некаторыя з фактаў, якія зберага-

юцца камунікатыўнай памяццю, могуць перайсці ў памяць культурную. Гэты працэс адлюстраваны таксама ў тэкстах хронік.

Першасным сведчаннем яго з'яўляецца абмежаванасць інфармацыі, якая змяшчаецца ў хроніках. Пры параўнанні тэкстаў мужчынскіх кляштараў з жаночым бачна, наколькі розныя тыпы звестак траплялі ў хронікі. Акрамя насычанасцю прававой інфармацыяй у мужчынскіх хроніках яны вылучаюцца эмацыйнай нейтральнасцю і абмежаваннем звестак адносна таго, што адбывалася непасрэдна ўнутры манаскай супольнасці.

"Дамавая гісторыя бернардзінцаў" як найбольш падрабязная, штодзённая хроніка рэгулярна змяшчае звесткі пра асоб, якія выконваюць пэўныя заданні ў кляштары, аднак мы амаль не бачым уласна жыцця супольнасці, адносін паміж асобамі ў ёй. Адзінае выключэнне — гэта апісанне канфлікту з братам, які вырашыў перайсці з бернардзінскага ордэна да францысканцаў канвентуалаў[71]. Гэта быў а. Марцыян Чум, а факт пераходу адбыўся ў 1765 г. з дазволу Рымскай Курыі. Пры апісанні справы выяўляюцца складаныя адносіны паміж братамі ўнутры кляштара. Само апісанне вельмі эмацыйнае. І, здаецца, гэтыя звесткі трапілі ў хроніку толькі таму, што аўтар паддаўся эмацыйнаму парыву і апісаў здарэнні адразу пасля факту, не правёўшы патрэбную аўтацэнзуру.

Наадварот, "Гісторыя капітул" брыгітак наскрозь прасякнутая апісаннем унутраных адносін паміж сёстрамі. Нават калі гэта толькі прыклады ў пропаведзях і не прыводзяцца канкрэтныя імёны манашак, мы можам уявіць, з якімі праблемамі яны змагаліся, што здолелі пераадолець у сваім супольным жыцці[72].

Прыкладам цэнзуры ці свядомага забыцця можа служыць апісанне знакамітых айцоў, якія жылі ў бернардзінскім кляштары, у "Храналогіі" Т. Дыганя. Падраздзел "Memoria patrum vita celebrium in hac ecclesia sepultorum"[73] ("памяць пра знакамітых айцоў, пахаваных у гэтай царкве") змяшчае кароткія жыццяпісы а. Крыштафа Сцыпіёна дэль Кампа (к. 1578–1649), а. Гіераніма Какоўскага (1584–1653), а. Лукаша Грудзінскага (?-к. 1620), а. Томаша Парцэвіты, а. Клімента Абрэмбскага (?-1650).

Асаблівую цікаўнасць прадстаўляюць жыцці Крыштафа Сцыпіёна дэль Кампа і Гіераніма Какоўскага. Апісанні ў абодвух выпадках падкрэсліваюць асаблівыя заслугі айцоў перад кляштарам і ордэнам. Храніст кажа, што Г. Какоўскі быў каралеўскім тэолагам Уладзіслава IV у час маскоўскага паходу. К. Сцыпіён дэль Кампа выконваў функцыю генеральнага дэфінітара ордэна бернардзінцаў, тройчы быў правінцыялам польскай правінцыі, кары-

стаўся аўтарытэтам у ордэне ў Італіі, Гішпаніі, Польшчы, а таксама сярод сенатараў і магнатаў Кароны і Княства і г. д.

Гэтыя звесткі вядома праўдзівыя. Аўтар замоўчвае аднак, што прабыванне а. Крыштафа Сцыпіёна дэль Кампа ў гарадзенскім кляштары было карай за фінансавыя махінацыі, калі ён займаў высокія пасады ў ордэне. Унутранае расследаванне ў гэтай справе вёў а. Гіеранім Какоўскі і гэта ён прыняў рашэнне аб высылцы былога правінцыяла ў Гародню. Так прадстаўлена біяграфія Г. Какоўскага ў "Польскім біяграфічным слоўніку": "[Hieronim Kakowski] prezydował na kapitule w Radomiu w lutym 1645 r., gdzie wydał dekret skazujący definitora zakonu i byłego prowincjała Krzysztofa Scipio del Campo za nadużycia władzy i przywłaszczenie pieniędzy klasztornych na pozbawienie praw zakonnych na lat 6 i zamknięcie na pokucie w ustronnym klasztorze. Mimo apelacji do generała prowincji uczynionej przez oskarżonego dekret ten został utrzymany. Sprawa ta stała się głośna w świecie zakonnym. W t.r. zaczął się K[akowski] ubiegać o przeniesienie do prowincji małopolskiej i wówczas wyszła na jaw niechęć dygnitarzy zakonnych do tego energicznego i rygorystycznego przełożonego. [...] Pod koniec życia przeniósł się do Grodna. Po raz ostatni uczestniczył w kongregacji w Grodnie 31.05.1653, wkrótce potem zmarł"[74].

Гарадзенская кляштарная супольнасць прыняла абодвух манахаў, канфлікт паміж якімі выклікаў бурлівыя эмоцыі ў бернардзінскім свеце. Іх целы былі пахаваныя ў касцельных крыптах, а кляштарная хроніка аднатавала найлепшыя ўчынкі абодвух з іх, не згадваючы аб канфлікце.

Незалежна ад таго, ці замоўчванне справы было свядомым актам храніста ці яно было выцерта з памяці супольнасці раней, тут выразна адлюстраваны факт таго, як сацыяльная група выбірае факты дзела захоўвання ў памяці і будуе ўласную тоеснасць на падставе некаторых з іх.

## ВЫСНОВЫ

Хронікі, у тым кляштарныя, з'яўляюцца асаблівым тыпам тэкстаў, які дазваляе ўбачыць працэс тварэння гісторыі, у тым пераход ад памяці камунікатыўнай да культурнай. Няспеласць матэрыялу, недахоп часу на пазбаўленне тэксту шурпатасці з'яўляюцца асаблівай перавагай гэтых тэкстаў. Можна сказаць, што хронікі выступаюць у пэўныя моманты як "чарнавікі гісторый" і адлюстроўваюць працэс стварэння гісторыі, паказваюць як фармава-

лася і захоўвалася культурная памяць групы, як функцыянавала камунікатыўная памяць.

Працытаваныя вышэй фрагменты хронік выключныя, бо яны адносяцца да іншых фрагментаў хронік і дазваляюць рабіць кампаратыўны аналіз звестак. Вядома, такім чынам мы можам спраўдзіць толькі малы адсотак інфармацыі. Аднак, менавіта ў гэтым іх важнасць і вартасць.

Тэксты кляштарных хронік у чарговы раз даводзяць, што найбольш важным пластом сацыяльнай памяці групы была памяць пра яе пачаткі, вытокі, карані. Не меншую важнасць уяўляюць сабой прававыя дакументы кляштараў. Пісанне хронік на працягу доўгага перыяду часу напаўняе гэтыя тэксты "целам", забяспечвае звязанасць розных частак гісторыі і яе цэласнасць.

Сам факт пісання і пісьма меў вялікую вартасць для манаскіх груп. Шмат аўтарскіх каментараў падкрэсліваюць слабасць чалавечай памяці і важнасць запісаных дакументаў, стварэння архіваў. Аднак сяганне да тэкстаў хронік у манаскіх супольнасцях было абмежаванае. На падставе іншых фрагментаў тэксту мы бачым, што самыя аўтары ведалі хронікі і сягалі да іх толькі часткова.

Тэксты хронік адлюстроўваюць таксама працэс фарміравання культурнай памяці, цэнзуру групы ў адносінах да фактаў "вартых запамінання" і трактовак, у якіх яны павінны захоўвацца ў памяці. Стварэнне культурнай памяці прадугледжвае як запамінанне, так і забыццё пэўных фактаў.

"Таким образом, семиотически отмеченные события заставляют увидеть историю, выстроить предшествующие события в исторический ряд. Так образуется исторический опыт — это не те реальные знания, которые постепенно откладываются (накапливаются) во времени, по ходу событий, в поступательном движении истории, а те причинно-следственные связи, которые ўсматриваются с синхронной (актуальной для данного момента) точки зрения. В дальнейшем могут происходить новые события, которые задают новое прочтение исторического опыта, его переосмысление. Таким образом прошлое переосмысляется с точки зрения меняющегося настоящего. История в этом смысле — это игра настоящего и прошлого"[75].

---

[1] Historia domowa klasztoru Grodzieńskiego XX Bernardynów ... od roku 1763 D. 2 Lipca zaczęta. Księga I: 1763–1775 // Dział rękopisów, Biblioteka Narodowa (Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі РП). Ф. BOZ, спр. 1798, арк. 21адв.

[2] Ассман Ян, Культурная память. Письмо, память о прошлом и политическая идентичность в высоких культурах древности / пер. с нем. М. М. Сокольской. Москва, 2004. С. 52.

[3] Ассман Ян, Культурая память. С. 55.

[4] Kronika zakonu Bernardynów grodzieńskich z lat 1677–1783 // Dział rękopisów, Biblioteka naukowa Polskiej Akademii Umiejętności i Polskiej Akademii Nauk w Krakowie (Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Польскай акадэміі ўменняў і Польскай акадэміі навук у Кракаве). Спр. 369.

[5] Historia domowa… Księga I; Historia domowa klasztoru Grodzieńskiego XX Bernardynów od roku 1776 d. 1 Stycznia zaczęta. Księga II: 1776–1792 // Rankraščių skyriaus rinkiniai, Vilniaus Universiteto Biblioteka (Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта). Ф. 4, спр. А-391.

[6] Conventus Grodnensis // Descriptiones nonnulorum monasteriorum Ordinis Minorum Observantum // Archiwum Prowincji oo. Bernardynów w Krakowie (Архіў правінцыі бернардзінцаў у Кракаве, АРВКr). Фонд М, спр. 26. С. 26–27, 55–56.

[7] Digon, Th. Conventus et guardianatus Grodnensis sub titulo s. Crucis inventionis // Chronologia Ordinis Fratrum Minorum de Observantia provinciae Minoris Poloniae et Magni Ducatis Lithuaniae // Archiwum Prowincji oo. Bernardynów w Krakowie (Архіў правінцыі бернардзінцаў у Кракаве, АРВКr). Ф. М, спр. 25. С. 315–332.

[8] Planta conventus Grodnensis ad sanctam crucem inventam // Vinea electa <...> ex Minore Polonia <...> in novam S. Casimiri Provinciam erecta 1469–1772. // Архіў правінцыі бернардзінцаў у Кракаве. Ф. L, спр. 15. С. 93–107.

[9] Хроніка кляштара кармелітаў босых у Гародні // Vilnau Universiteto Mokslines Bibliotekos rankraščtų skyrius (Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта). Ф. 3, спр. 2377.

[10] Гадавыя лісты і гісторыі езуітаў // Archivum Romanum Societatis Iesu (Рымскі архіў Таварыства Ісуса). Ф. Lithuanica.

[11] Dzieje kapitularne zakonnic świętej matki Brygitty konwentu grodzieńskiego // Archiwum Archidiecezji Warszawskiej (Архіў Варшаўскай Архідыяцэзіі, AAW), Аддзел рукапісаў, спр. А.Х.1.100 / 1362. Dzieje kapitularne zakonnic świętej matki Brygitty konwentu grodzieńskiego / opr. M. Borkowska, K. Obremski. Toruń, 2001.

[12] Digon, Th. Chronologia…

[13] Kachel, J. Bernardyni 1453 – 2003: kapłani i bracia zakonni prowincji polskich oraz kustodii św. Michała na Ukrainie: wydanie jubileuszowe: w 6 cz. Cz. 2. Warta, 2004. S. 71; Kantak, ST. K. J. Dygoń Tomasz // Polski słownik biograficzny, kom. red. Władysław Konopczyński (red. główny) et al. T. 6: Dunin Rodryg – Firlej Henryk. Kraków, 1948. S. 53; Wyczawski, H. Eug. Dygoń Tomasz // Słownik polskich pisarzy franciszkańskich / red. H. Eug. Wyczawski. Warszawa, 1981. S. 121.

[14] Estreicher, K. Bibliografia Polska: w 35 T. T. XV. Kraków, 1977. S. 433-434.

[15] Хроніка кляштара кармелітаў… Арк. 28; Kronika poznańskich Karmelitów Bosych / opr. przez P. Fr. Neumanna. Poznań, 2001. S. 357.

[16] Хроніка кляштара кармелітаў… Арк. 28; Kronika poznańskich Karmelitów Bosych… S. 354.

[17] Хроніка кляштара кармелітаў… Арк. 28, 40; Kronika poznańskich Karmelitów Bosych… S. 366.

[18] Хроніка кляштара кармелітаў… Арк. 40.

[19] Хроніка кляштара кармелітаў… Арк. 43; Kronika poznańskich Karmelitów Bosych... S. 365.

[20] Хроніка кляштара кармелітаў… Арк. 112адв.

[21] Тамсама.

[22] Kronika poznańskich Karmelitów Bosych... S. 287, 366.

[23] Хроніка кляштара кармелітаў… Арк. 4, 10, 13адв.; Kronika poznańskich Karmelitów Bosych... S. 183.

[24] Хроніка кляштара кармелітаў… Арк. 4, 7, 18.

[25] Historia domowa… Księga II. Арк. 7адв.

[26] Kronika Jezuitów poznańskich (młodsza). T. 1: 1570–1653 / opr. L. Grzebień, J. Wiesiołowski. Poznań, 2004. S. IV-VI; Блинова, Т.Иезуиты в Беларуси: их роль в организации образования и просвещения. Гродно, 2002. С. 18.

[27] Friedrich, M. Circulating and Compilating the Litterae Annuae. Towards a History of the Jesuit System of Communication // "Archivum historicum Societatis Jesu" 153 (2008). P. 22.

[28] Friedrich, M. Circulating... P. 20.

[29] Kronika zakonu Bernardynów grodzieńskich… Арк. 12.

[30] Dzieje kapitularne… Passim.

[31] Digon, Th. Chronologia… P. 323-327.

[32] Kronika zakonu Bernardynów grodzieńskich… Арк. 10.

[33] Ibid.

[34] Digon, Th. Chronologia… P. 332.

[35] Kronika zakonu Bernardynów grodzieńskich… Арк. 6адв-7.

[36] Хроніка кляштара кармелітаў… Арк. 28адв.

[37] Хроніка кляштара кармелітаў… Арк. 28.

[38] У тэксце: *cellebres*

[39] Digon, Th. Chronologia… P. 3.

[40] Dzieje kapitularne… P. 19; таксама P. 43.

[41] Dzieje kapitularne… P. 32.

[42] Thomas Keith, Vergangenheit, Zukunft, Lebensalter, Zeitvorstellungen im England der frühen NeuzeiT. Berlin, 1988. P. 21. Цыт. паводле: Ассман Ян, Культурая память. С. 52.

[43] Digon, Th. Chronologia… P. 315.

[44] Conventus Grodnensis // Descriptiones nonnulorum monasteriorum… P. 26–27, 55–56.

[45] Знішчаны фрагмент.

[46] Хроніка кляштара кармелітаў… Арк. 1.

[47] Хроніка кляштара кармелітаў… Арк. 28.

[48] Statuta generalia ordinis fratrum minorum regularis obseruantiae seraphici patris nostri Francisci: Edita in Capitulo Generalissimo celebrato Romae in conventu S. Mariae de Aracaeli die 27. Maij 1651. Roma, 1651.§ V.10.

[49] Statuta generalia OFM, §V.11.

[50] Statuta generalia OFM, §V.14-20.

[51] Statuta generalia OFM, §V.22..

[52] Digon T. Chronologia… P. 1; Vinea electa… P. 1.

[53] Digon T. Chronologia… P. 316.

[54] Digon T. Chronologia… P. 316-317.

[55] Digon T. Chronologia… P. 318-319.

[56] Digon T. Chronologia… P. 319-320.

[57] Digon T. Chronologia… P. 320-321.

[58] Digon T. Chronologia… P. 321-322.

[59] Digon T. Chronologia… P. 325.

[60] Digon T. Chronologia… P. 333-337.

[61] Digon T. Chronologia… P. 337-338.

[62] Digon T. Chronologia… P. 338.

[63] Digon T. Chronologia… P. 339.

[64] Ibid.

[65] Digon T. Chronologia… P. 322.

[66] Digon T. Chronologia… P. 321, 337, 338, 339.

[67] Kronika zakonu Bernardynów grodzieńskich… Арк. 15-16.

[68] Kronika zakonu Bernardynów grodzieńskich… Арк. 17-19адв.

[69] Kronika zakonu Bernardynów grodzieńskich… Арк. 24-25адв.

[70] Kronika zakonu Bernardynów grodzieńskich… Арк. 36адв.-65адв.

[71] Historia domowa… Księga I. Арк. 8адв.-9адв.

[72] Напрыклад, Dzieje… P. 112, 187, 199.

[73] Digon T. Chronologia… P. 327-328.

[74] Cynarski Stanisław, Kakowski Hieronim // Polski Słownik Biograficzny. T. 11. Wrocław i in., 1964–1965. S. 428–429.

[75] Успенский Борис, Семиотика истории. Семиотика культуры // [Эл. рэсурс] Рэжым доступу: http://www.gumer.info/bibliotek_Buks/Culture/Ysp/01.php. Дата доступу: 25.01.2014.

*Аляксей Шаланда, канд. гіст. навук*
*(Менск)*

# Геральдыка гарадзенскіх мяшчанаў у XVI–XVII стст.: спроба класіфікацыі

Адной з самых недаследаванных праблемаў гісторыі і культуры феадальнай Горадні з'яўляецца геральдыка яе жыхароў. З аднаго боку гэта тлумачыцца тым, што самая мяшчанская геральдыка ВКЛ рэдка цікавіла беларускіх даследчыкаў[1]. З другога – катастрафічны стан геральдычных крыніцаў у Горадні не дазваляе даследаваць праблему глыбока. Справа ў тым, што страта гарадзенскага магістрацкага архіва і расцярушанне па розных бібліятэках і сховішчах, як Беларусі, так і суседніх краінаў, прыватных мяшчанскіх архіваў, знішчэнне гістарычнай забудовы нашага горада ў розных войнах, а таксама ў мірны час, варварская "*рэстаўрацыя*" яго будынкаў і храмаў прывялі да амаль поўнага знікнення геральдычных помнікаў гарадзенскіх мяшчанаў. У сувязі з тым, што знайсці іх цяпер вельмі цяжка, нават адзінкавыя публікацыі гербікаў[2] мяшчанаў Горадні маюць вялікае навуковае значэнне.




***Іл.1. Гербавая пячатка гарадзенскага месцкага пісара Грыгорыя Верабяевіча, 1610 г.***

У свой час мы ўжо друкавалі пяць адбіткаў гарадзенскіх мяшчанскіх пячатак. Самая ранняя з іх датавалася 1610 г., позняя – 1692 г. Адная з іх належала месцкаму пісару (№ 1), тры – бурмістрам (№ 2–4) і адная – верагодна, лянтвойту[3] (№ 5)[4]. Але публікацыя

была па тэхнічных прычынах пазбаўлена малюнкаў, а таму мусім яшчэ раз звярнуцца да гэтага рэдкага сфрагістычнага матэрыялу.

**(1). Грыгоры Верабяевіч**, пісар места Яго Каралеўскай Міласці Горадні, 1610 г.

**Гербік**: на картушовай тарчы дваровая брама ў тры дошкі справа і злева, пад дахам, у праёме брамы клейнавы знак – крыжастрэл у слуп вастрыём дагары, над тарчай ініцыялы: “*G[rygory]*” і “*W[orobieiowicz]*”.

**Пячатка**: адбітак № 3, выразаная ў аркушы кустодзея, 14х15 мм, захаванасць добрая[5].

10 лютага 1610 г. у Горадні Грыгоры Верабяевіч, пісар месцкі гарадзенскі, як сведка і пячатар, разам з гарадзенскім шляхцічам Марцыянам з Дарбожца Красніцкім, прыклаў пячатку да вяноўнага ліста Сымона Петранцэвіча, у якім апошні запісаў жонцы Зоф'і Андрэеўне Маскевіч свой гарадзенскі дом: “*Дом мой уласны замкавы на прадмесці гарадзенскім ляжачы каля дома і пляца Грышка Радзівановіча*”. Падпісаўся: “*Grygory Worobieiowicz*”[6].

Гербік Грыгорыя Верабяевіча цікавы тым, што спалучае яго ўласны клейнавы знак з рэалістычнай выявай брамы, магчыма, той, якая стаяла на яго прыватным пляцы. Гэта – так званы камбінаваны клейнавы гербік. Спалучэнне прыватнаўласніцкага знаку з сімвалам прыватнай уласнасці (брамай) мае глыбокі ідэйны сэнс – яго аўтар адносіў сябе да заможнага патрыцыяту Горадні. Пасада Грыгорыя Верабяевіча давала для гэтага ўсе магчымасці, бо да патрыцыяту адносіліся войты, бурмістры, радцы, лаўнікі і пісары[7].

Радаводы гарадзенскіх мяшчанаў да сёння не даследаваны. Гэта датычыць і Верабяевічаў. Верагодным іх родапачынальнікам быў Конан Верабей, лаўнік гарадзенскі, які жыў у 1588 г.[8] Сам Грыгоры Верабяевіч на пасадзе пісара згадваецца яшчэ ў 1616–1632 г.[9] Апошняя згадка пра яго – 1642 г.[10]



***Іл.2. Гербавая пячатка гарадзенскага бурмістра Станіслава Неапаліты, 1616 г.***

**(2). Станіслаў Неапаліта**, бурмістр места ЯКМ Горадні, 1616 г.

**Гербік**: на картушовай тарчы клейнавы знак у выглядзе палутарнай стралы ў слуп з поўным вастрыём уверх і непоўным злева ўніз, з левага боку стралы з сярэдзіны выходзіць просты крыж, над тарчай ініцыялы: *"S.[tanisław] N.[eapolita]"*.

**Пячатка**: адбітак № 1, выразаная ў аркушы кустодзея, 13x16 мм, захаванасць добрая[11].

20 чэрвеня 1616 г. у Горадні Станіслаў Неапаліта, бурмістр гарадзенскі, як сведка і пячатар, разам з другім бурмістрам Янам Дзівам і мескім пісарам Грыгорам Верабяевічам, прыклаў сваю пячатку да прадажнага ліста Хведара Юргевіча, яго жонкі Ганны Талочкі і брата Яна Юргевіча, гарадзенскіх мяшчанаў, у якім тыя прадалі свой дом, пляц і агарод на вуліцы Рэзніцкай гарадзенскаму мяшчаніну Яну Бянькоўскаму. Падпісаўся: *"Stanisław Neapolita Burmistrz"*[12].

Гербік Станіслава Неапаліты рэпрэзэнтуе клейнавы тып – у яго аснове ляжыць уласны знак уладальніка. Цікава, што род Неапалітаў, як сведчыць прозвішча, паходзіў з Італіі – з Неапаля. Родапачынальнікам іх быў Пётр Неапалітаньчык, злотнік каралевы польскай і вялікай княгіні літоўскай Боны, які ў 1552 г. атрымаў ад яе пляц пад забудову дома і агарод у Горадні[13].

**(3). Адам Паплаўскі**, бурмістр места ЯКМ Горадні, 1620 г.

**Гербік**: на картушовай тарчы клейнавы знак у выглядзе падставы накшталт літары *"M"*, з якой выходзіць угору страла з няпоўным злева вастрыём, з левага боку стралы з сярэдзіны выходзіць просты крыж, над тарчай ініцыялы: *"A[dam] P[opławski]"*.

**Пячатка**: адбітак № 1, выразаная ў аркушы кустодзея, 13x15 мм, захаванасць добрая[14].

10 ліпеня 1620 г. Адам Паплаўскі, бурмістр гарадзенскі, як сведка і пячатар, разам з другім бурмістрам Станіславам Межаеўскім і месцкім пісарам Грыгорам Верабяевічам, прыклаў сваю пячатку да прадажнага ліста Валентыя Паўлавіча Цвікліча і яго жонкі Зоф'і Янаўны, мяшчанаў места ЯКМ Горадні, у якім тыя прадалі гарадзенскім мяшчанам Марціну Клімцэвічу і яго жонцы Ганне Зарэцкай за 20 копаў грошаў літоўскіх свой дом, пляц і агарод на вуліцы Язерскай: *"ляжачы ў межах заднаго боку ад дома і пляца Кальцэвічаўскага, а з другога боку ад дома Пана Марціна Клімцэвіча [пакупніка], тылам да агарода Пані Керсцінавай Шэдэновай, а перадам на вуліцу Язерскую..."*. Падпісаўся: *"Adam Popławsky Burmistrz"*[15].




***Іл.3. Гербавая пячатка гарадзенскага бурмістра Адама Паплаўскага, 1620 г.***

Гербік Адама Паплаўскага адносіцца да клейнавага тыпу. У яго аснове, як і ў папярэдніх гербіках Грыгорыя Верабяевіча і Станіслава Неапаліты, ляжыць прыватнаўласніцкі знак. Паходжанне гарадзенскіх мяшчанаў Паплаўскіх не даследавана. Прозвішча Паплаўскі было вельмі пашырана ў Рэчы Паспалітай (ВКЛ і Польшчы). Каспар Нясецкі згадвае пяць шляхецкіх родаў Паплаўскіх гербаў "*Дрэвіца*", "*Ястрабец*", "*Лявіва*", "*Слепаўрон*" і "*Траска*"[16]. Магчыма, Адам Паплаўскі паходзіў з аднаго з іх, тым болей, што пра Паплаўскіх гербу "*Дрэвіца*" Каспар Нясецкі пісаў: "*Некаторыя з іх з Кракаўскага ваяводства перанесліся ў Гарадзенскі павет*"[17]. Аднак, супраць такога выводу сведчыць не толькі несупадзенне гербіка і гербу, але і тое, што Адам Паплаўскі не быў шляхціцам, бо ў згаданым вышэй лісце называецца толькі "*знатным*" ("*sławethny*"), а не шляхетным[18].

**(4). Станіслаў Межаеўскі**, бурмістр места ЯКМ Горадні, 1620 г.

**Герб**: на картушовай тарчы паўмесяц дагары рагамі з сярэдзіны якога выходзіць просты крыж, над тарчай гелм без кароны, у кляйноце пёры стравуса, па баках гелму з кляйнотам ініцыялы: "*S.[tanisław]*" і "*M[ierzeiewski]*".

**Пячатка**: адбітак № 2, выразаная ў аркушы кустодзея, 11х13 мм, захаванасць добрая[19].

10 ліпеня 1620 г. Станіслаў Межаеўскі, бурмістр гарадзенскі быў другім пячатарам і сведкам, які прыклаў сваю пячатку да прадажнага ліста Валентыя Паўлавіча Цвікліча і яго жонкі Зоф'і Янаўны. Падпісаўся: "*Stanisław Mierzeiewski*"[20].

Станіслаў Межаеўскі карыстаўся не гербікам, а сапраўдным польскім шляхецкім гербам "*Шаліга*"[21]. Гэта значыць, што ён паходзіў са шляхецкага роду Межаеўскіх гербу "*Шаліга*", родавым гняздом якіх быў маёнтак Межаева ў Падольскім ваяводстве Поль-

скага каралеўства (Украіна)[22]. Цікава, што Станіслаў Межаеўскі пры гэтым не быў шляхціцам, бо ў згаданым вышэй лісце называецца разам з Адамам Паплаўскім "*знатным*"[23]. У выніку маем цікавы феномен – мяшчанін са шляхецкім гербам. Становіцца зразумелай і адсутнасць у гербе шляхецкай кароны над гелмам – відаць, гэта падкрэслівала сацыяльны статус уладальніка.




***Іл.4. Гербавая пячатка гарадзенскага бурмістра Станіслава Межаеўскага, 1620 г.***

Пра Станіслава Межаеўскага звестак пазней 1620 г. нам адшукаць не ўдалося. Затое яго жонка Кацярына Станіславава Межаеўская актыўна ўдзельнічала ў дзейнасці Брацтва Святога Анёла Ахоўніка (Святога Міхала Арханёла) пры гарадзенскім фарным касцёле, дзе была ў 1625–1635 г. адной з сясцёр старэйшых і нават "*галоўнай у справах міласэрдных*"[24].




***Іл.5. Гербавая пячатка гарадзенскага лянтвойта Войцаха Зеляпугі (?), 1692 г.***

**(5). Войцах Зеляпуга** (?), лянтвойт места ЯКМ Горадні, 1692 г.

**Герб**: на гішпанскай тарчы падвойная лілія, над тарчай гелм з каронай, у кляйноце пёры стравуса, на якія пакладзена такая ж самая выява, як і на тарчы, вакол тарчы намёт з лісця ("*Газдава*"), па баках кляйноту ініцыялы: "*W[ojciech]*" і "*Z[ielapuha] (?)*".

**Пячатка**: адбітак, выразаная ў аркушы кустодзея, 11х12 мм, захаванасць добрая[25].

5 верасня 1692 г. у Горадні згаданая пячатка была прыкладзена да інтрамісійнага ліста магдэбургскіхураднікаў места ЯКМ Горадні Людвіка Храноўскага, райцы і Пятра Паўла Сулеўскага, лаўніка, якім яны ў прысутнасці мескага прысяглага слугі Марціна Паўлінскага ўвялі ў валоданне пляцам на вуліцы Рэзніцкай Самуэля Дабрагоста Быхаўца, старосту люцынскага. Падпісаліся: "*Ludwik Chrzanowski Rayca M[ias]ta Grodna*" і "*Piotr Paweł Sulewski ławnik Miasta Grodna*"[26].

На пячатцы змешчаны польскі шляхецкі герб "*Газдава*"[27]. Знак пытальніка пры прозвішчы яе ўладальніка мы паставілі таму, што другая літара ініцыялаў, здаецца, выглядае як "*В*". Магчыма, пячатка не мела дачынення да Войцаха Зеляпугі, а належала войту Горадні. Праўда, Людвік Храноўскі і Пётр Сулеўскі сцьвярджалі, што яны былі дэпутаваныя: "*за карткай нам выданай ад шляхетнага пана Войцаха Зеляпугі, лянтвойта на той час места Горадні*"[28].

Род Зеляпугаў быў шляхецкі, але невядома якога гербу[29]. Праўда, існавала і яго мяшчанская галіна – у 1659 г. нейкі Ян Зеляпуга быў лаўнікам гарадзенскім[30]. Аднак, тытул "*шляхетны*" дазваляе меркаваць, што Войцах Зеляпуга быў шляхцічам. Пра яго вядома, што 29 верасня 1689 г. ён быў запісаны сярод братоў Брацтва Святога Анёла Ахоўніка пры гарадзенскім фарным касцёле, прычым, як выконваючы абавязкі брацкага пісара ("*notarius*"). Жонка Войцаха Зеляпугі – Канстанцыя Зеляпузіна – таксама была ў гэтым Брацтве візітатаркай хворых[31].



***Іл.6. Гербавая пячатка гарадзенскага бурмістра Шымана Гранды, 1575 г.***

Нядаўна нам ўдалося адшукаць яшчэ тры адбіткі гарадзенскіх мяшчанскіх пячатак, якія датуюцца 1575 г. Адзначым, што гэта – самыя раннія мяшчанскія сфрагістычныя помнікі Горадні, вядомыя

нам па стану на сённяшні дзень. У той год 8 красавіка гарадзенскія бурмістры Шыман Гранда і Марцін Яцковіч з месцкім пісарам Андрэем Станіслававічам завізавалі сваімі пячаткамі прадажны ліст гарадзенскага мяшчаніна Кірэя Лук'янавіча Кісяля і яго жонкі Марыны на дом і пляц у Горадні на вуліцы Азёрскай для гарадзенскага мяшчаніна Станіслава Бранцовіча і яго жонкі Ганны. Іх дом і пляц знаходзіліся па суседству з дамамі гарадзенскага лаўніка Якуба Даноўскага і мяшчаніна Валентыя Каскі, тылам да агародаў згаданага вышэй пісара Андрэя Станіслававіча[32].

**(6). Шыман Гранда**, бурмістр места ЯКМ Горадні, 1575 г.

**Герб**: на картушовай тарчы сэрца, з якога вырастае просты крыж, над тарчай ініцыялы: "*S[zyman]*" і "*G[randa]*".

**Пячатка**: адбітак № 1, выразаная ў аркушы кустодзея, 14х15 мм, захаванасць добрая[33].

Гербавая выява Шымана Гранды цікавая тым, што ўяўляе сабой даволі папулярны каталіцкі сімвал, вядомы як "*Удзячнае сэрца*". Калі ўлічыць, што род гарадзенскіх мяшчанаў Грандаў ці Грандзічаў спачатку быў праваслаўны, выкарыстанне такога гербіку можа сведчыць пра змену веры яго ўладальнікам. Інфармацыя пра апошняга даволі сціплая. Вядома, што Шыман (Сымон) Гранда ўжо ў 1561 г. быў гарадзенскім бурмістрам і валодаў пляцам на Рынку, а ад прозвішча Гранда паходзіла назва вядомай і сёння месцкай вёскі Грандзічы[34]. Як бачна, у 1575 г. Шыман Гранда знаходзіўся на бурмістраўскай пасадзе, што ўдакладняе рэестр гарадзенскіх бурмістраў, які склалі Зміцер Яцкевіч і Вадзім Урублеўскі[35]. Звесткі пра сям'ю Шымана Гранды намі не выяўлены, радавод Грандзічаў – не даследаваны.




***Іл.7. Гербавая пячатка гарадзенскага бурмістра Марціна Яцковіча, 1575 г.***

**(7). Марцін Яцковіч**, бурмістр места ЯКМ Горадні, 1575 г.

**Герб**: на картушовай тарчы знак у выглядзе перавернутай літары *"Ш"* з простым крыжам наверсе, тарча ўвеньчана паловай ліліі, абапал якой ініцыялы: *"M[arcin]"* і *"I[ackowicz]"*.

**Пячатка**: адбітак № 2, выразаная ў аркушы кустодзея, 13x16 мм, захаванасць добрая[36].



***Іл.8. Гербавая пячатка гарадзенскага месцкага пісара Андрэя Станіслававіча, 1575 г.***

Гербікавы знак гарадзенскага бурмістра Марціна Яцковіча нагадвае польскі герб *"Радван"*[37]. Аднак, клейнавы характар гербіка дазваляе меркаваць аб яго іншым генэзісе. Мяшчанскі род Яцковічаў ці Яцкевічаў меў мясцовае паходжанне[38], а таму яго сувязь са шляхтай *"Радванітамі"* можна выключыць. У выпадку з Марцінам Яцковічам вяртаем з забыцця не толькі мясцовы мяшчанскі гербік, але і яшчэ адное бурмістроўскае імя, бо яно адсутнічае ў рэестры Зміцера Яцкевіча і Вадзіма Урублеўскага[39].

**(8). Андрэй Станіслававіч**, пісар места ЯКМ Горадні, 1575 г.

**Герб**: на картушовай авальнай тарчы манаграма з літараў *"A"* і перавернутай *"S"*, над тарчай ініцыялы: *"A[ndrzej]"* і *"S[tanisławowicz]"*.

**Пячатка**: адбітак № 3, выразаная ў аркушы кустодзея, 12x15 мм, захаванасць добрая[40].

Прадажны ліст гарадзенскага мяшчаніна Кірэя Лук'янавіча Кісяля быў напісаны па-польску месцкім пісарам Андрэем Станіслававічам, які падпісаўся на латыні: *"Andrzey notarius manus pr(o)p(ri)a significi(t)"*[41]. Яго гербік цікавы тым, што прадстаўляе геральдызаваныя лацінскія ініцыялы свайго ўладальніка. Магчыма, манаграма з'яўлялася ўласным рамесным кляйном Андрэя Станіслававіча, бо ён у 1541 г. згадваецца як залатар[42]. На пасадзе месцкага пісара Горадні ўпершыню залатар Андрэй Станіслававіч фіксуецца ў 1560–1561 г.[43] Як бачна, у 1575 г. ён яшчэ

знаходзіўся на пісарскай пасадзе. Далейшы лёс Андрэя Станіслававіча нам невядомы.

У свой час гербікі гарадзенскіх мяшчанаў XVII–XVIII ст. мы аднеслі да трох тыпаў: клейнавага, камбінаванага і геральдычнага. Выяўлены сфрагістычны матэрыял другой паловы XVI ст. не толькі ўзбагачае клейнавы (№ 7) і геральдычны (№ 6) тыпы, але дазваляе вылучыць новы чацверты: ініцыяльны або манаграмны (№ 8). Зразумела, што прапанаваная класіфікацыя гербікавых выяў гарадзенскіх мяшчанаў патрабуе пацвярджэння на больш шырокім коле крыніцаў. Тым не меней, кідаецца ў вочы той факт, што мяшчане Горадні ў XVI–XVII ст. пры стварэнні сваіх гербікаў чэрпалі інспірацыі або ва ўласных прыватнаўласніцкіх знаках ці манаграмах, або ва ўзорах шляхецкай геральдыкі, або ў шырокім арсенале рэлігійнай сімволікі.

---

[1] Цітоў А. Сфрагістыка і геральдыка Беларусі. Мн.: РІВШ БДУ, 1999. С. 6–7. Яцкевіч З. Магілёўскае паўстанне 1661 г. і ягоны ўплыў на мясцовую генеалогію і геральдыку.// Тэзісы міжнароднай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі “Архівазнаўства, крыніцазнаўства, гістарыяграфія Беларусі: стан і перспектывы”, 1–2 снежня 1993 г. Мн., 1993. Ч.ІІ. С.99–103. Яцкевіч З. Пара-Левановічы гэрбу “Рагаля”.// Годнасьць. Менск, 1994. № 1 (2). С.33. Яцкевіч З. Бурачкі гэрбу “Наленч”.// Годнасьць. Менск, 1997. № 1 (3). С.71–72. Яцкевіч З. Казановічы гэрбу “Гжымала”.// Годнасьць. Менск, 1997. № 2 (4). С.56–57. Шаланда А. Мяшчанская геральдыка ВКЛ у XV–XVIII ст.: да пастаноўкі праблемы.// Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 2003. Nr 19. S.229–235.

[2] Тэрмін “гербік” выкарыстоўваецца намі для адрознення мяшчанскай геральдыкі ад гербаў шляхты, гл.: Шаланда А. Мяшчанская геральдыка ВКЛ у XV–XVIII ст. С.232.

[3] Лянтвойт – службовая асоба ў местах ВКЛ з магдэбургскім правам, намеснік войта, гл.: Лантвойт.// Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Мн.: БелЭн, 2006. Т.2. С.180.

[4] Шаланда А. Геральдыка гарадзенскіх мяшчанаў у XVII–XVIII ст.// Архіварыус. Мн.: НГАБ, 2008. Вып.6. С.236–241.

[5] ГДГАМ. КП 9216. Арк.1.

[6] ГДГАМ. КП 9216. Арк.1.

[7] Яцкевіч З. Узорны набілітацыйны прывілей для гарадоў Вялікага княства Літоўскага.// Беларускі археаграфічны штогоднік. Менск, 2001. Вып.2. С.227.

[8] НГАБ у Горадні. Ф.128. Воп.1. Спр.9. Арк.2 адв.

[9] НГАБ у Горадні. Ф.1783. Воп.1. Спр.14. Арк.2. Юры Гардзееў у сваім рэестры пісараў места ЯКМ Горадні ў XVI–XVIII ст. Грыгорыя Верабяевіча не згадвае, гл.: Гардзееў Ю. З гісторыі канцылярыі гарадзенскага магістрата XVI–XVIII ст.// Герольд Litherland. Горадня, 2004. № 3–4. С.104.

[10] ГДГАМ. КП 8584. Арк.1 адв., 5.

[11] НГАБ у Горадні. Ф.1664. Воп.1. Спр.380. Арк.4.

[12] НГАБ у Горадні. Ф.1664. Воп.1. Спр.380. Арк.4.

[13] Цітоў А. Гарадзенскія злотнікі ў XVI–XIX ст.// Герольд Litherland. Горадня, 2004. № 3–4. С.70.

[14] НГАБ у Горадні. Ф.1783. Воп.1. Спр.12. Арк.1 адв.

[15] НГАБ у Горадні. Ф.1783. Воп.1. Спр.12. Арк.1–1 адв.

[16] Niesiecki K. Herbarz Polski. Wyd. J.N.Bobrowicz. Lipsk, 1841. T.VII. S.386–387.

[17] Niesiecki K. Herbarz Polski. T.VII. S.386.

[18] НГАБ у Горадні. Ф.1783. Воп.1. Спр.12. Арк.1 адв.

[19] НГАБ у Горадні. Ф.1783. Воп.1. Спр.12. Арк.1 адв.

[20] НГАБ у Горадні. Ф.1783. Воп.1. Спр.12. Арк.1 адв.

[21] Górzyński S., Kochanowski J. Herby szlachty polskiej. Warszawa, 1992. S.146–147.

[22] Niesiecki K. Herbarz Polski. Wyd. J.N.Bobrowicz. Lipsk, 1841. T.VI. S.401.

[23] НГАБ у Горадні. Ф.1783. Воп.1. Спр.12. Арк.1 адв.

[24] НГАБ у Горадні. Ф.259. Воп.2. Спр.2. Арк.17–17 адв.

[25] НГАБ у Горадні. Ф.1664. Воп.1. Спр.108. Арк.6 адв.

[26] НГАБ у Горадні. Ф.1664. Воп.1. Спр.108. Арк.6 адв.

[27] Górzyński S., Kochanowski J. Herby szlachty polskiej. S.58.

[28] НГАБ у Горадні. Ф.1664. Воп.1. Спр.108. Арк.6.

[29] Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim księstwie Litewskiem w XV i XVI w. Warszawa, 1887. S.423–424.

[30] НГАБ у Горадні. Ф.1664. Воп.1. Спр.512. Арк.1.

[31] НГАБ у Горадні. Ф.259. Воп.2. Спр.2. Арк.24.

[32] BUW. Nr akc. 260. Rkps.28. S.1–1v.

[33] BUW. Nr akc. 260. Rkps.28. S.1v.

[34] Borowik P. Jurydyki miasta Grodna w XV–XVIII wieku. Supraśl, 2005. S.264–267. Гардзееў Ю. Магдэбургская Гародня. Гародня–Уроцлаў, 2008. С.120. Гардзееў Ю. Даўні гарадзенскі Рынак у крыніцах 16–18 ст.// Гарадзенскі гадавік. Горадня, 2012. № 1. С.106. Заўвага 25.

[35] Яцкевіч З., Урублеўскі В. Гарадзенскі магістрат у XVII ст.// Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV–XX ст. Пад рэд. А.Смаленчука, Н.Сліж. Горадня, 2009. С.99.

[36] BUW. Nr akc. 260. Rkps.28. S.1v.

[37] Górzyński S., Kochanowski J. Herby szlachty polskiej. S.134.

[38] Borowik P. Jurydyki miasta Grodna w XV–XVIII wieku. S.268. Гардзееў Ю. Магдэбургская Гародня. С.196.

[39] Яцкевіч З., Урублеўскі В. Гарадзенскі магістрат у XVII ст. С.99.

[40] BUW. Nr akc. 260. Rkps.28. S.1v.

[41] BUW. Nr akc. 260. Rkps.28. S.1v.

[42] Гардзееў Ю. З гісторыі канцылярыі гарадзенскага магістрата XVI–XVIII ст. С.104. Цітоў А. Гарадзенскія злотнікі ў XVI–XIX ст. С.71. Цітоў А. Гарадзенскія злотнікі ў XVI–пачатку XX ст.// Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX ст. Пад рэд. А.Смаленчука, Н.Сліж. Горадня, 2013. С.120.

[43] Гардзееў Ю. З гісторыі канцылярыі гарадзенскага магістрата XVI–XVIII ст. С.104. Гардзееў Ю. Магдэбургская Гародня. С.296.

*Віктар Якубаў, канд. гіст. навук*
*(Полацак)*

# Удзел мяшчан і жыхароў Гарадзенскага павета ва ўзброенных канфліктах пачатку XVII ст.

У канцы XVI – пачатку XVII ст. геапалітычныя інтарэсы і ваенныя пагрозы для цэнтральных уладаў Рэчы Паспалітай ляжалі на паўночных і ўсходніх межах ВКЛ. Гародня знаходзілася досыць далёка ад Інфлянтаў і Маскоўскай дзяржавы, асноўнымі эканамічнымі партнёрамі яе мяшчан былі Прусія і Польская карона. Значных праблем і пагроз інтарэсам гарадзенцаў у сувязі са шведскім дынастычным канфліктам Жыгімонта Вазы і Карла Сундэрманладскага ў 1598–1611 гг. не ўзнікала. Але мяшчане Гародні і жыхары Гарадзенскага павета плацілі дзяржаўныя падаткі і надзвычайныя зборы на ўтрыманне войска ў Інфлянтах. Шляхта служыла ў войску, а сяляне вымушаны былі харчаваць, абаграваць зімой, аплочваць са сваёй феадальнай рэнты, часта з уласнай кішэні, жаўнераў дзвюх канфедэрацый войска ВКЛ, якія размясціліся ў Гарадзенскай эканоміі ў 1606–1610 гг. на зімовых кватэрах (“лежах”) і не спяшаліся назад на вайну.

Гарадзенцы ў адрозненні ад мяшчан Полацка і Віцебска, якія ў маі 1601 г.[1] праз асобныя гарадскія дэлегацыі да гетмана ВКЛ Крыштофа Радзівіла “Пяруна” папрасілі і атрымалі прыпаведныя лісты на наём “пенежнай” пяхоты для службы ў інфлянцкім войску ВКЛ, вялікіх пяхотных кантынгентаў на вайну са шведамі ў 1600–1609 гг. не выстаўлялі. Таксама з Полацка, Вільні і Дзісны па Дзвіне планавалася даставіць пад Какенгаўз артылерыю для войска ВКЛ – 6 палявых гарматаў і 2 вялікія штурмавыя “валкі” і да іх ”порахі”[2], каб быць залічаным на службу ў пэўную роту. Іншую зброю валанцёры павінны былі мець з сабой. Самастойна пайшоўшыя ў Інфлянты ўздоўж Дзвіны пяхотныя і казацкія кантынгенты ў сярэдзіне мая 1601 г. у Друі атрымалі ротмістраў і дапамаглі ўтрымаць правінцыю да падыхода асноўных сіл ВКЛ да Какенгаўза[3] летам 1601 г. Дабраахвотнікі і выбранцы разлічвалі ат-

рымаць забеспячэнне ад дзяржавы, але скарб быў пусты. І ўзімку 1602–1603 гг., пад час паспяховай для ВКЛ аблогі Дэрпта "літоўская пяхота" не мела абутку і вопраткі і таму сядзела ў буданах, не маючы магчымасці доўга знаходзіцца на вуліцы[4].

Негледзячы на страты, якія выклікалі праблемы з дыцыплінай у войску, на тэрыторыі Паўночнай Беларусі жыхары Полацкага і Віцебскага ваяводстваў працягвалі вайсковую службу ў Інфлянтах. Па звестках "летапіса Панцырнага і Аверкі" ў 1605 г. пяцьсотасабовы аддзел дабраахвотнікаў на чале з віцебскім мешчанінам Маркам Іллінічам Лыткам прыняў вельмі дзейсны ўдзел у аблозе і штурме Феліна. За асабістую мужнасць у 1606 г. Марк Ілініч Лытка атрымаў ад Жыгімонта Вазы шляхецтва з прозвішчам Фелінскі і юргельд на 50 гадоў у 500 грыўнаў штогод на Банцы, Сакольскім прадмесці[5]. Аднак у зборніках соймавых пастаноў за 1600–1609 г. адсутнічаюць звесткі аб гэтым факце[6], як пакуль не сустракаліся аўтару ўзгадкі пра гэта ў кнігах Метрыкі ВКЛ. Больш таго ніякіх штурмаў войскі ВКЛ у 1605 г. не праводзілі. Хутчэй за ўсё віцебскія мяшчане, калі і былі на вайне, дык бралі ўдзел ў аблозе Феліна з 25 сакавіка – 17 мая 1602 г., а калі колькасць жаўнераў і дата падзеяў адпавядае рэчаіснасці, то віцябляне павінны былі складаць палову пяхоты ВКЛ, якая перамагла шведаў пад Кірхгольмам 27 верасня 1605 г. ці служыць у гарнізоне Феліна, чаго не адзначана ў карэспандэнцыі вялікага гетмана ВКЛ Я.К. Хадкевіча і рэестрах войска. Ніякай інфармацыі аб гарадзенскіх дабраахвотніках 1600 – 1609 гг. і нават аб рэкрутах-выбранцах, у адрозненні ад магілёўскіх[7], дваццаць з якіх у 1605 г. вызначыліся толькі тым, што ўцяклі з Інфлянтаў разам з ротмістрам[8] і прымусілі гетмана прасіць караля караць сялян-дэзертыраў і з іншых староставаў, крыніцы не ўтрымліваюць. Іншая сітуацыя была з вершнікамі гарадзенскага і ашменскага татарскага сцяга. Згодна са сваім абавязкам яны служылі ў большасці інфлянцкіх і маскоўскіх кампаній войска ВКЛ 1600–1612 г., праўда, не вылучаліся добрай дысцыплінай[9].

Летам 1601 г. Гародня стала адным з вузлоў транспартнага і тылавога забеспячэння дзеючай арміі, прычым не толькі сваёй, але і кароннай. Згодна з тагачаснымі законамі, забіраць сродкі дастаўкі ў насельніцтва было забаронена, прымушаць везці сябе і пахолкаў таксама, мешчанін ці селянін мог адмовіцца ад паездкі[10], а калі наймаўся – дык са сваім вазом ці чоўнам. Таму клопатам адміністрацыі было знайсці, наняць ахвотнікаў і сканцэнтраваць іх для перавозкі масы войска, харчавання і амуніцыі. Пад Гародню былі сабраныя чоўны з Нёмана і за дзяржаўныя грошы нанятыя

мясцовыя фурманы. Шлях польскіх войскаў на тэатр баявых дзеянняў праходзіў з Віслы па Нараве затым пеша да Гародні і далей па Нёмане – Віліі – Дзісне – Дзвіне[11]. Вяртанне караняжаў дамоў суправаджалася рабаваннем дзяржаўнай і шляхецкай маёмасці ў ВКЛ зімой 1602–1603 гг. Напрыклад, мястэчка Астрына і наваколлі ў Гарадзенскім пав. у снежні 1602г. адкрыта рабавалі роты Гарэцкага і Хмяльніцкага.

Па прычыне лютаваўшых тады эпідэмій і сваволля палякаў з'езд шляхты ВКЛ, запланаваны ў Гародні, быў перанесены ў Наваградак[12]. Гарадзенскі стараста[13] і ваявода наваградскі Тэадор (Фёдар) і яго сын Януш Скуміны-Тышкевічы ўдзельнічалі ў вельмі эмацыянальным абмеркаванні сітуацыі на Наваградскім сойміку разам з сенатарамі Рэчы Паспалітай: М.К. Радзівілам, П. Стаброўскім, С. Валовічам, А. Завішам[14]. Была выпрацавана жорсткая пазіцыя, забараніўшая палякам набываць дзяржаўную і прыватную ўласнасць у ВКЛ, выстаўлены патрабаванні вываду іх з тэрыторыі ВКЛ і пакарання сваавольнікаў. Аднак на Кракаўскім сойме 1603 г. патрабаванні ВКЛ былі праігнараваны, таму не дачакаўшыся выезду палякаў і суда над злачынцамі, шэраг паслоў ВКЛ 3.03.1603 г. склалі пратэстацыю, адмовіліся прызнаваць усе рашэнні і падаткі, прынятыя на гэтым сойме (замест якіх у ВКЛ захавалі моц пастановы і падаткі, абвешчаныя Віленскім галоўным з'ездам 1602 г.) і з'ехалі з Кракава[15]. Хоць подпісаў паслоў Гарадзенскага павету і няма сярод склаўшых пратэстацыю, але як і ў іншыя паветы ВКЛ Варшаўскі вальны сойм не прызначыў сюды паборцаў на 1603 г.[16]

Больш працяглыя клопаты і страты гарадзенцам і жыхарам павета прынеслі дзеянні вайсковых канфедэрацый ВКЛ, хаця яны не былі такімі вялікімі, як шкоды нанесеныя ў 1605–1610 гг. Берасцю, Кобрыну і Магілёву, якія па гэтай прычыне вызваляліся ад падаткаў. Першая Гарадзенская канфедэрацыя складалася з войскаў ВКЛ, якія служылі пад кіраўніцтвам вялікага гетмана ВКЛ Я.К. Хадкевіча ў Інфлянтах з лета 1605 да ліпеня 1606 г. У абстаноўцы набіраўшага абароты ўнутрыпалітычнага крызіса 1606–1608 гг., які выліўся ў рокаш Я. Радзівіла – М. Зэбжыдоўскага, гарадзенскія канфедэраты, у адрозненні ад больш "рэспубліканскіх" берасцейскіх, адразу пасля размяшчэння на пастоях ("лежах") абвясцілі аб сваіх "раялісцкіх" прыхільнасцях. Яны зышлі з Інфлянтаў пазней за Берасцейскіх канфедэратаў (тыя сканфедараваліся пасля Кірхгольмскай перамогі восенню 1605 г.) і прыехалі ў Гарадзенскую эканомію ў ліпені 1606 г. Яны папрасілі караля разлічыцца з імі да 2 лютага 1607 г. Паколькі акт Гарадзенскай канфедэрацыі быў спалены пасля разліку

ў 1608 г., а канчатковае разлічэнне з імі адбылося толькі ў 1610 г., вызначыць дакладны склад канфедэрацыі ў 1607 г. не ўяўляецца магчымым. Але, паводле дадзеных рэестраў і іншых крыніц, сярод іх былі роты Тэадора Ляцкага, Томаша Дамбровы (Дубровы), Шчаснага Невяроўскага, а таксама аддзелы, навербаваныя Валовічамі і Хадкевічамі. Хто быў абраны маршалкам канфедэрацыі невядома. У кастрычніку 1606 г. да іх далучыліся роты вялікага гетмана ВКЛ Я.К. Хадкевіча і Г. Фітынга (упершыню ў вайсковую канфедэрацыю ВКЛ былі ўключаны інфлянцкія немцы)[17].

Летам 1606 г. з-за рамонту шлюзаў пад Караляўцом не было сплаву па Нёмане[18], што пазбавіла вялікакняскі скарб мытных прыбыткаў з панямонскіх гарадоў. Больш таго, з-за ваенных выдаткаў дзяржаўны скарб ВКЛ быў хранічна пусты, а ракашовы крызіс не даваў прызначыць і сабраць новых падаткаў. Дзяржава не магла выканаць ранейшых абяцанняў па выплаце жолду за службу "на патрэбу гаспадара" ў Інфлянтах. Жаўнеры-шляхціцы мелі права законна бараніць свае правы ў форме канфедэрацый, і таму, каб атрымаць "заслужанае", абвясцілі канфедэрацыю і сталі чакаць выплаты, забіраючы стацыю і сродкі з дзяржаўных падаткаў у кошт гэтай запазычанасці проста з рук у паборцаў і службоўцаў. Адзначым, што ў дачыненні фінансавых патрабаванняў гарадзенскіх канфедэратаў яшчэ ў снежні 1607 г. ураднікі ВКЛ не мелі аніякай інфармацыі[19].

Месца размяшчэння канфедэратаў не было выпадковым. У 1604 г. гарадзенскі староста Т.Скумін-Тышкевіч па скарбаваму квітку здаў 5000 злотых (зл.)[20], а ў 1607 г. Гарадзенская эканомія нават з улікам канфедэрацкіх канфіскацый згодна са скарбовай выпіскай дала дзяржаве прыбытку 30000 зл.[21]. Староства было багатым, эканамічных страт ад вайны яшчэ не панесла і знаходзілася ва ўтрыманні Т.Скуміна-Тышкевіча. Больш таго, у гэтым рэгіёне былі моцныя пазіцыі "рэгалісцкіх" родаў Хадкевічаў, Валовічаў, Тышкевічаў, Весялоўскіх, на грошы якіх і з кліентаў каторых фармавалася большасць дзяржаўнага войска ў Інфлянтах у 1604–1606 гг. Так, падскарбі ВКЛ Яраш (Геранім) Рыгоравіч Валовіч з асабістых грошай выдаткаваў на ўдзельнікаў вайны супраць шведаў у 1605–1609 г. – 17136 зл.[22], яго брат Андрэй Валовіч – 3756 зл.[23], а іх сваяк наваградскі староста – Самуэль Валовіч – 9065 зл. [24], троцкі ваявода Андрэй Хадкевіч – 4800 зл.[25], а Я.К. Хадкевіч за 1605–160 гг. пазычыў і выдаткаваў з прыватных сродкаў – 70622 зл.[26].

Нягледзячы на тое, што галоўным метадам атрымання выніку для канфедэратаў было захаванне еднасці, канфіскацыя дзяр-

жаўных сродкаў і адмова ад выканання загадаў камандавання, выкарыстаўшы асабісты аўтарытэт і васальна-кліентальныя механізмы Я.К. Хадкевіч здолеў прывесці да 1600 чалавек гарадзенскіх канфедэратаў для ўдзелу ў бітве пад Гузавам 6.07.1607 г. супраць ракашан. Пасля перамогі войска Жыгімонта Вазы 10.07.1605 г. 14 прадстаўнікоў Польскага каралеўства і толькі 4 грамадзяніна ВКЛ (Я.К. Хадкевіч, А. Хадкевіч, Г. (Я). Валовіч, П. Весялоўскі) падпісалі ўніверсал, паводле якога асобы, якія працягвалі рокаш, падлягалі канфіскацыі ўсіх уладанняў, нават дзедзічных[27]. Негледзячы на тое, што М. Зэбжыдоўскі прасіў прабачэння ў караля і рокаш у Польшчы скончыўся і ўзнікла рэальная пагроза "здабытку ўсяго рода" Радзівілаў, маршалак рокашу Я.Радзівіл цягнуў з капітуляцыяй.

Жыгімонт Ваза 6.03.1608 г. афіцыйна дараваў канфедэрататам іх дзейнасць у Гарадзенскай і Магілёўскай эканоміях, прызначыў камісараў на чале з Я.Валовічам і Я.К.Хадкевіічам, якім гарантаваў вяртанне выдаткаў і свабоду ў пошуку сродкаў для разліку з канфедэратамі[28]. Вакол Гародні пачалася канцэнтрацыі сіл "рэгалістаў" ВКЛ і ў пачатку сакавіка сюды прыехаў Я.К. Хадкевіч[29]. Гарадзенскія канфедэраты сталі асновай каралеўскага войска. Фармальна ўсё пачалося як перабазіраванне канфедэратаў на вызначаныя гетманам новыя лежа. Вясной 1608 г. рота гетмана ВКЛ выйшла з Анікштаў (уладанне біржанскай лініі Радзівілаў), дзе раней мела вызначаны гетманам пастой, праз Трокі на Падляшша. Па дарозе да іх далучыўся аддзел жамойцкага падстарасты Андрэя Валовіча. Пасля іх прыбыцця ў Гародню іншыя войскі таксама павінны былі пайсці на нававызначаныя месцы пастою. 2.04.1608 г. кароль выдаў гарантыю ўдзельнікам Гарадзенскай канфедэрацыі, што яны не будуць выкліканыя на суд за мінулыя злоўжыванні ў каралеўшчынах. 3.04.1608 г. адбыўся разлік з канфедэратамі, і яны афіцыйна вярнуліся пад камандаванне Я.К. Хадкевіча.

Пасля спалення акта Гарадзенскай канфедэрацыі для замацавання поспеху і зняцця цяжару ўтрымання лежаў войска з жыхароў ВКЛ гетман ВКЛ вызначыў войскам пад пастой падляшскія Кнышын, Райгарод, Ганёнз і Аўгустоў, хаця гетман ВКЛ і не меў права вызначаць лежа на тэрыторыі Польшчы. Тады ж, у пачатку красавіка 1608 г. Я.К. Хадкевіч праз кліента ("слугу") К. Радзівіла пана Жабу на Гарадзенскім замку заклікаў Радзівілаў да ўзнаўлення спакою ў ВКЛ і абвясціў, што будзе чакаць адказу да Вялікодных святаў 1608 г.[30] Я. Радзівіл прапанову праігнараваў і выехаў на пахаванне свайго дзеда кіеўскага ваяводы К. Астрожскага да

Астрога, загадаўшы сваім падначаленым заблакіраваць дарогі на поўдзень ВКЛ[31]. Пасля асноўнага разліку з гарадзенскімі канфедэратамі віленскі кашталян Г. Хадкевіч прывёз у Гародню сродкі для найма кавалерыі і пяхоты на новую дзяржаўную службу, за што 20.04.1608 г. атрымаў ад Я.К. Хадкевіча і Я. Валовіча гарантыю на прадстаўленне яму арэнды берасцейскіх сталовых маёнткаў[32].

На пачатак траўня 1608 г. скарб быў вінаваты берасцейскім канфедэратам яшчэ 15000 зл., а тыя не вызвалялі занятых тэрыторыяў Берасцейскай, Кобрынскай эканоміі[33]. Яшчэ зімой 1607–1608 гг. Я. Радзівіл абвесціў, што апасаецца расправы з боку свайго асабістага ворага Я.К. Хадкевіча, таму пачаў канцэнтраваць шляхту "сваёй земянскай моцай" і войска на абарону ўласнай персоны. Яго малодшы брат Крыштап наняў яму і аддаў пад камандаванне пана Копця аддзел казакаў[34]. Ён жа правёў паспяховыя перамовы з ротмістрамі Яйкоўскім, Млоцкім, панамі Сенкевічамі аб найму роты ў 100 коней, якія адмовіліся далучыцца да дзяржаўных войскаў і стаялі ў Крынках[35] на патрэбы Я. Радзівіла. Для забеспячэння для сябе падтрымкі з боку канфедэратаў ён паабяцаў выплату жалавання са сваіх сродкаў і, паводле сцвярджэння яго праціўнікаў, агітаваў працягваць пастой у каралеўскіх эканоміях. У красавіку 1608 г. былі завербаваны Дудынскім з Берасця і Кобрына аддзел у 500 коней, Яйкоўскім – з Гародні – у 70 коней. Такім чынам, частка Берасцейскіх і Гарадзенскіх канфедэратаў апынулася пад камандаваннем Я.Радзівіла, які ў завяршальны момант канфлікту з рэгалістамі ў ВКЛ сваёй рэзідэнцыяй абраў вёску Старае Сяло (Stara Wieś) пад Берасцем[36], а асноўныя яго сілы размясціліся на памежжы ВКЛ і Кароны.

Першыя дзеянні Я.К. Хадкевіча па вяртанні пад кантроль Жыгімонта Вазы тэрыторыі ВКЛ былі скіраваныя на раздрабленне сіл біржанскіх Радзівілаў. Агульная колькасць сіл пад камандаваннем Я. К. Хадкевіча дасягала 3000 чалавек[37]. У сярэдзіне траўня 1608 г. дзве роты заблакіравалі Крыштапа ІІ Радзівіла ў яго маёнтку Орля (пад Лідай), і той быў вымушаны адмовіцца ад раней абяцанага далучэння да сілаў Я. Радзівіла[38]. У адказ на звесткі аб руху войскаў вялікага гетмана ВКЛ на поўдзень, людзі, навербаваныя для Я. Радзівіла 22 траўня 1608 г., вырушылі на злучэнне з падчашым з Кобрына да Камянца[39]. Жаўнеры, якія знаходзіліся на пастоях у сярэднім Падняпроўі, падзяліліся: частка выехала на злучэнне з войскамі Я.К. Хадкевіча непасрэдна пад Берасце, іншая –праз Менск да Я. Радзівіла[40].

Гетман ВКЛ вывеў войскі з падляшскіх лежаў не адразу на Берасце, а сканцэнтраваў каля Гародні і спачатку рушыў па Шэ-

рашоўскім гасцінцы праз Ваўкавыск на поўдзень. Прыхільнікі Я. Радзівіла заблакіравалі дарогу, і, каб "не чыніць зла", гетман перайшоў на Нараўскі гасцінец. Але ракашане ў колькасці 1200 коней і там перакрылі яму шлях і сталі за паўтары мілі ад абозу Я.К. Хадкевіча, вымушаючы яго да бітвы. Аднак, калі сілы вялікага гетмана ВКЛ выйшлі на бой, праціўнік уцёк, пакінуўшы свае вазы з нарабаваным у шляхецкіх і каралеўскіх маёнтках. Я.К. Хадкевіч не стаў іх праследаваць і забараніў сваім жаўнерам рабаваць трафейныя вазы[41]. Я.К. Хадкевіч спыніў войска і стаў абозам каля Берасця ў 2 мілях ад Старога Сяла. Жаўнеры Я. Радзівіла не былі вынішчаныя, але шлях ім на ВКЛ быў заблакіраваны.

4 чэрвеня 1608 г. у Берасці пачаліся перамовы аб замірэнні Я.К. Хадкевіча з Я. Радзівілам і берасцейскімі канфедэратамі, сюды прыехаў каралеўскі эмісар Я. Фірлей. Таксама ў пасрэдніцтва былі ўключаны Мікалай Крыштоф, Крыштоф II і Юры Радзівілы, Леў Сапега, Бенэдыкт Война, М. Зэбжыдоўскі[42]. Дзеянні войскаў пад камандаваннем Я.К. Хадкевіча, выплата часткі дзяржаўнай запазычаннасці[43] і каралеўскія гарантыі берасцейскім канфедэратам адсутнасці пакарання за іх былыя злоўжыванні[44] разам з ціскам палітычнай эліты ВКЛ прымусілі Я. Радзівіла распусціць войска і 20 чэрвеня 1608 г. заключыць перамір'е з Я.К. Хадкевічам[45]. Жаўнеры, якія ўдзельнічалі ў канфедэрацыях войска ў ВКЛ і пажадалі працягнуць дзяржаўную службу, былі накіраваны з-пад Берасця да Дынамюндэ, дзе ізноў высадзіліся шведы[46]. Акрамя таго, што на выплату ім пайшлі ўсе прыбыткі з падаткаў і калекта ("тавaрыскія складкі") скарбу ВКЛ за 1606–1608 г. – 328404 зл., падскарбію ВКЛ Я. Валовічу прыйшлося пазычыць у розных прыватных асоб яшчэ 122725,19 зл. і 12,5 пенезяў[47].

Не ўсе грамадзяне ВКЛ ахвяравалі ўласныя сродкі на патрэбы вялікага князя, некаторыя паспрабавалі нажыцца на унутрыпалітычным крызісе, у тым ліку падстараста гарадзенскі Сашко Пуцята-Раеўкі, які сабраў у 1606 г. 650 зл. і 271 зл. у 1607 г. валочнага пабору, неабходныя ўладам для "разлічэння з берасцейскімі і гарадзенскімі канфедэратамі", але так і не здаў іх у скарб. Разам з шэрагам ураднікаў ВКЛ ён быў асуджаны 13.08.1609 г. на Віленскім задворным судзе. Сума яго запазычанасці, разам з 200 зл. грыўны, склала 1541 зл., якія вінаваты павінен быў выплаціць скарбу заклаўшы ўсю сваю маёмасць[48]. Вынясенне і выкананне гэтых прысудаў сведчылі аб вяртанні цэнтральнымі ўладамі кантролю над тэрыторыяй і дзяржаўнымі структурамі ВКЛ.

Гарадзенскія канфедэраты, якія стаялі на лежах у Падняпроўі, былі менш шкадлівымі, чым берасцейскія канфедэраты і ўдзельнікі інтэрвенцыі ў Маскву. Апошняе прычынілася да таго, што Орша была вызвалена на 15 год ад падводнай павіннасці[49]. Падатковыя ільготы гарадзенскім мяшчанам у адрозненні ад берасцейцаў у 1605–1610 гг. не былі звязаны з дзейнасцю канфедэратаў. Я.К. Хадкевіч, які ў гэты час жыў на мясцовым двары Я. Валовіча, пацвердзіў каралю звесткі аб выпаленні пажарам часткі горада ў 1606 г., і ў выніку на 4 гады быў вызвалены ад падаткаў мясцовы аптэкар Ян Міржэўскі і гарадзенскі мечнік Андрэй Сетніцкі[50].

Больш таго, мясцовая шляхта лабіравала інтарэсы мяшчан: паслы ад Гарадзенскага павета на чале са скарбовым пісарам ВКЛ Паўлам Якімовічам-Галаўнёй дамагліся ад караля права на манаполію мяшчан на закуп збожжа ў Гародні[51]. П. Якімовіч-Галаўня стаў важным памочнікам Я. Валовіча, разам з якім у 1608 г. быў накіраваны шукаць грошы на выплату канфедэратам да прускіх рэгентаў і павінен быў кансультавацца па іншых крыніцах фінасавання з Я.К. Хадкевічам[52]. За свае паслугі дзяржаве П.Якімовіч-Галаўня атрымаў пацверджанне "полтрэцяста" злотых саступленых з юргельда Яна Чудоўскага[53]. Як і іншыя канфлікты, вайна ў Інфлянтах спрыяла атрыманню служылай шляхтай новых земляў і пасад. Так, напрыклад, Ян Буйвід, таварыш роты Ш. Невяроўскага ў 1605 г., атрымаў вёску Семянтышкі, а забітага ў бітве пад Белым Камнем у 1604 г. татарскага харужага Ашмянскага і Гарадзенскага Мустафу Фурсавіча Шчыта са згоды татар гэтага сцягу змяніў яго брат і паплечнік Багдан Фурсавіч[54].

Карыстаючыся з расейскай Смуты, мяшчане Мсціслаўскага, Віцебскага, Полацкага паветаў пачалі актыўна нападаць на маскоўскіх купцоў па абодва бакі мяжы[55], наймаліся на службу да Ілжэдзмітрыя, у аддзелы лісоўчыкаў. Кароль заклікаў іх спыніцца і нават даслаў у верасні 1608 г. у Полацк 20 аплачаных ім драбаў на выпадак помсты Масквы[56]. Але гэта не спыніла нарастанне сваволля на ўсходніх межах ВКЛ. Пра ўдзел гарадзенскіх мяшчан у падзеях Смуты крыніцы маўчаць.

Нягледзячы на тое, што за вясну-лета 1609 г. у Інфлянтах войска ВКЛ і мясцовая земская служба вызваліла ад шведаў Парнаву і адагнала ворага ад Рыгі, у ліпені – жніўні 1609 г. Жыгімонт Ваза пачаў пераносіць фінансаванне з Інфлянцкай вайны на інтэрвенцыю ў Маскоўскую дзяржаву. Гэта занепакоіла войска, і яно пачало пагражаць стварэннем канфедэрацыі. Пасля Віленскай сустрэчы ў жніўні 1609 г. з каралём Я.К. Хадкевічу стала відавочна, што хоць

падаткі ад ВКЛ былі прызначаны на інфлянцкае войска, але асноўнае фінансаванне паглыне вайна на ўсходзе. 20.08.1609 г. Я.К. Хадкевіч выехаў да войска ў Інфлянты[57], дзе пісьмова пацвердзіў, што будзе "разам з жаўнерамі", чым фактычна далучыўся да канфедэрацыі[58]. Гэта быў першы ў гісторыі выпадак далучэння вялікага гетмана да вайсковай канфедэрацыі. Праблема забеспячэння жаўнераў засталася невырашанай, аднак задэкларaваная "праканфедэрацкая" пазіцыя і аўтарытэт Я.К. Хадкевіча, дазволілі выканаць задачы кампаніі 1609 г. – чарговы раз адкінуць шведаў ад Парнавы сканфедэраваным войскам. Заставалася толькі вызваліць Дынамюндэ і канчаткова пазбавіць ад пагрозы Рыгу. Пад час маршу з Парнавы пад Дынамюндэ войска ВКЛ, як і пагражала яшчэ пры найме, 29.09.1609 г. (дзень Св. Міхала) у Адзельскім касцёле абвясціла канфедэрацыю. Дзякуючы асабістаму аўтарытэту Я.К. Хадкевіча, на працягу чатырох сходаў "жаўнерскага кола" войска ўдавалася ўтрымаць пад кантролем камандавання. Аднак адразу пасля канчатковага разгрома палявога войска шведаў і вяртання Дынамюндэ – (9.10.1609 г.), жаўнеры ВКЛ палічылі свае абавязкі выкананымі, а службу скончанай. У той жа дзень яны сабраліся ў абозе, абвясцілі маршалкам канфедэрацыі Самуэля Казаноўскага і раз'ехаліся[59].

Канфедэраты сабраліся зноў у Гарадзенскай эканоміі, але пашырылі свае канфіскацыі не столькі на ВКЛ, колькі на тэрыторыю Польшчы: Куяўскае біскупства, Вышаградскае і Плоцкае староствы. Вялікі гетман ВКЛ Я.К. Хадкевіч на каронным трыбунале ў Пётркаве склаў пратэстацыю, у якой абвінаваціў цэнтральныя ўлады ў тым, што яны пакінулі без падтрымкі Інфлянты і іх абаронцаў[60]. Актыўная дзейнасць канфедэратаў прымусіла Княскую Прусію прызначыць ім на выплату сваю кварту (30000 зл.), а гнезненскага арцыбіскупа В. Бараноўскага пазычыць дзяржаве на выплаты 15000 зл. Гарадзенскія канфедэраты дасылалі паслоў да свецкіх і духоўных сенатараў Рэчы Паспалітай. У сакавіку 1610 г. іх пасольства на чале з падстоліем ВКЛ Мікалаем Глябовічам прыбыла да караля пад Смаленск. Пасол аргументаваў стварэнне канфедэрацыі дазволам гетмана і нястачай, якую войска цярпела ў Інфлянтах, і прасіў аплаціць ім службу з 26.09.1608 да 26.09. 1609 г., 6 тыдняў на збор і транспарціроўку на тэатр баявых дзеянняў, узнагародзіць іх дароўнай чвэрцю за штурм Парнавы[61].

Вынікам пасольства стала адпраўка Жыгімонтам Вазам у Гародню стольніка ВКЛ Крыштофа Весялоўскага і пісара ВКЛ Яна

Скуміна-Тышкевіча. Іх мэтай было пераканаць гарадзенскіх канфедэратаў узяць частку аплаты і далучыцца да войск караля пад Смаленскам. Але канфедэраты пагаджаліся толькі на поўны разлік[62]. Няздольнасць скарбу сканцэнтраваць сродкі прыводзіла да таго, што дата разлічэння некалькі разоў пераносілася. 7 ліпеня 1610 г. прышлі сродкі толькі з ВКЛ, таму скарбу прышлося выплаціць спачатку 138773 зл., а ў кастрычніку–лістападзе – яшчэ 187377 зл.[63]. У выніку была выплачана ўся сума, і 12 лістапада 1610 г. быў спалены акт другой Гарадзенскай канфедэрацыі. Скарб ВКЛ і Польшчы быў вычарпаны, сродкаў на выплату войскам, прыняўшым удзел у інтэрвенцыі ў Маскоўскую дзяржаву, не засталося, але частка былых гарадзенскіх канфедэратаў далучылася да дзяржаўных войскаў пад Смаленскам[64].

Такім чынам, жыхары гарадзенскага павета адыгралі важную ролю і аказалі своечасовую падтрымку цэнтральным уладам у забеспячэнні знешняй і ўнутранай палітыкі. Гародня і гарадзенцы сталі не толькі сцэнай, але і ўдзельнікамі важных гістарычных падзей. Гарадзенскія мяшчане і сяляне ваколіцы ў адрозненні ад жыхароў паўночнай і ўсходняй часкі ВКЛ не прынялі актыўнага асабістага ўдзелу ў вайне са Швецыяй і Маскоўскай дзяржавай. Цывільнае насельніцтва спраўна плаціла падаткі і выконвала абавязкі па транспартыроўцы войска і ўтрыманні канфедэратаў на лежах. Шляхта і татары павета ўдзельнічалі ў вайне супраць шведаў у Інфлянтах у 1600–1611 гг. і Масквы ў 1609–1618 гг., а потым у дзейнасці двух канфедэрацый войска ВКЛ. Дзеянні Гарадзенскіх канфедэрацый 1606 – 1610 гг. сталі аднымі з важных момантаў у станаўленні сістэмы актыўнай барацьбы грамадзян ВКЛ за свае інтарэсы і шляхецкай дэмакратыі ў Рэчы Паспалітай. Гарадзенскія канфедэрацыі 1606–1610 гг. былі першымі канфедэрацыямі, якія захавалі лаяльнасць да цэнтральных уладаў і дабіліся выканання сваіх патрабаванняў легальнымі метадамі. Разам з тым будучы жаўнерамі на службе ВКЛ яны аказалі эканамічны і палітычны ціск не толькі на мясцовых жыхароў, але і, ў большай ступені на польскае Падляшша і Мазовію. Вакол Гародні адбывалася канцэнтрацыя сіл рэгалістаў у ВКЛ. Дзякуючы падтрымцы гарадзенскіх канфедэратаў і магнацкіх родаў Хадкевічаў, Валовічаў, Весялоўскіх і іншых, якія мелі ў Гарадзенскім павеце свае маёнткі, Жыгімонту Вазе ўдалося ўтрымаць уладу ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай.

[1] Архіў Даўніх Актаў у Варшаве, Архіў Радзівілаў, аддзел рукапісаў (AGAD rkps.AR. Dz.) IV, Sygn. 294, № 34.

[2] Archiwum domu Radziwiłłów. Kraków, 1885. S. 160.

[3] Archiwum domu Sapiehów. Lwów, 1892. T. 1. S. 266.

[4] Архіў князёў Чартарыйскіх у Кракаве. Архіў і збор рукапісаў (BCz. Rkps.) Sygn. 99 №71.

[5] Летапіс Панцырнага і Аверкі // Летапісы і хронікі Беларусі. Сярэднявечча і Раннемадэрны час. Мінск, 2009. С. 574.

[6] Volumina legum. ST. Petersburg, 1859. T. II. S. 386 – 482.

[7] Баркулабаўская хроніка // Беларускія летапісы і хронікі. Мінск, 1997. С. 245.

[8] BCz. Rkps. Sygn. 2073 №56.

[9] Нацыянальны Гістарычны Архіў Беларусі (НГАБ). КМФ - 18. Воп. 1. спр.293, арк.67, 106 -108.

[10] Volumina constiutionum. Warszawa , 2008. T. II, vol. 2 : 1587–1609. С. 404.

[11] Scriptores Rerum Polonicarum. Kraków, 1885. T. VIII. S. 160.

[12] Archiwum domu Sapiechów ... С. 360

[13] 15 лютага 1599 г. Тэадор Скумін-Тышкевіч узгаданы як ваявода навагрaдскі і (стараста?) гарадзенскі, які па каралеўскім загадзе павінен быў выдзяліць Я. Валовічу ў Гародні “пляц добры ля вады” пад пабудову шкляной гуты. // НГАБ. Ф. КМФ–18. воп. 1. адз. з. 86, арк. 5.

[14] BCz. Rkps. Sygn. 99. №.69

[15] НГАБ. КМФ–18, воп. 1, адз. з. 288, арк. 389.

[16] Volumina constiutionum… S.331–332.

[17] Chomętowski W. Korespodencye Jana Karola Chodkiewicza. Warszawa, 1875. S.38.

[18] Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Вильна, 1875. – Т. VIII. С. 561

[19] Chomętowski, W. Korespodencye…С. 105.

[20] НГАБ. КМФ–18. воп. 1. адз.з. 86, арк. 518.

[21] BCz. Rkps. Sygn. 103 №254.

[22] AGAD. ASK (Архіў Скарбу Кароннага). Dz. II. Sygn. 40. арк. 84.

[23] BCz. Rkps. Sygn. 103. № 259.

[24] AGAD. ASK. Dz.II. Sygn. 40. арк. 89.

[25] BCz. Rkps. Sygn. 103. № 258.

[26] BCz. Rkps. Sygn. 103. № 258.

[27] BCz. Rkps. Sygn. 3236. №64.

[28] Wisner H. Litwa wobiec rokoszu (1606-1607) // Kwartalnik Historysczny Warszawa,1972. t.1 S. 297

[29] Chomętowski, W. Korespodencye… S. 51.

[30] AGAD. AR IV, Sygn. 298. №29.

[31] Naruszewicz, A. Historyja J.K. Chodkiewicza Wojewody wileńskiego hetmana WXL. Warszawa, 1805, T. 1. S. 191

[32] НГАБ. КМФ – 18, воп. 1, адз. з. 86, арк 710.

[33] Chomętowski, W. Korespodencye… С. 54.

[34] AGAD. AR IV. Sygn. 298. №1.

[35] Ibid.

[36] Лакалізацыя Старай Весі (Сяла) складаная, бо ў рэгіёне як на захад, так і на ўсход ад Берасця іх некалькі.

[37] AGAD. AR IV, Sygn. 214. №.43.

[38] AGAD. AR IV, Sygn. 298. №32.

[39] Ibid.

[40] Ibid.

[41] Chomętowski, W. Korespodencye...S. 155–157.

[42] BCz. Rkps. Sygn. 104 №50

[43] BCz. Rkps. Sygn. 103. №259. s.1133.

[44] BCz. Rkps. Sygn. 104. №55, №56.

[45] BCz. Rkps. Sygn. 104. №61.

[46] BCz. Rkps. Sygn. 103. № 258.

[47] Расійская нацыянальная бібліятэка (РНБ) // Автографы Дубровского. Авт.63/2 арк. 38-40.

[48] НГАБ. КМФ – 18, воп. 1, адз. з. 392, арк. 230.

[49] НГАБ. КМФ – 18, воп. 1, адз. з. 86, арк. 743.

[50] НГАБ. КМФ – 18, воп. 1, адз. з. 86, арк. 627.

[51] НГАБ. КМФ – 18, воп. 1, адз. з. 289, арк. 321.

[52] НГАБ. КМФ – 18, воп. 1, адз. з. 289, арк. 373–375.

[53] НГАБ. КМФ – 18, воп. 1, адз. з. 86, арк. 740.

[54] НГАБ. КМФ – 18, воп. 1, адз. з. 86, арк. 611, адз. з. 85, арк. 362.

[55] НГАБ КМФ – 18. воп. 1, адз. з. 289, арк. 375.

[56] НГАБ. КМФ – 18. воп. 1, адз. з. 289, арк. 370 аб.

[57] Naruszewicz, A. Historyja J.K. Chodkiewicza … - С. 219

[58] BCz. Rkps. Sygn. 103. № 258.

[59] BCz. Rkps. Sygn. 3237. № 58.

[60] BCz. Rkps. Sygn. 104. №. 148

[61] Filipczak-Kocur, A. Konfederacia grodzieńska wojska litewskiego w latach 1609–1610 // Pamiętnik Biblioteki Kórnickiej. Kórnik, 1981. Z. 18. S. 185

[62] Бібліятэка імя Рачыньскіх у Познані. Аддзел рукапісаў. Bracz. Rkps. 33. №137

[63] AGAD. ASK. Dz. II. Sygn. 40. С. 84.

[64] Filipczak-Kocur, A. Skarb Litewski za pierwszych dwu Wazów 1587–1648. Wrocław, 1994. S. 65

*Алег Дзярновіч, канд. гіст. навук (Менск)*

# Трыбунальскія сталіцы Вялікага Княства Літоўскага: праблемы лакалізацыі месцаў пасяджэння

## ГАЛОЎНЫ ТРЫБУНАЛ ВКЛ

Галоўны Трыбунал Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) узнік у выніку працэсаў глыбокай трансфармацыі дзяржавы, ініцыяваных цэнтральнай уладай і падтрыманых значнай часткай шляхты. Вялікія князі літоўскія ў XVI ст. усё яшчэ дэкларавалі, што яны "старыны не рухаюць, а навіны не ўводзяць". Між тым гэтае прагалошванне прынцыпаў кансерватызму нібы афармляла сабой лозунг маштабных рэформ у краіне, якія закранулі як гаспадарча-фінансавую, так і прававую сферы жыцця[1]. Дастаткова прыгадаць Валочную памеру, якая распачалася ў 1557 г., і адміністрацыйна-судовую рэформу 1564—1566 гадоў, калі паўсталі ўжо надалей знаёмыя нам па гісторыі ВКЛ ваяводствы і паветы ды была сфармаваная ва ўсёй дзяржаве па-свойму дасціпная сістэма земскіх і гродскіх судоў. Галоўны Літоўскі Трыбунал вянчаў гэтую сістэму і быў найвышэйшым апеляцыйным судом у краіне, гэта значыць той судовай інстанцыі, да якой апелявалі, куды звярталіся пазывальнікі, не дасягнуўшы сваіх мэтаў у судах ніжэйшай інстанцыі (земскіх), ці быўшыя нязгодныя з выракамі судоў.

Трэба адзначыць, што ў Рэчы Паспалітай першым быў створаны Каронны Трыбунал паводле ардынацыі ад 3 сакавіка 1578 г. Але па-за кампэтэнцыяй гэтай інстанцыі заставалася Вялікае Княства Літоўскае. Яго прадстаўнікі засведчылі, што яшчэ ў тым годзе збяруцца на асобным з'ездзе ў Наваградку, дзе будуць абмяркоўваць рэформы ўласнага права і найвышэйшага суда[2].

Трыбунал ВКЛ быў створаны паводле прынятай 1 сакавіка 1581 г. на варшаўскім Сойме ўхвалы "*Трыбунал абывацелям Вялікага Княства Літоўскага*", якая стала своеасаблівай канстытуцыяй гэтай судовай інстанцыі. Упершыню тэкст "*Трыбуналу абывацелям Вялікага Княства Літоўскага*" быў апублікаваны ў 1586 г. у Вільні ў знакамітай друкарні Мамонічаў на беларускай мове (Іл. 1). У XVII ст. яе выдавалі ўжо на польскай мове. Звычайна ўхвалу трыбунальскай кан-

стытуцыі друкавалі разам са Статутам 1588 г., і да нашых дзён гэтыя дзве кнігі дайшлі вельмі часта пераплеценымі пад адной вокладкай. Ва ўхвале былі прапісаныя парадак абрання шляхтай на сваіх павятовых сойміках суддзяў і рэгламент функцыянавання Трыбуналу. Абранымі на суддзяў маглі быць толькі ўраджэнцы ВКЛ, шляхціцы, што мелі ўласныя маёнткі, дасведчаныя ў праве і мясцовых звычаях. Яшчэ працягвалася Інфлянцкая вайна, і манарх вызначыў пачатак абрання суддзяў на наступны год – на 2 лютага 1582 г.



***Іл. 1. Тытульны аркуш Трыбунала ВКЛ.***

Інстытуцыя, якая праіснавала больш за два стагоддзі, на працягу сваёй багатай гісторыі спазнала сур'ёзныя змены ў арганізацыі працы. Але ў канцы XVI–XVIII стст. камплектаванне складу Трыбуналу выглядала наступным чынам – ад кожнага павету (ці ваяводства, калі яно складалася з аднаго павету, як Полацкае і Мсціслаўскае ваяводствы) шляхта на сваіх сойміках абірала па два рэпрэзентанта ў Трыбунал паўнамоцтвамі на 1 год. Цалкам жа Вялікае Княства пасля Люблінскай уніі складалася з 22 базавых адміністрацыйных адзінак. Ад 1588 г. Жамойць стала прысылаць ужо трох дэпутатаў – усё ж гэта быў даволі вялікі рэгіён. Сесіі Трыбуналу праходзілі пад старшынствам выбранага дэпутатамі маршалка, пастановы прымаліся большасцю галасоў на аснове Статутаў Вялікага Княства Літоўскага і соймавых канстытуцый.

Галоўнай сядзібай Трыбуналу была Вільня. Але ад самага пачатку дзейнасць гэтай судовай інстанцыі была арганізаваная так,

каб наблізіць яе да рэгіёнаў дзяржавы. Адразу сесіі Трыбуналу, вядомыя яшчэ як кадэнцыі, праводзіліся, апроч Вільні, таксама ў Троках, Наваградку і Менску. Усё ж колькасць спраў была такой велізарнай, што было б вельмі саманадзейна прымушаць усіх пазывальнікаў прыязджаць у сталіцу. У Кароне таксама існавала дзве кадэнцыі Трыбуналу – Вялікапольская і Малапольская з сядзібамі ў Пётркуве і Любліне адпаведна. Пры тым, што вялікапаляне не маглі судзіцца ў Любліне, а малапаляне – у Пётркуве[3]. Адметнасцю Вялікапольскіх кадэнцый было тое, што яны адбываліся ў будынку Люблінскай ратушы (Іл. 2). Паслядоўнасць жа месцаў нарадаў Трыбуналу ВКЛ адпавядала іерархіі ваяводстваў, усталяванай на ўнійным Сойме 1569 г.



***Іл. 2. Люблін. Будынак Кароннага Трыбуналу (Фота Марціна Бялка)***

Тэрмін штогадовай інагурацыі Трыбуналу ВКЛ быў вызначаны заканадаўча і прыпадаў на панядзелак праз два тыдні пасля Вялікдня. Свята гэтае было рухомым, і кадэнцыі распачыналіся паміж 6 красавіка і 10 траўня[4]. Найперш дэпутаты збіраліся ў сталіцы ВКЛ, дзе на працягу чатырох тыдняў слухаліся справы па ваяводству Віленскаму (паветы Віленскі, Ашмянскі, Лідскі, Вількамірскі, Браслаўскі), а потым на працягу двух тыд-

няў – ваяводства Полацкага. Затым суд пераязджаў у блізкія Трокі, дзе на працягу шасці тыдняў слухаліся справы ваяводства Троцкага (паветы Троцкі, Гарадзенскі, Ковенскі, Упіцкі). Далей наступаў двухтыднёвы перапынак, падчас якога Трыбунал перамяшчаўся ў Наваградак, дзе на працягу дванаццаці тыдняў абмяркоўваліся скаргі з ваяводстваў Наваградскага (паветы Наваградскі, Слонімскі, Ваўкавыскі) і Берасцейскага (паветы Берасцейскі і Пінскі) – па шэсць тыдняў на кожнае з ваяводстваў. Пасля Наваградскай сесіі зноў наступаў перапынак, і гэтым разам суд пераязджаў у Менск. Тут ужо без вызначэння дакладнага тэрміну разглядаліся па чарзе справы ваяводстваў Віцебскага (з паветамі Віцебскім і Аршанскім), Мсціслаўскага і на канцы – ваяводства Менскага (з паветамі Менскім, Мазырскім і Рэчыцкім). Так выглядаў графік працы Трыбуналу ў першыя гады свайго існавання. Быў гэты графік даволі нязручным, бо прадугледжваў частыя і доўгія падарожжы.

У 1588 г. адбылася пэўная рацыяналізацыя парадку пасяджэнняў, і цяпер кадэнцыі па-за Вільняй сталі адбывацца папераменна, праз год – у Наваградку і Менску. Гэты размераны рытм працы, які перарываўся толькі экстраардынарнымі падзеямі і войнамі, пратрываў да сярэдзіны XVIII ст., калі Сойм каранацыйны 1764 г. ў “Канстытуцыі ВКЛ” увёў новы парадак працы. Віленская кадэнцыя распачыналася цяпер у першы панядзелак пасля свята Св. Станіслава (8 траўня), а “Руская кадэнцыя” (папераменна праз год – у Наваградку ці Менску) пачынала працу ў наступным годзе ў найбліжэйшы панядзелак па свяце Трох Каралёў (6 студзеня)[5]. Змены тычыліся і іншых пытанняў рэгламенту працы Трыбунала ВКЛ. Цяпер Жамойць магла дасылаць ужо не трох, а чатырох дэпутатаў, а пісарамі трыбунальскімі мусілі быць ужо не пісары земскія адпаведных паветаў, дзе адбываліся кадэнцыі, але “Deputaci *per turnum* Woiewodztw y Powiatow, każdego roku na każdey kadencyi, zaczynaiąc one od Woiewodztwa Wileńskiego, Pisarzow Trybunalskich Urząd sprawować powinni, wykonawszy zwykły Pisarzom iurament, a po zakończuoney kadencyi akta Trybunalskie zintroligowane, y porządnie zregestrowane Pisarzowi Ziemskiemu mieysca sądzącego się Trybunału oddawać maią”. Магчыма, менавіта тады Наваградскія і Менскія сесіі, на якіх разглядаліся справы “Літоўскай Русі”, атрымалі назву “Рускіх кадэнцый”. Трэба адзначыць, што ў XVIII ст. палітычнае значэнне Галоўнага Трыбуналу ВКЛ узрасло, і кароль Аўгуст III імкнуўся ўплываць на выбары ды размеркаванне пасадаў у Трыбунале[6].

Чарговыя змены ў расклад пасяджэнняў былі ўнесеныя на Каранацыйным Сойме 1773—1775 гг.[7] Ад 1775 г., апроч Вільні, замест Навагрудку і Менску было прызначана толькі адно месца трыбунальскіх сесій – Гародня. Аргументацыя гэтых змен была прыведзена наступная: "upatruiąc ztąd iedyny, y nayskuteczniejszy sposob, aby toż miasto, iako Seymowe, w potrzebne *aedificia* rozkrzewiło się, y do lokacyi w nim ziazdow Seymowych stało się wygodnym"[8]. Інагурацыя кожнага новага складу Трыбуналу мела адбывацца 1 траўня ў Гародні, якая паступова набывала некаторыя функцыі сталіцы Вялікага Княства Літоўскага і аднаго, поруч з Варшавай, з соймавых месцаў Рэчы Паспалітай. Далей, да 30 верасня, таксама ў Гародні на працягу 5 месяцаў адбываліся пасэджанні "Рускай кадэнцыі". А 15 лістапада распачынала працу Віленская кадэнцыя, якая засядала таксама 5 месяцаў – да 15 красавіка наступнага году. У Вільні меліся разглядацца справы з "repartycyi Litewskiey": ваяводства Віленскага (з паветамі Ашмянскім, Вількамірскім, Браслаўскім), ваяводства Троцкага (з паветамі Ковенскім, Упіцкім), Княства Жамойцкага, ваяводства Смаленскага (з паветам Старадубскім), ваяводства Полацкага (Аршанскі павет). Справы рэшты ваяводстваў слухаліся на "Рускай кадэнцыі", якая цяпер была перанесена ў Гародню. Гэта былі паветы Лідскі (ваяводства Віленскае) і Гарадзенскі (ваяводства Троцкае), ваяводства Наваградскае (з паветамі Слонімскім і Ваўкавыскім), ваяводства Берасцейска-Літоўскае (з паветам Пінскім), ваяводства Менскае (з паветамі Мазырскім і Рэчыцкім). У апошнія гады існавання Рэчы Паспалітай сесіі Трыбунала, лімітаваныя (абмежаваныя ў часе) з-за інтэрвенцыі расійскіх войскаў, адбываліся ў Вільні альбо зрываліся, як гэта здарылася ў 1793 – 1794 гг.

Але ж дзе адбываліся пасяджэнні гэтага найважнейшага судовага органа краіны? Куды на працэсы з'язджалася мясцовая шляхта, імкнучыся адстаяць свае маёмасныя і саслоўныя правы?

## ВІЛЬНЯ

Найбольш зразумелая тут сітуацыя з галоўнай сядзібай Трыбуналу ў Вільні. Пэўна можна сцвярджаць, што Віленская кадэнцыя да сярэдзіны XVII ст. адбывалася на тэрыторыі Дольнага замку, пакуль ён не быў разбураны ў 1655 г. расійскімі войскамі. Але вядома, што яшчэ ў 1622 г. Трыбунал ВКЛ уехаў у будынак, адмыслова збудаваны для гэтай судовай інстанцыі, а таксама для віленскіх па-

вятовых судоў[9]. Судовы палац знаходзіўся зусім побач з замкаваю брамай (Іл. 3–6). Менавіта да гэтай брамы з поўдня ішла вуліца Замкавая (літ. Pilies).

Пасля вызвалення Вільні з-пад маскоўскай акупацыі з-за знішчэння замкаў пасяджэнні Трыбуналу адбываліся ў розных прыватных гмахах. Іх размяшчэнне, а таксама імёны ўласнікаў вядомы нам сёння не цалкам. Хоць па 1676 г. мы маем указанне, што Трыбунал сабраўся ў камяніцы падканцлера Міхала Казіміра Радзівіла, а ў 1688 г. – у палацы канцлера Марц'яна Аляксандра Агінскага, хоць сама трыбунальская канцылярыя там не месцілася.

Усё гучней раздаваліся галасы шляхты, якая лічыла, што "па прыватных камяніцах Трыбунал туляцца не мусіць". У 1676 г. сойм нават выдаткаваў 6 тысячаў злотых на паправу трыбунальскага будынку. Ведаем таксама, што з-за фінансавых спрэчак і палітычных інтрыг вялікі літоўскі падскарбі Бенядзікт Павал Сапега ў той момант авансаваных грошай так і не выдаў[10]. Тым не менш, напрыканцы XVII ст. Галоўны Трыбунал ВКЛ канчаткова вярнуўся ў Дольны замак.

Відавочна, што за час дзейнасці Галоўнага Трыбуналу ВКЛ колькасць архіўных спраў разраслася і, верагодна у другой палове XVIII ст. было прынятае рашэнне за Судовым палацам замацаваць функцыі ўласна Трыбунальскага палацу. А для Віленскіх замкавага і земскага судоў на тэрыторыі Ніжняга замка было запланавана ўзвесці асобны будынак. Пра гэта сведчыць праектны краслюнак будынка замкавага і земскага судоў, выкананы архітэктарам Лаўрынам Гуцэвічам у 1786 г.[11]

Як з палітычнай карты Еўропы ў канцы XVIII ст. знікла Рэч Паспалітая, так і будынак Галоўнага трыбуналу ВКЛ мусіў знікнуць з аблічча Вільні. У 1836-1837 гг. яго разабралі расійскія ўлады з мэтаю пабудовы на месцы Дольнага замку новай фартэцыі.

## МЕНСК

Па Менску, у адрозненні ад Вільні, сітуацыя з месцамі правядзення сесій Трыбуналу ВКЛ менш пэўная. У пратаколах пасяджэнняў Менскай кадэнцыі мы можам сустрэць толькі ўказанне на тое, што "перад нами, судями головъными, на Трибуналъ у Великомъ Князстве Литовскомъ з воеводъствъ и поветовъ на рокъ теперешний 1585 обраными, отъправуючи намъ на замъку Менъскомъ на часъ, в Трибунале описанный..."[12] Гэтая згадка Менскага замку зусім не выпадковая, бо пасяджэнні Трыбуналу,



***Іл. 3. Літаграфія Юзафа Азямблоўскага. Замкавая брама (злева) і палац Галоўнага трыбуналу ВКЛ (справа) (Выгляд замкавага дзядзінца з боку катэдры), 1835 (Літоўскі Мастацкі Музей, інв. G-2231).***



***Іл. 4. Юзаф Пешка. Катэдра ў Вільні. 1808. Выгляд з боку гары Гедыміна (злева знаходзіцца Трыбунальскі палац).***



*Іл. 5. Караль Шыльдгаўз. Брама замка і палац Галоўнага Трыбуналу ВКЛ. Краслюнак, 1820 (Зборы Расійскага Дзяржаўнага Гістарычнага Архіва ў Санкт-Пецярбурзе).*



*Іл. 6. Марцэлі Янушевіч. Выгляд на віленскія замкі з поўдня. Гравюра 1840 г. (стан – да сярэдзіны 1830-х). Трыбунальскі (Судовы) палац у цэнтры, лявей замкавай брамы. (Літоўскі Мастацкі Музей, інв. Т-393).*

як адной з найвышэйшых дзяржаўных інстытуцый, адбываліся на гаспадарскіх (вялікакняскіх) дварах і замках.

Але што можам мы больш канкрэтнага сказаць пра месца трыбунальскіх кадэнцый у Менску? Магчыма, падказку нам могуць даць выявы Менску пачатку XX ст., у тым ліку і малюнкі аднаго з найслыннейшых беларускіх мастакоў таго часу Язэпа Драздовіча.

У 1919 г. Драздовіч пасяліўся ў Менску і стаў настаўнікам малявання ў Беларускай вышэйшай жаночай школе, адначасна працуючы ілюстратарам у літаратурных выдавецтвах і мастаком-дэкаратарам у Таварыстве беларускага мастацтва. У сталіцы Драздовіч наведвае курсы беларускай мовы, гісторыі. Напэўна, і гэта акалічнасць стала штуршком для больш глыбокага спазнання айчыннай мінуўшчыны. Менскі перыяд творчасці мастака пазначаны графічнай серыяй гістарычных помнікаў горада, у тым ліку, выгляд Высокага рынку з Траецкай гары і нізка аркушаў з выявамі Менскага замчышча[13]. Драздовіч даволі багата разоў замалёўваў Менскае замчышча. Гэта жывыя дакументы часу, што данеслі да нас аблічча старога гораду.

Сярод малюнкаў Менска для нашай тэмы вельмі важны адзін, названы самім Драздовічам як "Дом былога судзілішча Менскага замка" (Іл. 7). У цэнтры малюнка, выкананага ў рамантычнай традыцыі, знаходзіцца мураваны будынак, у якім яўна прачытваюцца стылістычныя рысы позняга барока.

Калі мы праявім мінімальную ўпартасць, то зможам яшчэ знайсці выявы гэтай камяніцы. Фотаздымкі будынку суда на Менскім замку



**Іл. 7. Язэп Драздовіч.** ***Дом былога судзілішча Менскага замка. 1920. (Папера, туш, пяро. 17,1 х 12,5. НММ РБ).***

пачатку XX ст. захоўваюцца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве ў асабістым зборы Рышарда Віске (Іл. 8). Калі параўнаць дзве ілюстрацыі – рысунак і фотаздымак, то можна пераканацца, што на іх выяўлены адзін і той жа будынак – двухпавярховая камяніца з рызалітам і мансарднай надбудовай, першы паверх будынка аздоблены рустоўкай. На гэтым фота пабудова пазначана як “будынак гродскага суда”.



***Іл. 8. Будынак гродскага суда на замчышчы. Фота з пач. XX ст. З асабістага збору Рышарда Віске (Нацыянальны музей у Варшаве).***




***Іл. 9. Менскі замак на плане 1793 г. (паводле Э.Загарульскага)***

Але звернемся зараз да тапаграфіі Менскага замку, каб паспрабаваць адшукаць месцазнаходжанне судовага будынку. Будзем мець на ўвазе, што мы шукаем камяніцу з характэрным выступам – рызалітам, – якая існавала яшчэ ў пачатку XX ст. План Менска 1793 г., складзены ўжо новымі губернскімі ўладамі, дае нам добрую падказку – так выглядаў толькі адзін будынак, размешчаны ў паўночна-ўсходнім рагу замка (Іл. 9).

Вельмі цікава, што калі абраць ракурс з поўначы і плыць уніз па Свіслачы, то мы зможам ідэнтыфікаваць гэты будынак і на іншых фотаздымках, як на фота 1903 г. (Іл. 10). Агулам кажучы, у паўночна-ўсходняй частцы замку знаходзіліся гаспадарскія (вялікакняскія) і ваяводскія пабудовы, у тым ліку рэзідэнцыя Менскага ваяводы і судовы будынак, у якім адбываліся Мен-

скія кадэнцыі Трыбуналу ВКЛ. Гэты ж будынак мы можам пазнаць на гравюры Менска 1772 г. – на пярэднім плане паказаны Менскі замак, які выглядае як бастыённае ўмацаванне, а ў правай частцы яго, якраз у бок Свіслачы, знаходзіцца характэрны будынак з рызалітам (Іл. 11).



***Іл. 10. Менскае замчышча на здымку 1903 г. Выгляд з паўночна-ўсходняга боку.***




Падобна, што той выгляд, які Судовы і навакольныя будынкі мелі ў пачатку XX ст., быў сфармаваны ў канцы XVIII ст. Валянцін Голубеў выявіў у Фондзе Скарбовай камісіі інвентар Менскага замку ад 15 красавіка 1779 г., у якім паведамлялася пра ня-

***Іл. 11. Менск. Гравюра 1772 г. На пярэднім плане выяўлены Менскі замак ("Neue Charte von Pohlen nach der vorgenommenen Theilung 1772" са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве; паводле Ядвігі Бзінкоўскай)***



***Іл. 12. Разбураныя каяніцы на Менскім замчышчы. 1944 г. (паводле Віталя Кірычэнкі)***

даўні пажар (дата не ўдакладняецца), які знішчыў тамтэйшую забудову. Ацалелі толькі два старых будынкі "з дзвярыма і завесамі"[14]. З інвентару вынікае, што яшчэ да пажару пачалося будаўніцтва новага будынку для архіву гродскага суда Менскага ваяводства, але на момант складання дакумента гэтая будоўля не была яшчэ скончанай. Судовыя ж акты захоўваліся "на двары" паноў Пятухоў, які меў "дзве палаты з каморамі". У любым выпадку, трэба канстатаваць, што ў канцы 1770-х гадоў на Менскім замку адбылася сур'ёзная рэканструкцыя забудовы.

Пэўныя сумненні да нашай версіі адносна лакалізаванага будынку могуць выклікаць указанні на некаторых гістарычных ілюстрацыях, што гэта будынак гродскага суда. Шляхта не надта любіла судзіцца ў гродскіх судах, бо гэтая інстанцыя падлягала юрысдыкцыі ваяводы. Іншыя павятовыя суды – земскія, фармавала сама шляхта. Але па аналогіі мы ведаем, што нават у Вільні для Трыбуналу і павятовых судоў быў узведзены адзін гмах. Менская ж гістарычная традыцыя магла захаваць назву гродскага суда, бо той, паводле Статуту 1588 г., яшчэ дзейнічаў у першай трэці XIX ст.

Але калі быў разбураны судовы будынак на Менскім замку? Мураваныя будынкі на Менскім замчышчы зазналі сур'ёзныя разбурэнні пад час бамбаванняў 1941—1944 г. Прынамсі, на здымках 1944 г. у раёне замчышча мы бачым моцна пашкоджаныя камяніцы (Іл. 12)[15]. Вядомы таксама здымкі 1949 г., зробленыя пад час раскопак Васіля Тарасенкі, які праводзіў першае ў пасляваенны час археалагічнае даследаванне Менску[16]. Та-

расенка закладаў раскоп як раз ва ўсходняй частцы замчышча і там ужо відаць друз. Сам Тарасенка прыгадваў, што правядзенне раскопак на замчышчы з самага пачатку сутыкнулася са значнымі праблемамі. Уся паверхня археалагічнага помніка была пакрытая абломкамі цэглы і будаўнічага смецця[17]. Выглядае так, што ў гэты перыяд – ад лета 1944 і да лета 1949 г., – і былі канчаткова разабраныя наземныя канструкцыі пашкоджанай вайной мураванай забудовы Менскага замку. Асобныя ж участкі землянога валу Замку захоўваліся яшчэ да 1950-х гадоў. Потым яны былі зрытыя пад час пракладкі Паркавай магістралі (сёння – праспект Пераможцаў). Пачынаючы ж ад 1956 г. на замчышчы праводзіліся маштабныя земляныя і будаўнічыя работы, звязаныя з рыццём катлавану для спартовага павільёна "Працоўныя рэзервы" (сучасны Дом фізкультурніка) і нівеліроўцы паверхні ўсяго замчышча. Тады было зрэзана 3—3,5 метраў культурных напластаванняў[18] (пласты зямлі, якія захоўваюць сляды дзейнасці чалавека). Праўдападобна, тады былі выкапаныя і выкінутыя і падмуркі судовага палацу. Сёння на яго месцы – пустэча за Домам фізкультурніка на берагу Свіслачы (раён станцыі метро "Няміга").

## ГАРОДНЯ

Ад 1775 г. Гародня стала трыбунальскай сталіцай. Але трэба адзначыць, што ўжо ў другой палове XVII ст. Гародня стала важным адміністрацыйным асяродкам Рэчы Паспалітай. Ад 1673 г. тут мусіў адбывацца кожны трэці сойм (у рэчаіснасці такіх адбылося 11, паводле ж чарговасці такіх мусіла быць 18—19)[19].

У Вялікім Княстве, як і ў Кароне, дзейнічала яшчэ адна цэнтральная інстытуцыя, што мела ў сваёй назве слова трыбунал. Гэта быў Трыбунал скарбовы, які разглядаў справы ў галіне фінансаў і падаткаў. Ад 1650 г. Гародня была другім пасля Вільні местам, дзе рэгулярна адбываліся сесіі Трыбуналу скарбовага ВКЛ. Па скарбоваму трыбуналу вядома, што пасяджэнні адбываліся на замку[20]. У першай палове XVIII ст. Трыбунал скарбовы збіраўся па чарзе ў Гародні і ў Менску.

Гарадзенскі замак (Стары замак) быў месцам нарад таксама рэгіянальнага органа самакіравання – соймікаў Гарадзенскага павету (апроч таксама кляштара бернардзінаў) "in Veteri Arce"[21]. І гэта выразна адрознівала сітуацыю ў ВКЛ ад традыцыі ў Кароне, дзе сеймікі рэгулярна збіраліся ў касцёлах[22]. Пакуль што версія па па-

сяджэнні Галоўнага Трыбуналу ВКЛ у "гарадзенскі" перыяд у Старым замку выглядае лагічнай.

Падсумоўваючы вынікі нашага падарожжа па трыбунальскіх сталіцах Вялікага Княства Літоўскага, можна адзначыць наступныя заканамернасці. Ва ўсіх трыбунальскіх местах – Вільні, Менску, Наваградку (паводле аналогіі), Гародні, – пасяджэнні Галоўнага Трыбуналу ВКЛ адбываліся ў цэнтральных дзяржаўных пабудовах – замках. І гэта адрознівае традыцыю ВКЛ ад трыбунальскай практыкі Кароны, дзе Малапольскія кадэнцыя збіраліся ў люблінскай ратушы. У выпадках значных разбурэнняў замкаў у выніку ваенных падзеяў Трыбунал мог збірацца ў прыватных палацах, але толькі тых саноўнікаў, якія на той момант выконвалі важныя дзяржаўныя функцыі і былі адпаведнымі ўраднікамі. Таксама нам невядомы выпадку пасяджэнняў Галоўнага Трыбуналу ВКЛ у касцёлах і кляштарах (у адрозненні ад рэгіянальных соймікаў).

---

1 Падрабязней агляд канцэпту "старына" гл.: Дзярновіч А. "Старына" ў Вялікім Княстве Літоўскім: ад непарушнасці традыцый да сацыяльных трансфармацый // Дзярновіч А. Фрэскі гісторыі: артыкулы і эсэ па гісторыі і цывілізацыі Беларусі і Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Мінск: РІВШ, 2011. С. 78—67.

2 Bednaruk, Waldemar. Trybunał Koronny. Szlachecki sąd najwyższy w latach 1578—1794. Lublin: TN KUL, 2008. S. 64. (Żródła i monografie. T. 331).

3 Bednaruk W. Trybunał Koronny... S. 65—66.

4 Deputaci Trybunału Glównego Wielkiego Księstwa Litewskiego (1582—1696). Spis. / Pod red. Andrzeja Rachuby. Warszawa: DiG, 2007. S. 20.

5 Volumina Legum. T. VII. Petersburg: Nakładem i drukiem Jopzafata Ohryzki, 1860. S. 172.

6 Мацук А. У. Аўгуст ІІІ і Трыбунал ВКЛ // Ягелоны: дынастыя, эпоха, спадчына. Мн.: Беларуская навука, 2007. С. 354.

7 Deputaci Trybunału Glównego Wielkiego Księstwa Litewskiego (1697—1794). Spis. / Pod red. Andrzeja Rachuby. Warszawa: DiG, 2004. S. 9.

8 Volumina Legum. T. VIII. Petersburg, 1860. S. 390.

9 Drėma, Vladas. Dingęs Vilnius. Vaga, 1991. P. 120—121; Glemža, Liudas. Vilniaus žemutinės pilies ansamblio topografija istoriniuose šaltiniuose // Vilniaus žemutinė pilis XIV a. – XIX a. pradžioje: 2002–2004 m. istorinių šaltinių paieškos. Vilnius: Lietuvos pilys, 2006. P. 246, 262–263; Deputaci Trybunału 1582—1696. S. 21.

10 Volumina Legum. T. V. S. 431.

11 Расійскі Дзяржаўны Гістарычны Архіў (СПб). Ф. 1488, воп. 1, спр. 263; Drėma V. Dingęs Vilnius. P. 123.

12 Lietuvos Vyriasiojo Tribunalo spendimai (1583—1655) / Parengé V. Raudeliūnas, A. Baliulis. Vilnius: Mintis. Nr. 6, p. 55.

13 Аляксей Марачкін, Мікола Купава, Яўген Кулік. "Язэп Драздовіч" // Язэп Драздовіч. Альбом-манаграфія / Укл. Мікола Купава. Мн.: Беллітфонд, 2002. С. 12; Шаранговіч,

Наталля. Незахаваная спадчына ў мінскіх краявідах Язэпа Драздовіча // Язэп Драздовіч: “Прыйдзе час...” Смаленск: Зубр, 2008. С. 211.

[14] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Фонд Скарбавай камісіі: F. 11, ap. 2, s. 53, p. 1—6; Голубев В. Ф. Новые архивные документы по истории Минского замчища // Архіў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Отчёт по договору между Проектным коммунальным унитарным предприятием УП “Минскпроект” и Государственным научным учреждением “Институт истории НАН Беларуси” (подбор и предоставление информации об археологических исследованиях на территории Минского Замчища и его ближайшего окружения (объект 06.001.27)). С. 44.

[15] Кірычэнка, Віталь. Мінск. Гісторыя пасляваеннага аднаўлення. 1944—1952 гг. Мн.: Беларусь, 2004. № 254, с. 233; Материалы по археологии Беларуси. Сб. научных статей. Вып. 22. Минское замчище: материалы исследований северо-восточной части в 2009 году (участок 1, раскопы 1, 2). Мн., 2011. Фота 9, с. 68.

[16] Кірычэнка В. Мінск. 1944—1952. № 255, с. 234; Материалы по археологии Беларуси. Вып. 22. Ф. 10, с. 68.

[17] Тарасенко В. Р. Древний Минск (по письменным источникам и данным археологических раскопок 1945—1951 гг.) // Материалы по археологии БССР. Т. 1. Мн., 1957. С. 194—195.

[18] Материалы по археологии Беларуси. Вып. 22. С. 11.

[19] Ciesielski, Tomasz. Grodno miejscem obrad komisji i trybunałów skarbowych. Przyczynek do dziejów skarbowości litewskiej pierwszej czwerci XVIII w. // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV—XX ст. Гародня, 2009. С. 140.

[20] Ciesielski T. Grodno miejscem obrad komisji i trybunałów skarbowych. C. 142.

[21] Паўлоўская, Ганна. Апісанне гарадзенскіх соймікаў у хроніках бернардзінскага кляштара // Гарадзенскі палімпсест. 2009. С. 223—226;

[22] Rachuba, Andrzej. Miejsca obrad sejmików Wielkiego Księstwa Litewskiego w latach 1569–1794 // Парламенцкія структуры ўлады ў сістэме дзяржаўнага кіравання Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай у XV–XVIII стагоддзях: Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск – Наваградак, 23–24 лістапада 2007 г.). Мінск: БІП-С Плюс, 2008. С. 183, 187–188.

*Віталь Галубовіч, канд. гіст. навук*
*(Гародня)*

# Збіццё як элемент крымінальнай штодзённасці (паводле спраў гарадзенскіх судовых установаў 1539-1565 гг.)

Гісторыя вельмі добра можа паказаць не толькі прагрэс, змены ў жыцці грамадства, але і нязменнасць чалавечай прыроды. Шматлікія заганы, уласцівыя людзям, вядомыя спакон веку і працягваюць прысутнічаць сёння. Замоўчванне іх азначае наўмыснае скажэнне мінулага і адхіленне грамадства ад асэнсавання прычыны дэвіянтных паводзінаў і іх наступстваў. Асабліва варта звярнуць увагу на такую з'яву, як злачыннасць. Фармальна-юрыдычны падыход да аналіза злачыннасці не дае адказу на пытанне, якую ролю ў жыцці грамадства адыгрывалі крымінальныя элементы, якой была практыка выкарыстання права. Перад беларускімі гісторыкамі стаіць актуальная задача стварэння суцэльнай карціны крымінальнай эвалюцыіі беларускага грамадства. Дадзены тэкст з'яўляецца спробай ілюстрацыіі такой распаўсюджанай у мінулым з'явы, як збіццё, на прыкладзе Гарадзеншчыны ў другой траціне XVI ст.

Асноўнай крыніцай складання гэтага тэкста сталі матэрыялы, апублікаваныя ў XVII і XXI томах *"Актаў Віленскай археаграфічнай камісіі"*, дзе былі змешчаныя дакументы з кніг Гарадзенскага замкавага суда за 1539-1542 гг. і Гарадзенскага земскага суда за 1555-1565 гг.[1] Падрабязную характарыстыку дзейнасці судовых установаў Гародні за гэты час здзейсніў беларускі гісторык Аляксей Шаланда[2]. Вылучаную намі тэму не абмінулі ўвагай і выдаўцы дакументаў гарадзенскіх судовых установаў. Дастаткова грунтоўная характарыстыка фактаў збіцця была дадзена ў прадмове да XVII тома "*АВАКаў*"[3].

Збіццё ў юрыдычнай навуцы кваліфікуецца як разнавіднасць злачынства накіраванага супраць жыцця, здароўя і гонару чалавека[4]. У заканадаўстве Вялікага Княства Літоўскага адказнасць за збіццё, так званыя "*бои*", была зафіксавана Статутам 1529 г., дзе яно выступала як асобнае злачынства, праўда, без яго аб'ек-

тыўнай характарыстыкі. Пакаранне за прычыненне цялесных пашкоджанняў залежала ад сацыяльнага статуса злачынцы і пацярпелага – “*водлуг стану*”. Збіццё шляхціца селянінам альбо мешчанінам, за выключэннем раднікаў, каралася адсячэннем рукі, а за збіццё шляхціца шляхціцам належала выплаціць 12 рублёў грошаў (Раздзел 3, арт. 14)[5]. Такую ж суму трэба было заплаціць за бойку ў судзе (Раздзел 6, арт. 18)[6]. За збіццё путнага слугі, пчаляра альбо ўрадніка належала аддаць тры рублі, рамесніка – рубель, за селяніна – палціну грошаў. За збіццё жанчыны сума падвойвалася (Раздзел 11, арт. 1-5)[7]. Асобны парадак прадугледжваўся ў выпадку збіцця бацькі альбо маці, якія атрымлівалі права пазбаўляць за гэта сваіх дзяцей спадчыны (Раздзел 4, арт. 13)[8].

## ЧАС ЗЛАЧЫНСТВА

У большасці выпадкаў збіццё адбывалася ў светлы час сутак. Калі здарэнне мела месца ноччу, то гэта адзначалася спецыяльна: так, Рачка Палуянавіч скардзіўся на сваіх крыўдзіцелей за збіццё менавіта ў начны час: “*ночным обычаем мене самого збили и гостей моих*”[9]. Рамейка Лаўрыновіч заявіў пра збіццё і групавое згвалтаванне, якое адбылося “*з недели на понеделок ночным обычаем*” [10], а татарын Абрагім Мулкуманавіч засведчыў, што яго бацьку збілі “*в ночи вжо велми позно*”[11].

У судовых актавых кнігах скаргі аб збіцці фіксаваліся рэгулярна, часам некалькі на дзень. Так, 13 жніўня 1540 г. было зроблена мінімум чатыры заявы[12]. Ад таго, хто першы паскардзіцца, відаць, залежала працэдура разгляду справы. Таму здараліся такія запісы: “*жалоба после Мустафины жалобы, але тое ж годины*”[13].

## СРОДКІ ЗЛАЧЫНСТВА

Вынаходніцтва людзей ў справе прычынення шкоды не мае абмежаванняў, але збіццё, як такое, прадугледжвала найперш выкарыстанне самых простых сродкаў. Напрыклад, чым яшчэ можна было вырваць бараду, як не рукамі?[14]. Калі патрабавалася характарыстыка прадметаў, з дапамогай якіх білі, то гэта спецыяльна фіксавалася. Томка Радзівонавіч збіваў пастуха “***пугою***”[15], а найміт Пётр ударыў Івана Трухановіча “***пужилном** по голове*”[16]. Свавольнік Андрэй Лукашэвіч “*погнавшисе **перначом** у плечы вдарил*” Войцеха Драбышэвіча[17], а Гаўрыла Хацяновіч “*почал Игната бити **кордом***”[18]. Для збіцця ўжывалі камень[19], кол з плоту[20], кісцень[21].

## МЕСЦА ЗЛАЧЫНСТВА

Сустрэча з такой жыццёвай непрыемнасцю, як бойка, была магчымай фактычна паўсюдна.

Калі справа датычылася Гародні, то дастаткова часта мардабой пачынаўся на вуліцы. Дакументы акрэсліваюць гэта так: "*на улицы добровольной за Немном*"[22], "*на улицы в мосту*"[23], альбо "*на улицы по конец мосту*"[24]. У некаторых выпадках дастаткова было запісу "*тут у месте на улици*"[25].

Калі здарэнне адбывалася ў нейкім канкрэтным будынку, то гэта дакументы адзначалі спецыяльна: "*тут в месте Городне в дому мещанина городенского Гришка Кграндича*"[26].

Непрыемнасць магла прыйсці дахаты. Так, ва ўласнай хаце пацярпела Анушка Івашкавая ад рук Івана Куліповіча: "*пришедши в дом мой, збил мя и зранил безвинне*"[27], падобнае здарэнне адбылося і з Жданавай Святохнай, якую пабіў гаспадарскі селянін Ждан, "*пришедши на дом мой кгвалтом*"[28]. Запрашэнне ў госці "*на пированье*" магло таксама скончыцца мардабоем, пра што сведчыў пацярпелы гаспадарскі падданы Санец Анісімавіч [29].

Аднак існавалі і адмысловыя пляцоўкі, дзе атрымаць "па твары" было лягчэй, чым звычайна. Натуральна, што такімі месцамі былі корчмы. У 1540 г. такія факты здараліся неаднойчы: у жніўні "*в дому корчомном за Немном*" быў збіты Антон Яцуціч[30], па тым жа адрасе Дронец Наркевіч "*за лоб порвал*" Якуба Жданцэвіча[31]. Карчму абіралі сабе месцам для бойкі не толькі "браты славяне". Тут высвятлялі адносіны і татары. Паводле заявы Нурума Азбердзеевіча, ён быў збіты "*пришедши на беседу мою в дому корчмном*" Нуркам Анурсейтавічам[32]. Менавіта "*в корчме Матея Тарусы*" гаспадарскі баярын Януш Катовіч змардаваў Чжаная, татарскага слугу[33]. Дзе можна было пабіць жанчыну? Натуральна знайшоўшы яе ў карчме: гарадзенскую мяшчанку Багдану Алехнавую адшукала і "апрацавала" кампанія на чале з нейкім Мікалаем "*в дому корчомном в Сидора*"[34].Увогуле ў корчмах адбываліся дастаткова прымітыўныя гісторыі па схеме: "напіліся – пабіліся". Больш таго, яшчэ і пакусалі адзін аднога, як відаць з заявы Андрэя Дашковіча на Юрыя Лаўпушыча: "*пъючи со мною у водной корчме, збил мя безвинне и в палец вкусил*"[35]. Нарэшце, наведвальніка карчмы мог пабіць і сам карчмар, як гэта здарылася з гаспадарскім баярынам Васілём Путкоўскім[36].

Па-за Гародняй факты збіцця фіксуюцца на месцы працы. Так, пастуха Андрушку збілі проста "*на поли*"[37], падобна як і цівуна Ан-

дрэя[38].Досыць часта бойкі ўсчыняліся “*на сеножати*”[39], альбо дакладней “*на волостной сеножати*”[40], альбо на сцежцы, што ішла “*през сеножать*”[41]. Рыбак Міхна здзейсніў супрацьпраўны ўчынак “*подле езу своего*”[42].

Вельмі часта такія інцыдэнты здараліся на дарозе. Пабітыя Якубавая Ульяна і Макаравая Настасся былі “*на дорозе*” з Гародні[43], а Ануша Грынёвая ў час, калі ішла да калодзежа “*на добровольной дорозе*”[44].

Разборкі паміж гарадзенскімі жыдамі адбываліся нават “*в школе нашой жидовской*”[45].

## МАТЫЎ ЗЛАЧЫНСТВА

Матывацыю злачыннай дзейнасці ў некаторых справах вызначыць немагчыма, а самі ахвяры адзначаюць, што пацярпелі “*безвинне*”, альбо “*не вем за што*”. Але больш уважлівы разгляд зафіксаваных у суддзе спраў дазваляе заўважыць, што ініцыятары заўжды мелі свае мэты. Масавы характар мела выкарыстанне збіцця ў якасці спосаба адабраць грошы альбо іншую маёмасць. Акурат падчас бойкі зніклі “*две копе гроши с калиты*” ў гаспадарскага татарына Белаша Кашчаковіча[46], а гаспадарскі падданы Івашка Цераховіч не выпадкова быў пабіты, калі вяртаўся дамоў “*збожье продавши*”[47].

Сваю спецыфіку мелі сітуацыі, якія адбываліся ў тапаграфічна небяспечных мясцінах. Па версіі Якуба Жданцэвіча, стольнік Дронец “*первей мовил мне, абых ему купил меду, и я дей не мел за што ему купити меду и он дей збил мя безвине*”[48].

Натуральным каталізатарам бойкі з’яўляўся алкаголь, пад уздзеяннем якога чалавек страчваў самакантроль і прычыняў розныя шкоды, што ілюструе такое апісанне: “*тот Гаврила Хотенович, заехавши учорашнего вечора в дом того Игната, много кроть докучал, яко в дому корчемном, абы ему пива дано, и жона Игнатова именем Улъяна, пива бочки начатой мети не поведила и пива дати не хотела, яко опилому чоловеку. Он за то почал Игната бити кордом и за лоб и рвати*”, а пазней атрымала і жонка Ігната[49].

Падставы для канфліктаў былі часам аб’ектыўныя. Так, бойка паміж Жаваронкам, слугой Рыгора Хадкевіча, і гаспадарскім баярынам Мацейкай Петрашовічам усчалася з-за таго, што Жаваронак “*почал траву на сеножати брати и на воз класти*”[50].

Увогуле маёмасныя канфлікты былі дастаткова важкім аргументам для вырашэння іх на сваю карысць з дапамогай кулака.

Асочнік Іван Акартовіч, які законна забраў сабе валоў суседа Федкі Матфеевіча, калі застаў іх "*у гречисе своей*", быў у адказ "*безвинне*"збіты суседам[51].

Збіццё магло быць часткай больш маштабнай злачыннай акцыі. Да прыкладу, яно папярэднічала згвалтаванню і абрабаванню. Такі выпадак быў зафіксаваны ў замкавым судзе 11 снежня 1540 г., калі гаспадарскі падданы Рамейка Лаўрынавіч засведчыў, што шэраг асобаў збілі яго з сынам і нявесткай, а потым "*девку невестку мою зкгвалтовали и сваху теж Петевую зкгвалтовали и обобрали*". Пазней пры вочнай стаўцы жанчыны паказалі на нападнікаў, якія "*з ышими товариши своими над нами своволнество чинили, што хотели, штож есть сором в книгах описывати*"[52].

Збіць маглі і спецыяльна для таго, каб заблытаць следства і перавесці віну на чалавека невінаватага. Так, гарадзенскі мешчанін Станіслаў Крупіч быў збіты сваім даўжнікам Іванам Тарусам і нават, як сцвярджаў пацярпелы "*до враду местского мене отвел и до казни местской, яко злодея осадити дал*"[53].

Зрэшты ж вядома, што ад слова не далёка да справы, а не вельмі высокая культура ўзаемадачыненняў стварае "добрую" атмасферу для вырашэння супярэчнасцяў праз ужыванне насілля. Гарадзенскія судовыя кнігі ўтрымліваюць мноства заяваў пра зняважу словам. Цікава, што ў гэтым асабліва спецыялізаваліся татары. У чэрвені 1555 г. група татараў скардзілася на свайго супляменніка Сылыма Шымонавіча акурат за тое, што ён іх "*неоднокроть где ся потрафить седечи на беседах и нас безвинне словы невчтивыми соромотит, злодеемі и нечистого ложа сынами быти называет*"[54]. Іншыя гарадзенскія татары Дандовічы напісалі заяву ў суд на татарына Майка Давыдовіча з-за таго, што ён "*зовет нас дуботовками, а не шляхтою*", хаця абвінавачаны сведчыў, што з пакрыўджанымі не размаўляў некалькі гадоў[55]. Нарэшце, татарын Байшык Давыдавіч спачатку назваў сваяго калегу "*скурвым сыном*", а потым тройчы дадаў "*по виденью*"[56].

Паміж дваранамі гаспадарскімі абмен думкамі часам таксама набываў спецыфічную форму. Так, Андрэй Сасін адмыслова скардзіўся ў суддзе, што Баўфал Дарашкевіч "*смердом и холопом мене называл*"[57].

## ЗЛАЧЫНЦЫ

***Святары.*** Царкоўны сан ніколі не быў перашкодай для злачыннай дзейнасці. Асабліва ў гэтай справе шчыравалі папы. Некаторыя

з іх прама абвінавачваліся ў арганізацыі гвалтоўных учынкаў. Напрыклад, Засідрэнскі поп узняў – "*на кгвалтъ зазвонилъ*" – гаспадарскіх падданых, якія збілі і пабралі маёмасць у навадворскіх сялян[58]. У 1539 г. у арганізацыі гвалтоўнага нападу на Барысаглебскі манастыр быў абвінавачаны поп Павел, які наняў банду для выканання сваіх планаў. Ён жа інспіраваў збіццё гарадзенскага мешчаніна Яна Краўца, сведка якога ў суддзе заявіў: "*Тот поп того Яна Кравца в дому моем двема служебником своим бити казал, а грошми потрясывал мовячи: бийте на мою шию, я заплачу*"[59]. Іншы поп Аверкій з гарадзенскай Васкрасенскай царквы збіў на дарозе ў Малышчыну ў ліпені 1555 г. гаспадарскага свечніка Каленіка Васькавіча, які так апісаў здарэнне: "*Мимо идучи его рекл есми на него тое слов: Оче, помогай Бог, и он дей мне отказал: Авож я тобе дам помогай Бог, иж мне земли мои властные людем отводишь, светком напротивку мене чинишь. И затым дей похвативши на земли камень и вдарыл мя каменем в голову и безвинне мя збил и зранил*"[60].

***Жанчына.*** Як асобны гулец на полі боя жанчыны з'яўляліся звычайна рэдка. Зафіксаваны выпадак збіцця гаспадарскага падданага Грышкі Хоміча, якога пабіла жонка Багдана Марцінавіча Фёдарава, але скарга была пададзена не на жанчыну, а на яе мужа[61]. Ёсць таксама сведчанні актыўнага саўдзелу жанчын у бойках. Падчас арганізаванага збіцця і абрабавання Венцлава Эйсімонтавіча, жонка яго галоўнага крыўдзіцеля Шчаснага Эйсімонтавіча Барбара не толькі адчыніла святліцу, дзе хаваўся пасля першай фазы гвалту Венцлаў, але яшчэ "*сама ему свечкою светила*"[62]. У скарзе селяніна Грынаша Ілкавіча на Піліпа Касцюковіча адзначана, што не толькі сам Піліп, але і "*жона его и дети его кривды и утиски великии мне, жоне и детем моим чинят в боех*"[63].

Зафіксаваная таксама кур'ёзная заява мужа на сваю жонку з абвінавачваннем у збіцці і выгнанні з дому. Такую скаргу ў 1560 г. падаў у суд зямянін Павел Трэблінскі-Лыка на сваю жонку Ягнешку[64]. Праўда, мужчына не здолеў давесці суду факт прычынення шкоды.

***Татары.*** Натуральна, што татары высвятлялі адносіны не толькі паміж сабой, але і ўдзельнічалі ў агульным перадзеле "месца пад сонцам". Так, гарадзенскія каралеўскія сяляне падалі 8 жніўня 1555 г. заяву ў суд на татарына Абрагіма Мулкуманавіча за арганізацыю іх збіцця на сенажаці[65]. Альбо гаспадарскі падданы Гардзей Данцэвіч скардзіўся на татарскага князя Данчуру Касімавіча за збіццё ў Гародні і страту "*шапки нурбарки*"[66].

***Жыды.*** Напады на жыдоў не былі рэдкасцю, але гэта не азначае, што толькі іх крыўдзілі. Напрыклад, каплічны цівун жамойц-

кага біскупа Юрка Спекуновіч падаў у суд скаргу на гарадзенскага жыда Крывоню Майсеевіча, які пабіў Юрку за вядро *"на торгу"*, як пацвердзіў сведка бондар: *"Тивун, заплативши мне три пенези, почал сяз жыдом о тое ведро торгати и жид ему того ведра дати не хотел и затым его вдарил"*[67].

***Зямяне.*** У якасці злачынцаў зямяне выступаюць не вельмі часта, а іх роля ў крымінальных справах мае пэўную спецыфіку. Менавіта зямяне з'яўляліся арганізатарамі злачынных груповак. Так, на чале банды рабаўнікоў, якія пабілі і абабралі гарадзенскага жыда Песаха, быў зямянін гаспадарскі пан Марцін Талачкевіч[68].

## АХВЯРЫ

***Жанчыны.*** Збіццё прадстаўніц лепшай паловы чалавецтва не было рэдкасцю. У жніўні 1540 г. адпаведную заяву ў замкавым суддзе зрабіла *"Сенкавая Тацуха"*, якую збіў Мацейка Сцепавіч проста *"на дорозе"*[69]. Але жанчына здолела сябе абараніць і давяла ў судзе, што пацярпела бязвінна, за што атрымала грашовую кампенсацыю. Падобным жа чынам Лукашовая Марына здабыла на сваім крыўдзіцелі *"рубль грошей"*[70].

Абарона ўласнай маёмасці магла каштаваць жанчыне значных непрыемнасцяў. Так, жонка зямяніна гаспадарскага Венслава Маячкоўскага, якая паспрабавала абараніць ад пакосу сваю сенажаць 15 ліпеня 1555 г. зведала крыўду ад Пятра Кошчыча, які яе *"збил, поличковал и за лоб ускуб"*[71].

Знаходжанне жанчыны ў карчме ў атачэнні нецвярозых мужчын таксама мела свае наступствы. Пры такіх абставінах у траўні 1541 г. была пабітая, альбо прынамсі так у судзе прадстаўляла справу гаспадарская падданая Марына Пашковая[72].

***Дзеці.*** Дзеці як асобны аб'ект збіцця выступаюць даставткова рэдка і ў большасці ў цені сваіх бацькоў. Але звычайна іх збівалі за дробнае шкодніцтва разам з не вельмі абачлівымі бацькамі. Напрыклад, гаспадарскі баярын Стась Шабдай здзейсніў з сваімі сынамі начны напад на сям'ю Янкі Багдановіча, падчас якога былі пабітыя дочкі апошняга, матывуючы тым, што *"дети его з его дому репу мою з огорода рвали, шкоду мне чинячи, и ям дей пристерегши детей его в ночи, рвучи репу, тых детей его **приручил** есми ему в шкоде своей **до права** перед сторонними людьми"*[73].

Калі ж дзеці выраслі, то не толькі зневажалі, але і білі сваіх бацькоў. Заяву пра падобныя дзеянні свайго сына Мацея зрабіў

падданы гаспадарскі Янка Даўкшэвіч[74], а таксама Грынь Кохніч на сына Якава[75]. Бойкі ўзнікалі і паміж братамі[76].

***Святары.*** Святары траплялі пад гарачую руку, але крыніцы не заўжды тлумачаць прычыны такіх здарэнняў. У чэрвені 1565 г. камандай на чале з зямянінам Марцінам Кунцовічам быў збіты ў карчме дзяк лашскай царквы Св. Міколы Сямён Федаровіч[77].

***Сяляне.***У сялянскім асяроддзі злоўжыванне сілай было з'явай звыклай. Адносіны паміж суседзямі нярэдка разглядаў суд. Напрыклад, гарадзенскі валашчанін Іван Алгуценевіч скардзіўся на свайго суседа Пашку Гіртавіча за тое "*штож дей, пришедши ку огороду моему, вдарил мя через плот поуху колом безвинне, алиж кровь пошла*"[78].

***Татары.*** Калі сыходзіць з наяўных звестак і частотнасці фіксацыі спраў, дзе фігуруюць прадстаўнікі гэтай этнічнай групы, то прыйдзецца канстатаваць, што яны з'яўляліся неад'емнай часткай агульнай фізіяноміі Гародні і яе ваколіц у XVI ст. Больш таго, яны давалі заўважную частку злачыннай статыстыкі. Але, хіба, часцей ахвярамі былі самі татары. Так, татарскі перакладчык Мустафа Міскевіч 14 жніўня 1540 г. сведчыў, што яго "*збили и зранили у твар и слугу также збили и грошей десять отняли з хусткою а нож урвали*"[79]. 8 верасня 1540 г. у судзе свае заявы засведчылі тры татарыны, і ўсе яны датычыліся фактаў збіцця, а пацярпелі яны ад сваіх жа супляменнікаў[80]. Але ж, натуральна канфлікты выходзілі і за межы гэтай супольнасці[81]. Так, 9 верасня 1540 г. татарын Якуб падаў заяву ў суд на гарадзенскага краўца Еську за збіццё "*на улицы*"[82].

***Жыды.*** Напрыклад, навадворскі жыд Шмонка Кучкевіч зрабіў заяву ў суддзе, што "*ледво втек ад погони*", якую арганізавалі рабаўнікі, а вось ягонага брата Песаха, гарадзенскага жыда, на дарозе усё ж злавілі, як след пабілі і абрабавалі, адабраўшы "*за пять сот коп перел*"[83]. Біццём вырашалі справы жыды і міжсобку. Паводле заявы Мардухая Багданавіча Ігуды, ён быў пабіты наймітам іншага гарадзенскага жыда Хаіма – Петраком[84]. Але сам Петрак у адказ зрабіў заяву пра тое, што гэта Мардухай яго збіў у доме Хаіма[85]. Да "*синевы под очима*" збіў Нахіма Мархаевіча яго аднаверац Аўрамец Мейравіч[86], а Еська Школьнік заявіў, што Мошка "*за лоб мя рвал и по челюстки давал*"[87].

***Мяшчане.*** У замкавым судзе мяшчанскіх заяваў з нагоды збіцця не шмат, але сустракаюцца. Так, паводле заявы Гаўрылы Петкавіча, ён "*пил есми в дому господаря своего Яцка Нонкевича на день Панны Марии*", калі яго разам з жонкай пачаў збіваць сотнік Дубніцкі[88].

Збіццё было надзвычай пашыранай формай вырашэння канфліктных сітуацый у эпоху Новага часу, спосабам прымусу і перараканання, сродкам узбагачэння за чужы кошт. Памеры гэтага віда злачынства часам уражваюць: напрыклад, з актыкаваных у 1540 г. спраў амаль кожная пятая (!) датычылася збіцця.

Адметна, што ў першай палове XVI ст. за збіццём складана ўбачыць нейкі рэлігійны падтэкст. Міжсобку біліся і хрысціяне, і жыды, і татары. Асноўнымі чыннікамі, якія спрыялі гэтаму злачынству была "культурная" атмасфера ў грамадстве, эканамічная сітуацыя і псіхалагічная неўраўнаважанасць значнай часткі жыхароў Гарадзеншчыны.

---

[1] Акты Виленской археографической комиссии. Т. XVII. Акты Гродненского земскогосуда. Вильна, 1890; Акты Виленской археографической комиссии. Т. XXI. Акты Гродненского земскогосуда. Вильна, 1894.

[2] Шаланда А. Замкавы суд у Гарадзенским павеце (другая палова XV-1566 г.) // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX ст. Пад рэдакцыяй А.Ф. Смаленчука, Н.У. Сліж. Гародня, 2009. С. 8-34; Шаланда А. Земскі суд Гарадзенскага павета ў 1555-1564 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX ст. Пад рэдакцыяй А.Ф. Смаленчука, Н.У. Сліж. Гародня, 2009. С. 35-64.

[3] Акты Виленской археографической комиссии(далей – АВАК). Т. XVII. Акты Гродненского земскогосуда. Вильна, 1890. С. XLIII-XLIV.

[4] Доўнар Т.І. Развіццё асноўных інстытутаў грамадзянскага і крымінальнага права Беларусі ў XV-XVI стагоддзях. Менск: "Пропилеи", 2000. С. 159-163.

[5] Статут Великого Княжества Литовского 1529 г.: Текст, перавод и словарь-комментарий. Мн.: Изд-во Акад. наук Беларуси, 1960. С. 52.

[6] Статут Великого Княжества Литовского 1529 г.: Текст, перавод и словарь-комментарий. Мн.: Изд-во Акад. наук Беларуси, 1960. С. 78.

[7] Статут Великого Княжества Литовского 1529 г.: Текст, перавод и словарь-комментарий. Мн.: Изд-во Акад. наук Беларуси, 1960. С. 114-115.

[8] Статут Великого Княжества Литовского 1529 г.: Текст, перавод и словарь-комментарий. Мн.: Изд-во Акад. наук Беларуси, 1960. С. 59.

[9] АВАК. Т. XVII. С. 210-211.

[10] АВАК. Т. XVII. С. 228-229.

[11] АВАК. Т. XXI. С. 95-96.

[12] АВАК. Т. XVII.С. 137-138.

[13] АВАК. Т. XVII. С. 139.

[14] АВАК. Т. XVII. С. 136.

[15] АВАК. Т. XVII. С. 135.

[16] АВАК. Т. XVII. С. 230.

[17] АВАК. Т. XXI. С. 23.

[18] АВАК. Т. XXI. С. 58.

[19] АВАК. Т. XVII. С. 399.

[20] АВАК. Т. XVII. С. 166.
[21] АВАК. Т. XVII. С. 309.
[22] АВАК. Т. XVII. С. 135.
[23] АВАК. Т. XVII. С. 139.
[24] АВАК. Т. XVII. С. 139.
[25] АВАК. Т. XVII. С. 139.
[26] АВАК. Т. XVII. С. 2.
[27] АВАК. Т. XVII. С. 150.
[28] АВАК. Т. XVII. С. 161.
[29] АВАК. Т. XVII. С. 165.
[30] АВАК. Т. XVII. С. 135-136.
[31] АВАК. Т. XVII. С. 138.
[32] АВАК. Т. XVII. С. 141.
[33] АВАК. Т. XVII. С. 142.
[34] АВАК. Т. XVII. С. 211.
[35] АВАК. Т. XVII. С. 171.
[36] АВАК. Т. XXI. С. 125.
[37] АВАК. Т. XVII. С. 135.
[38] АВАК. Т. XVII. С. 145.
[39] АВАК. Т. XVII. С. 137.
[40] АВАК. Т. XVII. С. 137.
[41] АВАК. Т. XVII. С. 155.
[42] АВАК. Т. XVII. С. 138.
[43] АВАК. Т. XVII. С. 145.
[44] АВАК. Т. XVII. С. 153.
[45] АВАК. Т. XVII. С. 168.
[46] АВАК. Т. XVII. С. 149.
[47] АВАК. Т. XVII. С. 139.
[48] АВАК. Т. XVII. С. 138.
[49] АВАК. Т. XXI. С. 58.
[50] АВАК. Т. XVII. С. 155.
[51] АВАК. Т. XVII. С. 150.
[52] АВАК. Т. XVII. С. 228-229.
[53] АВАК. Т. XXI. С. 2.
[54] АВАК. Т. XXI. С. 13.
[55] АВАК. Т. XXI. С. 30.
[56] АВАК. Т. XVII. С. 207-208.
[57] АВАК. Т. XXI. С. 23.
[58] АВАК. Т. XVII. С. 130.
[59] АВАК. Т. XVII. С. 51.
[60] АВАК. Т. XVII. С. 399.
[61] АВАК. Т. XVII. С. 206.
[62] АВАК. Т. XXI. С. 37.
[63] АВАК. Т. XVII. С. 153.
[64] АВАК. Т. XVII. С. 422.

[65] ABAK. T. XXI. C. 46.
[66] ABAK. T. XVII. C. 200.
[67] ABAK. T. XVII. C. 229.
[68] ABAK. T. XVII. C. 158-159.
[69] ABAK. T. XVII. C. 131.
[70] ABAK. T. XVII. C. 160-161.
[71] ABAK. T. XXI. C. 32.
[72] ABAK. T. XVII. C. 321-322.
[73] ABAK. T. XVII. C. 166.
[74] ABAK. T. XVII. C. 136.
[75] ABAK. T. XVII. C. 220.
[76] ABAK. T. XVII. C. 307.
[77] ABAK. T. XVII. C. .440
[78] ABAK. T. XVII. C. 166.
[79] ABAK. T. XVII. C. 139.
[80] ABAK. T. XVII. C. 152.
[81] ABAK. T. XVII. C. 153.
[82] ABAK. T. XVII. C. 156.
[83] ABAK. T. XVII. C. 159.
[84] ABAK. T. XVII. C. 151.
[85] ABAK. T. XVII. C. 151.
[86] ABAK. T. XVII. C. 168.
[87] ABAK. T. XVII. C. 208.
[88] ABAK. T. XVII. C. 154.

*Вольга Іванова, канд. гіст. навук*
*(Менск)*

# У пошуках Асобы: агляд дакументаў асабістага паходжання ў гарадзенскіх сховішчах

*Мы ніколі не зразумеем думкі жыхароў Еўропы XI ст. у той жа ступені, як сучаснікаў Паскаля і Вальтэра; бо ад іх не захавалася ні прыватных лістоў, ні споведзяў... З-за гэтага прабелу немалая частка нашай гісторыі непазбежна прымае нежыццяздольнае аблічча гісторыі без асобы.*
*Марк Блок. Апалогія гісторыі*

У заходнееўрапейскай гістарыяграфіі, пачынаючы з Марка Блока, адбываюцца спробы прадставіць Асобу галоўным аб’ектам гістарычнага даследавання. У другой палове XX ст. гэта назвалі “антрапалагічным паваротам”. А ў 50-я гг. XX ст. у асяродку галандскіх гісторыкаў узнік новы г.зв. “эгадакументальны” крыніцазнаўчы падыход. На думку Якаба Прэсера, эгадакументы – гэта дакументы, у якіх чалавечае “Я” (эга) раскрывае сябе[1]. Гэта дзённікі, успаміны, асабістыя лісты ды іншыя формы аўтабіяграфічнага дакументавання. Доўгі час дакументы такога кшталту ўспрымаліся, як даволі сумніўныя крыніцы для даследаванняў, зважаючы на іх суб’ектыўнасць. Але сёння гэтае паняцце цвёрда ўвайшло ў грамадскую свядомасць і стала нават часткай галандскай мовы. “Эгадакументальны” падыход не толькі не страціў сваёй актуальнасці сярод заходнееўрапейскіх даследчыкаў, ён нават распаўсюдзіўся ў апошнія дзесяцігоддзі ў Аўстрыі, Германіі і Польшчы ў межах такіх тэмаў як успрыняцце часу, гендэрныя ўзаемадачыненні, матывы дакументавання, суадносіны з іншымі тэкстамі і вуснай традыцыяй ды інш.[2]

Ва ўсходнееўрапейскай (савецкай) традыцыі ўключэнне Асобы ў гістарычнае даследаванне было звязана з г.зв. *крыніцамі асабістага паходжання*. Да іх звычайна, хаця і з рознымі інтэрпрэтацыямі, адносіліся лісты, дзённікі і мемуары. Пры гэтым

крыніцы асабістага паходжання на думку шэрагу аўтараў не мелі ўласнай крыніцазнаўчай каштоўнасці і маглі выкарыстоўвацца толькі ў спалучэнні з іншымі відамі крыніц (І.Д.Кавальчанка). Іх каштоўнасць у большай ступені залежала ад "гістарычнай самасвядомасці асобы", якая павінна была распавядаць выключна пра "грамадска-значныя працэсы" (А.Р.Татаркоўскі), або быць скіраванай на ўсталяванне міжасобасных камунікацый (М.Ф.Румянцава). Як досыць трапна заўважыла С.В.Жытомірская, суб'ектыўная прырода дадзенага віду крыніц, выклікала ў савецкіх крыніцазнаўцаў вострае жаданне папярэдзіць даследчыка *"о сомнительной достоверности субъективных свидетельств и о первостепенной важности исторической критики при их использовании"*[3].

Падобны падыход не мог садзейнічаць увядзенню Асобы ў кантэкст гістарычнага даследавання. Архівісты і архівазнаўцы кіруючыся прынцыпамі "ўсебаковасці" і "аб'ектыўнасці" стварылі такую сістэму архіўнага захоўвання, пры якой шансы "знайсці Асобу" у архіве сталі мізэрнымі і патрабавалі ад карыстальніка прафесійнай дасведчанасці. Трэба было арыентавацца ў гісторыі архіўнай справы, ведаць методыкі сістэматызацыі і захоўвання, валодаць навыкамі выяўлення інфармацыйных сувязяў паміж дакументамі, іх комплексамі ды інш.

Праблемы захоўвання, выкарыстання, а таксама інфарматыўнасці дакументаў асабістага паходжання можна праілюстраваць на прыкладзе асноўных гарадзенскіх сховішчаў: Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гародні (НГАБ у Гародні), Дзяржаўнага архіва Гарадзенскай вобл. (ДАГВ), Дзяржаўнага архіва грамадскіх аб'яднанняў Гарадзенскай вобл. (ДАГАГВ) і Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея (ГДГАМ).

Дакументы асабістага паходжання захоўваюцца ў асабістых, фамільных, сямейных фондах, калекцыях у архівах, а таксама як асобныя комплексы дакументаў у музеях. Пры гэтым дакументы адной асобы ці адной сям'і могуць захоўвацца ў некалькіх сховішчах. У шэрагу выпадкаў для належнага выкарыстання патрабуецца ўзнаўленне інфармацыйных сувязяў паміж імі, г.зв. архіўная рэканструкцыя збору.

Сістэма архіўнага захоўвання ў большасці краін свету стваралася зыходзячы з неабходнасці ажыццяўляць кіраванне ў розных сферах грамадскай, эканамічнай і дзяржаўнай дзейнасці. Цікавасць да дзейнасці ўласна чалавека, не ўключанага ў кантэкст фамільных, эканамічных і грамадскіх стасункаў – з'ява дастаткова позняя і адносіцца да эпохі Асветніцтва. Дзённікі, мемуары, пры-

ватнае ліставанне XV –XVII ст. – былі часткай фамільных архіваў і адлюстроўвалі дзейнасць чалавека як прадстаўніка пэўнай сям'і або роду. Звычайна аб'ём дакументаў асабістага паходжання ў фамільных архівах не перавышае 5%. Дакументы папярэдняга перыяду (да XV ст.) увогуле скіраваны на нівеліраванне асобаснага ўплыву і прэзентацыю дзеянняў асобы як выніку ўплыву вышэйшых сілаў. У НГАБ у Гародні захоўваюцца фамільныя фонды Булгарыных, Быхаўцаў і Слізняў[4]. Рэшткі фамільных архіваў Абуховічаў, Каменскіх, Чацвярцінскіх, архівы маёнткаў Вікенція Дулевіча і Пятра Маёта трапілі ў фонды ГДГАМ[5].

У невялікім фондзе Булгарыных, які быў сфарміраваны з россыпу дакументаў, знойдзеных пры навукова-тэхнічнай апрацоўцы г.зв. "малакаштоўных матэрыялаў", знаходзіцца значная колькасць дакументаў асабістага паходжання. Сярод іх ліставанне прадстаўнікоў роду з Уладзіславам Сыракомлем і Адамам Кіркорам з Вільні[6], дзённікі і ўспаміны Іаахіма Булгарына, а таксама яго тэстамэнт. Дакументы землеўладальнікаў Ваўкавыскага павету Быхаўцаў паступілі ў гарадзенскі НГАБ у 1955 г. з Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея. Акрамя біяграфічных дакументаў і ліставання, тут захоўваецца значны комплекс дакументаў маёмасна-гаспадарчага характару па кіраванні маёнткамі, а таксама дакументы землеўладальнікаў таго ж павету Адамовічаў[7].

І, нарэшце, самым вялікім фамільным фондам дадзенага архіва з'яўляецца фонд землеўладальнікаў Слізняў, які паступіў сюды ў 1955 г. са Слонімскага краязнаўчага музея. Тут знаходзяцца генеалагічныя табліцы роду Слізняў, дзённікі і нататнікі Рафаіла Слізня (XVIII ст.), палявыя нататкі Альгерда Слізня падчас вайсковай службы ў 1919 г. ды інш. Асноўную частку фонду займаюць гаспадарчыя дакументы па кіраванні маёнткам Дзявяткавічы Слонімскага пав., а таксама дакументы сем'яў землеўладальнікаў Гарадзенскай губ. Дамаслаўскіх, Карскіх, Булгакаў, Чарноцкіх. Цікавай з'яўляецца "калекцыйная" частка фонду, якая ўключае ў сябе зборнікі вясельных прамоваў і старажытных песняў[8], дакументы аб вайне Рэчы Пасталітай з Турцыяй 1670 – 1683 гг., Паўночнай вайне 1700–1721 гг., урывак з маніфеста Тадэвуша Касцюшкі ад 24 сакавіка 1794 г.[9], лісты Міхала Агінскага канца XVIII–пачатку XIX ст.

Што тычыцца фамільных і маёнткавых дакументаў, якія знаходзяцца ў музеі, то іх павярхоўнае апісанне, зробленае на падставе даведніка 1980 г.[10], дае магчымасць казаць аб захаванасці нязначных фрагментаў. Яны толькі пацвярджаюць існаванне значных

комплексаў дакументаў у мінулым, аднак застаецца адкрытым пытанне аб магчымасці іх выкарыстання сёння ў якасці крыніц, у якіх адлюстроўваецца Асоба. Гэта сцвярджэнне тычыцца не толькі дакументаў, якія захаваліся ў музеі, але і ў значнай ступені дакументаў фамільных архіўных фондаў.

Перыяд XVIII – пачатку XX ст. у гісторыі камплектавання дзяржаўных сховішчаў дакументамі асабістага паходжання характарызуецца з'яўленнем асобных цэнтраў захоўвання, значнай іх канцэнтрацыі ў зборах прыватных калекцыянераў і навуковых установаў. У СССР была створана дзяржаўная цэнтралізаваная сістэма архіваў, праходзіла “адзяржаўленне” прыватных збораў і фамільных архіваў. У другой палове XX ст. дзяржаўныя архівы пачалі сістэматычна камплектавацца дакументамі асабістага паходжання. Асноўным крытэрыем аднясення іх да шэрагу каштоўных і годных захоўвання з'яўлялася “выбітнасць” асобы, да дзейнасці якой належалі дакументы. У 1960 – 1970-я гг. абавязак прымаць на захоўванне фонды асабістага паходжання ўзялі на сябе абласныя і занальныя архівы. Крытэрый “выбітнасці” дамінаваў і тут, але прывёў да значнага зніжэння інфармацыйнай каштоўнасці фондаў, якія сталі па-сутнасці “макулатурай асабістага паходжання”, якая часам больш казала пра ідэалагічную зададзенасць працэсу камплектавання ўсёй архіўнай сістэмы, чым пра Асобу.

Пасля навуковай канферэнцыі 1974 г. па праблемах камплектавання дакументальнымі крыніцамі дзяржаўных архіваў СССР, архівы ў Гародні, Лідзе, Наваградку ды іншых гарадах распрацавалі праграмы па выяўленні і ўзяцці на ўлік асабістых архіваў дзеячаў навукі, культуры і палітыкі[11]. Камплектаванне абласных і занальных архіваў дакументамі асабістага паходжання ішло па двух асноўных накірунках: стварэнне асабістых фондаў і аб'яднанне малакольккасных асабістых архіваў у калекцыі, якія, як правіла, мелі назву “Калекцыя дакументаў асабістага паходжання ўдзельнікаў рэвалюцыйнага руху і грамадзянскай вайны ў Расіі, Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і Вялікай Айчыннай вайны, партызанскага руху, дзеячаў культуры і народнай гаспадаркі”, задаючы пэўныя ідэалагічныя рамкі для прыёму дакументаў.

У ДАГВ камплектаванне адбывалася ў двух азначаных накірунках. Калекцыя фарміравалася з пачатку 1980-х гг., а асабістыя фонды – з другой паловы 1980-х. Сёння тут знаходзяцца значныя па аб'ему і зместу фонды гісторыка медыцыны Вітольда Бржэскага, філосафа Аляксандра Макавельскага, архівіста і краязнаўцы Аляксандра Плешавені, гісторыкаў Якава Мараша і Валерыя

Чарапіцы. Дакументы апошняга зачынены для выкарыстання да 2014 г.[12] Цікава адзначыць, што дакументы А.Макавельскага[13] былі перавезеныя з Баку, а частка іх захоўваецца таксама ў ГДГАМ і Цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва Азербайжана.

Найбольш "папулярным" сярод архівістаў і гісторыкаў з'яўляецца фонд Якава Мараша[14], на падставе дакументаў якога здзейснены цэлы шэраг публікацый[15]. Гэта біяграфічныя дакументы (анкеты, асабовая справа), дакументы навуковай дзейнасці (дысертацыя, артыкулы, манаграфіі, даклады), ліставанне з калегамі і ўстановамі. Фотаздымкі, кнігі і брашуры былі прынятыя ў бібліятэку архіва. В.Бржэскі сабраў звесткі аб медыцынскіх працаўніках з 54 сховішчаў СССР і Польскай рэспублікі, упарадкаваўшы іх ў межах асабістага архіва[16].

У складзе калекцыі найбольш цікавымі комплексамі дакументаў з'яўляюцца лісты прыхільнікаў да гімнасткі Вольгі Корбут[17], што прыйшлі на адрас Гарадзенскага пэдінстытута, а потым былі перададзеныя ў архіў Аляксеем Карпюком; невялікі комплекс дакументаў самога Аляксея Карпюка[18]; матэрыялы дзейнасці настаўніка, краязнаўцы і літаратара Апанаса Цыхуна[19], дакументы "ўдзельніка Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, грамадзянскай вайны" Пятра Карасёва[20] ды інш. Трэба адзначыць, што дакументы апошняга адклаліся не толькі тут, але таксама ў ГДГАМ, Дзяржаўным архіве Менскай вобласці і нават у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. Такая сітуацыя нярэдкая для архіваў і выразна ілюструе іх скіраванасць на захоўванне "аб'ектыўных" для існаваўшага савецкага грамадства дакументаў, не зважаючы на спецыфіку іх паходжання.

У ДАГАГВ, створаным у 1996 г., былі ўзятыя на захоўванне малааб'ёмныя фонды гісторыкаў і грамадскіх дзеячаў Уладзіміра Верхася, Яўгена Місарэвіча, Эдуарда Карыпідзі[21]. У гэтых фондах значнай з'яўляецца колькасць пасведчанняў, ганаровых грамат, афіцыйных характарыстык, ксеракопій артыкулаў ды іншых дакументаў, якія хутчэй сведчаць пра адпаведнасць асобы зададзенай сістэме, чым пра іх асабістыя зацікаўленасці, творчыя ці навуковыя дасягненні. Тое ж можна сказаць і пра дакументы асабістага паходжання, што захоўваюцца ў занальных дзяржаўных архівах Навагрудка і Ліды[22].

У поўным сэнсе "асабістым" можна назваць толькі той комплекс дакументаў, у якім праяўляецца асоба яго ўтваральніка: асабістае ліставанне, дзённікі, мемуары. Пры адсутнасці даку-

ментаў такога кшталту ахарактарызаваць асобу амаль немагчыма, і архіў набывае форму “асабіста-афіцыйнага”, адлюстроўваючы толькі службовую дзейнасць архіваўтваральніка. Прычыны гэтага могуць быць рознымі. Напрыклад, Асоба не жадала выяўляць уласныя погляды, адсутнічала дакументаванне асабістых бакоў жыцця, дакументы былі страчаныя ў выніку неразумення іх каштоўнасці альбо іншых аб’ектыўных ці суб’ектыўных прычынаў, або, у рэшце рэшт, праблема магла палягаць у падыходах саміх архівістаў да камплектавання.

Традыцыйна значная колькасць дакументаў асабістага паходжання трапляла ў дзяржаўныя музеі і бібліятэкі. Аднак да сёняшняга часу гэтыя дакументы амаль невядомыя для даследчыкаў. Адсутнічае даведачная інфармацыя аб іх. Толькі ў другой палове 1970-х гг. у сувязі з падрыхтоўкай першых тамоў даведніка “Асабістыя архіўныя фонды ў дзяржаўных сховішчах СССР”, у некаторых дзяржаўных музеях БССР, у т.л. і ў ГДГАМ былі складзены сціслыя даведкі, у якія была ўнесеная інфармацыя пра 27 комплексаў дакументаў асабістага паходжання. Пры наведванні музея ў 2008 г. праверыць наяўнасць усіх гэтых дакументаў і ўдакладніць дадзеныя не атрымалася. Затое былі выяўлены каштоўнейшыя комплексы дакументаў беларускага настаўніка і фатографа Р. Салаўя, які складаецца з унікальнай калекцыі фотаздымкаў перыяду Першай сусветнай вайны ды іншых крыніцаў па гісторыі Беларусі з 1915 па 1942 г., а таксама савецкага гісторыка, ураджэнца Гродні П.Кушнера (Кнышава) (1889–1968), у асабістым ліставанні якога знайшлі адбітак падзеі другой паловы 1930-х гг.

Нерэгламентаванасць працэсу камплектавання пісьмовымі дакументамі дзяржаўных музеяў прывяла да таго, што туды часам трапілі вельмі каштоўныя матэрыялы. Аднак адсутнасць інфармавання патэнцыяльных карыстальнікаў, разам з адсутнасцю доступу да іх і належнай навукова-тэхнічнай апрацоўкі, зводзіць да мінімуму магчымасці ўвядзення гэтых каштоўных дакументаў у навуковы ўжытак.

Такім чынам, у гарадзенскіх сховішчах захоўваюцца значныя па колькасці і якасці фамільныя і асабістыя комплексы дакументаў. Выключэнне складаюць толькі фонды ДАГАГВ і занальных архіваў, якія могуць кваліфікавацца як малаінфарматыўныя.

Малая інфарматыўнасць шэрагу архіўных фондаў з’яўляецца асноўнай прычынай таго, што фонды асабістага паходжання выклікаюць нязначную зацікаўленасць з боку даследчыкаў. Што датычыць музеяў, то трэба яшчэ раз падкрэсліць недастатковасць

навукова-тэхнічнай апрацоўкі фондаў, адсутнасць інфармацыі і магчымасці іх выкарыстання. Аднак існуючую сістэму захоўвання, калі і можна змяніць, то толькі шляхам стварэння альтэрнатыўных сістэм. Магчымасці выкарыстання наяўнай інфармацыі будуць цалкам залежаць ад выпрацоўкі архівістамі і гісторыкамі метадаў аналізу дакументаў, скіраваных на пошук Асобы.

---

[1] Presser J. “Memoires als geschiedbron” // Winkler Prins Encyclopedie. T. VIII. Amsterdam and Brussels, 1958. P. 208-210.

[2] Dekker R. Egodocuments and History: Autobiographical Writing in its Context since the Middle Ages. –Hilversum, 2002; Greyerz von Kaspar Ego-Documents: The Last Word? // German History. Vol. 28. No. 3. 2010. P. 273-282; Rosa A. Egodocumentalność Polskiego zasobu archiwalnego // Toruńskie konfrontacje archiwalne. T. 3: Archiwistyka między różnorodnością a standaryzacją / Chorążyczewski Waldemar, Rosa Agnieszka (red.). 2013. Torun: Wydawnictwo Naukowe Uniwersytetu Mikołaja Kopernika. S. 103-112.

[3] Житомирская С.В. Вопросы научного описания рукописных и мемуарных источников // Археографический ежегодник за 1976. Москва, 1977. С. 41.

[4] НГАБ у Гародні. Ф. 485 (фонд Булгарыных), 106 адз.зах. за 1757-1898; Ф. 1664 (фонд Быхаўцаў), 893 адз.зах. за 1511-1938; Ф. 1663 (фонд Слізняў), 4951 адз.зах. за 1505-1939.

[5] ГДГАМ. Абуховічы № 9216 (1627-1693); Каменскія № 8679 (1599-1828); Чацвярцінскі К.А. № 8659, 15123 (1808-1854); Дулевіч В.Ф. № 15133 (1848-1860); Майота П.С. № 8521 (1793-1812) ды інш.

[6] НГАБ у Гародні. Ф. 485, воп. 1, ад.з. 59. Арк. 1-2. 1856 г.

[7] НГАБ у Гародні. Ф. 1664, воп. 1, ад.з. 308–372. XVIII ст.

[8] НГАБ у Гародні. Ф. 1663, воп. 1, ад.з. 426. 8 л. XVII ст.; ад.з. 431. 1 л. 1828 г.

[9] НГАБ у Гародні. Ф. 1663, воп. 1. А.дз. 4949. 1794.

[10] Личные архивные фонды в государственных хранилищах СССР: указатель: в 3-х тт./ ред. кол. Ю. И. Герасимова [и др.]; сост. Э. В. Колосова [и др.]. Т.3. Москва: Тип. Библиотеки им. В. И. Ленина, 1980.

[11] Дакументы аб камплектаванні дзяржархіваў рэспублікі асабістымі фондамі, выкананні рэкамендацый навуковых канферэнцый па праблемах камплектавання дакументальнымі крыніцамі дзяржархіваў СССР. 1973-1975 // НАРБ. Фонд 249, воп. 5, ад.з. 1458. Арк. 53-64.

[12] ДАГВ. Ф. 655. 41 ад.з. за 1971-2004 гг.

[13] ДАГВ. Ф. 277. 133 адз.зах. за 1904-1969; Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей. № 27483 (1–13); Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва Азербайжана. Ф. 512. 35 адз.зах. за 1920-1964 гг.

[14] ДАГВ. Ф. 245, воп. 1-3. 157 ад.з. за 1940-1990 гг.

[15] Кондрашова С.А. Личный фонд профессора Я.Н.*Мараша* в Госархиве Гродненской области // Шлях у навуку. Мінск, 1997. С. 222–225; Крэнь І. П. “Замежная архіўная беларусіка” ў асабістым фондзе доктара гістарычных навук прафесара Я.Н.Мараша ў Дзяржаўным архіве Гродзенскай вобласці // Замежная архіўная беларусіка. Матэрыялы міжнароднай навук. канф. / БелНДІДАС і інш. Мінск: БелНДІДАС, 1998. С. 270-280; Ярмусик Э.С. В.Н. Черепица - Человек. Ученый. Педагог // Через прошлое - к настоящему и будущему: сб. науч. ст. (к 65-летию проф.В.Н.Черепицы) / ГрГУ; под ред. Э.С.Ярмусика. Гродно, 2010. С. 6-10 ды інш.

[16] ДАГВ. Ф. 260. 350 ад.зах. за 1925-1983.

[17] ДАГВ. Ф. 239 (Калекцыя дакументаў асабістага паходжання), воп. 2. 7 ад.з. за 1972-1975 гг.

[18] Тамсама. Воп. 7. 38 ад.з. за 1962-1986; цэласны фонд А.Карпюка захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва:

[19] Тамсама. Воп. 12. 32 ад.з. за 1956-2004 гг.

[20] Тамсама. Воп. 3. 7 ад.з. за 1962-1975 гг.

[21] ДАГАГВ. Ф. 44, воп. 1. 77 ад.з. за 1941-2003; Ф. 58. 24 ад.з. за 1959-2002; Ф. 57. 7 ад.з. за 1968-1999.

[22] ЗДА ў Наваградку.Ф. 394 (фонд А.П.Кунейкі, члена КПЗБ, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны). 5 ад.з. за 1969-1984 гг.; ЗДА ў Лідзе. Калекцыя дакументаў асабістага паходжання ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, ветэранаў працы, дзеячаў культуры і народнай гаспадаркі г. Ліды і Лідскага раёна. 6 ад.з. за 1910 г., 1938-2005 гг.

*Аляксандр Радзюк, канд. гіст. навук*
*(Гародня)*

# Гарадзенскі супрацiў 1861 г.

1861 год адыграў надзвычай важную ролю ў справе падрыхтоўкі і непасрэднага развіцця паўстання, якое выбухнула праз два гады. Характарызуючы яго ўплыў, адзін з паплечнікаў Кастуся Каліноўскага, начальнік паўстанцкіх сіл Гарадзенскага ўезду Станіслаў Сільвястровіч зазначыў, што *“варшаўскія падзеі 1861 г. абудзілі мой першы запал. Жалобныя набажэнствы, якія ішлі следам, няспыннае спяванне гімнаў у касцёлах распалілі мяне яшчэ больш...”*[1] Міхаіл Мураўёў-вешальнік у сваёй справаздачы па кіраванні краем (1865) таксама бачыў прамую сувязь 1861 і 1863 г.: *“У далейшым, палітычная зараза ахапіла [...] усё насельніцтва і выявілася ва ўзброеным паўстанні”*[2].

Штуршком для пачатку масавых акцый пратэсту сталі расстрэлы царскімі войскамі патрыятычных дэманстрацый у Варшаве 15 лютага і 28 сакавіка 1861 г. Таксама пэўны ўплыў на палітычныя настроі грамадзян у краі і суседняй Польшчы аказалі еўрапейскія падзеі. У справаздачы Трэцяга аддзялення наўпрост сцвярджалася, што *“рэвалюцыйны дух перайшоў у Польшчу з Італіі і Венгрыі”*[3]. З такой ацэнкай быў згодны міністр унутраных спраў Пётр Валуеў, які лічыў першапрычынай падобных з’яваў *“хімерычныя паняцці аб магчымасці аднаўлення палітычнай самабытнасці кожнага народнага племені”*[4].

Вонкавымі праявамі пратэсту сталі масавыя рэлігійныя дэманстрацыі, якія ахапілі значную частку Літвы, Беларусі і Украіны. Гэты рух, які спачатку быў праявай салідарнасці з ахвярамі варшаўскіх падзеяў (як і пазней з ахвярамі “Крывавай нядзелі” 1905 г.), у хуткім часе набыў рэгіянальныя адметнасці, напоўніўся новым зместам.

Што тычыцца падзеяў, якія адбываліся ў Гародні ў 1861 г., то яны былі досыць дыхтоўна даследаваны і апісаны польскім гісторыкам Юльянам Комарам. На базе Гарадзенскага і Віленскага архіваў з прыцягненнем усіх даступных на той час успамінаў і мемуараў, яму ўдалося стварыць даволі цэласную карціну пратэстуючай Гародні[5].

Разам з тым, праца Ю.Комара не вычэрпвае ўсіх эўрыстычных магчымасцей вывучэння гарадзенскага супраціву 1861 г. Яны

з'яўляюцца як у выніку прыцягнення новых крыніцаў, так і дзякуючы выкарыстанню новых падыходаў і методык дааследаванняў, параўнання з іншымі рэгіёнамі беларуска-літоўскіх зямель.

Падзеі 1861 г. у Гародні ў першую чаргу выклікаюць найбольшую цікаўнасць з пункту гледжання даследавання супрацьстаяння "Мы" – "Яны". Пры гэтым пад суб'ектам "Мы" выступае гарадзенская супольнасць месцічаў, а "Яны" – гэта розныя ўзроўні царскай адміністрацыі (губернскі, генерал-губернатарскі, сталічны). Сутнасць гэтай канфрантацыі зводзілася да таго, што ўлады імкнуліся рознымі сродкамі не дапусціць або задушыць рух супраціву месцічаў. Тыя, у сваю чаргу, знаходзячыся пад сталым прэсам прэвентыўных, забаронных і рэпрэсіўных захадаў кожны раз знаходзілі свой адказ гэтаму выкліку. Сітуацыя "Выклік – Адказ" спараджала новыя формы пратэстаў, вяла да пашырэння яго прасторавага арэалу і сацыяльнай базы.

Асновай для аналізу пратэстаў 1861 г. у Гародні стаў дакумент, складзены хутчэй за ўсё мясцовым паліцмайстрам, а менавіта "*Ведомость, лицам замеченных в разных Политических безпорядках в 1861 г. по г. Гродну*". Разам з тым, пры напісанні артыкула быў выкарыстаны ўвесь комплекс іншых даступных крыніц па тэме.

Цікава, што пачатак масавых пратэстаў у Гародні па часе амаль супаў з неверагодна моцнай бурай, што пранеслася над горадам 5 чэрвеня 1861 г. Як паведамляў мясцовы паліцмайстар у выніку выпадання граду незвычайнай трохграннай і плоскай формы і вагою ад 3-х да 4-х лотаў (што складае ад 38 да 51(!) грама), было разбіта больш за 10 тыс.(!) шыбаў. А ўжо праз тыдзень гэтыя ж паліцэйскі служачы зафіксаваў першы выпадак спявання забароненых гімнаў у Бернардзінскім і Фарным касцёлах.

Як вынікае з наяўных дакументаў, асноўнай формай пратэстаў гарадзенскіх месцічаў у 1861 г. былі якраз спевы недазволеных рэлігійна-патрыятычных гімнаў. Найбольш пашыраным спосабам барацьбы ўладаў з падобнай праявай была забарона іх выканання. Дадзеная мера ўтрымлівалася ў цыркулярных прадпісаннях віленскага генерал-губернатара Уладзіміра Назімава ад 3 красавіка, 30 чэрвеня, 1 лістапада і 11 жніўня, у правілах для часовых паліцэйскіх судоў, распрацаваных міністрам унутраных справаў ад 9 жніўня, у яго ж інструкцыі для віленскага, гарадзенскага і ковенскага губернатараў ад 10 жніўня, пісьмовых прадпісаннях гарадзенскага губернатара ад 15 і 18 жніўня 1861 г. ды інш., а таксама ў звароце віленскага біскупа ад 29 жніўня[6].

Эфект дадзеных распараджэнняў быў цалкам супрацьлеглы таму, на якія яны былі разлічаны. Гарадзенскі губернатар Іван Шпе-

ер паведамляў віленскаму генерал-губернатару: *"Я папярэджваў служачых, папярэджваў ксяндзоў[...] У касцёлах спевы не толькі не зменшыліся, але, наадварот, павялічыліся"*[7]. Адной з прычынаў таго, што ўладам так доўга не ўдавалася перамагчы месцічаў у гэтым супрацьстаянні была згуртаванасць і крэатыўнасць апошніх. Так, напрыклад, у храмах забароненыя песні выконваліся на матыў штодзённых малітваў. Месцам выканання недазволеных твораў сталі таксама прыватныя кватэры (напрыклад, чыноўніка Рэзліцкага), вуліцы і нават могілкі[8]. Спроба губернатара перанесці ранішнюю імшу ў Фарным касцёле з 7-й на 9-ю гадзіну, каб не дапусціць удзелу ў ёй мясцовых чыноўнікаў, поспеху не мела.

Паводле крыніцаў, дадзеная форма супраціву развівалася ў наступнай дынаміцы: у чэрвені 1861 г. выпадкі "крамольных" спеваў былі адзначаны 11, 12, 13, 23, 27 і 31, у ліпені – 12, 15, 24, 29 і 31, у жніўні – 2, 7, 14, 21, 22, 23 і 28, у кастрычніку – 2 і 7[9]. Такім чынам, як вынікае з прыведзеных звестак найвышэйшы ўздым рэлігійна-маніфестацыйных пратэстаў прыпаў на жнівень. Аднак трэба адзначыць, што дадзеныя па гэтай дынаміцы няпоўныя і патрабуюць верыфікацыі.

Зразумеўшы, што аднымі прадпісаннямі і забаронамі сітуацыю не выправіць, адміністрацыя перайшла да больш радыкальных крокаў. Адным з іх стала звальненне чыноўнікаў, якія найбольш актыўна прымалі ўдзел у пратэстах. Таксама імператар дэлегаваў віленскаму генерал-губернатару права высылкі такіх асобаў у Аланецкую і Яраслаўскую губ.[10]

Звальненні і высылкі выклікалі акцыі салідарнасці з пакаранымі асобамі. Адна з найбольш масавых і рэзанансных праяваў падобнага віду пратэстаў адбылася ў ваколіцах Гародні. Паводле дадзеных мясцовай паліцыі, у ёй прынялі ўдзел каля 300 месцічаў. Праўда, у справаздачы Трэцяга аддзялення фігуравала іншая лічба – 1000 асобаў[11]. Правядзенне гэтай акцыі было звязана з высылкай з горада ў Тамбоўскую губ. афіцэра Пскоўскага пяхотнага палка Вольскага за актыўны ўдзел у адной з маніфестацый у Беластоку. Як адзначалася ў справаздачы жандарскага штабс-афіцэра, гарадзенцы крычалі: *"Ура!"*, *"Няхай жыве Вольскі!"*. Яны падкідвалі ў паветра капелюшы, а таксама падтрымалі ссыльнага грашыма[12]. Дарэчы, збор фінансавых сродкаў, стварэнне тайных касаў быў яшчэ адным галаўным болем царскіх уладаў, супраць якога яны так і не знайшлі сродкаў. Частка з гэтых складак ішла на падтрымку ахвяр рэпрэсій, частка, пэўна, была выкарыстана на патрэбы будучага паўстання.

Баючыся, што мірная фаза пратэстаў можа перарасці ва ўзброеную барацьбу, улады пачалі канфіскацыю зброі. У выніку гэтай акцыі імі было канфіскавана каля 1600 адзінак розных яе тыпаў па ўсёй губерні.

На самой справе гарадзенцы яшчэ не вычарпалі ўсяго патэнцыялу мірнага супраціву. Паўсюднымі праявамі апошняга ў гэты час стала нашэнне адмысловай вопраткі (у т.л. і жалобнай), сімволікі, аксесуараў. Сярод апошніх найбольшы непакой у гарадзенскага вайсковага начальніка Чартова выклікалі кіі надзвычай вялікіх памераў.[13]. Наўрад ці яны ўяўлялі нейкую небяспеку для ўладаў. Хутчэй за ўсё іх ахвярамі станавіліся мясцовыя дзяўчаты і кабеты, у якіх гэтымі прыладамі задзіраліся крыналінавыя спадніцы[14]. Адпаведна выбар чорных, жалобных сукенак не заўсёды быў добраахвотным. У касцёлах ды іншых месцах досыць часта практыкавалася абліванне асобаў, апранутых у традыцыйнае адзенне чарніламі і нават серкавым квасам (сернай кіслатой).

Не абышло Гародню і святкаванне ўгодак заключэння Люблінскай уніі, якое атрымала шырокі распаўсюд у Літве і Беларусі ў 1861 г. Маштабныя, амаль што пастановачныя шэсці ў Коўне, Вільне, суседніх Друскеніках ускалыхнулі ўсё наваколле. Што цікава, у паведамленнях мясцовых паліцэйскіх чыноўнікаў не згадваецца правядзенне падобнага мерапрыемства ў Гародні. Магчыма, цывільныя ўлады такім чынам спрабавалі пазбыцца дадатковых клопатаў.

Толькі рапарт мясцовага жандарскага афіцэра захаваў для нас апісанне тых падзей. Як вынікае з гэтай крыніцы, *“а 6-й гадзіне ўвечары многія жыхары Гародні натоўпамі накіраваліся за горад на адлегласць 4-х вёрст у лес, што мае назву Ласосна, у Царстве Польскім. [...] Сабралася там народу каля 3000 асобаў розных станаў, адбываліся розныя гульні, танцы з музыкай[...] Для простых людзей была зроблена складка і частавалі іх півам і віном[...] Калі ж пачалі разыходзіцца, то самыя галоўныя з публікі імкнуліся давесці простаму народу неабходнасць еднасці і свабоды*”[15].

У адрозненні ад паведамленняў жандараў, рапарты чыноўнікаў паліцыі ўтрымліваюць не толькі пералік асноўных мерапрыемстваў недазволенага характару, але, што найбольш істотна, персаніфікуюць удзельнікаў тых падзей. Так, адным з найбольш актыўных завадатараў антыўрадавага руху з’яўляўся чыноўнік губернскага праўлення Віктар Лебель. Менавіта з гэтай постаццю звязана яшчэ адна праява мясцовага супраціву, а менавіта адкрытае непадпарадкаванне ўладам і пікетаванне губернскага палацу .

Падзеі разгортваліся імкліва. 29 ліпеня падчас выканання забароненых гімнаў у Фарным касцёле В.Лебель пагразіў пальцам аднаму з паліцэйскіх прыставаў, які імкнуўся зафіксаваць усіх, хто спяваў. Прыстаў пакрыўдзіўся на гэты жэст і пабег скардзіцца гарадзенскаму паліцмайстру Змієву. Той, у сваю чаргу, *"ветліва папрасіў накіравацца"* В. Лебеля да губернатара. Але прэстыж цывільнай і паліцэйскай улады ў Гродні быў настолькі падарваны, што канцылярыст наўпрост адмовіўся выконваць спачатку патрабаванні паліцэйскага чыноўніка, а пасля і губернатара. Ён заявіў, што *"пойдзе (да губернатара – А.Р.) калі яму гэта спатрэбіцца[...] што паліцыя не мае права затрымліваць на вуліцы"*. А калі яго ўсё ж такі даставілі да І. Шпеера, то заявіў, *"што не размаўляе па-расейску"*[16].

У сувязі з арыштам В.Лебеля каля палаца губернатара ў гэты ж дзень адбылася сапраўдная дэманстрацыя з патрабаваннем яго вызвалення. Напалоханы губернатар выклікаў дзве роты ўнутранай варты, якія ачапілі яго будынак. Паводле сведчання самога начальніка губерні, толькі ўмяшальніцтва конных жандараў прымусіла жыхароў разысціся[17].

Апошнія акцыі месцічаў на фоне іншых праяваў грамадскага непадпарадкавання прывялі гарадзенскія губернскія ўлады ў стан сапраўднай роспачы. Вычарпаўшы ўвесь арсенал даступных ім сродкаў, яны не ведалі як змагацца з непакорлівымі гарадзенцамі. *"Не атрымаўшы загаду, што рабіць з галоўнымі віноўнікамі і не маючы сродкаў іх уціхамірання, настойліва* прашу *даць мне параду, як дзейнічаць у падобных выпадках[...]"*, - звяртаўся да Уладзіміра Назімава мясцовы губернатар. Адзіным магчымым адказам Іван Шпеер лічыў выкарыстанне войска. *"Без дапамогі войска нельга аднавіць парадку"*, – пісаў ён 30 ліпеня[18].

У гэтай крытычнай сітуацыі першымі зрабілі свой ход царскія ўлады. На пачатку жніўня яны перайшлі ў контрнаступ, план якога быў распрацаваны ў Санкт-Пецярбургу. Асноўным стратэгам у барацьбе з няскораным Беларуска-Літоўскім краем выступіў міністр унутраных спраў Пётр Валуеў. Менавіта ён падрыхтаваў "Палажэнне аб часовых паліцэйскіх судах", якое было выдадзена пры Сенацкім указе ад 9-га жніўня 1861 г.[19]

Гэты дакумент прадугледжваў комплекс рэпрэсій у дачыненні да ўдзельнікаў "маніфестацыйнага руху", які ўключаў дыферынцыяваную сістэму штрафаў, арыштаў, стварэнне адмысловых паліцэйскіх судоў, рэквізіцыйны спосаб размяшчэння войскаў ды інш. Акрамя таго міністр Валуеў асабіста звярнуўся да віленскага,

ковенскага і гарадзенскага губернатараў з “інструкцыйным цыркулярам”. Ён палічыў неабходным патлумачыць прадстаўнікам мясцовай улады як належыць правільна карыстацца “Палажэннем...”

На ўсе гэтыя захады вышэйшай царскай адміністрацыі гарадзенцы адгукнуліся рэзананснай акцыяй 14 жніўня 1861 г. Яны паспрабавалі зладзіць працэсію з Фарнага касцёла Гародні ў Ружансток (Царства Польскае). Гэтая падзея адметная сама па сабе, але ў дадзеным выпадку яна цікавіць нас у першую чаргу з пункту гледжання супрацьстаяння гарадской супольнасці і ўладаў.

Генерал-губернатар, губернатар і ўсе адпаведныя чыны праваахоўных органаў ведалі пра падрыхтоўку шэсця, пра ягоных арганізатараў. Але перашкодзіць гэтай падрыхтоўцы не здолелі. І.Шпеер асабіста і праз паліцыю неаднаразова папярэджваў пробашча Фарнага касцёла Юльяна Маеўскага аб недапушчэнні працэсіі. Той ігнараваў папярэджанні. Тады, кіруючыся інструкцыямі з Вільні, губернатар паспрабаваў дзейнічаць на апярэджанне. Ён загадаў зачыніць Фарны касцёл. У адказ у касцёле пачалася ўсяночнае набажэнства. Набажэнствы ішлі адно за другім. Губернатар у тэлеграме да Віленскага генерал-губернатара У.Назімава фактычна прызнаў уласную няздольнасць апанаваць сітуацыю: “*Чакаю адказу да 4-х гадзін, пасля чаго буду выкарыстоўваць нават вайсковую сілу*”[20].

У адказ генерал-губернатар прадпісваў: развесці плывучы мост на Нёмане; ачапіць войскамі цэнтральную плошчу, а таксама навакольныя вуліцы; арыштоўваць найбольш дзёрзкіх.

Калі ў другой палове дня 14 жніўня 1861 г. працэсія ў некалькі соцень асобаў пакінула касцёл, яна аказалася з усіх бакоў аточанай узброенымі вайскоўцамі. Да сутыкненняў не дайшло толькі дзякуючы вытрымцы, якую прадэманстравалі генерал Гольдгоер і ксёндз Маеўскі. Губернатар на развіццё сітуацыі ўжо не ўплываў, і, паводле ўспамінаў таго ж Ю.Маеўскага, “*ўвесь час неспакойна бегаў па плошчы і шклянка за шклянкай піў ваду з графіну*”[21].

А з Вільні ішлі тэлеграмы ўсхваляванага князя Назімава: “*Працэсіі не дапускаць[...] У выпадку неабходнасці (мост – А.Р.) разбурыць[...] Чакаю адказу аб выніках прынятых мер? Колькі ўсяго войскаў, ці прыбыла артылерыя?*”[22]

Варта зазначыць, што падобныя жорсткія захады ў дадзеным выпадку былі прынятыя выключна ў адносінах да гарадзенцаў. 15 жніўня ў Ружансток без перашкодаў прыбылі некалькі рэлігійных працэсій як з тэрыторыі Царства Польскага, так і з тэрыторыі г.зв. Заходняга краю[23].

Падзеі 14 жніўня 1861 г. у Гародні сталі адной з прычынаў увядзення 22 жніўня Назімавым у некаторых мясцовасцях генерал-губернатарства ваеннага становішча. На дапамогу паліцэйскай уладзе прыходзіла вайсковая. Уводзіўся інстытут вайсковых уездных начальнікаў, уводзіліся крымінальная адказнасць цывільных асобаў па законах ваеннага часу, дадатковы вайсковы пастой ды інш. Дадзены крок аказаўся поўнай нечаканасцю для жыхароў краю. Ужо праз некалькі тыдняў пасля гэтага ў сталіцу і Вільню паляцелі пераможныя рэляцыі, што азначаныя захады "*навялі цішыню*", "*выклікалі панічны страх*", "*страх і ўсведамленне сваёй слабасці*"[24]. Аднак наступныя падзеі ў Гародні сведчаць, што падобныя ацэнкі не адпавядалі сітуацыі на месцы.

У прыватнасці, гарадзенцы і пасля ўвядзення ваеннага становішча працягвалі спяванне забароненых гімнаў. Напрыканцы лета з'явіліся таксама іншыя формы пратэсту. Так, у адказ на ўведзеную забарону выходзіць з дому пасля 9-й гадзіны вечара без ліхтара, гараджане пачалі ладзіць "гульні з ліхтарамі на плошчы", пра якія паведаміў паліцэйскі чыноўнік. На ўвядзенне вайсковага пастою гарадзенцы адгукнуліся напісаннем калектыўных скаргаў у Сенат[25]. Павялічэнне колькасці паліцэйскіх чыноўнікаў і вайсковых караулаў у горадзе прывяло да выпадкаў збіцця служачых, на якіх гэтыя абавязкі былі ўскладзены. Так, у кастрычніку фізічныя меры ўздзеяння былі ўжытыя ў тэатры (!) у адносінах да паліцэйскага квартальнага назіральніка Васкрасенскага і ратмана Саковіча[26].

Адначасова з рэпрэсіямі царызм шукаў іншых шляхоў падтрымання свайго становішча ў краі. Дзеля ўзмацнення адміністрацыйнага рэсурсу ў Горадню ў верасні 1861 г. прыехаў новы губернатар генерал-маёр Аляксандр Дранякін. Сам П.Валуеў прызнаваўся: "*Ні яго, ні Крыгера (у Коўна – А.Р.) я бы не прызначыў губернатарамі, калі б мог выбіраць[...] і меў з каго выбіраць*"[27]. Не апошнюю ролю ў гэтым выбары, пэўна, адыграла рэпутацыя жорсткага, бязлітаснага выканаўцы, якую А.Дранякін атрымаў падчас пацыфікацыі сялянскіх выступленняў у Пензенскай губ. у 1861 г. Дарэчы, гэты факт яго біяграфіі быў добра вядомы на Гарадзеншчыне, аб чым сведчыць змест "Гутаркі дзвух суседаў" (другі яе нумар), якая распаўсюджвалася на Гарадзеншчыне ў 1861 г.

Між тым гарадзенцы арганізавалі "ўрачыстыя" провады старога губернатара. Нягледзячы на некаторыя разыходжанні ў апісанні дэталяў падзеяў 2 кастрычніка 1861 г.[28], усе крыніцы адзначылі, што Іван Шпеер быў вымушаны фактычна ўцякаць з Гародні. Ён

пабаяўся сустрэчы з "удзячнымі" гарадзенцамі, якія падрыхтавалі яму "кашачую" музыку, посвісты і "добрыя" словы наўздагон.

Дзень 2 кастрычніка адметны яшчэ і тым, што ў Гародні аднавілася спяванне забароненых гімнаў. Таксама гэты дзень быў азначаны з'яўленнем новай формы пратэстаў у горадзе – біццём шыбаў. Увечары пасля провадаў Шпеера былі разбітыя шыбы ў кватэрах былога віцэ-губернатара Ражнова, інспектара гімназіі Макса, гарадзенскага спраўніка Магнуса. Усё гэта адбывалася ў горадзе ва ўмовах ваеннага становішча ды іншых рэпрэсіўных санкцыяў.

Сімвалічна, што масавыя пратэсты 1861 г. у Гародні завяршыліся выхадам на авансцэну вучнёўскай моладзі (падзеі 7 кастрычніка, 25 лістапада). Менавіта выступленнем вучняў гарадзенскай гімназіі ў горадзе распачнецца новы этап вызвольнай барацьбы. Насенне, кінутае ў гімназічны асяродак у 1861 г., прарасце 2 сакавіка 1863 г.выступам моладзі са зброяй у руках.

Аналізуючы прычыны няздольнасці царскіх уладаў спыніць рух супраціву ў 1861 г., хацелася б адзначыць, што гарадзенцы ў гэтых падзеях дэманструюць еднасць і выступаюць як адзіны арганізм "Мы", гатовы бараніць і аказваць дапамогу тым, хто стаў ахвярай рэпрэсій. А вось ва ўладных структурах панавала непаразуменне і было відавочным нават супрацьстаянне паміж рознымі яе ўзроўнямі. У першую чаргу яно выявілася па лініі міністр унутраных справаў – віленскі генерал-губернатар. Напрыклад, увядзенне ваеннага становішча Назімавым адбылося насуперак Пятру Валуеву і нават без яго апавяшчэння. У адказ апошні паспрыяў звальненню гарадзенскага губернатара Івана Шпеера, які з'яўляўся пратэжэ генерал-губернатара. Падобных прыкладаў можна прывесці шмат. Адсутнасць паразумення назіралася і на ніжэйшых узроўнях іерархіі царскай адміністрацыі: губернатар – паліцмайстар, цывільныя – вайсковыя ўлады і г. д.

Таксама відавочная адсутнасць логікі, адзінай лініі дзеянняў уладаў і паслядоўнасці ў выкананні распараджэнняў. Той жа Валуеў неаднаразова ў сваім дзённіку падкрэсліваў "*бязмежнае свавольства*" князя Назімава, яго "*адміністратыўнае свавольства без паслядоўнасці, ладу і поспеху*"[29]. Што тычыцца адзінай лініі ў выкананні сваіх жа распараджэнняў, то найлепшым прыкладам у дадзеным выпадку з'яўляецца губернатар А.Дранякін. Ужо хрэстаматыйнай стала яго рэзалюцыя, якую ён наклаў на рапарт ваеннага начальніка Чартова, які паведаміў, што гарадзенкі працягваюць насіць чорную жалобную вопратку: "*Ношению так называемого траурного (черного цвета) одеяния дамами я никого значения*

*не придаю [...] потому что черное платье и таковые же головные ўборы идут им к лицу. Посему дам не беспокоить[...]"*[30]. Падобная яго пазіцыя прасочваецца ў разбіральніцтве справы гарадзенскіх навучэнцаў: *"З гімназістамі пазнаёміўся. Ветлівыя, ціхія. Хадайнічаю аб забыцці таго, што адбылося да мяне[...]"*, – тэлеграфаў ён 3 лістапада 1861 г. апекуну віленскай навучальнай акругі А. Шырынскаму-Шыхматаву.

Складваецца ўражанне, што заканчэнне пратэстаў у Гародні ў лістападзе-снежні 1861 г. адбылося не дзякуючы, а хутчэй насуперак дзеянням і захадам уладаў.

Ніжэй прыводзіцца дакумент (*Ведомость, лицам замеченных в разных политических безпорядках в 1861 г. по г. Гродну*), які найбольш поўна дае ўяўленне аб тых падзеях і формах супраціву, што мелі месца ў горадзе ў 1861 г. Але ў першую чаргу ён цікавы тым, што ўтрымлівае сотні прозвішчаў гарадзенцаў, якія прымалі самы актыўны ўдзел у тых акцыях.

Вывучэнне і аналіз прыведзеных у гэтым спісе дадзеных дазваляе зрабіць некаторыя высновы адносна падзей 1861 г. у Гародні. Першае, што кідаецца ў вочы, гэта сацыяльная і прафесійная стракатасць удзельнікаў гэтага руху. Несумненна, што яго аснову складалі мясцовыя чыноўнікі. З іншага боку, найбольш частае згадванне іх прозвішчаў у дакуменце можна патлумачыць і тым, што паліцэйскі ведаў прадстаўнікоў вышэйшых слаёў мясцовага грамадства лепей за ніжэйшыя. Разам з тым у спісе досыць шырока прадстаўлены месцічы розных прафесійных груп: лекары, чыгуначнікі, аптэкары, шынкары, мяснікі, шаўцы, вайскоўцы, павітухі, мадысткі, вучні і настаўнікі розных навучальных устаноў (уключаючы і Габрэйскае вучылішча), рабочыя друкарні, рыбакі, муляры, акцёры, лёкаі і г.д.

Іншым накірункам вывучэння гэтага дакумента з'яўляецца выяўленне ўзаемасувязі падзеяў 1861 і 1863 г. Падставай для падобнага даследавання можа стаць правядзенне параўнаўчага аналізу прыведзеных у ім прозвішчаў з прозвішчамі вядомых удзельнікаў паўстання. Нават павярхоўнае прачытанне дадзенай крыніцы выяўляе цікавыя супадзенні: доктар Цэлясцін Цэханоўскі (№ 3, 19, 290, 497), які ў 1863 г. быў цывільным паўстанцкім начальнікам Гародні, доктар Эразм Заблоцкі, які фігуруе заўсёды поруч з Ц.Цэханоўскім (№ 4, 20, 222, 289, 498). У гэтым жа спісе сустракаюцца імёны тых гарадзенцаў, якія першымі рушылі на барацьбу ўжо 2 сакавіка 1863 г., але былі схоплены ўладамі на чыгуначным вакзале: гімназіст Букраба (№ 587), Жук (№ 588), Талочка Казімір

(№ 547), Янкоўскі (№ 480)[31]. На жаль, у большасці выпадкаў у спісе адсутнічаюць імёны, што ўскладняе магчымасць дакладнай ідэнтыфікацыі той ці іншай асобы. Далейшай верыфікацыі патрабуюць такія вядомыя па 1863 г. прозвішчы як Геніюш, Пакубята, Толкін, Сангін, Сузін, Завістоўскі, Урублеўскі і многія іншыя.

Яшчэ адной праблемай азначанай архіўнай крыніцы з'яўляецца адвольнае напісанне многіх прозвішчаў. Напрыклад, досыць складана здагадацца, што пад прозвішчам Старк (№ 479) насамрэч хаваецца Іван Штарк тагачасны рэдактар афіцыйных "Гарадзенскіх губернскіх ведамасцей", які прымаў самы актыўны ўдзел у акцыі па провадах губернатара І.Шпеера (!).

Паводле дадзенай крыніцы, адной з адметнасцяў гарадзенскага супраціву 1861 г. было выкарыстанне не толькі каталіцкіх, але і праваслаўных храмаў. Сярод апошніх у данясеннях паліцмайстра фігуруе Каложская царква. Менавіта ў гэтым месцы летам 1861 г. збіраліся гарадзенцы, каб скласці ўрачыстую прысягу каля сценаў разбуранай святыні. Гэты факт сведчыць, што Каложская царква ў XIX ст. мела сімвалічнае значэнне для гарадзенцаў абедзвюх хрысціянскіх канфесій. Гэта таксама пацвярджае верш "Да Каложы" напісаны ст. Праневічам і прызнаны ўладамі "крамольным" у 1865 г.

Даследаванне канфесійнага складу ўдзельнікаў маніфестацыйна-пратэстнага руху 1861 г. разбурае міф аб яго выключна каталіцкім характары. Напрыклад, адзін з найбольш актыўных яго ўдзельнікаў Дытрых (№ 71, 82, 165, 206, 226, 237) быў праваслаўны. За сваю дзейнасць ён быў звольнены з губернскага праўлення і заняволены[32]. Яшчэ адзін Дытрых (пэўна яго брат) вучань 5 класа прымаў удзел у хваляваннях гімназістаў (№ 582). Праваслаўнымі былі чыноўнікі Панькоўскі і Федзюшка[33] (№ 199, 280), якія спявалі ў касцёлах і ўдзельнічалі ў працэсіях. Не выклікае сумненняў, што прыведзенымі тут прыкладамі ўдзел праваслаўных вернікаў у тых падзеях не абмяжоўваецца.

Аналізуючы ніжэй прыведзены спіс удзельнікаў тых падзей у Гародні, неабходна папярэдзіць, што ён далёка не поўны. У ім адсутнічаюць сотні імёнаў і прозвішчаў, якіх паліцмайстар не мог ведаць, а таксама згадкі аб некаторых акцыях гарадзенцаў (святкаванне ўгодкаў Люблінскай уніі ды інш.). Таксама не адлюстраваны ў ім такія формы пратэстаў як, напрыклад, рэлігійныя шэсці з касцёла ў касцёл, якія былі досыць распаўсюджаны ў горадзе ў той час.

Падводзячы пэўныя вынікі, хацелася б зазначыць, што такі масавы характар рух супраціву ў горадзе набыў упершыню. Ён ахапіў

З 1842 г. служыў у Гарадзенскім губернскім праўленні, у 1854 г. выйшаў у адстаўку. Пазней служыў на пасадзе папячыцеля вясковых запасных магазінаў. З 1862 г. жыў у сваім маёнткуКівацічы Пружанскага пав. У паўстанні быў акруговым начальнікам[31].

**ЯГАЛКОЎСКІ ЗАХАРЫЙ КУПРЫЯНАВІЧ** (1835, Гародня – ?). Вучыўся ў Слонімскім пяцікласным вучылішчы. Служыў у Слонімскім павятовым судзе, а потым у Гарадзенскай казённай палаце. У 1859 г. пакінуў службу і займаўся гаспадаркай у маёнтку Луконіца ў Слонімскім пав. Быў знаёмы з дамамі Стравінскіх, Радавіцкіх, Эйсьманаў, Ліпскіх. Паводле паказанняў Э.Заблоцкага быў акруговым начальнікам у Слонімскім пав. Менавіта ў яго спыняўся на начлег у маі 1863 г. Каліноўскі. Пазней Заблоцкі адмовіўся ад гэтых паказанняў. Віленскім ваенным судом прыгавораны да ссылкі ва ўнутраныя губерні Расіі[32].

Такім чынам, у поле зроку паліцыі патрапіла 25 чыноўнікаў, якія працавалі амаль ва ўсіх мясцовых дзяржаўных установах. Найбольш было з канцылярыі Дваранскага дэпутацкага сходу (чацвёра), судовых установаў – грамадзянскага (трое) і крымінальнага (двое) суда, Гарадзенскай казённай палаты (трое). Па два чыноўнікі-паўстанцы аказаліся з Губернскага праўлення і Люстрацыйнай камісіі. У астатніх органах улады – па 1 чал., прыняўшаму ўдзел у паўстанні. Найвышэйшы чын меў Сержпутоўскі – 7 клас (надворны дарадца). Чацвёра мелі 8 клас (калежскі асэсар), 9 клас (тытулярны дарадца) і 10 клас (калежскі сакратар). Двое былі на пасадах чыноўнікаў 12 (губернскі сакратар) і 14 класаў (калежскі рэгістратар). У васьмі выпадках устанавіць прыналежнасць да класаў не атрымалася.

Гэтыя асобы ў выпадку перамогі паўстання маглі б сфармаваць новую ўладу. У паўстанні яны займалі даволі важныя пасады. Эразм Заблоцкі быў Гарадзенскім ваяводам, Геніўш узначальваў паўстанцкае бюро, чацвёра выконвалі абавязкі акруговых начальнікаў (Каменскі, Пакубята, Уластоўскі, Ягалкоўскі), трое – павятовых начальнікаў (Каменскі, Стравінскі, Баяроўскі). Іх памочнікамі былі Абрэмскі, Завістоўскі, Багатка, Бартноўскі, Калупайла, Сержпутоўскі, Тарасовіч. На пасадзе начальніка Гародні знаходзіліся Руткоўскі і Жалкоўскі. Начальнікам Беластока быў Белакоз.

[1] Jodkowski J. Notatki i uzupełnienia sylwetek z r. 1863 // Echo Grodzieńskie. 1923. Nr 17. S. 3.

[2] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 1. Арк. 103; Ковкель И.И. Гродненская революционно-демократическая организация // Гродно: Энцикл. справочник: БелСЭ, 1989. С. 158-159.

[3] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 1. Арк. 7.

[4] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 1. Арк. 8; Каліноўскі К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / Уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999. С. 91-93.

[5] Каліноўскі К. За нашую вольнасць… С. 93-94.

[6] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 4. Арк. 10 адв.-13 адв., 42 адв., 43 адв.

[7] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 2. Арк. 10, 47 адв., 113, 117; с. 1. Арк. 49, 72-74, 547 адв., 553 адв., 566; с. 4. Арк. 21; Электронны рэсурс: narod.ru|1864|Ssilka-kazan.html. Дата доступа: 20.01.2013; Паўлаў В. Удзельнікі паўстання 1863 г. у ссылцы ў Казанскай губерні // ARCHE. 2010. № 12. С. 248.

[8] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 2. Арк. 11, 114 адв., 165 адв., 206, 213-21 адв.; ад.з. 4. Арк. 1-2, 21, 29; воп. 1, ад.з. 40. Арк. 182 адв., 206 адв.

[9] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 1. Арк. 10 адв.-11.

[10] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 2. Арк. 11 адв., 170-175; ад.з. 1. Арк. 30-34; ад.з. 1. Арк. 84 адв., 548, 554 адв.; ад.з. 4. Арк. 67-67 адв.; воп. 1, ад.з. 40. Арк. 216; Jodkowski J. Sylwetki z roku 1863 // Echo Grodzieńskie. 1923. Nr 160. S. 3.

[11] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 4. Арк. 63 адв.-64; Ф. 3, воп. 3, ад.з. 2. Арк. 12 адв.; ад.з. 1. Арк. 86, 549; воп. 1, ад.з. 40. Арк. 229; Авейде О. Показания и записки о польском восстании 1863 года. Москва, 1961. С. 625.

[12] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 2. Арк. 10 адв.-11, 48 адв., 56, 122; ад.з. 1. Арк. 48 адв., 52, 100-104, 361 адв.; ад.з. 4. Арк. 22-23.

[13] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 2. Арк. 11, 189, 191, 193; ад.з. 1. Арк. 554 адв.; ад.з. 4. Арк. 30-31, 34; воп. 1, ад.з. 40. Арк. 157.

[14] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 2. Арк. 10; ад.з. 1. Арк. 35, 49, 384; ад.з. 4. Арк. 16 адв.

[15] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 4. Арк. 41-41 адв.; ад.з. 2. Арк. 147-153, 165 адв.; ад.з. 1. Арк. 553 адв.; Ф. 3, воп. 1, ад.з. 40. Арк. 6 адв.

[16] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 4. Арк. 50 адв.-51; Ф. 3, воп. 3, ад.з. 2. Арк. 11 адв., 322-324; ад.з. 1. Арк. 556; воп. 1, ад.з. 40. Арк. 23 адв.

[17] Гэта быў масавы дэманстрацыйны крок патрыятычнай шляхты.

[18] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 2. Арк. 10-11, 16, 165 адв., 174 адв., 176; с. 1.. Арк. 547, 552 адв.; с. 4. Арк. 37; Jodkowski J. Notatki i uzupełnienia sylwetek z r. 1863 // Echo Grodzieńskie. 1923. Nr 179. S. 3.

[19] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 4. Арк. 52-55 адв.; ад.з. 2. Арк. 338-342 адв.; ад.з. 1. Арк. 559 адв.; Памятная книжка Гродненской губернии на 1860 г. Гродна, 1869. С. 41.

[20] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 2. Арк. 11 адв., 68-70, 83-84, 167, 192; ад.з. 1. Арк. 1-4, 191-193 адв.; ад.з. 3. Арк. 148; воп. 1, ад.з. 40. Арк. 85 адв.

[21] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 4. Арк. 46 адв.-47; Ф. 3, воп. 3, ад.з. 2. Арк. 165 адв.; ад.з. 1. Арк. 548 адв.; воп. 1, ад.з. 40. Арк. 152, 154; Jodkowski J. Notatki i uzupełnienia sylwetek z r. 1863 // Echo Grodzieńskie. 1923. Nr 17. S. 3.

[22] Авейде О. Показания и записки... С. 475.

[23] Кісялёў Г. Радаводнае дрэва: К. Каліноўскі - эпоха - наступнік. Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. С. 35.

[24] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 2. Арк. 11, 47 адв., 167 адв., 190 адв., 203 адв.; ад.з. 1. Арк. 84, 547, 552; воп. 1, ад.з. 40. Арк. 147, 151; Jodkowski J. Rok 1863 w powiecie Grodzieńskim // Echo Grodzieńskie. 1921. № 173. S. 3; Буднік І.Ф. Да падзеяў 1863-64 гг. на Гродзеншчыне. Гродна: ЮрСапрынт, 2013. 108 с.

[25] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 4. Арк. 67 адв.-68 адв.; ад.з. 2. Арк. 11, адв 219; ад.з. 1. Арк. 555; Jodkowski J. Rok 1863 w powiecie Grodzieńskim // Echo Grodzieńskie. 1921. № 174. S. 3.

[26] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 1. Арк. 384, 414, 563 адв.; Электронны рэсурс: narod.ru|1864|Spis-kalinovski.htm. Дата доступу: 16.01.2013; Памятная книжка Гродненской губернии на 1860 г. Гродна, 1859. С. 32; Кісялёў Г. Разам з вялікім Касусём // Беларуская мова і літаратура ў школе. 1989. № 2. С. 48; Яго ж. Радаводнае дрэва: К. Каліноўскі - эпоха - наступнікі. С. 35-36.

[27] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 4. Арк. 62; ад.з. 2. Арк. 11 адв., 386-388; ад.з. 1. Арк. 558 адв.

[28] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 4. Арк. 56-57 адв.; Ф. 3, воп. 3, ад.з. 2. Арк. 10, 22 адв., 49 адв., 351-355; ад.з. 1. Арк. 312-316 адв., 323, 361 адв.; воп. 1, ад.з. 40. Арк. 254-263.

[29] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 4. Арк. 24-25 адв., 75-76, 81-81 адв.; ад.з. 1. Арк. 51; ад.з. 1. Арк. 59, 92-97.

[30] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 4. Арк. 51-52, 325-331; ад.з. 1. Арк. 514, 559; Jodkowski J. Rok 1863 w powiecie Grodzieńskim // Echo Grodzieńskie. 1921. № 176. S. 3.

[31] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 1, ад.з. 40. Арк. 283-292.

[32] НГАБ у Гародні. Ф. 3, воп. 3, ад.з. 4. Арк. 62 адв.-63; ад.з. 2. Арк. 34, 359-361; ад.з. 1. Арк. 317-319,376; Ф. 3, воп. 1, ад.з. 40. Арк. 6 адв.; Ф. 1, воп. 13, ад.з. 1399. Арк. 158 адв.

*Тацяна Казак (Гародня)*
*Андрэй Вашкевіч (Гародня)*

# Паўстанне 1863 г. у навуковай спадчыне Юзафа Ядкоўскага

*Наш край у 1863-1864 гадах паклаў на алтар Айчыны вялізарную ахвяру з тысяч сваіх сыноў і дачок. Адныя загінулі ў баях на палях бітваў або памерлі ў турмах, іншых расстралялі або павесілі, шмат было выслана ў Сібір. Толькі адзінкі вярнуліся дахаты.*
Юзаф Ядкоўскі

У міжваенны перыяд гісторыі Гародні тэма паўстання 1863 г. згадвалася досыць часта. Адной з найбольш важных датаў стаў 1933 г., калі ў горадзе адбылося адразу некалькі святкаванняў: 400-годдзе ад нараджэння Стэфана Баторыя, 200-годдзе ад нараджэння Антонія Тызэнгаўза, 100-годдзе з дня смерці Міхала Валовіча і 70-годдзя паўстання 1863 г. Аднак апошні юбілей застаўся крыху ў ценю і шырока не адзначаўся. Затое мясцовыя арганізацыі вылучылі са сваіх сродкаў грошы на ўзнагароды для паўстанцаў: польскі банк выдаў 50 злотых, магістрат – 150 зл., камунальная каса – 150 зл.[1]

Святочныя мерапрыемствы адбываліся 23 студзеня 1933 г. Ва ўсіх касцёлах Гародні прайшлі ўрачыстыя службы. Сярод іншых падзеяў газета "Ostatnie Wiadomości Grodzieńskie" найбольш пісала пра новую адукацыйную ініцыятыву, у якой была заўважальная роля Юзафа Ядкоўскага. 22 студзеня менавіта яго лекцыя пра паўстанне ў Гарадзенскім павеце адкрывала Агульны ўніверсітэт у Гародні, арганізаваны магістратам[2]. Газета нават апублікавала адмысловы дадатак –"Powstanie Styczniowe 1863 roku"[3].

Юзаф Ядкоўскі цікавіўся паўстаннем як кіраўнік музея і як даследчык. У першым выпадку яго галоўнай задачай было павялічэнне музейных збораў і фарміраванне пастаяннай экспазіцыі музея, а ў другім – падрыхтоўка навуковых і краязнаўчых прац, прысвечаных падзеям паўстання. Паўстанне 1863 г. знайшло адлюстраванне на старонках такіх вядомых прац даследчыка як "Grodno" (Вільня, 1923)[4] і "Gimnazium po-dominikańskie w Grodnie" (Гродна, 1924)[5]. У апошняй працы даследчык спасылаўся на сведчанні

ўдзельніка выправы на гарадзенскі вакзал у сакавіку 1863 г. Ільдэфонса Клюкоўскага, што сведчыць пра пошук Ю.Ядкоўскім успамінаў для напісання прац пра паўстанне[6]. У міжваенны перыяд у Гародні яшчэ жылі некалькі ўдзельнікаў паўстання, якія, праўда, не займалі важных пасадаў у паўстанцкай іерархіі. Гэта былі Фелікс Абуховіч (1828-1924), Уладзіслаў Календа (памёр у 1940)[7], а таксама габрэй Майсей Рагачэўскі, які памёр у сакавіку 1934 г. ва ўзросце 113 гадоў[8]. Магчыма, Ю.Ядкоўскі сустракаўся і з імі таксама.

Цягам 1920-х гг. Юзаф Ядкоўскі напісаў некалькі артыкулаў, прысвечаных паўстанню на Гарадзеншчыне: "Рамуальд Траўгут"[9], "Святое балота"[10] і, найбольш цікавы, "Паўстанне 1863 г. у Гарадзенскім павеце", надрукаваны ў 1921 г. (з дадаткам у 1923 г.)[11]. Усе артыкулы былі надрукаваныя на старонках мясцовых газет, у першую чаргу трэба прыгадаць "Echo Grodzieńskie", якое выходзіла ў 1921 – 1924 гг. Тэкст пра паўстанне ў Гарадзенскім павеце друкаваўся на працягу года ў некалькіх частках і стаў абагульняючай працай пра падзеі 1863 г. у горадзе і ваколіцах. Між іншым там пералічваліся ўдзельнікі падзеяў 1863 – 1864 гг., падавалася інфармацыя пра ўзрост, меру пакарання, вызваленне і зрэдку пра вяртанне на Радзіму.

Юзаф Ядкоўскі працаваў з дакументамі Ваенна-следчай камісіі. Пры гэтым ён быў знаёмы з некаторымі ўдзельнікамі паўстання і ведаў пра іх далейшы лёс, што асабліва важна для нас. Таксама сярод удзельнікаў згадваліся некалькі асобаў пад прозвішчам даследчыка. Магчыма, гэта сваякі Юзафа Ядкоўскага, які займаўся яшчэ і складаннем уласнага радавода.

У 1920 г. паўстаў музей, які адчыніў свае дзверы ў будынку староства ў 1922 г. Збор музейных экспанатаў быў адным з жыццёвых прыярытэтаў Ю.Ядкоўскага, якому ён аддаваў усе свае сілы. Магчыма, якраз таму пасля 1921 г. з-пад яго пяра не выйшла новых значных артыкулаў на тэму паўстання 1863 г.

Справа вывучэння паўстання і ўшанавання яго герояў перапляталася з дзейнасцю музея, тым больш, што Ю.Ядкоўскі займаў таксама пасаду ваяводскага "кансерватара" помнікаў мінуўшчыны. Так, у музей звяртаўся кіраўнік школы ў Мастах з просьбай аб усталяванні памятнай дошкі на магіле паўстанцаў 1863 г. у маёнтку Міхайлаўка. Ядкоўскі дапамог, і ў 1935 г. на магіле быў усталяваны помнік. Запрашэнне на ўдзел у яго адкрыцці было прысланае ў музей[12]. У зборах музея захаваліся нататкі Юзафа Ядкоўскага пра двух удзельнікаў паўстання – Юзафа Руткоўскага і Цэлясціна Цэханоўскага. Захавалася таксама перапіска пра знойдзеныя каля

Астраленкі летам 1929 г. паўстанцкія рэчы, якія, як высветлілася пазней, паходзілі з часоў паўстання 1831 г[13].

Але менавіта пошук рэчаў, звязаных з паўстаннем, стаўся адным з найважнейшых накірункаў яго дзейнасці. У першай пастаяннай экспазіцыі музея ў будынку Гарадзенскага староства ў вялікай вітрыне трэцяй залы былі прадстаўлены дзве пячаткі нацыянальных рэвалюцыйных камітэтаў 1863 г., якія і сёння знаходзяцца ў экспазіцыі музея[14].

Адным з самых цікавых экспанатаў стаў г.зв. "альбом паўстанцаў", перададзены музею ў пачатку 1920-х гг. Уладальнік альбома Юзаф Маркевіч у 1863 г. займаў пасаду лекара гарадзенскага акруговага шпіталя і займаўся зборам падаткаў для Гарадзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі. Быў высланы. А пасля вяртання жыў у Варшаве. Ягоны сын, які кіраваў у Гародні павятовым аддзяленнем польскага банка, быў жанаты з роднай сястрой Юзафа Ядкоўскага. Відаць, менавіта ён і перадаў альбом у музей[15]. Альбом утрымлівае 90 здымкаў, якія паходзяць з розных фатаграфічных устаноў былой Расійскай імперыі[16]. Каля 10 чалавек на здымках прымалі ўдзел у паўстанні 1863 г. Гэта паўстанцкі начальнік Вільні Ігнат Здановіч; Адольф Мікульскі (належаў да Менскай паўстанцкай арганізацыі); кіраўнік паўстанцаў на Наваградчыне Уладзіслаў Брахоцкі; удзельнік патрыятычных маніфестацый у Друскеніках доктар Ян Пілецкі.

Таксама ў альбоме змешчаны здымкі першага і другога мужоў Элізы Ажэшкі – Пятра Ажэшкі і Станіслава Нагорскага. Ёсць і сваякі ўдзельнікаў паўстання, напрыклад маці доктара Юзафа Маркевіча, або Маўрыцы Кашуба з жонкай, напэўна сваякі Адольфа і Юзафа Кашубаў, што прымалі ўдзел у выправе на Парэчча. Таксама Юзафам Ядкоўскім былі перафатаграфаныя з арыгіналаў партрэты Людвіка Нарбута і памешчыка з Міневіч каля Гародні, сябра Э. Ажэшкі Яна Каменскага[17].

У 2009 г. у фондах Гарадзенскага гісторыка-археалагічнага музея падчас падрыхтоўкі да выставы "Люстэрка мінулага" (да 170-годдзя вынаходніцтва фатаграфіі) былі выяўлены дагератып і фотаздымак на скуры. Як вядома дагератып – гэта першыя ў гісторыі фатаграфіі, якія выконваліся на меднай пасярэбранай пласціне. На дагератыпе, магчыма, адзіным, які захаваўся ў Беларусі – юнак у службовым ці гімназічным мундзіры. На здымку на скуры – мужчына ў канфедэратцы. Нам нічога невядома пра асобаў на здымку, але з вялікай доляй верагоднасці можна сцвярджаць, што трапілі яны ў музей у часы Ю. Ядкоўскага. Цалкам верагодна, што гэтыя асобы таксама ўдзельнічалі ў паўстанні[18].

Публікацыі Юзафа Ядкоўскага, а таксама ягоная дзейнасць па выяўленню і экспанаванню прадметаў часоў паўстання 1863 г. у музеі значна пашыраюць нашыя ўяўленні пра гэтыя падзеі.

Створаны ім музей працягвае традыцыю вывучэння падзеяў паўстання 1863 г., як і збор экспанатаў па гэтай тэме. Сярод найбольш цікавых рэчаў, звязаных з паўстаннем, што трапілі ў музей ужо пасля Другой сусветнай вайны і смерці Ю.Ядкоўскага, можна назваць багата аздобленую паўстанцкую шаблю[19], дзённік паўстанца, сасланага ў Сібір[20], чапец маці Людвіка Нарбута Крыстыны Остык-Нарбут[21] ды інш. Сабрана значная колькасць мастацкіх работ, прысвечаных паўстанню[22].

Своеасаблівым падсумаваннем вынікаў пошукавай працы стала сумесная выстава Гарадзенскага гісторыка-археалагічнага музея і музея "Аўшрос" (г. Шаўляй, Літва) пад назвай "Паўстанне 1863 г.: твары, імёны, гісторыі", якая экспанавалася ў Гародні ў лістападзе 2013 – студзені 2014 гг. На 2014 г. запланавана выданне сумеснага каталога экспанатаў музеяў Літвы і Беларусі, якія тычацца паўстання 1863 г.

---

[1] Obchód 70-tej rocznicy powstania styczniowego // Ostatnie Wiadomości Grodzieńskie. 1933. 23 stycznia. S. 6.

[2] Niedzielny Uniwersytet Powszechny // Ostatnie Wiadomości Grodzieńskie. 1933. 18 stycznia. S. 6.

[3] Ostatnie Wiadomości Grodzieńskie. 1933. 21 stycznia. S. 6.

[4] Jodkowski J. Grodno. Wilno, 1923. S. 48-50.

[5] Jodkowski J. Gimnazium po-dominikańskie w Grodnie. Grodno: Muzeum Państwowe, 1924.

[6] Jodkowski J. Gimnazium po-dominikańskie... S. 32.

[7] Rozmus J., Gordziejew J. Cmentarz farny w Grodnie 1792–1939. Kraków, 1999. S. 100, 105.

[8] Grodno. Grodno, 1936. S.114.

[9] Jodkowski J. Romuald Traugutt // Echo Grodzieńskie. 1921. Nr 174.

[10] Jodkowski J. Święţę Błoto // Echo Grodzieńskie. 1921. Nr 77.

[11] Апошні артыкул перакладзены на беларускую мову і будзе надрукаваны ў бліжэйшым нумары альманаха "Горад Святога Губерта" (том 8).

[12] Гэтая магіла адноўленая і знаходзіцца каля в. Пацэвічы Мастоўскага раёна. Гл.: Шляхамі паўстання 1863 года. Мінск, 2013. С. 8.

[13] Архіў Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-архелагічнага музея (ГДГАМ). Папка "Археалогія".

[14] Адна з пячатак належала Рэвалюцыйнаму нацыянальнаму камітэту, другая Нацыянальнаму ўраду Варшавы. Якім чынам трапілі ў музей гэтыя выключна цікавыя прадметы, невядома. Пра лёс гарадзенскіх паўстанцкіх пячатак гл.: Jurij Sztakelberg. Pieczęcie powstańcze 1863 – 1864. Warszawa, 1988. S. 81, 342-343.

[15] Игнатович Ф.И. Медицинское и лекарственное обеспечение ўчастников восстания 1863 года в северо-западном регионе Беларуси // Мінулае Гродзеншчыны. Выпуск 10. Гродна, 2004. С. 19.

[16] Госцеў А.П. Вяртанне мінулага // Музей і развіццё гістарычнага краязнаўства. Гродна, 1990. С. 21-23.

[17] ГДГАМ. Адз. зах. КП-24358/122, 124

[18] Невядома, ці існавалі на тэрыторыі сучаснай Беларусі майстэрні дагератыпаў. Аднак вядома, што ў сярэдзіне XIX ст. курорт у Друскеніках наведваў мастак, які на замову рабіў дагератыпы з партрэтамі.

[19] ГДГАМ. Адз. зах. КП–25519. Шабля была перададзена ў музей у 1959 г. з Калужскага краязнаўчага музея, куды трапіла ў 1920 г. (дар невядомай асобы).

[20] ГДГАМ. Адз. зах. КП–27822. Дзённік быў перададзены ў музей у 1973 г. жыхаром Гародні А.Абідоўскім. Са зместу вынікае, што на момант напісання дзённіка, аўтару было ўсяго каля 14 гадоў і паходзіў ён з Магілёва або яго ваколіц. Гэтая інфармацыя дазваляе меркаваць, што аўтар дзённіка быў навучэнцам Горы-Горацкага сельскагаспадарчага інстытута або адной з мясцовых гімназій.

[21] ГДГАМ. Адз. зах. НД-14565. Чапец быў перададзены ў 1993 г. у музей Янінай Пелерт, сваячкай К.Остык-Нарбут.

[22] Сярод гэтых работ аўтарскія копіі вядомых карцін Пётра Сергіевіча “Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў” і “Кастусь Каліноўскі і Валеры Урублеўскі робяць агляд паўстанцаў”.

*Ксенія Церашкова*
*(Менск)*

# Праблемы трансфармацыі сацыяльнага і прававога статусу мяшчан Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст.

Ва ўмовах пашырэння мадэрнізацыйных працэсаў у другой палове XIX ст. – пачатку XX ст. адбываліся істотныя змены ў грамадстве Беларуска-літоўскіх губерняў Расійскай імперыі. Адной з важнейшых праблем станавілася трансфармацыя сацыяльнага і прававога статусу насельніцтва дадзеных губерняў, а таксама адпаведнасць заканадаўства фактычнаму становішчу асобных сацыяльных катэгорый.

У сучаснай беларускай гістарыяграфіі ў якасці асновы для фарміравання адкрытай структуры грамадства Расійскай імперыі гэтага перыяду звычайна разглядаецца катэгорыя "мяшчан"[1]. У адпаведнасці з заканадаўствам мяшчане ўяўлялі сабой складовую саслоўя гарадскіх абывацеляў, да якой магчыма прымяненне катэгорыі "саслоўная група" ці "саслоўны разрад". Сістэма сацыяльнага кантролю ў асяродку мяшчан на працягу XIX ст. рэгулявалася шэрагам заканадаўчых актаў, паводле якіх мяшчане надзяляліся правамі саслоўнага самакіравання і складалі г.зв. "мещанские общества"[2].

Для разумення сацыяльнага статусу і складу мяшчан Беларуска-літоўскіх губерняў у другой палове XIX – пачатку XX ст. важным з'яўляецца аналіз дынамікі колькасці і крыніц папаўнення гэтай саслоўнай групы.

Дынаміка колькаснага складу мяшчан Беларуска-літоўскіх губерняў у 60-я гг. XIX – пачатку XX ст. характарызавалася тэндэнцыяй да павялічэння як па абсалютных, так і па адносных паказчыках. Так, паводле дадзеных 1858 г., у шасці Беларуска-літоўскіх губернях налічвалася 662 723 мешчаніна, удзельная вага якіх складала 12,3% ад усяго насельніцтва. У 1897 г. падчас Першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва мяшчан налічвалася ўжо 2 108 414, а іх удзельная вага ўзрасла да 21%[3]. Такім чынам, у перыяд з 1858 па 1897 г. колькасць мяшчан у Беларуска-літоўскіх губернях павялічы-

лася ў 3,2 разы. Пры гэтым прырост колькасці мяшчан па стану на 1897 г. у параўнанні з 1858 г. склаў 218,1%, што значна перавысіла паказчык прыросту ўсяго насельніцтва (86,3%), у т.л. як гарадскога (171,2%), так і сельскага (77,8%)[4].

Сярод крыніц папаўнення мяшчан фігуруюць такія сацыяльныя катэгорыі як купцы, сяляне, дзеці асабістых дваран, якія не мелі афіцэрскіх чыноў, "инородцы" (у адносінах да Беларуска-літоўскіх губерняў перш за ўсё – габрэі), а таксама г.зв. "лица, обязанные избирать род жизни", да якіх па заканадаўству Расійскай імперыі былі аднесены дастаткова шырокія і неаднародныя катэгорыі насельніцтва: незаконнанароджаныя, падкідышы, якія знаходзіліся пад апекай "Приказа общественного призрения", дзеці канцылярскіх служачых, вучні лекараў, асобы, звольненыя з духоўных і царкоўных саслоўяў, іншаземцы, якія прынялі расійскае падданства, габрэі, прыняўшыя хрысціянскую веру ды іншыя[5]. Стракаты і неаднародны сацыяльны склад крыніц папаўнення мяшчан быў абумоўлены спецыфікай прававога статусу дадзенай сацыяльнай катэгорыі. Таксама ён быў звязаны з імненнем з боку ўрадавых колаў да захавання саслоўнай структуры грамадства і неабходнасцю ўладкавання асобаў, якія аказваліся па-за межамі саслоўнай структуры насельніцтва (прадстаўнікі шляхты, незацверджаныя Дэпартаментам герольдыі; "лица, обязанные избирать род жизни" ды інш.). Пэўную ролю адыгрывала імкненне пэўных катэгорый насельніцтва (напр., сялян) да змены свайго сацыяльнага і прававога статусу.

У канцы XIX – пачатку XX ст., паводле дадзеных Менскай, Слуцкай, Віцебскай, Магілёўскай і Лідскай мяшчанскіх управаў, важная роля належала ўнутрысаслоўным крыніцам папаўнення (купцам, мяшчанам іншых населеных пунктаў). Акрамя таго адбывалася выразнае павелічэнне ўдзельнай вагі г.зв. "прыпісных" элементаў, якія фармальна залічваліся ў катэгорыю "мяшчан" па распараджэнні чыноўнікаў "Казённай палаты". Іншыя сацыяльныя катэгорыі пры перасяленні ў гарады і мястэчкі ў большасці выпадкаў захоўвалі ўласную саслоўную прыналежнасць і не ўваходзілі ў склад мяшчан[6].

У канцы XIX – пачатку XX ст. мяшчане з'яўляліся адной з самых адкрытых і дынамічных саслоўных груп у структуры насельніцтва Беларуска-літоўскіх губерняў. Як саслоўная група яны захоўвалі адзінства выключна ў юрыдычнай сферы. Неаднастайнасць і стракатасць крыніц папаўнення саслоўя мяшчан садзейнічалі фарміраванню ў межах сацыяльнай катэгорыі асобных маргінальных груповак, што паступова разбурала саслоўную ідэнтычнасць.

У Беларуска-літоўскіх губернях дадзеная тэндэнцыя адчувалася больш востра, чым ва ўнутраных губернях Расійскай імперыі ў сувязі з актывізацыяй працэсу "разбору шляхты" пасля паўстання 1863 г. і пераводам "однодворцев" і "почетных граждан" г.зв. "заходніх губерняў" у падатковыя саслоўі. Асаблівасцю мяшчанства дадзеных губерняў таксама з'яўляўся іх этнаканфесійны склад ва ўмовах існавання мяжы габрэйскай аселасці. Складанасць сацыяльных аспектаў папаўнення мяшчан суправаджалася дастатковай аднароднасцю іх тэрытарыяльнага паходжання[7].

На працягу другой паловы XIX – пачатку XX ст. назіралася значнае павышэнне сацыяльнай мабільнасці мяшчан Беларуска-літоўскіх губерняў і вызначаліся асноўныя яе накірункі. Найбольшае значэнне для вертыкальнай сацыяльнай мабільнасці, як сведчаць дадзеныя мяшчанскіх управаў, набылі пераходы ў купцы, для гарызантальнай (тэрытарыяльнай) – пераходы ў мяшчанства іншых населеных пунктаў. Паміж мяшчанамі і купцамі, якія ўваходзілі ў склад саслоўя "городских обывателей", не існавала рэзкай і трывалай мяжы. З аднаго боку, мяшчане, якія выкупалі гільдзейскія пасведчанні, пераходзілі ў купцы, з іншага – купцы, якія не працягвалі гэтыя пасведчанні, пераводзіліся ў мяшчане.

Сацыяльная мабільнасць мяшчан ажыццяўлялася праз такія сацыяльныя інстытуты як адукацыя, наяўнасць капіталу і ўласнасці, дзяржаўная служба, сям'я, армія ды інш. У канцы XIX – пачатку XX ст. пашырыліся выхады з мяшчанскіх грамадстваў, звязаныя з павышэннем адукацыйнага ўзроўню і прафесійнай спецыялізацыяй. Заканчэнне пэўных навучальных устаноў адкрывала магчымасць вертыкальнай сацыяльнай мабільнасці для мяшчан, напр., шляхам залічэння іх у катэгорыю "почетных граждан", паступлення на дзяржаўную службу і г.д. Тэрытарыяльны аспект перамяшчэнняў быў абумоўлены як эканамічнай кан'юнктурай, так і заканадаўчай базай (існаванне мяжы габрэйскай аселасці). На працягу другой паловы XIX – пачатку XX ст. назіралася пашырэнне тэрытарыяльных аспектаў выхаду з мяшчанскіх грамадстваў, пры гэтым асноўная хваля перасяленняў прыходзілася на паўднёвыя губерні Расійскай імперыі.

Трансфармацыя прававога статусу мяшчан, закрануўшая правы і абавязкі дадзенай катэгорыі насельніцтва, у значнай ступені адлюстроўвала агульныя тэндэнцыі сацыяльнага развіцця. Прававы статус мяшчан як складовай саслоўя "городских обывателей" характарызаваўся вызначаным комплексам правоў і абавязкаў. Мяшчане Беларуска-літоўскіх губерняў валодалі значнымі правамі, да

якіх адносіліся права вядзення гандлёва-прамысловай дзейнасці, валодання нерухомай маёмасцю і ненаселенымі землямі, права на саслоўнае самакіраванне ды інш. Пры гэтым мяшчане выконвалі як грашовыя, так і натуральныя павіннасці, функцыю раскладкі і адказнасць за выплату якіх несла грамадства. Пры фарміраванні прававых асноваў сацыяльнай стратыфікацыі гарадскога насельніцтва і размежаванні суб'ектаў сацыяльнай структуры Расійскай імперыі заканадаўчымі актамі канца XVIII ст. было замацавана выключнае права мяшчан на гандлёва-прамысловую дзейнасць. У цэлым правы мяшчан Беларуска-літоўскіх губерняў у гандлёва-прамысловай сферы адпавядалі агульнарасійскім нормам пры некаторых асаблівасцях заканадаўства ў адносінах да мяшчан-габрэяў.

У другой палове XIX ст. адбывалася пашырэнне магчымасцяў прафесійнай дзейнасці мяшчан, звязанае з прыняццем законаў ад 25 кастрычніка 1862 г. і ад 12 чэрвеня 1862 г.[8] Разам з тым, найбольшыя змены прававога становішча мяшчан былі звязаны з рэфармаваннем гандлёва-прамысловага падаткаабкладання ў сувязі з прыняццем заканадаўчых актаў ад 1 студзеня 1863 г., 9 лютага 1865 г. і, асабліва, закона ад 8 чэрвеня 1898 г. Яны ўсталёўвалі пэўны кампраміс паміж саслоўным і бессаслоўным прынцыпамі падаткаабкладання, у адпаведнасці з якім памеры выплаты залежалі не ад саслоўнай прыналежнасці ўладальніка, а ад непасрэднага прыбытку прадпрыемства[9].

Рэфармаванне гандлёва-прамысловага падаткаабкладання ў другой палове XIX ст. было выклікана зрухамі ў эканамічнай сферы і садзейнічала развіццю гандлёва-прамысловай дзейнасці і інтэграцыі гандлёва-прамысловых колаў. У 70 – 80 гг. XIX ст. адбываўся працэс пашырэння мяшчанскіх прамысловых прадпрыемстваў, які дасягнуў найбольшага развіцця ў канцы XIX – пачатку XX ст.. Паводле некаторых падлікаў, мяшчанам г.зв. "заходніх губерняў" па стану на 1900 г. належала ўжо да 20% прадпрыемстваў буйной прамысловасці[10].

Прававы статус мяшчан уключаў таксама права выбару месца жыхарства і міграцыі, якое па заканадаўству Расійскай імперыі было абмежавана неабходнасцю атрымання адпаведнага "вида" на перамяшчэнне, г.зн. пашпарта ці пашпартнай кніжкі. Пры гэтым у адрозненні ад агульнарасійскіх нормаў сталым месцам жыхарства мяшчан лічыліся не толькі гарады, але і прыватнаўласніцкія землі ці мястэчкі[11].

Пэўная лібералізацыя заканадаўства адбылася ў 1906 г., калі быў прыняты закон, паводле якога пастаянным месцам жыхар-

ства лічылася месца, дзе мяшчане вялі гаспадарчую дзейнасць, знаходзіліся на дзяржаўнай службе або мелі нерухомую маёмасць[12]. Пры гэтым права выбару месца жыхарства і міграцыі мяшчанамі-габрэямі былі дэтэрмінаваныя існаваннем мяжы габрэйскай аселасці, якая была адменена толькі 20 сакавіка 1917 г. пастановай Часовага ўрада "Аб адмене веравызнальных і нацыянальных абмежаванняў"[13].

Правы і абавязкі мяшчан у маёмаснай сферы ў значнай ступені вызначаліся памерамі нерухомай маёмасці і зямельных уладанняў. У акрэслены перыяд мяшчане Беларуска-літоўскіх губерняў карысталіся правам валодання і набыцця нерухомай маёмасці ў гарадах і мястэчках, а таксама ненаселеных земляў. У сувязі з тым, што зямельная ўласнасць і пазямельныя адносіны з'яўляліся асновай традыцыйнага грамадства і вызначалі сацыяльную структуру і ўнутраную палітыку Расійскай імперыі, вялікая ўвага надавалася рэгуляванню кола суб'ектаў права зямельнай уласнасці. Пры гэтым урадавая палітыка была накіравана на абмежаванне маёмасных правоў неправаслаўных мяшчан.

Ва ўмовах рэпрэсій пасля паўстання 1863 – 1864 гг. і палітыкі "водворения русского элемента в Западном крае" ў другой палове XIX ст. адбывалася скарачэнне маёмасных правоў насельніцтва каталіцкага веравызнання, што закранула ў тым ліку правы мяшчан (заканадаўчыя акты ад 10 снежня 1865 г., 27 снежня 1884 г., 27 жніўня 1885 г., 5 снежня 1888 г.)[14]. Нявырашаным пытаннем прававога становішча з'яўлялася таксама валоданне зямлёй на аснове чыншавага права. Закон ад 9 чэрвеня 1886 г., накіраваны на ліквідацыю чыншавых адносінаў, датычыў сельскіх чыншавікоў і не адносіўся да гарадскіх чыншавых уладанняў[15].

Да пачатку XX ст. удзельная вага мяшчанскага землеўладання ў структуры асабістага землеўладання Беларуска-літоўскіх губерняў заставалася нязначнай. Важнай характарыстыкай землеўладання мяшчан з'яўлялася тэндэнцыя росту іх зямельных уладанняў, а таксама значная канцэнтрацыя буйнога і сярэдняга землеўладання. Паводле дадзеных Першага пазямельнага перапісу 1877 г., удзельная вага мяшчанскага землеўладання складала 2,6% зямельнага фонду (333 044 дз.)[16].

Разам з тым, характэрнай асаблівасцю землеўладання дадзенай катэгорыі насельніцтва з'яўляліся дастаткова хуткія тэмпы росту іх зямельных уладанняў, якія да пачатку XX ст. павялічыліся амаль у два разы і складалі па дадзеных 1905 г. 4,8% (624 495 дз.) зямельнага фонду, які знаходзіўся ў асабістай уласнасці[17]. Най-

больш моцныя пазіцыі ў асабістым землеўладанні мелі мяшчане Гарадзенскай губ., зямельныя ўладанні якіх за акрэслены перыяд павялічыліся з 58 106 дз., што складала 4,8% у асабістым землеўладанні губерні, да 153 332 дз. Пры гэтым іх удзельная вага дасягнула 14,3%.

Таксама заўважальнае ўзмацненне пазіцый мяшчанскага землеўладання ў Віцебскай і Магілёўскай губ. Так, памеры мяшчанскага землеўладання ў Віцебскай губ. па абсалютных паказчыках павялічыліся з 86 595 дз. да 140 138 дз., а іх удзельная вага з 4,5% да 7,2%, на тэрыторыі Магілёўскай губ. – з 70 896 (3,2%) да 158 264 (8,5%)[18].

Складаны характар насіла рэгуляванне маёмасных правоў мяшчан-габрэяў Беларуска-літоўскіх губерняў. Прававымі актамі другой палове XIX ст. габрэям канчаткова забаранялася набываць зямлю ад памешчыкаў і сялян (10 ліпеня 1864 г.) і прыпыняліся правы набыцця ці ажыццяўлення закладных і арэндных актаў на нерухомую маёмасць па-за гарадамі і мястэчкамі ў мяжы габрэйскай аселасці (3 мая 1882 г.)[19].

На працягу акрэсленага перыяду мяшчанам як падатковай катэгорыі насельніцтва, паводле заканадаўства Расійскай імперыі быў закрыты доступ да дзяржаўнай службы. Пры гэтым каналы сацыяльнай мабільнасці, якія дазвалялі абысці гэтыя абмежаванні, заставаліся нязменнымі: атрымаць “классный чин”, закончыць адпаведныя навучальныя ўстановы, атрымаць вучоную ці акадэмічную ступень[20]. Нягледзячы на прадстаўленне доступу да асобных дзяржаўных пасад падатковым катэгорыям насельніцтва законам ад 5 кастрычніка 1906 г., магчымасці іх рэалізацыі па-ранейшаму былі абумоўлены саслоўнай прыналежнасцю асобы[21]. Пры гэтым у г.зв. “заходніх губернях” у сувязі з недаверам ураду да мясцовага дваранства правы мяшчан пры паступленні на дзяржаўную службу ў значнай меры вызначаліся іх этнаканфесійнай прыналежнасцю.

Пасля ўвядзення ў другой палове XIX ст. падаткаў з нерухомай маёмасці, на права гандлю і промыслаў, з грашовых капіталаў, а таксама дзяржаўнага кватэрнага падатку адбылася прынцыповая рэарганізацыя падатковай сістэмы Расійскай імперыі, што аказала значны ўплыў на трансфармацыю прававога статусу мяшчан.

Такім чынам, на працягу разглядаемага перыяду саслоўныя правы мяшчан ўсё яшчэ рэгуляваліся ў адпаведнасці з IX томам “Свода законов Российской империи”. Заканадаўства не перапрацоўвалася і не ўдакладнялася. Пры гэтым сучаснікі ўсведамлялі

неадназначнасць іх прававога статусу і лічылі гэта адной з нявырашаных праблем прававой культуры. Так, паводле Я.В.Абрамава, у 80-я гг. XIX ст. *“в законодательном порядке положение мещанства осталось совершенно неопределившимся”*[22]. М.П.Дружынін адзначыў, што *“относительно мещан нет особого законодательства [...] Мещанство предоставлено самому себе. Положительно нет ни одной меры, ни одного закона, который серьезно имел бы в виду нужды и потребности мещан. Мещан как бы не существовало”*[23].

У той жа час змены ў іншых галінах заканадаўства ў сувязі з саслоўнай парадыгмай IX тома “Свода законов Российской империи”, апошняе выданне якога выйшла ў 1899 г., набылі значэнне саслоўных прававых актаў. Можна канстатаваць, што на пачатку XX ст. прававы статус мяшчан ужо не адпавядаў фактычнаму становішчу дадзенай катэгорыі насельніцтва.

Як ужо адзначалася, асноўнай характарыстыкай сацыяльнага статусу асобы ў Расійскай імперыі з’яўлялася яе саслоўная прыналежнасць. Разам з тым у Беларуска-літоўскіх губернях прававы статус асобы ў межах асобнага саслоўя ці саслоўнай групы ў значнай ступені быў дэтэрмінаваны менавіта этнаканфесійнай прыналежнасцю. У межах урадавага курса па пашырэнні расійскага ўплыву на акрэсленыя тэрыторыі найбольш шырокімі правамі былі надзелены праваслаўныя мяшчане, у сувязі з чым дадзеная катэгорыя мяшчан па сваіх правах і абавязках набліжалася да агульнарасійскіх нормаў. Акрамя таго, прававы статус мяшчан Беларуска-літоўскіх губерняў характарызаваўся рэгіянальнай спецыфікай у межах вышэйназваных губерняў.

---

[1] Каханоўскі А.Г. Асаблівасці эвалюцыі саслоўных інстытутаў у Беларусі ў XIX – пачатку XX ст. // Веснік БДУ. Серыя 3. 2009. № 3. С.14.

[2] Свод законов Российской империи: издание 1899 года. СПб., 1899. Т. 9: Законы о состояниях. ст. 563-574.

[3] Статистические таблицы Российской империи. Вып.2. Наличное население империи за 1858 год. СПб.,1863. С.270-271; Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. 4: Виленская губерния. Тетрадь 3. СПб., 1904. С. 2-3; Первая всеобщая перепись... 5: Витебская губерния. Тетрадь 3. СПб., 1903. С. 2-3; Первая всеобщая перепись… 11: Гродненская губерния. СПб., 1904. С. 2-3; Первая всеобщая перепись… 42: Ковенская губерния. СПб., 1904. С. 2-3; Первая всеобщая перепись… 22: Минская губерния. СПб., 1904. С. 2-3; Первая всеобщая перепись… 23: Могилевская губерния. СПб., 1903. С. 2-3.

[4] Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. Вып. 4.: Окончательно установленное при разработке переписи наличное население империи по уездам. СПб, 1905. С.13; Статистические таблицы… С. 270-271.

[5] Свод законов Российской империи: издание 1899 г. Т. 9. ст. 561-562.

[6] Падлічана паводле: НГАБ. Ф. 254, воп. 1, ад.з. 2, 5, 6, 9, 10, 20, 21; воп.2, ад.з. 6, 10, 18, 19, 57; Ф. 330, воп.1, ад.з. 1559, 1593, 1610, 1615, 1650, 1654, 1672, 1711, 1727, 1730, 1764, 1768, 1778; Ф. 2099, воп. 1, ад.з. 309, 359; Ф. 2511, воп.1, ад.з. 25, 32, 43,46; НГАБ у Гародні. Ф. 1574, воп. 1, ад.з. 2.

[7] Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. Вып. 4: Виленская губерния. Тетрадь 2. СПб., 1901. С. 96-104.; Там же. Вып. 5: Витебская губерния. Тетрадь 2. СПб., 1903. С. 98-110.

[8] ПСЗРИ: собрание 2-е: в 55 т. Т. 37. Отделение 1. СПб., 1865. № 38365.; ПСЗРИ: собрание 2-е: в 55 т. Т. 37. Отделение 2. СПб., 1865. № 38833.

[9] ПСЗРИ: собрание 2-е: в 55 т. Т. 38. Отделение 2. СПб., 1866. № 39118; ПСЗРИ: собрание 2-е: в 55 т. Т. 40. Отделение 1. СПб., 1867. № 41779; ПСЗРИ: собрание 3-е: в 33 т. Т. 18. Отделение 1. СПб., 1901. № 15601.

[10] Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии, 1860-1900. Минск, 1978. С. 116.

[11] Свод законов Российской империи (Далее − СЗРИ): издание 1890 г. Т. 15: Устав о паспортах и беглых. СПб., 1890. ст. 1, 4.

[12] ПСЗРИ: собрание 3-е: в 33 т. Т. 26. Отделение 1. СПб., 1909. № 28392; СЗРИ: В 5 кн. Кн. 1. Свод уставов о службе гражданской. Т. 3. Устав о службе по определению от правительства. Петроград, 1912. ст. 6-7.

[13] Сборник указов и постановлений Временного правительства. Т. 1. Петроград, 1917. С.71-72.

[14] ПСЗРИ: собрание 2-е: в 55 т. Т. 40. Отделение 2. СПб., 1867. № 42759; ПСЗРИ: собрание 3-е: в 33 т. Т. 4. СПб., 1887. № 2633; ПСЗРИ: собрание 3-е: в 33 т. Т. 5. СПб., 1887. № 3173; ПСЗРИ: собрание 3-е: в 33 т. Т. 8. СПб., 1890. № 5609.

[15] ПСЗРИ: собрание 3-е: в 33 т. Т. 6. СПб., 1888. № 3789.

[16] Статистика поземельной собственности и населенных мест Европейской России. Выпуск V. Губернии литовской и белорусской групп. СПб.,1882. С. 6-7, 28-29, 50-51, 82-83, 112-113, 146-147.

[17] Статистика землевладения 1905 г. Свод данных по 50-ти губерниям Европейской России. СПб., 1907. С. 12-13, табл. № 30 а.

[18] Статистика землевладения 1905 г. СПб., 1907. С.12-13,16-17.

[19] ПСЗРИ: собрание 2-е: в 55 т. Т. 39. Отделение 1. СПб., 1867. № 41039; ПСЗРИ: собрание 3-е: в 33 т. Т. 2. СПб., 1886. № 834.

[20] СЗРИ: издание 1857 года. Т.3: Уставы о службе гражданской. СПб., 1857. ст. 4-5; Свод уставов о службе гражданской. Т. 1. Устав о службе по определению от правительства. М., 1895. ст. 4-6.

[21] ПСЗРИ: собрание 3-е: в 33 т. Т. 26. Отделение 1. СПб., 1909. № 28392.

[22] Абрамов Я. Забытое сословие // Наблюдатель. 1885. № 1.

[23] Дружинин Н.П. Мещане, их положение и нужды. Москва, 1917. С. 5-6.

*Аэлита Амбрулевичюте, PhD*
*(Вильнюс)*

# Социальная характеристика чая или превращение чая из предмета роскоши в повседневный товар*

В XIX в. сословные различия в потреблении отдельных предметов создавали особый потребительский климат. Потребление предметов, соответствующих социальному статусу, нередко было обязательным и поддерживало общественное положение.

До появления промышленных товаров широкого потребления вещи, поддерживающие социальный статус, чаще всего являлись предметами роскоши, изготовленными из дорогих материалов. Они были роскошью в буквальном смысле этого слова, а их приобрести могли только люди с большим достатком, обычно занимающие более высокое социальное положение.

С распространением массового производства появились предметы, внешний вид и даже качество которых часто не уступали дорогостоящему товару. Невысокая цена сделала их доступными для разных слоев населения, но такой товар снизил престиж более дорогих предметов. Некоторые из них перешагнули сословные границы, и их стали приобретать все слои населения. Такие товары часто приобретались для создания иллюзии принадлежности к более высокой социальной группе.

Для простых горожан (со средним и низким достатком) такими предметами были вещи, приобретаемые людьми с более высоким положением. Для крестьян престижным являлось потребление товаров промышленного производства. Приобретавшие их демонстрировали более высокий (городской) статус. Одним из товаров, выполнявших такую функцию, мог быть чай. Поэтому возникает вопрос, ***могли ли крестьяне, употреблявшие чай, с его помощью демонстрировать успешность и принадлежность к более высокой (городской) культуре?***

* Доклад подготовлен по программе „Реализация стажировок после докторантуры (pos doc) в Литве“, осуществляемой Научным советом Литвы в рамках проекта “Возникновение потребительского общества в Литве во второй половине XIX – начале XX в.”

В поисках ответа на этот вопрос анализируются изменения в потреблении чая разными социальными слоями общества. Для этого сравниваются отличительные особенности потребления этого продукта жителями губернского города Гродно и крестьянами уездов Гродненской губ. в конце XIX – начале XX в.

Основными источниками для изучения этой проблемы стали документы, хранящиеся в Национальном историческом архиве в Гродно (далее – НИАБ в Гродно), в Российском государственном историческом архиве в Санкт-Петербурге (далее – РГИА), а также в Рукописном отделе Библиотеки Вильнюсского университета (далее – VUB RS).

## ЧАЙ КАК „СОЦИАЛЬНЫЙ ЗНАК“

Итак, могли ли крестьяне Гродненской губ. считать чай символом более высокой (городской) культуры (который вместе с тем выполнял функции “социального знака“) в конце XIX – начале XX в.?

Для ответа на этот вопрос воспользуемся описаниями быта крестьян Гродненской губ., составленными в 1872–1873 гг. учителями народных школ по программе “Сбора сведений о состоянии сельского хозяйства и промышленности“, подготовленной Северо-западным отделением Русского географического общества[1].

Сохранились описания трех категорий крестьянских хозяйств (зажиточного, среднего и малоимущего) в 98 волостях Гродненской губ. Программа состояла из 100 вопросов, разделенных на три группы: 1) общие данные о положении хозяйства и семьи (состав семьи, применение агротехники, формы и методы хозяйствования и др.); 2) доход хозяйств (натуральный и денежный); 3) расход хозяйств (натуральный, денежный, на нужды семьи, налоги, повинности).

Содержание вопросов анкеты показывает цель исследования Русского географического общества – определить материальное положение крестьян, формы организации быта, экономическое положение хозяйств, формы и методы организации производства, изменения ведения хозяйства и его коммерциализация. На основе данных анкеты о расходах крестьянских хозяйств на покупку продуктов и изделий, попытаемся обнаружить товары “городской культуры” (как “социальные знаки“), которые крестьяне могли употреблять для демонстрации своего более высокого (городского) статуса.

Известно, что в середине XIX в. заметное социальное различие городской и сельской культур отражалось как раз в сфере потребления. Весьма вероятно, что составители анкеты – члены Русского географического общества, жившие в условиях городской культуры – потребности и желания крестьян рассматривали как интегральную часть потребительской модели горожан.

Возможно, что при составлении анкеты они перенесли на сельскую общину представления о знакомом городском быте, вкусах и предпочтениях горожан. Таким образом, в этом можно усмотреть не только попытку сравнить потребление крестьян и горожан, но и стремление найти точки соприкосновения в потреблении представителей городской и сельской культур.

Именно поэтому выбор составителей анкеты пал на товары, которые в 70-е гг. XIX в. первыми стали проникать в крестьянский быт как более мобильные и отзывчивые на изменения в социально-экономической жизни общества, чётко определявшие границу и культурную разницу в потреблении между городом и деревней.

Анализ ответов на вопросы анкеты показал, что первыми начали усваивать "городские товары" семьи зажиточных крестьян, реже – семьи со средним доходом. В свою очередь, малоимущие семьи, видимо из-за нехватки денежных средств, не могли ни модернизировать быт, ни изменить потребительские привычки.

Очевидно, что вопросы анкеты о потреблении чая и сахара (как и об использовании одежды и обуви), имеют более глубокий смысл, чем предполагалось. Они позволяют современному историку задуматься о том, не выполняли ли эти товары функцию своего рода "социального знака"? Не пытались ли крестьяне с их помощью демонстрировать свой коммерческий успех и связь с городской культурой?

В поисках ответа на этот вопрос, попробуем проанализировать изменения в потреблении чая, тем более, что составители анкеты именно этот товар рассматривали как культурный феномен городского общества.

## ПОТРЕБЛЕНИЕ ЧАЯ

В западной Европе чай начал распространяться в конце XVII в. (Англия и Нидерланды), когда его стали пить с сахаром[2]. В то время из-за высоких цен он был доступен лишь людям с приличным достатком. В переводе на цены XIX в. фунт чая стоил 8–25 рублей[3]. В Сибирском регионе Российской империи (видимо, сказа-

лась близость Китая) чай получил распространение уже в конце XVIII в. В европейской части империи напиток стал популярным в начале XIX в. В городах Гродненской губ. потребление чая стало распространяться примерно в это же время.

Традицию чаепития горожане и мелкая шляхта вероятно переняли у губернской элиты, которая, в свою очередь, позаимствовала эту привычку у польских магнатов. Так, в Белостоке сестра Станислава Августа Понятовского Браницкая по утрам выпивала чашечку кофе и бокал вина, а по вечерам (в 20.00), беседуя с гостями – чашку чая (1805)[4].

На данный момент наиболее ранняя известная нам запись о чае, привезённом на ярмарки Гродненской губ., сделана в 1843 г.[5] Но уже в 1879 г. в список непредвиденных расходов во время ночных дежурств смотрителя Губернской типографии и редактора "Губернских ведомостей" Николая Боброва были вписаны кофе, чай и сахар (среди расходов на еду и такие гигиенические принадлежности как мыло и полотенце)[6]. Можно предположить, что для гродненцев среднего достатка в 70-е гг. XIX в. чай стал необходимым продуктом. Его к тому же уже могли пить с лимоном. В том же списке фигурируют 2 лимона стоимостью по 4 коп.

Можно утверждать, что чаепитие было распространено среди зажиточных горожан уже до 40-х гг. XIX в., а к 70-м гг. чай мог стать предметом повседневной необходимости для горожан со средним достатком. В пользу этого говорит факт, что с 1885 г. имперская администрация считала чай альтернативой алкоголю. Кроме того в конце XIX в. чашку чая можно было выпить в любой кухмистерской[7], и кроме того чай закупался богадельнями, что свидетельствует о его распространении среди малоимущего населения.

Употребление этого напитка, как не противоречащего христианской этике и не порочащего достоинство христианина, сделало чай воплощением благочестия и морали[8]. Социальная гибкость этого напитка позволила ему распространиться среди всех слоёв населения, а чаепитие к тому же стало противопоставляться употреблению спиртных напитков: *"[...] Причем необходимо было указать на широкое значение чая как фискального источника и как одного из официальных факторов направленных к парализованию зла, посетившего все европейские государства, алкоголизма"*[9]. Чайные, открытые по инициативе государства, должны были стать альтернативой трактирам. Эта своего рода превенция алкоголя должна была изменить досуг большинства представителей низших слоев населения – крестьян и рабочих.

Для этой цели "Попечительства о народной трезвости" были уполномочены предоставить населению возможность проводить свободное время вне питейных заведений: *"[...] для чего попечительствам предоставляется устраивать народные чтения и собеседования, открывать чайные, народные читальни и др."*[10]. Администрация надеялась привлечь народ в чайные при помощи низких цен: "*В противовес питейным заведениям, хозяева которых зачастую не задумывались ни о какой элементарной гигиене, цены должны были быть доступными, чтобы не вовлекая в непосильные затраты, пользоваться простым, светлым, чистым и сухим помещением и проводить здесь свой досуг*"[11]. Это означало, что малоимущей части населения чай должен был открыть мир чистоплотности, нравственной чистоты и добродетели.

О том, что спрос на чай стал расти с 40-х гг. XIX в. свидетельствует озабоченность царской администрации в вопросах борьбы с фальсификацией продукта[12]. Спрос на чай еще больше вырос во второй половине XIX века. Об этом свидетельствует развитие торговли чаем и появление на рынке его дешёвых сортов. Именно дифференцированные цены указывают на предназначение чая удовлетворять потребности жителей с разным достатком.

Чай в магазины городов и местечек Гродненской губ. доставляли три торговых дома – Киселева, Высоцкого и Попова[13]. Из рекламных объявлений видно, что это могли быть торговые дома Киселева в Москве, а Высоцкого и братьев Поповых в Москве с филиалом в Вильне. Поэтому вполне возможно, что в Вильне и в Гродно торговали одинаковыми сортами чая.

Так, в конце XIX – начале XX вв. в Вильне рекламировался китайский и цейлонский сорта чая[14], а по данным 1915 г. в Гродненской губ. были популярны цейлонский и черный байховый, реже – черный чай № 4 и № 7, ароматизированный, "Китайская роза" и "Императорский" сорта чая[15]. В 1913 г. годовой оборот чайных магазинов в Гродно составлял от 2 тыс. руб. с годовым доходом в 240 руб. до 10 тыс. руб. с доходом в 800 руб.[16]

Чай был социально гибким товаром: разнообразие вкусов могло удовлетворить разные потребности жителей, а дифференцированные цены[17] сделали чай доступным малоимущим жителям. Конечно, дешёвые сорта чая не предназначались зажиточным клиентам.

С целью привлечь внимание покупателей среднего и высокого достатка предприниматели шли на разного рода ухищрения. Состоятельных клиентов привлекали разными рекламными трюка-

Магілёўскі Беларускі Арганізацыйны Камітэт паўторна разгледзіў статут і канчаткова яго зацвердзіў 18 красавіка 1917 г.[16]. Аднак за тры дні да гэтага, 15 красавіка 1917 г. на імя Магілёўскага губернскага камітэта была пададзена заява з просьбай зарэгістраваць арганізацыю[17]. 24 красавіка 1917 года з Магілёўскага губернскага па справах аб арганізацыях "присуствия" атрыманы адказ (пасведчанне) аб рэгістрацыі Магілёўскага Беларускага Арганізацыйнага Камітэта пад № 247[18].

Мы не маем арыгіналу статута МБАК. Але ён практычна без змен, быў пакладзены ў аснову статута Магілёўскай Беларускай Рады (МБР), які быў зацверджаны ў студзені 1918 г. У аддзеле рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы (Вільнюс) захоўваецца машынапісны праект статута Магілёўскай Беларускай Рады (у перакладзе на беларускую мову): "*Аддзел І. Мэты Рады.1. Асноўнай мэтай Рады з'яўляецца нацыянальна-культурны росквіт беларускага народа. 2. Бліжэйшая мэта нацыянальна-тэрытарыяльная аўтаномія Беларусі. Аддзел ІІ. Дзейнасць Рады. 1. Для культурнага росквіту Беларускага народу Рада садзейнічае ўтварэнню спрыяльных для культурнага развіцця Беларускага народа дзяржаўна-прававых, культурна-асветных і эканамічных умоў. 2. Рада імкнецца развіваць у беларусаў пачуццё нацыянальнай самасвядомасці, наладжваючы народныя чытанні аб мінулым і сучасным Беларускага народа, засноўваючы ў грамадскіх і школьных бібліятэках аддзелы, прысвечаныя Беларускай гісторыі, геаграфіі і літаратуры. 3. Рада выдае газеты, брашуры, кнігі і часопісы ў адпаведнасці з яе мэтамі, а таксама садзейнічае выданням падтрымліваючым беларускую нацыянальную ідэю. 4. Рада садзейнічае эканамічнаму дабрабыту Беларускага народа, спрыяючы як мага больш шырокаму развіццю ў Беларусі кааперацыі. 5. Рада садзейнічае арганізацыі таварыств мэты каторых падобны на мэты Рады. Аддзел ІІІ. Члены Рады. 1. Членамі Рады могуць быць асобы, жадаючыя працаваць для дасягнення мэтаў Рады. 2.* ***Сапраўднымі членамі Рады могуць быць карэнныя беларусы – асобы ў якіх хаця б тры апошнія пакаленні продкаў з боку бацькі альбо маці належылі да беларускай народнасці*** (вылучана мною – І.П.) *і мелі ўзрост ня менш 20 гадоў. 3. Членамі спаборнікамі могуць быць асобы якія адпавядаюць патрабаванням п. 2, але не дасягнулі 20 год. 4. Толькі сапраўдныя члены Рады карыстаюцца правам удзелу ў Выканаўчым Камітэце і рэвізійнай Камісіі Рады. 5. Сапраўдныя члены Рады пры ўступленні ў Раду ўносяць 5 рублёў і штогод не пазней 1 ліпеня 2 рублі (члены Рады,*

*якія несвоечасова ўнеслі складкі плоцяць штраф 3 рублі). 6. Члены спаборнікі пры ўступленні ўносяць 2 рублі і штогод не пазней 1 ліпеня 1 рубель (члены спаборнікі, якія несвоечасова ўнеслі складкі плоцяць штраф 3 рублі). 7. Пры запісу ў члены Рады неабходны рэкамендацыі 2 сапраўдных членаў Рады ў тым, што жадаючая ўступіць у члены Рады асоба адпавядае патрабаванням пп. 1 і 2 III аддзела Статута Рады. 8. Зацвярджэнне ў званне сапраўднага члена Рады адбываецца агульным сходам членаў Рады. 9. Члены не зрабіўшыя грашовых унёскаў на працягу года аўтаматычна выключаюцца з Рады. 10. Наогул члены Рады выключаюцца са складу агульным сходам Рады. Аддзел IV. Агульныя сходы членаў Рады. 1. Вышэйшым органам Рады з'яўляецца Агульны Сход членаў Рады. 2. Агульны Сход лічыцца правамоцным пры наяўнасці 1/3 сапраўдных членаў Рады. 3. Правам голаса карыстаюцца толькі сапраўдныя члены Рады. 4. Усе важныя справы абавязкова выносяцца на абмеркаванне Агульнага Схода. 5. Арганізацыя прэзыдыума Агульнага Сходу залежыць ад сходу. 6. Склікаць Агульны Сход мае права Камітэт. 7. Па заяве 20 членаў Камітэт абавязаны склікаць Агульны Сход. Аддзел V. Аддзелы Рады. 1. Для распрацоўкі пытанняў у розных сферах дзейнасці Рады Агульны Сход засноўвае адпаведныя аддзелы, напрыклад, палітычны, этнаграфічны, культурна-асветны і інш. 2. Характар і арганізацыя дзейнасці аддзела вызначаецца аддзелам і паведамляецца Агульнаму Сходу. Аддзел VI. Выканаўчы Камітэт Рады. 1. Камітэт Рады складаецца з 12 чалавек, выбіраецца Агульным Сходам на 1 год. 2. Старшыня Камітэта таксама выбіраецца на 1 год Агульным Сходам. 3. Незалежна ад ступені важнасці справы яна вырашаецца ці Агульным Сходам ці Камітэтам ці Прэзыдыумам Камітэта. 4. Арганізацыя і парадак дзейнасці Камітэта вызначаецца інструкцыяй выпрацаванай Камітэтам і зацверджанай Агульным Сходам. 5. Камітэт абавязаны штогод прадстаўляць справаздачу аб дзейнасці Рады Агульнаму Сходу. Аддзел VII. Рэвізійная Камісія. 1. Агульны Сход выбірае Рэвізійную Камісію з трох чалавек тэрмінам на 1 год (Старшыня Камісіі выбіраецца Агульным Сходам). 2. Рэвізійная Камісія мае права заўжды правесці рэвізію ўсіх спраў Рады. 3. Аб кожнай праведзенай рэвізіі Камісія павінна скласці пратакол і зрабіць справаздачу Агульнаму Сходу. 4. Напрыканцы года пры складанні Камітэтам справаздачы Рэвізійная Камісія абавязана правесці рэвізію. Аддзел VIII. Спецыяльныя Камісіі. 1. Агульны Сход выбірае Камісіі для выканання спраў, якія могуць празмерна абцяжарыць працу Камітэта. 2. Камісіі выконваюць даручаныя ім справы згодна ды-*

*рэктыў Агульнага Сходу. 3. Камісія робіць справаздачу Агульнаму Сходу аб праробленай працы. Аддзел IX. Сродкі Рады. 1. Сродкі Рады складаюцца 1) з уступных і перыядычных членскіх складак, 2) з прыбыткаў ад прадпрыемстваў Рады, 3) з ахвяраванняў асоб і Устаноў, якія спачуваюць мэтам Рады. Аддзел X. Пячатка Рады. 1. Рада мае пячатку з надпісам "Магілёўская Беларуская Рада"*[19].

У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (Мінск) захоўваецца на рускай мове рукапісны праект Статута Беларускага культурна-асветніцкага таварыства (спачатку было напісана "Магілёўскай беларускай рады", але затым закрэслена) у Магілёве. Рукапісны і машынапісны тэксты падобны, але ёсць адрозненні. Варта прывесці цытаты дзе маюцца адрозненні ў рукапісным варыянце: аддзел II, п. 2 "*засноўваючы ў грамадскіх і школьных бібліятэках і чытальнях аддзелы, прысвечаныя Беларускай гісторыі, геаграфіі, літаратуры, музыкі і г.д.*", п. 3 "*Рада выдае кнігі, часопісы, брашуры і газеты ў адпаведнасці з яе мэтамі*"; аддзел III, п. 7 "*неабходна прадаставіць пісьмовую рэкамендацыю 2 сапраўдных членаў Рады*"; аддзел IV, п. 3 "*Правам голаса карыстаюцца ў камісіях і на Агульным Сходзе толькі сапраўдныя члены Рады*"; аддзел VI, п. 5 "*Камітэт кіруе дзейнасцю Рады*" (гэтага наогул няма ў друкаваным варыянце), п. 7 "*Інструкцыя павінна быць прадстаўлена да ведама Агульнага Схода*", а не зацверджана Агульны Сходам. Да таго ж у рукапісным варыянце прапісаны парадак выдаткавання сродкаў Рады, які прадугледжваў "*расход сродкаў толькі са згоды Камітэта Рады*". Таксама меўся "*Аддзел XI. Аб зменах Статута. 1. Статут Рады мог быць зменены толькі Агульным Сходам. 2. Сапраўднымі змяненнямі лічацца толькі тыя, што прыняты большасцю членаў Рады, якія былі ў ёй на момант змяненняў*"[20]. Аналіз правак і зместу дазваляе казаць, што рукапісны варыянт Статута МБР ранейшы па часе, адпавядае Статуту МБАК. Магчыма, ён з'яўляўся асновай пры абмеркаванні новага і папярэджваў друкаваны, які з'явіўся пасля канчатковага яго прыняцця.

Архіўныя дакументы раскрываюць эвалюцыю назваў арганізацыі беларусаў горада Магілёва. Ад 23.03.1917 г. – Магілёўскі Беларускі гурток, з 31.03.1917 г. – Магілёўскі Беларускі Арганізацыйны Камітэт, з чэрвеня 1917 г. – Магілёўскі Беларускі Камітэт (МБК), з 3.01.1918 г. – Магілёўская Беларуская Рада. Апошняя назва ў дакументах сустракаецца з кастрычніка 1917 г., у тым ліку і на бланках МБК. Наогул, напачатку планавалася назва – Нацыянальны губернскі Беларускі камітэт. Таксама сустракаецца варыянт назвы – Магілёўскае беларускае культурна-асветніцкае таварыства.

Агульны Сход арганізацыі ў некаторых пратаколах абазначаны як Магілёўскі Беларускі Нацыянальны сход. Кіравалі Магілёўскім Беларускім Камітэтам: 4.04.–19.05.1917 г. – І. Рэут, 24.05.–20.10.1917 г. – В. Какашынскі, з 20.10.1917 г. і да кастрычніка 1918 г. – М. Кахановіч[21]. МБК спыніў сваю дзейнасць напрыканцы 1918 г.

Колькасць прыхільнікаў Магілёўскага Беларускага Камітэта даволі хутка дасягнула некалькіх соцень чалавек. Ствараліся яго структуры, у некаторых установах існавалі як самастойныя адзінкі[22]. Рабіліся захады па заснаванню яго філій у павятовых гарадах губерні[23]. Былі наладжаны кантакты з беларускімі арганізацыямі ў Віцебску, Гомелі, Оршы, з Беларускай народнай грамадой у Маскве.

Прадстаўнікі МБК увайшлі ў склад і актыўна дзейнічалі ў шэрагу грамадскіх ўстаноў горада Магілёва, павета і губерні. М. Кахановіч разам з прадстаўнікамі іншых арганізацый горада ўвайшоў у створаны пры губернскім камісары Камітэт грамадскай бяспекі, В. Кміта быў дэлегаваны ў Магілёўскі павятовы земскі сход, М. Судзілоўскі, У. Лукін дэлегаваны ў Магілёўскае Павятовае Земскае сабранне, М. Кахановіч, В. Кміта, Д. Алехновіч дэлегаваны ў Магілёўскі выканаўчы камітэт, 8.07.1917 г. старшыня Магілёўскай губернскай земскай управы прасіў накіраваць прадстаўніка ад беларускай арганізацыі ў арганізацыйнае бюро, якое стваралася ўправай па падрыхтоўцы агульнагубернскага з'езда па народнай адукацыі (на з'езд па адукацыі былі накіраваны 4 прадстаўніка ад МБАК), прадстаўнікі МБАК прысутнічалі на пасяджэннях Магілёўскага павятовага школьнага камітэта[24] і інш.

У 1917 г. па ініцыятыве або пры актыўным удзеле членаў Магілёўскага Беларускага Камітэта адбылося даволі шмат значных падзей.

24–25 чэрвеня 1917 г. у Магілёве былі праведзены Дні вольнай Беларусі, прымеркаваныя да свята Купалля. Вуліцы горада былі ўпрыгожаны плакатамі і нацыянальнымі беларускімі сцягамі, актывісты ў народных строях правялі скарбоначны збор сродкаў на патрэбы беларускага руху, а ў ноч на Івана Купала на гарадскім вале адбылося гулянне[25].

Па ініцыятыве М. Кахановіча, які выступіў з адпаведным дакладам, з'езд настаўнікаў сярэдніх школ Віленскай навучальнай акругі (адбыўся ў Магілёве ў жніўні 1917 г.) выказаўся за вывучэнне ў народных школах беларускіх губерняў на беларускай мове, а таксама за вылучэнне мовы, гісторыі, этнаграфіі і геаграфіі краю ў сярэдніх навучальных установах. Дзеля хутчэйшага выканання

гэтай рэзалюцыі ў МБК распрацавалі і аператыўна выдалі падрабязную праграму па курсу беларускай гісторыі[26].

Прадстаўнікі Магілёўскага Беларускага Камітэта прымалі ўдзел у працы Першай Сесіі Цэнтральнай Рады Беларускіх Арганізацый у Менску 5–6.08.1917 г. Рада пастанавіла пасляць дэлегатаў у Кіеў на нараду "недзяржаўных народаў". Сярод іншых, дэлегаваўся адзін дэлегат ад Магілёва. Нарада ў Кіеве адбылася 23–28.09.1917 г. У ёй бралі ўдзел прадстаўнікі грузінаў, літоўцаў, татараў, латышоў, эстонцаў, беларусаў, малдаванаў, данскіх казакаў, буратаў і яўрэяў[27].

13 жніўня 1917 г. адбыліся выбары ў Магілёўскую гарадскую думу. Упершыню ў гісторыі горада – усеагульныя, роўныя і прамыя пры тайным галасаванні. Яны дазволілі МБК яшчэ мацней заявіць пра сябе і праверыць свой рэйтынг сярод гараджан. Добра прадуманая перадвыбарчая кампанія прынесла пэўны плён: за беларускі спіс прагаласавалі каля 2,1 тыс. гараджан, што дазволіла камітэту атрымаць 6 месцаў у думе з 64[28].

26 кастрычніка 1917 г. камісар Часовага ўрада па Магілёўскай губерні Р.І. Пеўзнер склікаў нараду палітычнага актыву Магілёва. Беларускі камітэт рэпрэзентаваў фактычны "рухавік" арганізацыі і новы кіраўнік М. Кахановіч. Сугучна большасці выступоўцаў ён назваў бальшавіцкае паўстанне злачынствам і контррэвалюцыйным актам, "*бо пасля яго можа вярнуцца ранейшы* (г.зн. самадзяржаўны) *рэжым*".

Магілёўскі Беларускі Камітэт актыўна далучыўся да падрыхтоўкі Усебеларускага з'езду ў снежні 1917 г. У адозве, выдадзенай ім з гэтай нагоды, звярталася ўвага на тое, што ў барацьбе за лепшую будучыню "*беларускі народ быў цярплівы*". Але "*разлад, унесены ў апошні час у шэрагі рускай дэмакратыі", пагражае поўным развалам і анархіяй усёй дзяржаве. Такая небяспека, штурхае "сыноў шматпакутнай Беларусі ўзяць на сябе задачу захавання цэласнасці сваёй радзімы і здабытых свабод ад замахаў, з чыйго б боку яны ні зыходзілі*". У Магілёве 1 снежня 1917 г. а 18 гадзіне ў залі Гарадской Думы адбыўся Сход Беларусаў, на які МБК (МБР) запрасіў Выканаўчы камітэт Магілёўскага губернскага савета сялянскіх дэпутатаў[29].

На сходзе быў прыняты "*Наказ от Могилевской Белорусской Рады делегату на Всебелорусский Съезд 5 декабря 1917 года в Минске. 1) По вопросу "Международное положение Белорусии" (Война и мир). Исполнительный Комитет Могилевской Белорусской Рады находит, что разоренная и опустошенная 3-х летней войной Бе-*

*лоруссия должна быть восстановлена и весь Белорусский народ объединен в одну целую автономную единицу, входящую как равноправный член в единую демократическую федеративную Российскую Республику, для чего Исполнительный Комитет настаивает на необходимости представительства от Белорусского народа на международной мирной конференции или о решении вопроса о самоопределении народности, дабы этим путем вопрос о самоопределении Белорусского народа был поставлен в международном масштабе. Вместе с воинами беларуссами Северного фронта, Исп. Ком. Мог. Белор. Рады поддерживает категорический протест по поводу появляющихся захватнических намерений со стороны империалистически настроенных соседей, выносит свой протест на Суд Российской Революционной Демократии и Западно-Европейской демократии и полагает, что Международная Демократия, при разрешении спора на предстоящей Мирной Конференции, будет руководствоваться Общедемократическим Критерием – пределами этнографического расселения этого или иного народа при установлении на будущей карте Европы новых границ самоопределяющихся народов Восточной, Западной и Южной Европы*"[30].

Наяўныя крыніцы вельмі фрагментарна адлюстроўваюць удзел прадстаўнікоў магілёўскай арганізацыі ва Усебеларускім з'ездзе. Вядома толькі, што Дз. Даўгяла меўся зрабіць даклад аб стане народнай адукацыі ў краі, а М. Кахановіч на адным з паседжанняў выступіў з заклікам не адкладваць справу самавызначэння, "*бо за нас можа вырашыць Вільгельм ці польскія легіёны*"[31].

На нарадзе дэлегатаў Усебеларускага з'езда ў Мінску ўвечары 5 снежня 1917 г. было прапанавана стварыць Часовую Раду з'езда, якая складалася з прадстаўнікоў ад буйнейшых арганізацый і партый Беларусі. Ад павятовых і губернскіх земстваў быў абраны Д. Васілеўскі (у 1930-я гады выкладчык Магілёўскага педінстытута), ад валасных земстваў Магілёўскай губерні З. Міхайлаў[32]. Усебеларускі з'езд распачаў працу 7 снежня. Прагучалі прывітальныя тэлеграмы, у тым ліку ад Булгака з Магілёва. Адбыліся выступы з вітаннямі ад мусульман Беларусі, ад БУНДа і г.д.[33] На наступны дзень на з'ездзе выступіў дэлегат ад імя сялян Магілёўскай губерні. З яго прамовы можна прасачыць пазіцыю сялянства, якая істотна адрознівалася ад поглядаў патрыятычна настроенай часткі інтэлігенцыі краю. Ён заклікаў, каб на з'ездзе не было расколу, што неабходна дзейнічаць супольна. Выказаўся і наконт мовы: "*Не следует созерцаться к прошлому, что было 400 лет тому назад*"[34]. 9 снежня 1917 г. на з'едзе быў абраны Прэзыдыум, у склад якога ад сялян

Магілёўскай губерні ўвайшоў Альховік (Альхоў (Ольков)?)[35].

11 снежня 1917 г. адбылося пасяджэнне ваеннай секцыі Усебеларускага з'езда, пад час якога прагучалі выступы з рэгіёнаў. Ад імя 404 пяхотнай Магілёўскай дружыны (Румынскі фронт) прывітанне Беларускай Радзе выказаў Макарэвіч. Таксама ён зачытаў наказ воінаў-беларусаў дружыны (прыняты на яе сходзе 4.12.1917 г.) дадзены дэлегатам з'езду: "*Патрабуем: п. 1. Беларусія аўтаномна федэратыўная на самых шырокіх дэмакратычныфх пачатках з правам на культурнае самавызначэнне народнасцей у меншасці насяляючых край; п. 2. Уласны сойм з выбарамі ў які па 4-х членнай формуле; п. 3. Усю зямлю земляробам без выкупа; п. 4. Неадкладны мір на дэмакратычных пачатках; п. 5. Вышэйшым краявым паўнамоцным органам да склікання Сойма прызнаецца Цэнтральная Беларуская Рада; п. 6. Воіны-беларусы ўсіх франтоў павінны быць сканцэнтраваны на тэрыторыі Беларусі з перафарміраваннем у беларускія палкі; п.7. Ніякіх перасоўванняў войск бяз згоды ЦБР не павінна быць на тэрыторыі Беларусі; п. 8. Рэквізіцыі і іншыя павіннасці адбываюцца толькі са згоды ЦБР; п. 9. Права ўраду Беларусі на будучай сусветнай мірнай канферэнцыі (абавязковае прадстаўніцтва, нават як нейтральнае); п. 10. Склад Беларусі: Магілёўская, Мінская, Віцебская, Гродзенская і 2 павета ад Дняпра па рацэ Сож Смаленскай губерні. У губ. Чарнігаўскай, Валынскай, Віленскай прадаставіць права на самавызначэнне шляхам плебесцыта; п. 11. Гандлёвая нейтральнасць рэк Нёман і Заходняя Дзвіна, а таксама Дняпра да мора; п. 12. Увесь жывы і нежывы інвентар пасля дэмабілізацыі Беларускага (Заходняга фронта) пераходзе цалкам у карыстанне немаёмасных па размеркаванню вясковых і гарадскіх мясцовых камітэтаў*"[36].

Варта адзначыць неадназначныя адносіны насельніцтва Магілёўшчыны да з'езда. У адрозненні ад інтэлігенцыі, якая ў большасці вітала правядзенне з'езду і прынятыя ім рэзалюцыі, Магілёўскі агульнагубернскі з'езд сялянскіх дэпутатаў (15–18.12.1917 г.) у сваёй рэзалюцыі "Аб Усебеларускім з'ездзе" пастанавіў: "*Склікаць 2-гі Усебеларускі з'езд саветаў сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў... сцвердзіць уладу працоўнага народа па ўсёй Беларусі і яе безумоўнай неадрыўнасці і неадчужальнасці ад маці – Расіі... Дэлегатамі на з'езд лічыць прадстаўнікоў саветаў, а не самазваных Беларускіх Рад і Грамад*"[37].

У студзені 1918 г. Магілёўскі Беларускі Камітэт паведаміў, што Камітэт пераўтвараецца ў Раду для якой выпрацоўваецца новы статут[38]. У выканаўчы камітэт Магілёўскай Беларускай Рады ўваходзілі: М. Кахановіч – старшыня, Дз. Даўгяла, В. Кака-

шынскі – таварышы старшыні, Д. Аляхновіч – сакратар, Ф. Ляхтановіч – скарбнік. Афіцыйнае месцазнаходжанне рады і яе выканаўчага камітэта – Акруговы суд, які размяшчаўся ў памяшканні Марыінскай жаночай гімназіі па Дняпроўскаму праспекту[39].

Статут і дакументы аб дзейнасці дазваляюць сцвярджаць, што МБК прытрымліваўся ў нацыянальным кірунку пакрокавай стратэгіі, паступова прайшоўшы шлях ад аўтаноміі ў складзе Расійскай імперыі да ідэй незалежнасці БНР. Гэта было выклікана часам, станам грамадства, унутры і знешнепалітычнымі прычынамі.

Першы крок быў арыентаваны на Расію – аб’яднаць беларускі народ на ўсёй тэрыторыі этнічнага рассялення ў складзе асобнай (пакуль што аўтаномнай) адміністратыўнай адзінкі з сваім органам улады (мясцовым самакіраваннем), што павінна было паспрыяць нацыянальна-культурнаму адраджэнню і асабовай ідэнтыфікацыі асноўнай масы насельніцтва Беларусі. Вырашэнне гэтай задачы ставілася перад нацыянальнай элітай, якой было ўласціва пачуццё дзяржаўнасці, непазбежна пераўтвараемае ў імкненне да стварэння самастойнай, незалежнай дзяржавы.

Наступны крок непасрэдна тычыўся працэсу стварэння ў гэты час (з дапамогаю краін “Антанты” і нацыянальна-патрыятычнай часткі інтэлігенцыі) Польскай дзяржавы. Ён быў выкліканы пазіцыяй камандзіра I Польскага корпуса генерала Ю. Доўбар-Мусніцкага. З аднаго боку той прыхільна ставіўся да самавызначэння беларусаў і да ідэі стварэння незалежнай БНР. 25 студзеня 1918 г. нават выдаў адозву “Братья – Белоруссы”: “... *Не полякам, ценящим свободу дороже жизни и проливавшим за неё кровь в течении последних 150 лет, лишать свободы своих братьев, с которыми они жили на одной земле. Наоборот, мы готовы предоставить вам возможность собрать разогнанную притеснителями свободы Белорусскую Раду в Бобруйске, где под покровительством наших войск они свободно и беспрепятственно смогут обсудить свои дела. Мы в ваши внутренние дела вмешиваться не будем... Да здравствует свободная Белоруссия*”[40]. З другога боку пасля таго як 12.03.1918 г. войскі корпуса занялі Магілёў, на будынку ратушы была ўсталявана дошка аб аднаўленні Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Пазіцыя МБК у гэты перыяд не была стабільнай і ўпэўненай: “*З Магілёва пішуць, што тамашнія беларусы раздзяліліся на дзве часьціны: адна прыхільная да палякаў, другая да расейцаў. Ад рэдакцыі: Дзіва: беларусамі прызываюцца, а цягнуць да расейцаў, або да палякаў. Дык навошта ж звацца беларусамі?*”[41].

Улічваючы ваеннае становішча, спачатку стасункі з акупацыйным германскім кіраўніцтвам у МБК былі памяркоўныя. Напрыклад, Выканаўчы камітэт Магілёўскай Беларускай Рады ў сувязі з чуткамі аб ліквідацыіі ў Магілёве акружнога суда і некаторых губернскіх устаноў, а таксама далучэння акупаванай часткі Магілёўскай губерні ў судовым парадку да Мінскай губерні, прыняў шмат намаганняў і дзеянняў па захаванні статуса і ролі горада Магілёва ў жыцці Беларусі. Лідэры МБР настойліва і неаднаразова хадатайнічалі перад германскімі акупацыйнымі ўладамі пакінуць у Магілёве губернскія ўстановы[42].

Вельмі моцна на пазіцыі МБК паўплывалі ўмовы Брэсцкай мірнай дамовы (3.03.1918 г.) паміж Германіяй і РСФСР, змест дэкларацыі кайзера Германіі Вільгельма II (23.03.1918 г.) аб прызнанні незалежнасці Літоўскай дзяржавы, у склад якой былі ўключаны Віленшчына, Гродзеншчына і Беласточчына, і абвяшэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі (25.03.1918 г.).

31 сакавіка 1918 г. па ініцыятыве МБК у памяшканні акруговага суда, які тады размяшчаўся ў будынку Марыінскай жаночай гімназіі (сёння СШ № 1 г. Магілёва), адбыўся сход прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый, партый і ўстаноў мясцовага кіравання (прысутнічала каля 400 чал.) на якім амаль аднагалосна было падтрымана стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі і прызнаная ўлада Беларускай Цэнтральнай Рады ў Мінску, як органа кіравання ўтворанай дзяржавы на тэрыторыі ў межах разсялення беларускага народа[43].

Існуе версія па якой менавіта за прызнанне незалежнасці Беларусі пасля ўсталявання савецкай улады ў 1919 г. Магілёў пазбавілі губернскага статуса, ператварыўшы яго ў павятовы цэнтр Гомельскай губерні РСФСР.

Беларусы – гласныя гарадской Думы ўзнялі пытанне прызнання незалежнасці БНР галоўным прадстаўнічым органам улады горада Магілёва.

18 і 19 мая 1918 г. у магілёўскай газеце “Труд” былі апублікаваны матэрыялы да абмеркавання на пасяджэнні гарадской думы пытанняў адносін да абвяшчэння незалежнасці БНР і падпарадкавання радзе БНР. У першым артыкуле, які меў станоўчы характар, распавядалася пра І Усебеларускі з’езд, устаўныя граматы, прынцыпы работы рады. У другім артыкуле (аўтар той жа) – аб прыняцці і змесце 2 і 3 Устаўных грамат, што яны не адпавядаюць пастановам Усебеларускага з’езда, гучала крытыка ў адрас “неза-

лежнікаў". Аўтар артыкула выступаў за Беларусь як частку непадзельнай Вялікарасіі[44].

У адказ на публікацыі і грамадскія дыскусіі, каб захаваць прынцыпова важнае і суцішыць моўную праблему, у пачатку чэрвеня 1918 г. на пасяджэнні МБР былі прыняты рашэнні: "*1) аб'яўленне незалежнасці БНР правільнае і своечасовае; 2) рада выступае супраць ліквідацыі прыватнай уласнасці на зямлю; 3) прызнаць заўчасным увядзенне беларускай мовы ў дзяржаўнае справаводства*"[45].

Завяршэннем пакрокавай стратэгіі МБК можна лічыць яго заявы ў абарону самастойнасці і незалежнасці беларускай дзяржавы.

30 верасня 1918 г. Беларускі Генеральны Консул ва Украіне накіраваў ліст на імя Старшыні Беларускай дэлегацыі на міжнародных перамовах А. І. Луцкевіча: "*Маем гонар перадаць два пратэсты Магілёўскага Беларускага Камітэта ад 29.09.1918 г. № 411 і № 412 на імя Урада РСФСР і Украінскай дзяржавы*"[46].

Тэкст першага пад вых. № 411 ад 22.09.1918 г.: "*Могилевский Белорусский Комитет. гор. Могилев губ. Правительству Российской федеративной советской республики в лице Председателя русской делегации для ведения мирных переговоров с Украинской державой. Могилевская Белорусская Рада, в заседании от 21 сентября 1918 года, рассмотрев вопрос о создавшемся, вследствие условий дополнительного к Брест-Литовскому договора, положении, устанавливающим принадлежность Белоруссии к составу Российской федеративной советской республики, после обмена мнениями, постановила: Довести до сведения правительства Российской федеративной советской республики и правительства Украинской державы, что Могилевская Белорусская Рада считает последний "дополнительный" договор между Россией и Германией нарушением прав Белорусского народа на самоопределение, на независимость и неделимость Белоруссии, провозглашенныя I-ым всебелорусским конгрессом в г. Минске 17–31 декабря 1917 года. Поэтому Могилевская Белорусская Рада протестует против непризнания Брестским и дополнительным к нему договорами между Российской федеративной советской республикой и Германией прав Белорусского народа на самостоятельное государственное существование, при условии объединения всех белорусских земель в одном самостоятельном государстве, о чем и доводит до сведения правительства Российской федеративной советской республики и Украинской державы. Председатель комитета М.Коханович. Секретарь. Подписи. Печать "Могилевский Белорусский Комитет*". Той жа тэкст пад вых. № 412 "*В Совет Министров Украинской державы Министру иностранных дел*"[47].

Такім чынам, дакументы з фондаў архіваў Беларусі і Літвы дазваляюць комплексна рэканструяваць арганізацыю і стварэнне ў Магілёве першай нацыянальнай арганізацыі беларусаў – Магілёўскага Беларускага Камітэта. Аналіз яго статута, праграмных мэтаў і арганізацыйнай працы ў 1917–1918 гг. схіляе да высновы, што ў аснове была беларуская нацыянальная ідэя. Аб гэтым сведчыць наяўнасць у дзейнасці МБК такіх яе элементаў (кірункаў), як гісторыя, этнічныя традыцыі (этнічныя сувязі, фальклор, зямля продкаў, мова, рэлігія, звычаі, паходжанне), імкненне да незалежнасці. Можна сцвярджаць, што сварэнне Магілёўскага Беларускага Камітэта – гэта першае ў XX ст. на тэрыторыі Усходняй Беларусі выйсце на палітычную і міжнародную арэну грамадскай арганізацыі, якая з'яўлялася носьбітам ідэалагічнага руху па дасягненню і замацаванню аўтаноміі, адзінства і індывідуальнасцей беларускай нацыі. За час свайго існавання палітычныя погляды МБК эвалюцыянавалі ад ідэі нацыянальнай аўтаноміі да ўхвалення стварэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

---

[1] Спіс Магілёўскага Беларускага гуртка // Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ). Фонд 3. Воп. 1. Спр. 136. Арк. 14.

[2] Собрание кружка Могилевских белоруссов // Вестникъ Могилевского земства. 1917. № 4. С. 35.

[3] Спіс Магілёўскага Беларускага гуртка. Арк. 14.

[4] Пушкін, І.А. Сход магілёўцаў вітаў Незалежнасць Беларусі (жыццёвы лёс Міхаіла Кахановіча) / І.А. Пушкін // Гістарычнае і сацыякультурнае развіццё Магілёва: зборнік навуковых прац / Уклад. І.А. Пушкін, В.В. Юдзін. Магілёў: Могилев. обл. укруп. тип., 2007. С. 163–171.

[5] Пратакол з'езду беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску 25–27.03.1917 г. // Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Фонд 325. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 1.

[6] Пратакол з'езду // Літоўскі цэнтральны дзяржаўны архіў (LVCA). Фонд 582. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 48–49 адв.; Пратакол з'езду беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску 25–27.03.1917 г. Арк. 2 адв.

[7] Пратакол з'езду беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску 25–27.03.1917 г. Арк. 2.

[8] Тамсама.

[9] Склад секцый // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 136. Арк. 10–11; Ляхоўскі, У. Магілёўскі Беларускі Камітэт / У. Ляхоўскі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Т. 5 / Беларус. Энцыкл.; Рэдкал.: Г.П. Пашкоў (галоўны рэд.) і інш. Мінск: БелЭн, 1999. С. 24.

[10] Склад секцый. Пратакол схода МБАК ад 19.05.1917 г. // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 136. Арк. 10–11, 25–26 адв.; Месцы беларускай працы // LVCA. Фонд 582. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 29.

[11] Пратакол схода Магілёўскага Беларускага Арганізацыйнага Камітэта ад 7.04.1917 г. // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 136. Арк. 19.

[12] Рукапіс праграмных мэтаў МБАК. 1917 г. // Цэнтральная бібліятэка Акадэміі навук Літвы Аддзел рукапісаў (LMAVB RS). Фонд. 21. Спр. 2218. Арк. 19–20.

[13] Рукапіс праграмных мэтаў МБАК. 1917 г. // Цэнтральная бібліятэка Акадэміі навук Літвы Аддзел рукапісаў (LMAVB RS). Фонд. 21. Спр. 2218. Арк. 19–20; Рудовіч, С. У пошуках нацыянальнай ідэнтычнасці: Беларуская патрыятычная арганізацыя ў Магілёве ў 1917–1918 гг. /С. Рудовіч // Мінулая і сучасная гісторыя Магілёва: зборнік навуковых прац / Уклад. І.А. Пушкін. Магілёў: УПКП "Магілёўская абласная ўзбуйненая друкарня", 2001. С. 203–209.

[14] Праграмныя палажэнні палітычнай секцыі Магілёўскага Беларускага Камітэту наконт дзяржаўнага ладу Расіі // LMAVB RS. Фонд 21. Спр. 2218. Арк. 32–32 адв.

[15] Праграмныя палажэнні палітычнай секцыі Магілёўскага Беларускага Камітэту наконт дзяржаўнага ладу Расіі // LMAVB RS. Фонд 21. Спр. 2218. Арк. 32–32 адв.; Пратакол схода Магілёўскага Беларускага Арганізацыйнага Камітэта ад 18.04.1917 г. // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 136. Арк. 21.

[16] Пратакол схода Магілёўскага Беларускага Арганізацыйнага Камітэта ад 18.04.1917 г. // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 136. Арк. 21.

[17] Заява ад Магілёўскага Беларускага Арганізацыйнага Камітэта ад 15.04.1917 г. // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 137. Арк. 20–20 адв.

[18] Ліст у Магілёўскі Беларускі Арганізацыйны Камітэт ад 24.04.1917 г. // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 137. Арк. 57.

[19] Праект Статута Магілёўскай беларускай рады // LMAVB RS. Фонд 21. Спр. 2071. Арк. 7–8.

[20] Праект Статута беларускага-культурнаасветніцкага таварыства ў Магілёве // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 136. Арк. 3–6.

[21] Пратакол схода Магілёўскага Беларускага Арганізацыйнага Камітэта ад 19.05.1917 г. // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 136. Арк. 25–26 адв.; Пратакол схода МБАК ад 24.05. 1917 г. // Тамсама. Арк. 28–29; Пратакол пасяджэння МБК ад 20.10.1917 г. // Тамсама. Арк. 51; Ляхоўскі, У. Магілёўскі Беларускі Камітэт / У. Ляхоўскі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Т. 5 / Беларус.Энцыкл.; Рэдкал.: Г.П. Пашкоў (галоўны рэд.) і інш. Мінск: БелЭн, 1999. С. 24.

[22] Статут Беларускага гуртка рэалістаў (рэальнага вучылішча) // LMAVB RS. Фонд 21. Спр. 2218. Арк. 46 а.

[23] Ліст МБАК ад 5.06.1917 г. у г. Быхаў да гр. Мезаўцова з просьбай арганізаваць у горадзе мясцовы аддзел Беларускага камітэта // LMAVB RS. Фонд. 21. Спр. 2071. Арк. 1; Ліст МБАК ад 9.06.1917 г. у Мсціслаў А.Кавалёву аб арганізацыі ў Місціслаўскім павеце беларускага камітэта // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 137. Арк. 25; Адказ ад 18.07.1917 г. ад дырэктара Рагачоўскай настаўніцкай семінарыі аб арганізацыі беларускага аддзела // Тамсама. Арк. 81. Ліст МБАК ад 20.05.1917 г. // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 137. Арк. 22; Пастанова МБК ад 3.06.1917 г. // Там жа. Арк. 26; Пастанова Магілёўскага Беларускага Нацыянальнага схода ад 6.06.1917 г. // Тасамжа. Арк. 27; Ліст ад 8.07.1917 г. // Тамсама. Арк. 79–79 адв.; Ліст ад 24.07.1917 г. у МБАК ад Магілёўскай губернскай земскай управы // Тамсама. Арк. 84–84 адв.; Ліст у Магілёўскую Беларускую Раду ад 19.10.1917 г. // Тамсама. Арк. 99.

[24] Ліст МБАК ад 20.05.1917 г. // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 137. Арк. 22; Пастанова МБК ад 3.06.1917 г. // Тамсама. Арк. 26; Пастанова Магілёўскага Беларускага Нацыянальнага схода ад 6.06.1917 г. // Тамсама. Арк. 27; Ліст ад 8.07.1917 г. // Тамсама. Арк. 79–79 адв.; Ліст ад 24.07.1917 г. у МБАК ад Магілёўскай губернскай земскай управы // Тамсама. Арк. 84–84 адв.; Ліст у Магілёўскую Беларускую Раду ад 19.10.1917 г. // Тамсама. Арк. 99.

[25] Пратакол пасяджэння камісіі па наладжвання кружачнага збору і гуляння на карысць Беларускага камітэта 12.06.1917 г. // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 136. Арк. 34–35;

Склад камісіі па наладжванню агульнагарадскога гуляння 24–25 чэрвеня 1917 г. // Тамсама. Спр. 137. Арк. 63 адв.; Склад камісіі па наладжванню кружэчнага збору і гулянняў 23 і 24 чэрвеня 1917 г. // Тамсама. Спр. 136. Арк. 33 адв.

[26] Программа по истории Белорусскаго народа. Для средних учебных заведений, учительских институтов, семинарий и для самообразования. Издание Могилевскаго Белорусскаго Национальнаго Комитета. Могилев на Днепре: Электро-типография Б. Рабиновича, 1917. 16 с.

[27] Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 1. Вільня – Нью-Ёрк – Прага: БІНІМ; Т-ва Беларускага пісьменства; Наша Ніва, 1998. С. 13.

[28] Зварот з праграмай і агітацыйным матэрыялам Магілёўскага беларускага камітэта да насельніцтва Магілёва з нагоды выбараў 13.08.1917 г. // LMAVB RS. Фонд 21. Спр. 2251. Арк. 7; Спіс прагрэсіўнага насельніцтва ўскраін горада Магілёва і Беларускага Нацыянальнага Камітэта – кандыдатаў у гласныя гарадской думы на выбарах 13.08.1917 г. // Тамсама. Спр. 2218. Арк. 22–24 адв.; Муніцыпальная праграма Беларускага Нацыянальнага Камітэта і прагрэсіўнага насельніцтва ўскраін горада Магілёва на выбарах 13.08.1917 г. // Тамсама. Спр. 2251. Арк. 26–26 адв.

[29] Ліст МБК ад 1.12.1917 г. у выканаўчы Камітэт Магілёўскага губернскага савета сялянскіх дэпутатаў // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 137. Арк. 39; Зварот Выканаўчага камітэту МБР да беларусаў на сход па выбарах дэлегатаў на Усебеларускі з’езд // LMAVB RS. Фонд 21. Спр. 2229. Арк. 3.

[30] Наказ Магілёўскай Беларускай Рады дэлегатам Усебеларускага з’езда. 5.12.1917 г. // LMAVB RS. Фонд 21. Спр. 2218. Арк. 38–39, 43–43 адв.

[31] Праграмныя палажэнні палітычнай секцыі Магілёўскага Беларускага Камітэту наконт дзяржаўнага ладу Расіі // LMAVB RS. Фонд 21. Спр. 2218. Арк. 32–32 адв.; Рудовіч, С. У пошуках нацыянальнай ідэнтычнасці: Беларуская патрыятычная арганізацыя ў Магілёве ў 1917–1918 гг. / С. Рудовіч // Мінулая і сучасная гісторыя Магілёва: зборнік навуковых прац / Уклад. І.А. Пушкін. Магілёў: УПКП “Магілёўская абласная ўзбуйненая друкарня”, 2001. С. 203–209.

[32] Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 1. Вільня – Нью-Ёрк – Прага: БІНІМ; Т-ва Беларускага пісьменства; Наша Ніва, 1998. С. 15–16.

[33] Пратаколы пасяджэнняў Усебеларускага нацыянальнага з’езда // LVCA. Фонд 582. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 5–8.

[34] Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 1. Вільня – Нью-Ёрк – Прага: БІНІМ; Т-ва Беларускага пісьменства; Наша Ніва, 1998. С. 31.

[35] Пушкін, І.А. Магілёў і Магілёўшчына ў святле апублікаваных архіваў Беларускай Народнай Рэспублікі / І.А. Пушкін // Шляхі Магілёўскай гісторыі: зборнік навуковых прац / Уклад. І.А. Пушкін, В.В. Юдзін. Могилёв: УПКП “Мог.обл.типография им. С.Соболя”, 2005. С. 260–270.

[36] Пратакол пасяджэння Ваеннай секцыі Агульна-Беларускага з’езда. 14.12.1917 г. // НАРБ. Фонд 325. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 17–17 адв.

[37] Рэзалюцыя з’езда // LVCA. Фонд 582. Воп. 2. Спр. 11. Арк. 34.

[38] Ліст МБК // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 137. Арк. 50.

[39] Спіс членаў МБР // LMAVB RS. Фонд. 21. Спр. 2071. Арк. 4–6.

[40] Адозва “Братья – Белоруссы” // НАРБ. Фонд 325. Воп. 1. Спр. 19. Арк. 166–167.

[41] Хроніка падзей да беларускіх газет // НАРБ. Фонд 325. Воп. 1. Спр. 19. Арк. 275.

[42] Местная жизнь. Исполнительный комитет могилёвской белорусской рады. Об упразднении губернских учреждений // Труд. 1918. 18 (05) ліп. С. 3.

[43] Ліст каменданту горада Магілёва. Пратакол агульнага схода магілёўцаў ад 31.03.1918 г. // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 136. Арк. 68–69.

[44] Белорусская рада и народный секретариат // Труд. 1918. 18 мая. С. 1–2; 19 мая. С. 1–2.

[45] Пратакол № 5 пасяджэння Выканаўчага камітэта МБР ад 5.06.1918 г. // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 136. Арк. 73–74 адв.; Местная жизнь. В исполнительном комитете могилёвской белорусской рады // Труд. 1918. 13(01) чэрв. С. 4.

[46] Ліст Беларускага Генеральнага Консула ва Украіне // LVCA. Фонд 582. Воп. 2. Спр. 9. Арк. 1.

[47] Лісты – пратэсты МБК // LVCA. Фонд 582. Воп. 2. Спр. 9. Арк. 4–4 адв., 5–6; Чарнавыя накіды заяў Магілёўскай беларускай рады Урадам Расіі і Украіны з пратэстам // БДАМЛМ. Фонд 3. Воп. 1. Спр. 137. Арк. 46–48.

*Томаш Блашчак, Phd*
*(Коўна)*

# Гродзеншчына ў тэрытарыяльных планах Літоўскай дзяржавы 1918-1920.

Разглядаючы пытанне месца Гродзеншчыны ў літоўскай палітыцы ў перыяд станаўлення літоўскай дзяржаўнасці трэба звярнуць увагу на тры аспекты гэтай палітыкі. Першы – гэта знешняя палітыка літоўскай дзяржавы і пытанне фармавання яе межаў, як у адносінах з суседнімі краінамі, так і на агульнаеўрапейскім узроўні. Другі – унутраная палітыка літоўскай дзяржавы на гэтай тэрыторыі. Трэці – літоўска-беларускія адносіны, якія могуць разглядацца як унутраныя справы, так і ў кантэксце міжнародных адносін. У маім артыкуле будзе прааналізаваны першы аспект гэтай палітыкі.

Усе тры аспекты непасрэдна звязаныя з праблемай фармавання паўднёвай мяжы Літоўскай Рэспублікі, якая была адной з самых складаных у працэсе станаўлення дзяржавы. Пытанне дзяржаўнай прыналежнасці Віленшчыны ў навуковай літаратуры разглядаецца досыць часта. Хоць Гродзеншчына, як тэрыторыя былой Гродзенскай губерні, ужо ад пачатку літоўскага нацыянальнага руху разглядалася як частка літоўскай этнаграфічнай тэрыторыі, у гэтым кантэксце сыходзіць на другі ці нават трэці план пасля Сувалкскай губерні.

Першым афіцыйным вызначэннем гэтай тэрыторыі як літоўскай лічыцца фрагмент мемарандума з часу арганізацыі літоўскага з’езду ў Вільні ў 1905 г.:

*“Литовцы, признавая, что обнимаемая ими территория, с исторических времен, обнимает так называемые “литовския губернии” Северо-Западного края: Виленскую, Ковенскую, Гродненскую, часть Курляндской и причисленную, со времен Венского Конгресса к Царству Польскому Сувалкскую губернию, считают их в этнографическом отношении литовскими, живущих в этих губерниях между литовцами поляков, евреев, русских и других – пришельцами позднейших времен, а белорусов – славянизированными литовцами и поныне живущими в селах с литовскими названиями и литовской архитектурой”*[1].

Тут трэба спыніцца на спецыфічным разуменні этнічнасці і этнаграфіі, якое прысутнічала ў літоўскай палітычнай думцы пачатку XX ст. Сваімі "этнаграфічнымі" або "гістарычнымі" землямі літоўцы лічылі тэрыторыю вышэйпазначаных чатырох губерняў. Пад "этнічнымі зямлямі" разумеўсяўся літоўскамоўны абшар, паўднёвую мяжу якога было цяжка вызначыць з-за даволі вялікага мяшанага балта-славянскага абшару. Таму ўзнікла імкненне да ўключэння паўднёвых абшараў на гістарычнай аснове. Нацыянальнасць у гэтым выпадку разглядалася фармальна, ігнаруючы самавызначэнне мясцовых жыхароў. Невыразная нацыянальная свядомасць давала надзеі на хуткую "рэлітуанізацыю" насельніцтва.

Праблема тэрыторыі Літвы прымала рэальны кшталт падчас нямецкай акупацыі. Паўднёвая мяжа створанай немцамі тэрытарыяльнай адзінкі Обер-Ост прыблізна адлюстроўвала літоўскія тэрытарыяльныя жаданні. Тым больш, што паступова пашыралася ўжыванне назвы "Літва" на акупаванай немцамі тэрыторыі. У 1917 г. да ваеннай акругі Літва былі далучаны Віленская і Сувалкская акругі. У лютым 1918 г. пасля перайменавання акругі "Беласток-Гародня" на акругу "Літва-Поўдзень", назва "Літва" ахоплівае ўжо ўсю тэрыторыю Обер-Ост (без Курляндыі), гэта значыць, што і значную частку былой Гродзенскай губерні (без паўднёва-усходняй часткі).

У час першай сусветнай вайны літоўская справа даволі моцна прапагандавалася на эміграцыі. Перш за ўсё трэба ўзгадаць дзейнасць Ёзаса Габрыса-Паршайціса, кіраўніка Літоўскага Інфармацыйнага Бюро ў Швейцарыі. У 1918 г. яго намаганнямі быў выдадзены шэраг брашур. Сярод іх: "Літоўская дзяржава і Гродзенская губерня" Ёзаса Пуріцкіса[2] і дзве мапы: этнаграфічная мапа Еўропы[3] і мапа Літвы[4]. Мапа Еўропы, хоць і была дэдыкавана прэзідэнту ЗША, у паважаных картографаў выклікала адно ўсмешкі[5]. На ёй паўднёвая мяжа Літвы праходзіла праз Тураў, Антопаль, Кобрынь, Жабінку і Мельнік, а на захадзе па лініі Мельнік – Бельск – Беласток – Аўгустаў – Сувалкі. На другой мапе можам пабачыць крыху іншую сітуацыю: літоўскі абшар дзеліцца тут на абшар літоўцаў, размаўляючых па-літоўску, і літоўцаў, размаўляючых на славянскіх дыялектах. На цікавым для нас напрамку мяжа літоўскамоўнага абшару пераходзіла з усходу праз Гальшаны, адтуль праз Трабы-Юрацішкі-Ліду-Радунь-Друскенікі да Сувалак. Мяжа мяшанага абшару – праз Гальшаны, Крэва і раку Нёман. Знешная мяжа славянска-літоўскага абшару праходзіла праз Клецк, Лактышы, Ганцавічы да Выганоўскага возера, далей па рацэ Шчара праз Іва-

цэвічы да Камянца, адтуль рэкамі Лясная і Нараў праз Кленікі да вёскі Візна. Гэтыя публікацыі адыгралі вялікую ролю ў знешняй палітыцы Літвы, бо шырока выкарыстоўваліся літоўскай дэлегацыяй на Парыжскай мірнай канференцыі ў 1919 г.

Публікацыі, у якіх абмяркоўваліся межы Літвы, з'яўляюцца таксама на этнічных літоўскіх тэрыторыях. Яшчэ ў 1917 ў Вільні была выдадзена брашура Пятраса Клімаса "Літва – яе жыхары і межы"[6] (у 1919 г. яна дачакалася польскамоўнага выдання[7]), які ўсходнюю мяжу Літвы, апісвае вось так: "Па берагам Дзісненскага і Вілейскага павета, з таго боку Смаргонь, з гэтага Заскевічы, на поўдзень ад павароту ракі Бярэзіны, па Бярэзіне да самога Нёмана, потым наднёманскія ваколіцы Навагрудка, па Нёмане праз Гродна да кута Сейненскага павету"[8].

Этнаграфічную канцэпцыю літоўскай мяжы 1905 г. у агульных рысах прыняла літоўская канферэнцыя, якая адбылася ў Вільні ў верасні 1917 г. Прычым яшчэ падчас арганізацыі канферэнцыі пайшла гаворка пра папраўкі, істотныя з эканамічнага пункту гледжання. Так, напрыклад, адмаўляліся ад прэтэнзій на Беласток, які мог быць рэальным гаспадарчым канкурэнтам для Вільні, да таго ж няпэўным з моўнага і канфесійнага пункту гледжання[9]. Літоўцы зусім адхілілі прынцып самавызначэння народаў, якім перш за ўсё патрэбна была нацыянальная самасвядомасць.

Амаль што ў гэты самы час, у верасні 1917 г. канферэнцыя літоўскіх эмігранцкіх дзеячаў у Берне тэрыторыю Літвы разглядала як: "Уся Ковенская губерня, паўночная частка Сувалкскай, Беластоцкая акруга з горадам Беласток, Гродзенскі, Слонімскі, Сакольскі і Ваўкавыскі паветы Гродзенскай губерні. Хоць у гэтых акругах размаўляюць мяшанкай славянскіх дыялектаў, іх жыхары паводле веры, звычаяў, абрадаў і прыкметаў расы належаць да літоўскага народу. Пражываюць яны на тэрыторыі, якая здаўна, гэта значыць ад пачатку XIII ст., заўсёды належала Літве, таму нават расійская ўлада на Гродзенскую губерню глядзела як на інтэгральную частку этнаграфічнай Літвы"[10].

Літоўская Рада (Тарыба), абраная на віленскай канферэнцыі 1917 г., да восені 1918 г. практычна не ўздымала пытання тэрыторыі літоўскай дзяржавы. Сярод яе сяброў дамінавала канцэпцыя мяжы па Нёмане, таму яны намагаліся далучыць тэрыторыі на поўнач ад Нёмана да акругі "Літва-Поўнач". Паводле іх, Гродзенскі, Лідскі, Плянцянскі і Радуньскі паветы з этнаграфічнага і моўнага пункту гледжання не адрозніваюцца ад астатняй часткі Паўночнай акругі, якая з'яўляецца "ядром літоўскага народу"[11]. Дадатко-

вым аргументам была штучнасць тагачаснага адміністрацыйнага раздзелу, які не меў ніякіх гэаграфічных ці гістарычных падставаў. Канчаткова нямецкія ўлады пагадзіліся на далучэнне да акругі “Літва-Поўнач” толькі Радуньскага павету.

Увосень 1918 г. немцы згадзіліся на стварэнне літоўскага ўраду і паступовую перадачу ўлады. Адной з умоваў было пераўтварэнне Тарыбы ў сапраўдны прадстаўнічы орган усіх жыхароў Літвы, а менавіта, уваход у яе склад прадстаўнікоў усіх нацыянальнасцяў, пражываючых на яе тэрыторыі. Адначасова, не развязваючы канчаткова пытання дзяржаўнай мяжы Літвы, літоўцам улада мела быць перададзена на ўсёй тэрыторыі акругаў “Літва-Поўнач” і “Літва-Поўдзень”. Першай нацыянальнай меншасцю, з якой Тарыба, а потым кабінет міністраў прэм’ера Аўгусцінаса Вальдэмараса, дамовіліся аб супольнай працы, былі беларусы з Віленскай беларускай рады. Хоць па сённяшні момант больш вядомыя вынікі іх пагаднення, чым рэальныя прадметы гэтых дамоваў[12]. Інтэрпрэтацыя пагадненняў была асноўнай прычынай досыць вострых спрэчак паміж літоўскім і беларускім бокам. Трэба пазначыць, што беларускі бок заўсёды настойваў на ўключэнне Бельска і Беластока ў склад Літвы.

Намаганні немцаў перадаць літоўцам адміністрацыю над акругай “Літва-Поўдзень”, былі нечаканымі. Перш за ўсё, Гродзеншчына ніколі не была хаця б найменшым цэнтрам літоўскага руху, і ён не меў тут аніякіх уплываў. Падобна, што літоўскі бок Гродзеншчыну лічыў своеасаблівым буферам, які павінен быў аддзяліць палякаў ад Вільні і даць магчымасць непасрэднага кантакту з Украінскай Рэспублікай, якую літоўцы ахвоча бачылі ў ліку суседзяў дзяржавы.

Уплываў на Гродзеншчыне не мела і Віленская Беларуская рада, па рэкамендацыі якой у снежні 1918 г. літоўскі бок прызначыў сваіх камісараў, якія павінны былі арганізаваць літоўскую адміністрацыю ў паветах (быў захаваны нямецкі адміністрацыйны падзел)[13]. Адначасова ў кантакты з літоўцамі ўвайшлі прадстаўнікі Гродзенскай губернскай управы, якіх літоўскі бок лічыў прадстаўнікамі мясцовага насельніцтва. У снежні на пасяджэнні літоўскага ўраду было прынятае яшчэ адно важнае рашэнне. Пад пагрозай уваходу ў Вільню бальшавікоў урад прыняў рашэнне аб эвакуацыі ў Коўна, прычым беларускія ўстановы (Міністэрства беларускіх спраў і беларускія вайсковыя адзінкі) мелі эвакуіравацца ў Гродна. З гэтага моманту можна казаць, што частка паўднёвай Літвы ў першым квартале 1919 г. жыве сваім асобным палітыч-

ным і грамадскім жыццём. Гэты перыяд даволі добра задакументаваны і дачакаўся немалой колькасці навуковых публікацый, як з літоўскага, так і беларускага боку[14].

Што тычыцца становішча літоўскага боку, то складаецца ўражанне, што цэнтральныя ўлады не вельмі разбіраліся ў сітуацыі на Гродзеншчыне і адначасова не мелі ў гэтым пытанні выпрацаванай пазіцыі. У пытаннях мясцовага самакіравання да кастрычніка 1919 г. гэтая тэрыторыя не адрозніваецца ад астатняй часткі Літвы. Канцэпцыі самакіравання мяняліся з прыходам кожнага новага міністра ўнутраных спраў[15]. Таксама не было канкрэтнай палітыкі ў беларускім пытанні. Адначасовая падтрымка МБС і Управы сведчыць, што ў Коўна трапляюць супярэчлівыя паведамленні пра падзеі ў Гродна і рэгіёне. Адзіным крокам цэнтральнай улады была пасылка Міністэрствам унутраных справаў у лютым 1919 г. свайго прадстаўніка юрыста Александраса Жылінскаса з мэтай вывучэння сітуацыі на месцы.

Статус беларускай справы ў Літоўскай дзяржаве ніколі не быў рэгуляваным, намаганні на такія рэгуляцыі сустракаюцца толькі з беларускага боку, з літоўскага боку такія прапановы за выключэннем Пятраса Клімаса не сустракаюцца. На практыцы літоўскі бок, кіруючыся абмежаваным даверам да беларусаў, імкнуўся перадаць у іх рукі як найменш паўнамоцтваў. Падзеі пачатку 1919 г. былі адзінай спробай рэалізацыі рэальнай улады на тэрыторыі Гродзеншчыны, дарэчы, зусім няўдалай. Гродзеншчына з адыходам нямецкіх войскаў сталася арэнай польска-бальшавіцкага канфлікту. Ужо вясной 1919 г. была цалкам занята польскімі войскамі. Гэты факт дазволіў літоўцам на міжнароднай арэне гаварыць пра захоп літоўскіх зямель палякамі ці нават пра польскую акупацыю. Дэпутаты ў Тарыбы ад Гродзеншчыны Іван Корчынскі, Канстанты Бялецкі і Язэп Варонка ў літоўскай палітыцы адыгралі толькі сімвалічную ролю. Адначасова ўрад Міколаса Сляжавічюса ў пытанні паўднёвай мяжы хістаўся паміж планам максімум, з граніцай па лініі Мельнік - Выганоўскае возера і планам-мінімум, які ахопліваў толькі Белавежскую пушчу[16].

На той час цэнтрам міжнароднай палітыкі з’яўляўся Парыж, дзе яшчэ ад снежня 1919 г. працавала літоўская дэлегацыя, у складзе якой знаходзіўся беларускі прадстаўнік Дамінік Сямашка[17]. Афіцыйнай пазіцыі па пытанні тэрыторыі ў літоўскай дэлегацыі не было. Пэўная канцэпцыя была прадстаўлена ў мемарандуме кіраўніка дэлегацыі А. Вальдэмараса ў сакавіку 1919 г., дзе гаварылася пра ўсю Гродзенскую губерню, адпаведна гэта адлюстра-

валася ў выдадзенай адмыслова для канферэнцыі карты Літвы, дзе паўднёвая мяжа праходзіла па лініі Бельскага павету, праз Мельнік, Пружаны да Выганоўскага возера, адтуль на поўнач праз Баранавічы да Нёмана[18]. Літоўская дэлегацыя шырока выкарыстоўвала дакументы Управы, у якіх яна выказвалася за далучэнне Гродзеншчыны да Літвы. Неафіцыйна дэлегацыя трымалася канцэпцыі паўднёвай мяжы па Нёмане. У прыватных размовах Вальдэмарас казаў, што літоўцы з Гродзенскай губерні хочуць “узяць усё, што будзе магчыма”[19].

Пытанне тэрыторыі літоўскай дзяржавы разглядалася таксама падчас расійска-літоўскіх мірных перагавораў у Маскве, якія пачаліся ў маі 1920 г. У гэтым выпадку можна сказаць, што літоўская пазіцыя ў пытанні паўднёвай мяжы была ўжо выпрацаваная. Дэлегацыя, якую ўзначальваў Томас Нарушавічус, атрымала інструкцыі, якія ў гэтым пытанні былі згодныя з канцэпцыяй мяжы на Нёмане. Гэта не дзіўна, бо інструкцыі падрыхтаваў сам Пятрас Клімас. Заўважу, што гэта новы падыход да паўднёвай Гродзеншчыны, якая мела быць аддадзена пад літоўскі пратэктарат, а праз 20 гадоў лёс гэтак званай “Слонімскай зямлі” павінен быць вырашаны шляхам плебісцыту[20].

Хаця ў складзе дэлегацыі знаходзіўся і Дамінік Сямашка (які, дарэчы, пасля савецкага націску хутка быў адкліканы), справу Гродзеншчыны падчас перагавораў рэфераваў прадстаўнік мясцовых габрэяў Сымон Розенбаўм, які сваю аргументацыю грунтаваў на рашэнні беларусаў (Управы) і мясцовых габрэяў, якія жадалі злучэння гэтай тэрыторыі з Літвой[21]. Справа Гродзенскай губерні ў перамовах займала даволі важнае месца і была аб’ектам шматлікіх дыскусій. Кіраўнік савецкай дэлегацыі Адольф Іофе праінфармаваў Нарушэвічуса, што Расія можа прыняць літоўскія прапановы, калі атрымае гарантыі прыхільнасці Літвы да яе. Літоўскі бок пагадзіўся прыняць гэту прапанову, зыходзячы са становішча, што галоўнай мэтай з’яўляецца вызначэнне мяжы дзяржавы.

Мірная дамова была падпісана 12 ліпеня 1920 г. і з’яўляецца першым (і адначасова адзіным) міжнародным дакументам, які афіцыйна апісваў усходнюю і паўднёвую мяжу Літоўскай Рэспублікі. На тэрыторыі былой Гродзенскай губерні яна ішла ад вусця ракі Гараднянкі да ракі Бобр, далей праз Дуброву, Сідру, Індуру да ракі Свіслач, далей уздоўж Нёмана, Беразіны, Ісланы і Валожынкі, далей праз Валожын да Маладзечна[22]. Толькі праз месяц была падпісана канвенцыя аб эвакуацыі з літоўскай тэрыторыі расійскіх войскаў. Аднак яна не вырашала гэтага пытання па тэ-

рыторыі паўночнай Гродзеншчыны, якая з'яўлялася стратэгічнай у час паходу Чырвонай Арміі на Варшаву[23]. Канчаткова пасля савецкай паразы ў вайне з Польшчай, гэтыя тэрыторыі хутка былі заняты польскімі войскамі і сталі пытаннем у польска-літоўскім канфлікце, які мяжу паміж дзяржавамі перасунуў на поўнач ад Друскенік па-за межы Гродзеншчыны.

Хоць вызначаная ў Маскве мяжа ніколі не была рэалізаваная, яна стала ідэалагічнай канструкцыяй, якая фармавала ідэальны вобраз літоўскай дзяржавы. Адначасова да 1939 г. яна была адзінай, якую афіцыйна прызнавала Літоўская Рэспубліка. Тым самым тэрыторыя паўночнай Гродзеншчыны лічылася "акупаванай Польшчай тэрыторыяй Літоўскай Рэспублікі".

---

[1] Цытата паводле: Lietuvių Memorandumas Rusijos Ministrų Tarybos pirmininkui grafui S. Vitei (1905 m. lapkričio 5(18) d.), Moteika E. Didysis Vilniaus seimas // Lietuvių atgimimo istorijos studijos. Nr. 11. Vilnius, 1996. С. 278.

[2] Purickis J. L'Etat Lituanien et le gouvernement de Gardinas (Grodno). Lausanne, 1918. На тэкст брашуры складаецца гістарычны даклад і аналіз стасункаў этнаграфічных (таксама ў больш гістарычным кантэксце) на тэрыторыі Гародзенскай губерні. У фондзе міністэрства беларускіх спраў у Літоўскім цэнтральным дзяржаўным архіве можна знайсці спробу перакладу гэтай брашуры на рускую мову.

[3] Gabrys J. Carte ethnographique de l'Europe: echelle moyenne (1:500 000 000). Lausanne, 1918.

[4] Carte de la Lithuanie editée par les sons du Bureau d'Informations Lituanien (1:1 500 000), Lausanne, 1918.

[5] Romer E. Pamiętnik paryski. Wrocław, 1989. С. 127.

[6] Klimas P. Lietuva – jos gyventojai ir sienos. Vilnius, 1917.

[7] Klimas P. Litwa – jej mieszkańcy i granice. Wilno, 1919.

[8] Klimas P. Litwa – jej mieszkańcy i granice. Wilno, 1919. С. 33. Дакладнае апісанне сітуацыі ў Гродзенскай губерні можам знайсці на старонцы 32: "Па-літоўску гавораць тут толькі на вузкім адрэзку паўночнага памежжа побач з Троцкім і Лідскім паветамі і ў некаторых "выміраючых" астравах Слонімскага павета. Цяжка акрэсліць, якую прастору займалі тут літоўцы ў мінулым. Вядома толькі, што ад XIII ст. у ваколіцах Гродна і Навагрудка панавалі літоўскія князі і сюды на нейкі час перанеслі нават сталіцу Літвы. Таксама і Навагрудак быў моцна звязаны з іншымі літоўскімі правінцыямі і выкарыстоўваў тое самае права. Гродзенская акруга лічылася літоўскім паветам. Захаваліся ў даўніх дакументах (Літоўская метрыка) ведамасці аб тым, што літоўцы на гэтых землях праводзілі моцную каланізацыю. Нямалая колькасць баяраў і рыцараў валодала тут маёнткамі. Моц літоўскіх традыцый пацвярджаюць перапісы сярэдзіны XIX ст. Літоўцамі лічылі сябе 201 897 чал., г.зн. 25,6% усяго насельніцтва губерні. Натуральна большасць з іх ужо даўно дэнацыяналізавалася ці стала каланістамі сярод славян. Аб гэтым гавораць маленькія астравы католікаў, раскіданыя сярод мора праваслаўных. Гэта дазваляе ўсё рэчышча Нёмана ў ваколіцах Навагрудка лічыць этнічна літоўскімі землямі этанграфічна літоўскімі, тым больш, што ў гэтым краі маем даволі шмат каталікоў і нават сярод праваслаўных сустракаем немалую колькасць літоўцаў (130 729 асоб =

64%). Перапіс 1897 году знаходзіць тут толькі 2,897 асоб размаўляючых па-літоўску; гэта амаль без выключэнняў сяляне.”

[9] Ištrauka iš Organizacinio komiteto lietuvių konferencijai sušaukti protokolo // Lietuva vokiečių okupacijoje pirmojo pasaulinio karo metais 1915-1918. Lietuvos nepriklausomos valstybės genezė. Dokumentų rinkinys. Sudarė E. Gimžauskas, Vilnius, 2006. Dokumentas nr. 22.

[10] Antrosios Lietuvių konferencijos Berne 1917 m. lapkričio 6 d. nutarimai // Lietuva vokiečių okupacijoje... Dokumentas nr. 35.

[11] Lietuvos Valstybės Tarybos pageidavimų raštas vokiečių Rytų fronto kariuomenės vadui dėl administracinių teritorinių ribų pakeitimų // Lietuva vokiečių okupacijoje... Dokumentas nr. 105.

[12] Гл. Gimžauskas E. Kai kurios 1918 m. lapkričio 27 d. lietuvių ir gudų politinio susitarimo aplinkybės (Lietuvių ir gudų santykių raida 1917–1918 m.) // Lituanistica. 1999, № 4. С. 3–31; Блашчак Т. Міністэрства беларускіх справаў ураду Літоўскай Рэспублікі (1918—1924) // ARCHE- Пачатак. 2010, № 1-2, с. 206-305; Пісьма Віленскай Беларускай Рады ў Літоўскую Тарыбу // Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі, т. 1, Фонд № 582 Дзяржаўнага Архіву Літвы (“Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі”), кн. 1, Вільня – Нью-Ёрк – Менск – Прага, 1998. № 1139.

[13] Алексіцкі павет быў перайменаваны на павет Крынкі-Лунна, да рангу павятовага цэнтру была павышана Белавежа.

[14] Гл. Łatyszonek O. Białoruskie formacje wojskowe 1917-1923, Białystok, 1995, с. 88-98, Блашчак Т. Міністэрства беларускіх справаў..., с. 235-250; Laurinavičius Č. Lietuvos buržuazinės vyriausybės politika valstybės rytinės sienos klausimu // Lietuvos TSR Mokslų Akademijos darbai. A serija. 1989, № 1. С. 115-127; Liekis Š. Rytų Lietuva ir Baltarusija 1915-1923 m. // Liekis A. Lietuvos sienų raida. Mokslo duomenys apie lietuvių tautą, jos valstybę ir sienas. T. II. Vilnius, 1997. С. 365-370; Чарнякевіч А. Паміж грызнёй і барацьбой. Беларускі палітычны нацыянвлізм у Горадні (канец 1918 – пачатак 1921) // ARCHE-Пачатак. 2009. № 3. С. 329-410.

[15] A. Morkūnaitė-Lazauskienė, Rola mniejszości narodowych na Litwie w tworzeniu samorządów lokalnych w latach 1918-1919 // Studia z Dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej. 2007. T. XLII. С. 19.

[16] Laurinavičius Č. Lietuvos buržuazinės vyriausybės politika... С. 120-121.

[17] Роля Сямашкі ў дэлегацыі была маргінальная. Ягоным адзіным крокам можна лічыць Мемарыял, які выклікаў вялікую крытыку беларускага боку і крызіс у беларускім прадстаўніцтве ў літоўскіх уладах. Можна лічыць, што адзіная ягоная роля ў дэлегацыі, гэта нейтралізацыя дзейнасці, А. Луцкевіча як дэлегата Беларускай Народнай Рэспублікі ў Парыжы. Мэмарандум у справе беларусаў у Літоўскай Дзяржаве, пададзены Д. Сямашкам Мірнай канферэнцыі ў Парыжы 06.1919 // Архівы БНР № 1220.

[18] Carte de Lituanie. Berne, 1918.

[19] Romer E. Pamiętnik Paryski. С. 193.

[20] Laurinavičius Č. Lietuvos-Sovietų Rusijos taikos sutartis (1920 m. liepos 12 d. sutarties problema), Vilnius, 1992. С. 97-113.

[21] Rusijos ir Lietuvos taiko derybų stenogramos // Liekis A. Lietuvos sienų raida. T. I. Vilnius, 1997. С. 175-181, 191-195.

[22] Lietuvos taikos sutartis su Tarybų Rusija, 12.07.1920. // Liekis A. Lietuvos sienų raida. T. I. С. 282-286.

[23] Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь, 31.07.1920. // Знешняя палітыка Беларусі. Зборнік дакументаў і матэрыялаў, т.1 (1917 - 1922 гг.), Мінск 1997, Дакумент № 131.

*Андрэй Чарнякевіч, канд. гіст. навук*
*(Гародня)*

# Культ Юзафа Пілсудскага ў міжваеннай Гародні

*...I w Grodnie on na Zamku raz był przyjmowany,*
*"Nowe Życie" tam przyjał i "Dziennik Kresowy",*
*Przez całe społeczeństwo był hucznie witany*
*I orkiestry mu grały vivat narodowy.*
Ludwik Sawoniewski. Saga o Grodnie

Гісторыя міжваеннай Гародні часцей за ўсё асвятляецца праз яе грамадска-палітычныя інстытуты ці асобныя постаці. Паўстаў нават своеасаблівы гарадзенскі пантэон. Сёння мы маем Гародню Зоф'і Налкоўскай, Юзафа Ядкоўскага, Яна Каханоўскага, Яніны Студніцкай, Элізы Ажэшкі ды Стэфана Баторыя, хоць апошнія прычыніліся да гісторыі міжваеннага горада толькі ўскосна[1]!

Тэма "Юзаф Пілсудскі і Гародня" ў пэўнай ступені ўжо прадстаўлена ў гістарыяграфіі як фрагмент біяграфіі кіраўніка польскай дзяржавы[2]. Аднак у адрозненні ад таго ж Баторыя Юзаф Пілсудскі заставаўся дзейснай палітычнай адзінкай, стваральнікам ідэалагічнай сістэмы, у якую аказаўся ўпісаным і горад над Нёманам.

Палітычны культ звычайна нараджаецца як спалучэнне міфа, сімвала ды рытуалу[3]. У выпадку з кіраўніком Польскай дзяржавы мы маем перад сабою харызматычны вобраз адданага патрыёта і таленавітага палітыка, які супрацьстаяў супярэчлівай і зменлівай рэчаіснасці "крэсовага" горада. Гэты вобраз часамі перажываў пэўныя карэктывы, якія былі вынікам унутрыпалітычнай барацьбы ў Польшчы[4].

Сама хроніка дачыненняў Юзафа Пілсудскага з Гародняй займае невялікае месца ў фармаванні новай традыцыі грамадска-палітычнага жыцця горада. Вядомы палітык наўрад ці мог абмінуць такі важны цэнтр дзейнасці Польскай партыі сацыялістычнай (ППС) на тэрыторыі былога ВКЛ у ранні перыяд сваёй дзейнасці. А вось у якасці кіраўніка дзяржавы Юзаф Пілсудскі ўпершыню наведаў Гародню летам 1919 г., пасля чаго ягоныя візіты набылі рэгулярны характар. Наступны раз ён прыехаў у верасні таго ж года падчас інспекцыі Усходняга фронту. Восенню 1920 г. Пілсудскі двойчы

наведаў горад, каб уручыць узнагароды жаўнерам ды абмеркаваць падрабязнасці "бунта" генерала Люцыяна Жалігоўскага. Яшчэ праз год ён завітаў у Гародню з нагоды адкрыцця помніка ахвярам бальшавізму. Пазней Юзаф Пілсудскі неаднаразова прыязджаў па вайсковых справах. Аднак найчасцей гэтыя візіты адбываліся падчас ягоных паездак з Варшавы ў Вільню або ў Друскенікі на адпачынак. У апошні раз Гародня сустракала Пілсудскага ў самым канцы мая 1935 г., калі праз горад праязджаў жалобны цягнік на Вільню, які вёз срэбную ўрну з сэрцам маршала[5].

Куды больш змястоўнай была прысутнасць кіраўніка польскай дзяржавы ў якасці сімвала. Першым крокам у гэтым накірунку сталася святкаванне 19 сакавіка – дня імянінаў кіраўніка дзяржавы. Традыцыя, закладзеная яшчэ ў легіёнах, прыйшла ў Гародню ў 1920 г., калі адбыліся ўрачыстасці з касцельнай службаю і вайсковым парадам[6]. Паводле распараджэння школьнага інспектара, гэты дзень стаў свабодным ад вучобы. Адбылося святочнае набажэнства ў касцёлах, марш па вуліцах горада ды лекцыя ў гарадскім тэатры[7]. Праз некалькі тыдняў 26 красавіка 1920 г. у горадзе па рашэнні гарадской рады з'явілася вуліца ў гонар кіраўніка Польшчы[8].

Ад пачатку на рытуал святкавання імянінаў моцна ўплывалі розныя палітычныя абставіны. Так, ужо ў наступным годзе мясцовая Надзвычайная камісія па барацьбе з эпідэміяй арганізавала сяброўскую вечарыну для сваіх супрацоўнікаў, увесь прыбытак з якой пайшоў на дапамогу польскім вайсковым інвалідам[9]. Праўда, у гэты ж час постаць Ю.Пілсудскага сустракалася з пэўнай крытыкай ў асяроддзі мясцовага польскага грамадства, што было выклікана ягонай пазіцыяй у справе "Сярэдняй Літвы"[10].

Фактычна, 19 сакавіка сталася адным з дзяржаўных святаў, набываючы форму нацыянальнага рытуалу з адпаведным эстэтычным зместам. Так, 10 сакавіка 1922 г. у кабінеце камандуючага III корпусам генерала Ул.Франкоўскага адбылася нарада з удзелам прадстаўнікоў гарадскіх уладаў і прэсы з мэтаю арганізацыі камітэта, які павінен быў заняцца "падрыхтоўкай святкавання чарговых імянін кіраўніка дзяржавы і галоўнакамандуючага Юзафа Пілсудскага". Удзел у гэтым сходзе ўзялі стараста К.Рагалевіч, начальнік штаба корпуса палкоўнік Карутоўскі, камандзір 1-й дывізіі пяхоты Паповіч, ксёндз-капелян Хуста, начальнік штаба 1-й дывізіі маёр Коц, віцэ-прэзідэнт горада В.Нелубовіч, школьны інспектар Р.Вазнякоўскі, чыноўнік магістрата Я.Главінскі і рэдактар "Dziennika Grodzieńskiego" Ю.Уейскі[11].

Напярэдадні грамадзяне горада ўпрыгожвалі свае дамы сцягамі ў нацыянальных фарбах. Ранкам у нядзелю гарнізонны ар-

кестр павінен быў адыграць святочную "пабудку". Пасля чаго былі запланаваныя палявая імша на тэатральнай плошчы, бясплатны спектакль гарадзенскага тэатра ў Доме жаўнера, а таксама прадстаўленне ў гарадскім тэатры[12].

Своеасаблівай кульмінацыяй была святочная вечарына, арганізаваная камандуючым корпусам. "Dziennik Grodzieński" паведамляў: "Тры вялікія залы ледзь умясцілі ўсіх гасцей. Сярод прысутных былі прадстаўнікі войскаў палкоўнікі Спрінгвальд і Карытоўскі ды інш., стараста Рагалевіч, віцэ-прэзідэнт Нелубовіч, старшыня суда Гедройц, юрыст Жабакліцкі, дырэктар жаночай семінарыі, дырэктар тэатра Скомпскі ды прадстаўнік французскай арміі маёр Рікаўд... Абед прайшоў ва ўзнёслым настрою з шэрагам тостаў, якім папярэднічала прыгожая жаўнерская прамова генерала Франкоўскага ў гонар галоўнакамандуючага, якая скончылася заклікам: "Няхай жыве Юзаф Пілсудскі", які падхапілі ўсе прысутныя, узняўшыся з месцаў. Пасля прамаўляў дырэктар Скомпскі, які прыгожа распавёў пра мужнае польскае войска. Трэці тост падняў усё той жа генерал Франкоўскі ў гонар польскага саюзніка Францыі і яго войска, на што яму адказаў маёр Рікаўд на французскай мове..."[13]

З часам быў выпрацаваны пэўны цырыманіял, у якім не было месца дробязям. Напрыклад, падчас візіту Ю.Пілсудскага з нагоды адкрыцця помніка Свабоды на станцыі Ласосна яго прывіталі гарматным салютам, пасля чаго была карэта з чацверыком коней, віселі гірлянды, гучаў віват, адбыўся святочны абед, былі афіцыйныя размовы, палявая імша, прадстаўленне ў тэатры, а таксама інспекцыя вайсковых частак. І гэта на працягу трох дзён[14].

Аднак разам са зменамі ў палітычнай кар'еры Ю.Пілсудскага адбывалася пераасэнсаванне ягонай постаці, якая ўспрымалася ў апазіцыі да тагачаснай палітычнай сістэмы Польшчы. Найлепшым чынам гэта перадаюць абставіны першамайскай дэманстрацыі ў Гародні вясной 1924 г., напярэдадні якой прадстаўнікі мясцовых прафсаюзаў сабраліся ў рабочым клубе па вул. Пілсудскага № 17. Мітынг адбыўся на плошчы Стэфана Баторыя. Адным з першых на ім выступіў сакратар гарадзенскага магістрата Леан Мазуркевіч. Ён выказаўся за стварэнне рабоча-сялянскага ўрада, а сваю прамову скончыў словамі: "Смерць капіталізму! Слава маршалу Пілсудскаму!", якія тысячны натоўп сустрэў крыкамі "Ура!"[15].

Пасля дзяржаўнага перавароту ў маі 1926 г. культ Юзафа Пілсудскага канчаткова інстытуцыяналізаваўся[16]. У канцы 1927 г. праз Гародню павінна была прайсці паліцэйская эстафета з Вільні

да Бельведэра з віншавальным адрасам да маршала Пілсудскага[17]. Ужо праз год удзел у святкаванне ягоных імянінаў прынялі 64 арганізацыі![18] Напярэдадні чарговых імянінаў маршала, адна з мясцовых газет пісала: "Гародня, верны абаронца польскасці над Нёманам, Гародня, старажытны польскі горад [...] заўсёды выказвала шчырую прывязанасць да Юзафа Пілсудскага..."[19]

Зразумела, што падобныя мерапрыемства адмоўна ўплывалі на стан гарадскога бюджэту. Напрыклад, на святкаванне імянінаў кіраўніка дзяржавы ў 1930 г. магістрат вылучыў адмысловаму Камітэту 300 зл.[20]

Юзаф Пілсудскі не быў адзіным вайскоўцам, які ператварыўся ў пэўны сімвал. Іншым героем быў генерал Ю.Галер. Калі летам 1922 г. ён наведаў Гародню з нагоды адкрыцця аддзела Чырвонага крыжа, адна з мясцовых газет паведаміла, што горад наведаў "абаронца сталіцы ды краю"[21].

Акрамя войска, парамілітарных арганізацый ды адміністрацыйных органаў яшчэ адным універсальным асяродкам, дзе паступова замацаваўся вобраз маршала, была школа. Прычым, канчаткова гэта адбылося разам з рэформай асветы 1932 г. Як адзначаў гісторык Х.Хеін-Кірхер, не толькі ўласна навучальная праграма, але ўся сістэма пачатковай адукацыі была арыентаваная на тое, каб забяспечыць вучням знаёмства з жыццём маршала і шляхам Польшчы да незалежнасці[22]. Прычым школьныя парады ў гонар маршала на пачатку 1930-х гг., калі Польшча перажывала чарговы палітычны крызіс, былі куды больш масавымі менавіта на ўскраінах (напрыклад, у Гародні), чым у цэнтры краіны[23].

Імя Юзафа Пілсудскага таксама значылася ў спісе ганаровых грамадзян горада. У звароце магістрата да гарадской рады адзначалася: "29 красавіка 1930 г. прайшло 11 год ад уступлення польскай арміі ў Гародню. Гэтая гадавіна нагадвае нам дзень, які стаў пачаткам новай эпохі ў жыцці ўсходніх зямель Рэчы Паспалітай (у т.л. Гародні), якія вярнулі свабоду, аб'ядналіся з Айчынай і пачалі будаваць на сваім абшары незалежнае жыццё ў свабоднай Айчыне. Гэтая вялікая і шчаслівая перамена лёсу была падрыхтавана баявым чынам войска, якім кіраваў пераможны Правадыр, сын гэтай зямлі маршал Юзаф Пілсудскі. Усходнія землі ганарацца тым, што гэта яны былі ягонай калыскай, што менавіта тут ён узняўся да постаці героя [...] Гарадская рада просіць першага маршала Польшчы Юзафа Пілсудскага прыняць ганаровае грамадзянства Гародні"[24].

Пазней спіс ганаровых грамадзянаў папоўніўся імёнамі прэзідэнта Ігнація Масціцкага, генералаў Э.Рыдз-Сміглага ды

А.Літвіновіча. У большасці выпадкаў гэты "пантэон" меў хутчэй дыдактычны характар і падкрэсліваў каштоўнасць польскай дзяржаўнасці. Асабісты ўнёсак у жыццё горада кожнай з названых постацяў быў розным. Аднак постаць Юзафа Пілсудскага ў гэтым пераліку заўсёды заставалася на першым месцы.

Ужо згаданая даследчыца Х.Хеін-Кірхер вызначыла некалькі галоўных міфаў, звязаных з ягонай постаццю: "стваральнік польскага войска", "пераможны правадыр народа"; "будаўнік магутнай Польшчы", "абаронца польскай славы"; "вялікі настаўнік народа", "самы вялікі паляк у гісторыі", "бацька народа" і "сімвал Польшчы"[25]...

Фактычна, міф Пілсудскага ад самага пачатку стаўся падмуркам калектыўнай памяці і адным з элементаў агульнадзяржаўнай інтэграцыі тэрыторый, якія існавалі асобна[26]. Разам з тым даследчык Петр Ціхарацкі звярнуў увагу на тое, што культ Ю.Пілсудскага ў міжваеннай Польшчы вельмі часта з'яўляўся праявай лакальнага патрыятызму[27].

Зразумела, што Гародні цяжка было канкураваць з такімі гарадамі як Львоў, Кракаў ці Лодзь. Аднак яна таксама знайшла сваё месца ў біяграфіі маршала. Яшчэ ў 1921 г., выступаючы ў Старым замку на вечарыне з нагоды адкрыцця помніка Свабоды, кіраўнік польскай дзяржавы адзначыў, што сувязь паміж Варшавай і старажытнай Гародняй заўсёды будзе моцнай, калі мясцовая супольнасць імкнецца да гэтага, і ўзняў тост у гонар Гародні[28].

Напэўна сваю ролю адыграла блізкасць Вільні, якая ў пэўным сэнсе з'яўлялася цэнтрам культу Ю.Пілсудскага. Больш інтымны момант звязваў Пілсудскага з Гародняй, дзякуючы Друскенікам і ягонаму "раману" з мясцовай лекаркай. Таксама добра вядомы сэнтымент Пілсудскага да нёманскіх краявідаў.

У якасці іншых галоўных постацей гарадзенскай гісторыі таксама фігуравалі кароль Стэфан Баторый, пісьменніца Эліза Ажэшка і паўстанцкі эмісар Міхал Валовіч. Паводле польскага гісторыка Ежы Мілеўскага, у міжваенны час горад перш за ўсе атаясамляўся з каралём Стэфанам Баторыем. Менавіта ён аказаўся галоўным канкурэнтам Элізы Ажэшкі, якая часта трактавалася як "сучасніца", бо яшчэ жылі людзі, што добра яе ведалі. Стэфан Баторый стаў сімвалам у большай ступені дзеля знешняга карыстання. Гародню называлі "горадам Баторыя". Яго постаць таксама выкарыстоўвалі ў палітычных справах, абвяшчаючы, напрыклад, маршала Пілсудскага нашчадкам караля[29].

Формула "Гародня – Пілсудскі" не толькі ўмацоўвала польскую прысутнасць, яна яшчэ прапанавала пэўнае тлумачэнне складаных

міжнацыянальных адносінаў, якія склаліся на гэтым абшары польскай дзяржавы. "Беларускае насельніцтва абсалютна не рэагуе на лозунгі, - заявіў ад імя "беларускай меншасці" на адкрыцці моста праз Нёман адзін з яе прадстаўнікоў Аляксандр Аршун. - У ягонай свядомасці адбыўся гістарычны пералом у адносінах да Польшчы. Прычына гэтага ў перакананні, што Юзаф Пілсудскі дасць беларусам усё патрэбнае, бо ён ураджэнец гэтага краю"[30]. Нават прадстаўнікі Беларускай работніцка-сялянскай Грамады ў пэўны момант падтрымалі ідэю "пратэстаў" на імя маршалка Пілсудскага[31].

Гарадзенская газета паланафільскага накірунку "Беларуская думка" ў кастрычніку 1930 г. канстатавала неабходнасць падтрымкі лагеру Пілсудскага, "які ступіў на нашую зямлю з лозунгам: "За нашую і вашую вольнасць". У тым, што гэтыя словы не сталі нормай жыцця, на думку выдаўцоў, вінаватая выключна "польская рэакцыя"[32].

Аналагічна выказваўся і старшыня Саюза габрэйскіх купцоў Аба Тарлоўскі, які ў палеміцы з газетай "Grodner Moment" зазначыў, што "праўленне Пілсудскага ў найбольшай ступені спрыяе польска-габрэйскім узаемаадносінам"[33]. А гарадзенскі аддзел Цэнтральнага ўкраінскага камітэта ў 1935 г. спалучыў вечарыну памяці Сямёна Пятлюры з мерапрыемствамі ў гонар Пілсудскага[34].

Тут трэба адзначыць, што адносіны Пілсудскага да "беларускага пытання" на Гарадзеншчыне былі вызначаныя ім самім яшчэ ў перыяд польска-савецкай вайны, калі ў лісце да генеральнага камісара Усходніх зямель Ежы Асмалоўскага ад 21 лістапада 1919 г. тагачасны кіраўнік польскай дзяржавы падтрымаў усе мерапрыемствы, накіраваныя на абмежаванне і ліквідацыю беларускай дзейнасці на гэтых тэрыторыях[35].

Яго смерць таксама прычынілася да ўмацавання гэтага культу. "Ostatnie wiadomości grodzieńskie" у нумары ад 14 мая параўнавалі смерць Пілсудскага з ударам маланкі і абвяшчалі "найвялікшую жалобу" ў Польшчы. Ужо з наступнага ранку на вуліцах горада з'явіліся нацыянальныя сцягі з элементамі жалобы. Вайскоўцы і частка цывільнага насельніцтва апранулі чорныя павязкі на рукавы, а ў вітрынах крамаў з'явіліся партрэты маршалка, перавязаныя жалобнымі стужкамі. Тое ж самае можна было назіраць у школах горада, дзе таксама праслухалі зварот прэзідэнта Польшчы і выступленні настаўнікаў на тэму гераічнай постаці Пілсудскага.

Увечары таго ж дня адбылося паседжанне Гарадзенскай гарадской рады, падчас якога быў прачытаны зварот прэзідэнта Ігнацыя Масціцкага. Рада ў сваю чаргу звярнулася з уласнымі "зваротамі"

да прэзідэнта Польшчы і генеральнага інспектара польскага войска Э.Рыдз-Сміглага, а таксама выказала спачуванне ўдаве Аляксандры Пілсудскай. Акрамя таго горад вызначыў субсідыю ў памерах 5 тыс. зл. на будоўлю кургана ў гонар Пілсудскага. Таксама быў вызначаны склад ганаровай дэлегацыі для ўдзелу ў пахаванні Пілсудскага ў Кракаве. У яе ўвайшлі прэзідэнт горада Віктар Міскі, радныя Канстанцін Церлікоўскі, Стэфанія Носціц-Яцкоўская, Аляксандр Мікульскі і Ежы Цытаржынскі.

Асобна былі зацверджаны тры стыпендыі імя Ю. Пілсудскага для вучняў на агульную суму 1860 зл., з якіх дзве (па 40 зл. у месяц) прызначаліся вучням сярэдніх ці прафесійных школ, а адна (75 зл.) студэнту/студэнтцы ўніверсітэту, бацькі якога/якой былі жыхарамі Гародні. Усе пастановы былі прыняты аднагалосна[36]. Пазней Рада ў адказ на зварот Беластоцкага ваяводы вырашыла накіраваць 5 тыс. зл. на рахунак Ваяводскага камітэта памяці Пілсудскага[37].

16 мая адбыліся жалобныя вечарыны ў гарадскім тэатры, Доме жаўнера, шматлікіх грамадскіх арганізацыях. Перад галоўным алтаром у Фарным касцёле быў выстаўлены сімвалічны катафалк з партрэтам польскага лідэра. Раніцай 16 мая тут пачалося памінальнае набажэнства, якое вёў гарадзенскі дэкан кс. Альшанскі пад акампанемент касцельнай капэлы і хору чыноўнікаў.

Амаль кожная з мясцовых грамадскіх установаў удзельнічала ў жалобных мерапрыемствах. У дзень пахавання кіраўніка польскай дзяржавы вайсковыя часткі правялі асобны жалобны цырыманіял на вайсковым пляцу[38]. Працоўныя мясцовых камунальных службаў сабралі каля 1 тыс. зл. на будаўніцтва кургана імя Пілсудскага[39]. Не засталася ў боку ад падзей і мясцовая асвета. Напрыклад, ужо ў верасні 1935 г. школе № 8 было нададзена імя Пілсудскага[40], а ў мужчынскай гімназіі быў усталяваны бюст маршалка. Смерць Пілсудскага таксама прымусіла перанесці на верасень планаваныя мерапрыемствы з нагоды 25-й гадавіны смерці Элізы Ажэшкі[41].

Летапіс Сафійскага сабора ў Гародні (функцыі Сабору ў гэты час перайшлі да Свята-Пакроўскай царквы – *рэд.*) сведчыць, што і праваслаўныя прымалі актыўны ўдзел у жалобных мерапрыемствах: “*12 мая 1935 г. скончался в г. Варшаве первый маршал возрожденной Польши Иосиф Пилсудский. Кончина его глубоким трауром и скорбью покрыла Отечество наше и особенной болью отозвалось в сердцах православного меньшинства Польши. Совершены были народные панихиды в день погребения в Кракове*”[42].

Смерць Пілсудскага канчаткова ператварыла яго ў адзін з галоўных дзяржаўных фетышаў. У маі 1937 г. у Вільні адбы-

лося ўрачыстае пахаванне сэрца маршала ў магіле яго маці на могілках Росы. З Гародні ў Вільню накіравалася адмысловая дэлегацыя ў складзе прэзідэнта Віктара Міскага, Казіміра Бухала, Стэфана Цыдзіка і Лазара Мейлаховіча. У самой Гародні вечарам 12 мая пасля памінальных набажэнстваў у храмах адбыўся мітынг на плошчы Тызэнгаўза каля помніка Свабоды. Польская пісьменніца Марыя Дамброўская адзначала, што “смерць Правадыра” сталася для жыхароў Гародні надзвычай моцным асабістым перажываннем[43].

Аднак дэманстрацыя адзінства грамадства мела больш фармальны характар. Менавіта Гародня сталася якраз месцам чарговага канфлікту! Ужо на пачатку чэрвеня 1935 г. тут адбыўся фактычна першы ў сучаснай гісторыі горада пагром габрэяў. Адзін з іх пазней узгадваў, як некаторыя з мясцовых жыхароў звярталіся да габрэяў з пагрозамі: “Памёр ваш “дзядэк”, і зараз мы вам пакажам”[44].

Смерць Юзафа Пілсудскага таксама прычынілася да ініцыятывы па стварэнню ў Гародні Бібліятэкі імя польскага лідэра. З гэтай ініцыятывай выступіла дырэктар Гістарычнага архіва Яніна Студніцкая. У Аргкамітэт увайшлі найбольш уплывовыя прадстаўнікі вайсковых ды цывільных уладаў – генерал Фр.Клеберг, стараста Ю.Дражаньскі, пракурор А.Здановіч ды інш. Яніна Студніцкая разглядала гэтую Бібліятэку як падмурак будучай вышэйшай навучальнай установы. Апошняя, паводле яе меркавання, была неабходная дзеля ўмацавання права палякаў на валоданне мясцовым краем[45].

У далейшым культ Пілсудскага ўсё больш адпавядаў палітычнай кан’юнктуры[46]. Гэтыя змены былі асабліва адчувальныя там, дзе асоба Ю.Пілсудскага ўспрымалася ў якасці своеасаблівага гаранта дамінавання агульнадзяржаўных інтарэсаў над вузканацыянальнымі. Паступова паланізацыя краю пачалася адбывацца ўжо ад імя маршала Пілсудскага. Так, напрыклад, руйнаванне царквы св. Аляксандра Неўскага ў Гародні пачалося менавіта ў 3-ю гадавіну ягонай смерці[47].

“Легенда Юзафа Пілсудскага” ў Гародні скончылася нечакана. Раніцай 20 верасня 1939 г. праз мост, названы ў гонар першага маршала Польшчы, у горад увайшлі савецкія войскі[48]. “Ранкам на мост выехаў вялізарны танк, - узгадвала сведка тых падзеяў Гражына Ліпінская. – Ён лёгка прарваўся праз нашыя запоры. За ім з’явіўся другі, трэці, чацвёрты [...] На першым танке букет кветак. Дзесьці павіталі яго кветкамі, дзесьці, але не ў Гародні...”[49]

Старыя сімвалы знішчаліся, а на іх месца прыходзілі новыя. Вуліца Пілсудскага сталася вуліцай Леніна, чый культ меў ужо зусім іншы характар[50].

---

[1] Гл.: Вашкевіч А., Чарнякевіч А. Гродна, якога не было: заходнебеларускі горад, як аб’ект гісторыяпісання // Гістарыяграфія і крыніцы па гісторыі гарадоў і працэсаў урбанізацыі ў Беларусі. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Гродна, 25 – 26 верасня 2009 г.) / ГрДУ імя Я.Купалы; рэдкал.: І.Крэнь, І.Соркіна (адк. рэдактары) [і інш.]. Гродна: ГрДУ, 2009. С. 398-406.

[2] Malicki J.J. Z dziejów województwa białostockiego w okresie międzywojennym. Białystok, 1999.

[3] Hein-Kircher H. Kult Piłsudskiego i jego znaczenie dla państwa polskiego 1926 – 1939. Warszawa, 2008. S. 11; Cichoracki P. Legenda i polityka. Kształtowanie się wizerunku marszałka Józefa Piłsudskiego w świadomości zbiorowej społeczeństwa polskiego w latach 1918 – 1939. Kraków, 2005.

[4] Hein-Kircher H. Kult Pilsudskiego... S. 263.

[5] Z pobytu Naczelnika Państwa w Grodnie // Świat. 1919. № 32. S. 5; Marszałek Piłsudski w Grodnie // Polska Zbrojna. 1923. № 43. S. 4; Marszałek Piłsudski w Grodnie // Głos Prawdy. 1927. № 280. S. 2; Malicki J.J. Z dziejów województwa białostockiego. S. 60-64.

[6] Hein-Kircher H. Kult Pilsudskiego... S. 201-202.

[7] Дзяржаўны архіў Гарадзенскай вобл. (далей ДАГВ). Ф. 81, воп. 1, ад.з. 77. Арк. 19.

[8] Саяпін В. Гісторыя вуліц Гродна ў XX стагоддзі // Гарадзенскі гадавік. 2013. № 2. С. 62.

[9] Nowe życie. 1921. № 12. S. 94.

[10] Nowe życie. 1921. № 46. S. 349-350.

[11] Dziennik Grodzieński. 11.3.1922. № 21. S. 5.

[12] Dziennik Grodzieński. 17.3.1922. № 26. S. 3; Dziennik Grodzieński. 18.3.1922. № 27. S. 1.

[13] Dziennik Grodzieński. 22.3.1922. № 30. S. 3.

[14] Malicki J.J. Z dziejów województwa białostockiego. S. 60-64.

[15] ДАГВ. Ф. 17, воп. 1, адз.з. 40, арк. 293-293 адв..

[16] Hein-Kircher Kult H. Pilsudskiego… S. 10, 204.

[17] Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej. 1927. № 299. S. 4.

[18] Nowy Dziennik Kresowy. 15.03.1928. S. 4.

[19] Nowy Dziennik Kresowy. 14.03.1928. S. 4.

[20] ДАГВ Ф. 46, воп. 1, адз.з. 19. Арк. 27.

[21] Nowe życie. 18.6.1922. № 24. S. 181;

[22] H. Hein-Kircher Kult Pilsudskiego… S. 124; Wójcik-Łagan H. Kult bohatera narodowego. Józef Piłsudski w szkolnej edukacji historycznej w latach trzydziestych XX wieku. Kielce, 2012.

[23] B. Biskupski Independence Day. Myth, Symbol, and the Creation of Modern Poland. Oxford, 2012. P.77 .

[24] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз.з. 19. Арк. 54 адв.

[25] Hein-Kircher H. Kult Pilsudskiego... S. 225-246.

[26] Biskupski B. Independence Day. Myth, Symbol, and the Creation of Modern Poland. Oxford, 2012. P.48 .

[27] Cichoracki P. Legenda i polityka... S. 132 .

[28] Kalendarium życia Józefa Piłsudskiego. Warszawa, 1998. T. II. S. 341.

[29] Milewski J.J. Stefan Batory w tradycji Grodno 1919-1939 // Беларусы і палякі: дыялог народаў і культур. X-XX ст. Гродна, 1999. С. 462-468; Renikowa W. Grodno w dwudziestoleciu międzywojennym // Grodno i Wołkowysk w II Rzeczypospolitej: informator wystawy lipiec-październik 2001. Pelplin-Gdańsk, 2001. S. 25.

[30] Беларуская думка. 1930. № 6.

[31] Lietuvos centrinis valstybes archyvas (LCVA). Fondas 365. Ap. 1. B. 9. Baltarusiu valstieciu-darbininku partijis (hramados) Gardino apsrities komiteto posedziu protokolu knyga. L. 23.

[32] Беларуская думка. 18.10.1930. № 3. С. 1.

[33] Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобл. (далей – ДАБВ). Ф. 1, воп. 9, адз.з. 1613. Арк. 38 - 38 адв.

[34] Wiszka E. Emigracja ukraińska w Polsce 1920-1939. Toruń, 2004. S. 572.

[35] Pacuk J. Polityka państwa Połskiego wobec ludnośći białoruskiej w łatach 1919-26 / problemy podstawowe /. Praca doktorska. Uniwersitet Warszawski. WNPiD / 20. S. 647-649.

[36] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз.з. 284. А.38 - 39 адв.

[37] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз.з. 284. А. 49 адв.

[38] Ostatnie wiadomości grodzieńskie. 17.5.1935. № 135. S. 1.

[39] Ostatnie wiadomości grodzieńskie. 16.5.1935. № 134. S. 6.

[40] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз.з. 284. А. 79.

[41] Ostatnie wiadomości grodzieńskie. 16.5.1935. № 134. S. 6.

[42] Черепица В. …Не потерять связующую нить: История Гродненщины XIX - XX столетий в событиях и лицах (исследования, документы, комментарии). Гродно: ГрГУ, 2003. С. 245.

[43] Gubarewicz J. Kresowe miasteczko Jeziory. Białystok, 2006. S. 88.

[44] Porwani przez wiatr historii // Magazyn Polski na uchodstwie. 2006. № 10-11. S. 40.

[45] ДАГВ. Ф. 108, воп. 1, адз.з. 1. А. 1-2.

[46] Piotrowski J. Józef Piłsudski w prase polskiej 1935-1939 // Piłsudski na łamach i w opiniach prasy polskiej 1918 – 1989. Warszawa, 2005. S. 180-181.

[47] Черепица В. …Не потерять связующую нить... С. 247.

[48] Ярмусік Э. На Гродзенскім напрамку // Памяць: Гіст.- дакум. хроніка горада Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. С. 327.

[49] Lipińska Gr. Jeśli zapomnię o nich... Warszawa, 1988. S. 21.

[50] Ва ўмовах савецкага панавання вобраз Ю. Пілсудскага нечакана набыў новы сэнс. Ю. Губарэвіч узгадвае беларуса, жыхара м. Азёры і актыўнага камуністычнага дзеяча, які восенню 1939 г. атрымаў мянушку “Пілсудскі” за варожае стаўленне да былых польскіх вайскоўцаў // Gubarewicz J. Kresowe miasteczko Jeziory. Białystok, 2006. S. 217.

*Jan Jerzy Milewski, Phd*
*(Białystok)*

# Białystok i Grodno w okresie międzywojennym – podobieństwa i różnice

Białystok stał się po I wojnie światowej siedzibą władz wojewódzkich, choć wcześniej był tylko miastem powiatowym, Grodno - odwrotnie: było przez przeszło sto lat siedzibą guberni, a teraz zostało zdegradowane do rangi miasta powiatowego. Grodno źle się czuło w „powiatowym gorsecie", a Biełemustokowi w okresie międzywojennym brakowało niektórych elementów wojewódzkości. Trzeba tu jednak dodać, że obydwa miasta przez krótki czas były siedzibą centralnych władz państwowych: w Grodnie przebywał rząd Białoruskiej Republiki Ludowej, a w Białymstoku latem 1920 r., co może mniej chwalebne, Tymczasowy Komitet Rewolucyjny Polski z Julianem Marchlewskim na czele. Było to jednak raczej symboliczne, tak jak symboliczna była ich władza. W rywalizacji o siedzibę władz II instancji zwyciężył Białystok – wydaje się, że głównie dlatego, że pod względem rozwoju gospodarczego w XIX w. zdecydowanie zdystansował Grodno, co przełożyło się na liczbę mieszkańców. W 1921 r. Białystok miał 76,8 tys. mieszkańców, zaś Grodno – 34,7 tys. Jednak w następnej dekadzie przyrost ludności Grodna, która wzrosła do 49,7 tys., był o wiele większy niż Białegostoku, który osiągnął liczbę 91,1 tys. mieszkańców. W pierwszym przypadku był to przyrost aż o 43,3 proc., w drugim – tylko 18,6 proc.[1] Było to spowodowane głównie likwidacją ubytków po 1915 r., czyli powrotem z bieżeństwa, ale były też inne przyczyny, do których powrócimy.

Białystok odebrał Grodnu nie tylko władze administracyjne II instancji – wypieranie Grodna w regionie następowało także w sferze symbolicznej: miasto Dąbrowa Grodzieńska stało się Dąbrową Białostocką, a Bielsk zwany Grodzieńskim został Podlaskim. Wydaje się, że o ulokowaniu władz wojewódzkich w Białymstoku zadecydowały także niepewne losy koncepcji federacyjnej – kiedy latem 1919 r. utworzono województwo białostockie nie było jeszcze w jego składzie powiatu grodzieńskiego, który podlegał nadal Zarządowi Cywilnemu Ziem Wschodnich. W latach następnych (w zasadzie już od 1922 r.) Grodno starało

się awansować w hierarchii administracyjnej, ale swoje nadzieje tamtejsze elity wiązały głównie z planami reorganizacji woj. nowogródzkiego. Wykpiwano Nowogródek pod różnymi względami np. zapytywano jak może być władza wojewódzka w mieście, w którym nawet nie ma normalnej kolei tylko wąskotorówka? Gdyby władze centralne zdecydowały się wówczas na reformę podziału administracyjnego, to wtedy stolica województwa nowogródzkiego znalazłaby się na zachodnich rubieżach tj. w Grodnie, jak było w przypadku woj. poleskiego, którego stolicą był Brześć nad Bugiem. Sam Białystok z kolei musiał bronić się na początku lat trzydziestych przed zakusami likwidacji województwa. Komisja dla Spraw Usprawnienia Administracji na początku 1931 r. zaproponowała likwidację pięciu województw, w tym białostockiego, które w ten sposób stawało się ofiarą zwycięstwa koncepcji utworzenia wielkiego województwa wileńskiego. W Białymstoku powołano wówczas specjalny Komitet Obywatelski na czele z prezydentem Wincentym Hermanowskim, który podjął działania przeciwko projektowi skasowania województwa: postanowiono zwołać zjazd przedstawicieli miast i powiatów, zwrócono się do sejmików powiatowych i samorządów miejskich z prośbą o wypełnienie ankiety dotyczącej celowości tego zamierzenia. Projektowany nowy podział administracyjny kraju nie został wprowadzony w życie, ale zadecydował o tym nie opór społeczeństwa, lecz przede wszystkim kryzys gospodarczy i finansowy, w którym pogrążył się kraj.

W Białymstoku pomimo wojewódzkiego statusu brakowało kilku urzędów na tym poziomie – dotkliwy był zwłaszcza brak od końca lat dwudziestych Kuratorium Okręgu Szkolnego, najpierw w 1927 r. szkolnictwo podporządkowano kuratorium w Warszawie, a od 1932 r. podzielono pomiędzy Brześć i Wilno. W Brześciu nad Bugiem był także Okręgowy Inspektorat Pracy. Z kolei w Grodnie znajdowały się władze administracji wojskowej, Dowództwo Okręgu Korpusu nr III, któremu podlegała nie tylko większość obszaru woj. białostockiego, ale także województwa wileńskie i nowogródzkie. W mieście nad Niemnem ulokowano także Archiwum Państwowe, kierowane przez niezwykle aktywną działaczkę społeczną i kulturalną Janinę Kozłowską-Studnicką, która nie tylko przyczyniła się do utworzenia oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego (jedyny oddział w województwie w okresie międzywojennym), ale i Biblioteki Historycznej – mającej w przyszłości stanowić podstawę do utworzenia wyższej uczelni[2]. Szkoły wyższej nie było wówczas, i nie powstała do 1939 r., ani w Grodnie, ani w Białymstoku. W Grodnie rezydował biskup prawosławny, natomiast jeśli chodzi o Kościół katolicki województwo było podzielone między trzy kurie diecezjalne, a sam Białystok i Grodno były na terenie metropolii wileńskiej. W niektórych

dziedzinach pozycja Grodna i Białegostoku była równorzędna np. w sądownictwie – w obydwu miastach były sądy okręgowe.

Struktura narodowościowo-wyznaniowa obu miast była podobna i podobnie zmieniała się. O ile tuż po I wojnie światowej dominowała ludność narodowości żydowskiej (w 1921 r. w Białymstoku 51,6 proc. mieszkańców , a w Grodnie – 53,9 proc.), to w ciągu dekady Żydzi przestali być największą grupą narodowościową w tych miastach (w 1931 r.: Białystok – 43 proc., Grodno – 42,6 proc.). Dodać należy, że miejscowi Żydzi byli mało zasymilowani, o czym świadczy fakt, że tylko nieco ponad jeden proc. (228) grodzieńskich Żydów zadeklarowało język ojczysty inny niż żydowski (tj. inny niż jidysz i hebrajski), a w Białymstoku – nawet poniżej jednego proc. (375 osób). W obydwu miastach nie doszło do konfliktów polsko-żydowskich na większą skalę, nawet w latach trzydziestych. Zadecydowało o tym kilka czynników. I w Grodnie i w Białymstoku duży procent ludności utrzymywał się z pracy w przemyśle – robotnicy Żydzi i Polacy pracowali razem, znali się i nie ulegali stereotypom. Ewentualnym zadrażnieniom przeciwdziałały także najliczniejsze związki zawodowe tzw. klasowe, które np. przyjęły zasadę, że na miejsce zwolnione przez robotnika wyznania mojżeszowego przyjmowany był Żyd, natomiast na miejsce chrześcijanina inny chrześcijanin W obydwu miastach słabe wpływy miała endecka prawica – w polskich środowiskach chrześcijańskich raczej dominowały wpływy centrowej chrześcijańskiej demokracji. Także hierarchia Kościoła katolickiego w diecezji wileńskiej była przeciwna skrajnemu nacjonalizmowi. Arcybiskup wileński Romuald Jałbrzykowski znał język hebrajski i lubił być witany w czasie wizytacji w parafiach także przez przedstawicieli gmin wyznaniowych żydowskich. Z kolei dziekan białostocki ks. Aleksander Chodyko nie udzielał zezwoleń narodowcom na organizację wieców w obrębie obiektów kościelnych (łącznie z przyległymi placami).

Białorusko-rosyjska społeczność prawosławna była zdecydowanie liczniejsza w Grodnie (12,6 proc. mieszkańców w 1931 r.) niż w Białymstoku (6,2 proc.), na ogół trzykrotnie częściej podająca jako język ojczysty rosyjski niż białoruski. W latach trzydziestych nastąpiło otwarte „przeciąganie" tej ludności na stronę polską. Służyło temu Stowarzyszenie Polaków Wyznania Prawosławnego, które działało przy wsparciu władz w obydwu miastach. Tuż przed wybuchem wojny podjęto jednak działania, które te wysiłki mogły zepsuć. Rady miejskie w Białymstoku i Grodnie w 1938 r. podjęły decyzje o zburzeniu dwóch cerkwi jako symboli czasów niewoli. W Białymstoku 30 marca uchwalono rozebranie niedokończonej cerkwi na placu Wolności (przeciwko głosowali radni socjaliści żydowscy i polscy tj. Bund i PPS), a w Grodnie miesiąc wcze-

śniej zadecydowano o rozbiórce cerkwi garnizonowej św. Aleksandra zbudowanej dla uczczenia stłumienia powstania styczniowego (protestował radny prawosławny Włodzimierz Szerszeń, a radni żydowscy wstrzymali się od głosowania)[3]. Powstałe wówczas napięcia w jakiś sposób złagodził efekt starań Zarządu Polaków Wyznania Prawosławnego – zgoda na budowę cerkwi p.w. Zmartwychwstania Chrystusa Pana dla uczczenia XX rocznicy odzyskania przez Polskę niepodległości.

W Białymstoku z kolei nieco liczniejsza była społeczność wyznania ewangelickiego (co było przede wszystkim konsekwencją ich wielkiej roli w rozwoju przemysłu włókienniczego) deklarująca się głównie jako Niemcy: około 3 proc. mieszkańców, z których w 1931 r. podawało jako język ojczysty niemiecki 1948 (2,1 proc. ludności). W Grodnie ewangelików było wówczas zaledwie 358 (0,7 proc,), natomiast osób uznających język niemiecki za ojczysty – 99 (0,2 proc.).

Zarówno Białystok jak i Grodno były miastami przemysłowymi – największa część ludności utrzymywała się z pracy w przemyśle: odpowiednio (w 1931 r.) – 47,1 proc. i 40,3 proc. Białystok rozwijał się w drugiej połowie XIX w. aż do wybuchu I wojny światowej głównie jako ośrodek przemysłu włókienniczego, po wojnie utracił jednak dotychczasowy rynek rosyjski i znalazł się w sytuacji kryzysowej. Gospodarka Grodna nie była tak mocno oparta na jednej gałęzi przemysłu i dlatego lepiej radziła sobie w czasach trudnych, bo tytoń przetwarzany w miejscowych zakładach paliła cała Polska, podobnie jak jeździła na grodzieńskich rowerach, czy grała w karty. Problem tkwił oczywiście w perspektywach rozwojowych: w Białymstoku poszukiwano głównie nowych rynków zbytu na innych kontynentach (częściowo z sukcesem), w Grodnie zabiegano w końcu lat trzydziestych o szansę utworzenia okręgu przemysłowego na wzór słynnego w Polsce Centralnego Okręgu Przemysłowego. Tymczasem dramatyczna sytuacja z okresu wielkiego kryzysu gospodarczego dotkliwiej dotknęła Białystok, gdzie było przeszło trzykrotnie więcej bezrobotnych niż w Grodnie (w 1931 r. w Białymstoku – około 6400, w Grodnie – 2040).

Grodno, nie bez powodu, uważało się za ważne centrum kulturalne, na pewno ważniejsze niż Białystok. Było ono w bezpośrednim oddziaływaniu Wilna i stamtąd czerpało inspiracje; Białystok był jakby rozdarty pomiędzy Warszawę i Wilno[4]. Do Grodna dosyć często przyjeżdżali na spotkania literaci z Wilna, występowały tamtejsze zespoły teatralne (Teatr Reduta) i odwrotnie miejscowa elita kulturalna od czasu do czasu uczestniczyła w słynnych „środach literackich" w mieście nad Wilią. A nawet zapragnęła urządzać takie imprezy u siebie w soboty – miały być „soboty literackie" w Grodnie, ale ze względu na wybuch wojny nie udało się utrwalić tej inicjatywy. Podobnie na wzór Wilna (ale i innych znakomitych miast)

miejscowe elity zapragnęły ustanowić nagrodę literacką. Miasto, które szczyciło się Elizą Orzeszkową musiało nagrodę taką mieć. Ostatecznie, po kilku latach dyskusji i narad (także z udziałem literatów wileńskich) oraz przyjęciu wielu uchwał, w 1936 r. Nagrodę Literacką m. Grodna otrzymał prof. Marian Zdziechowski[5]. Na jakiś czas w grodzie nad Niemnem znalazła schronienie słynna wileńska grupa teatralna „Reduta", jednak jej utrzymanie na dłuższą metę destabilizowało budżet miasta. W tej sytuacji podjęto starania, aby teatr był dofinansowywany także przez inne większe miasta – w tym Białystok – i w ten sposób teatr z siedzibą w Grodnie zyskał charakter wojewódzki (Wojewódzki Teatr Objazdowy). Do „przewag" Grodna nad Białymstokiem dodać trzeba tez powstanie w mieście Muzeum Przyrodniczego i Ogrodu Zoologicznego, a zwłaszcza wielki wysiłek włożony w dzieło odnowienia zabytków. Twórca Muzeum na Zamku Józef Jodkowski chciał, żeby Zamek Stary po restauracji stał się swojego rodzaju Wawelem Nadniemeńskim i czasową siedzibą głowy państwa. W końcu lat dwudziestych przyspieszono prace konserwatorskie, aby godnie uczcić w 1933 r. 400-lecie urodzin króla Stefana Batorego (Grodno też nazywano czasami grodem Batorego). Zamieszkał wówczas (25-26 XI 1933 r.) na Zamku prezydent Ignacy Mościcki[6]. Planów, co do ustanowienia tam rezydencji głowy państwa, nie udało się jednak zrealizować. Pomimo wielkich i słusznych aspiracji kulturalnych poziom analfabetyzmu w obydwu miastach był podobny. W 1931 r. wśród ludności powyżej 10 lat nie czytało i pisało: w Grodnie 14 proc. mieszkańców, a w Białymstoku – 13 proc. Mało wiemy na temat inicjatyw kulturalno-oświatowych mniejszości, a było ich dużo – nawet w Białymstoku w przypadku stosunkowo mało licznej mniejszości białoruskiej, która bardzo aktywnie działała np. w ramach Towarzystwa Szkoły Białoruskiej.

Jozef Piłsudski, kiedy podróżował do Wilna lub Druskiennik, niekiedy wysiadał w Grodnie, gdzie w połowie lat dwudziestych czasami nocował u swojego towarzysza z lat konspiracji płk. Jana Jura–Gorzechowskiego (w latach 1921-1924 był dowódcą 3. dywizjonu żandarmerii), ówczesnego męża znanej pisarki Zofii Nałkowskiej. Nawet kiedy nie wysiadał w Grodnie, kazał się budzić przed miastem, żeby popatrzeć na Niemen. Widok zaiste był wspaniały. Tak pisała o nim poetka Janina Kirtiklisowa w wierszu „Niemen pod Grodnem": „Wzięty w brzegów wysokich mocarne ramiona/ Na dnie jaru, gdzie burze miotą piaski płowe – / Potulny, niby panna dobrze ułożona – / Toczy Niemen swe ciężkie wody szafirowe"[7]. Marszałek Piłsudski nie kazał się budzić, kiedy przejeżdżał przez most na Narwi między Łapami a Białymstokiem.

W kwestiach politycznych nie można mówić o jakiejś przewadze jednego regionu (miasta) nad drugim – było to w znacznym stopniu

konsekwencją systemu politycznego, w którym dominująca w województwie osoba – wojewoda – była nominowana przez rząd bez jakiejkolwiek konsultacji z terenem. Z kolei w przypadku partii politycznych faktyczne znaczenie miały struktury, które powstawały w ramach określonych okręgów wyborczych do parlamentu: Białystok i Grodno stanowiły siedziby odrębnych okręgów. Były znaczne podobieństwa w kolorycie politycznym obu miast, co było m.in. konsekwencją struktury narodowościowo-wyznaniowej i społecznej mieszkańców. I tak w Białymstoku i Grodnie, które były dużymi skupiskami robotników, stosunkowo silne były partie robotnicze: Polska Partia Socjalistyczna i żydowski Bund. Cechą charakterystyczną była współpraca obu partii, czego szczególnym przejawem była wspólna lista wyborcza w wyborach do sejmu w Białymstoku w 1928 r., czy współpraca w ramach rady miejskiej w Grodnie (Blok Socjalistyczny, który stał się największą siłą w samorządzie w 1939 r.).

Najłatwiej zmierzyć efekty rywalizacji w sporcie. W jednych dyscyplinach przeważało Grodno (szermierka, wioślarstwo), w innych – Białystok (lekka atletyka, zapasy), jednak w najważniejszej – piłce nożnej – zdecydowanie dominowało Grodno. Na jedenaście rozegranych mistrzostw okręgu białostockiego aż osiem razy triumfował WKS 76 pp w Grodnie, raz zespół „Cresovii" Grodno oraz po razie WKS 42 pp w Białymstoku i drużyna „Warmii" Grajewo.

Dominacja administracyjna Białegostoku była kontynuowana w latach II wojny światowej: w tym mieście były ulokowane władze obwodowe w latach 1939-1941, a w czasach okupacji niemieckiej – Bezirk Bialystok, zaś po II wojnie światowej obydwa miasta pełniły równorzędne funkcje, ale w dwóch różnych państwach.

---

[1] Wszystkie dane statystyczne dotyczące liczby i struktury mieszkańców w 1921 i 1931 r. za: „Statystyka Polski", T. XIX, Warszawa 1927; seria C, z. 83, Warszawa 1938; zob. też: J.J. Milewski, Grodno – miasto i ludność w okresie międzywojennym [w:] Grodno w XVIII wieku. Miasto i ludność (na tle trendów rozwojowych od średniowiecza do 1939 roku), red. A. Woltanowski, J. Urwanowicz, Białystok 1997.

[2] J.J. Milewski, Powstanie i działalność Oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie, „Biuletyn Historii Pogranicza" 2006, nr 7.

[3] Idem, Województwo białostockie. Zarys dziejów (1919-1975), Białystok 2011, s.83.

[4] Idem, Między Warszawą a Wilnem [w:] Białystok w 80-leciu, red. C. Kuklo, Białystok 2000.

[5] Idem, Nagroda literacka miasta Grodna im. Elizy Orzeszkowej [w:] Wokół „Nad Niemnem", red. J. Sztachelska, Białystok 2001.

[6] Idem, Stefan Batory w tradycji Grodna 1919 – 1939 [w:] Nasz Radawod. Kniga 8, Grodna – Biełastok 1999/2000.

[7] „Kurier Wileński", 16 VI 1927.

*Zbigniew Jędrychowski, Phd*
*(Wrocław)*

# Awantura w Grodnie

W roku 1925 Grodno żyło awanturą, dotyczącą usunięcia ze stanowiska dyrektora teatru Bronisława Skąpskiego i powierzenia zarządzania sceną Zrzeszeniu Aktorów. Pogłoski o „rzekomym bojkocie dyr. Skąpskiego przez artystów" znane były nad Niemnem o wiele wcześniej[1]. Sam bohater skomentował je wówczas następująco: „Szanowna prasa, żądna oczywiście sensacji, przyszła zbadać na gruncie ilość zawartej prawdy w ploteczkach krążących po kochanym Grodzienku". Tymczasem Skąpski przygotowywał się do otwarcia sezonu 1924/25 *Edukacją Bronki* Krzywoszewskiego. „To będzie mój pierwszy strzał wymierzony w serce Grodna"[2], informował dziennikarzy, niezrażony zakazem starostwa wobec zamiaru wystawienia jeszcze w sierpniu 1924 *Kochanków* Grubińskiego[3].

Przed inauguracją sezonu postulowano również przeprowadzenie niezbędnego remontu w gmachu teatru. Zastrzeżenia budziły warunki sanitarne: ubikacje damskie i męskie „pod względem sprawności działania jako też i czystości" oraz „zabezpieczenia wobec pożaru" („Główne drzwi wejściowe od przedsionka powinny swobodnie otwierać się w obie strony na podwójnych zawiasach")[4].

Niespełna trzydziestoośmioletni Bronisław Skąpski miał wówczas za sobą bogatą przeszłość teatralną – jako aktor, reżyser i dyrektor teatru. Związany kolejno ze scenami Krakowa, Poznania, Sosnowca, a następnie teatrami polskimi w Moskwie, Kijowie, Mińsku Litewskim, w sezonie 1921/22 pojawił się w Grodnie, gdzie otworzył teatr i osiadł – jak się okazało – na dłużej[5].

U początków kryzysu grodzieńskiej dyrekcji Skąpskiego nie można mu odmówić przenikliwości w ocenie czasopism grodzieńskich, spragnionych „sensacji". Właśnie dzięki nadniemeńskim dziennikom, na które jesteśmy zdani w niniejszych badaniach, potrafimy odtworzyć zarzewie, jak i przebieg konfliktu. Mamy tu na uwadze „Nadniemeński Kurier Polski" o zabarwieniu liberalno-demokratycznym, chrześcijańsko-demokratyczny „Nowy Dziennik Kresowy" oraz wychodzące dwa razy w tygodniu narodowo-demokratyczne „Nowe Życie".

W niniejszym opracowaniu piszemy o konflikcie Skąpskiego z grodzieńskim Zrzeszeniem Aktorów w zarysie, bez przytaczania wszystkich

можных і сярэднязаможных гараджанаў, але адначасова выявіла больш яскрава сацыяльны падзел. Большасць гарадзенцаў жыла даволі сціпла. Так, тэхнічны персанал школ зарабляў 60 – 120 зл., пажарныя – 100 – 190 зл., санітарка ў гарадскім шпіталі – 60 – 80 зл.[24] Некаторыя катэгорыі рабочых атрымлівалі па 12 – 15 зл. у тыдзень, рамізнік меў даход 3 – 5 зл. у дзень, а хатняя прыслуга – 40 зл. у месяц[25].

Перадваенная "грамадская думка" прыпісвала выключанае багацце гарадзенскім габрэям, але паводле сведчання мясцовага старажыла Ю. Баярскага, сапраўды багатымі сярод габрэяў былі адзінкі. Налічвалася каля 200 заможных і каля 1000 сярэднязаможных сямей[26]. Астатнія жылі бедна, а некаторыя нават на мяжы беднасці, якая ацэньвалася ў 30 зл. штомесяц.

Дробныя гандляры плацілі ў гарадскі бюджэт за арэнду крамы на Скідальскім рынку 15 – 38 зл. штомесяц, а на Сенным – 11 зл., па вул. Ажэшкі – 24 зл.[27]

Варта прывесці некаторыя сярэднія цэны 1939 г. у Гародні. Так, хлеб жытні каштаваў 24 гр. за 1 кг, хлеб белы – 44 гр./кг, булка "кайзэрка" – 4 гр./шт., мяса – 1,1-2,2 зл./кг, каўбаса – 2,4-5 зл./кг, папіросы сярэдняй якасці – 2-25 гр./шт., вугаль – 32-42 зл./т., 1 літр бензіну – 58 гр., 1 куб. м. вады – 35 гр., радыёпрымальнік – 160 – 300 зл. [28]

Даволі шмат было беспрацоўных, хаця іх колькасць у апошнім даваенным годзе паволі пачала зніжацца. Калі ў студзені 1939 г. налічвалася 2971 беспрацоўных, то ў красавіку – ужо 1712, а з ліпені – 1502[29]. Але ў цэлым сітуацыя заставалася трагічнай. У студзені 1939 г. газета "Głos Grodzieński" інфармавала нават пра смерць жонкі беспрацоўнага ад голаду. Гэтая ж газета пісала ў лютым пра выпадкі брушнага тыфу сярод бяднейшай часткі насельніцтва, у сувязі з чым прэзідэнт горада павялічыў з 400 да 1000 зл. квоту, прызначаную на мыццё ўбогіх[30]. Са старонак газет гучалі заклікі апанаваць жабрацтва, якое прымала агрэсіўныя формы. Маладыя хлопцы 18 – 20 гадоў, ходзячы на кватэрах, прасілі грошы і вопратку, часам пагражаючы іх жыхарам[31].

У сакавіку 1939 г. у Беластоку прайшоў з'езд павятовых старастаў, на якім прысутнічалі кіраўнікі ўсіх галінаў улады ваяводскага ўзроўня. Гародня было прадстаўлена старастам Т.Валіцкім, камандуючым мясцовай часткай Корпуса аховы памежжа (КАП) "Гародня" палкоўнікам С.Бестакам, пракурорам акруговага суда В.Гедройцям і афіцэрамі з камандавання III акругай маёрамі Віслаухам і Пятроўскім, а таксама капітанам Піко. Тэматыка рэфератаў выглядала руціннай і датычыла галоўным чынам гаспадарчых спра-

ваў, якія выклікалі найбольшы непакой улады, у прыватнасці, мірнага вырашэння працоўных спрэчак з мэтай пазбегнуць страйкаў, уладкавання беспрацоўных, зімовай дапамогі, будаўніцтва школ і паліклінік ды інш.[32]

Справа страйкаў закраналася невыпадкова. У сакавіку на тэрыторыі павету іх адбылося 11 з удзелам больш за 300 чал. У маі ў 6 страйках удзельнічала больш за 500 чал., галоўным чынам працаўнікоў гарадзенскай фанернай фабрыкі Браўна, дзе планавалася звальненне паловы рабочых. У ліпені актыўнасць рабочых яшчэ больш павялічылася. Адбылося 17 страйкаў з эканамічнымі патрабаваннямі: павышэння заробкаў, выплаты затрыманых грошай, абмежавання звальненняў[33].

Існуючае аблічча беспрацоўя страшыла жыхароў, і людзі згаджаліся на кожную працу. Колькасць працоўных месцаў у 1939 г. павінна была павялічыцца, бо гарадскія ўлады планавалі рэалізаваць шэраг будаўнічых ініцыятываў. Між іншым, планаваліся капітальныя рамонты будынкаў магістрату, “Старых” і “Жоўтых” казармаў, бараку для бяздомных, старой ратушы, пажарнай часткі, гарадскога шпіталя, Дому акцёра, школаў № 1, 2, 7 і 8, а таксама шэрагу крамаў і базараў. Сярод інвестыцый была пракладка электрычнай лініі высокага напружання да в. Чэхаўшчызна, працяг перабудовы электрычнай сеткі з пастаяннага току на пераменны, а таксама будаўніцтва Рабочага пасёлка, трубапроваду праз Нёман і каналізацыі да казармаў па вул. Панятоўскага. Да таго ж збіраліся фінансаваць рэстаўрацыю кляштараў Назаратанскага, Францысканскага і бернардзінак, а таксама Фары Вітаўта[34].

Мясцовыя газеты пісалі таксама пра планы перабудовы рачнога порту, адкрытага басейну на беразе Гараднічанкі (за саборам) і пра жаданне гараджан мець гідраэлектрастанцыю на Нёмане. Існаваў праект уводу ў дзеянне ў 1939 г. паліцэйскай радыёстанцыі, якая павінна была размяшчацца на пастарунку за Нёманам. Павятовыя ўлады ў лютым 1939 г. думалі аб арганізацыі летняга адпачынку і спалучэнні яго з турыстыкай, каб запяспечыць крыніцу даходу для вяскоўцаў. Умовамі для мясцовасцяў, якія маглі б разлічваць на прыезд турыстаў і адпачываючых, павінны былі быць чыстыя хаты і падворкі, наяўнасць ракі ці возера і прынамсі адной крамы з прадуктамі і таварамі першай неабходнасці[35].

Паляпшэнне стану аховы здароўя і павелічэнне сеткі ўсеагульных школ (*szkoły powszechne*) таксама заставалася адной з важных задач тагачаснай улады. Калі справа медыцынскай дапамогі неяк вырашалася, дзякуючы дастатковай колькасці прыватных ле-

караў, то недахоп школ адчуваўся выразна. У Віленскай школьнай акрузе, да якой адносілася Гародня, у 1939 г. планавалася пабудова 63 школаў[36]. Сярод іх была адна школа ў Гародні.

Акрамя 9 школ "паўшэхных" і 9 прыватных напярэдадні вайны ў горадзе былі 4 гімназіі (2 дзяржаўныя), 3 настаўніцкія семінарыі (2 дзяржаўныя) і шэраг рамесных вучылішчаў, з якіх два былі дзяржаўнымі[37]. У апошнім даваенным годзе наступіла рэарганізацыя рамесных навучальных установаў. У Гародні дзяржаўныя (Жаночая кравецкая гімназія і Прамыслова-гандлёвая школа) аб'ядналіся пад агульным кіраўніцтвам, што дазволіла мець агульную педагагічную раду і больш сцісла каардынаваць дзейнасць[38]. Дырэктарам стала Гражына Ліпінская (1902-1995)[39].

## ПАЛІТЫЧНАЕ І ГРАМАДСКАЕ ЖЫЦЦЁ

Пытанні падтрымкі парадку і грамадскай бяспекі ў Гародні знаходзіліся ў кампетэнцыі двух камісарыятаў паліцыі, узмоцненых паліцэйскім рэзервам, да якіх летам дадаваўся яшчэ пастарунак на Нёмане[40]. За палітычным становішчам сачыў Следчы аддзел паліцыі, які размяшчаўся ў будынку павятовай камендатуры (пл. Тызенгаўза, 5). У сваёй дзейнасці ён абавязаны быў супрацоўнічаць з службамі выведкі КАП і вайсковай акругі. Мясцовых гарадзенцаў у паліцыі амаль не было. На працу ў Следчы аддзел і на большасць пасадаў у паліцыі накіроўваліся прыезжыя з цэнтральнай Польшчы. Кіраўніком следчага аддзела ў 1939 г. быў падкамісар Уладзіслаў Пухальскі.

Месцам утрымання палітычных і крымінальных зланчыцаў была Гарадзенская следча-карная турма. У лютым 1939 г. у ёй знаходзілася 1 027 муж. і 79 жан. Сярод іх было каля 35% палітычных вязняў, у т.л. 248 асуджаных камуністаў (225 муж. і 23 жан.) і 56 пад следствам (52 муж. і 4 жан.), а таксама 54 асуджаных "шпіёнаў" (51 муж. і 3 жан.) і 17 пад следствам (усе муж.). У жніўні колькасць вязняў зменшылася да 935 муж. і 65 жан., сярод якіх 323 былі асуджанымі камуністамі (310 муж. і 3 жан.) і 46 знаходзіліся пад следствам (41 муж. і 5 жан.). Колькасць "шпіёнаў" не змянілася[41].

Паводле ацэнкі Следчага аддзелу, палітычная атмасфера ў Гародні ў апошнім перадваенным паўгоддзі выглядала спакойна. Колькасць крымінальных злачынстваў трымалася прыкладна на адным узроўні, а палітычны рух асаблівай актыўнасці не праяўляў. Аднак адзначалася *"імклівае распаўсюджанне ў польскім грамадстве антысемітызму"*[42]. Да легальных палітычных арганізацый

і саюзаў, якія былі найбольш заўважальнымі ў Гародні ў 1939 г., адносіліся Лагер нацыянальнага адзінства (*Obóz Zjednoczenia Narodowego* – OZN), Саюз польскай моладзі (*Związek Młodzieży Polskiej* – ZMP), Нацыянальная партыя (*Stronnictwo Narodowe* – SN), Польская сацыялістычная партыя (*Polska Partia Socjalistyczna* – PPS), Народная партыя (*Stronnictwo Ludowe* – SL), Класавыя прафсаюзы (*Klasowe Związki Zawodowe* – KZZ) і Саюз польскіх прафсаюзаў (*Związek Polskich Związków Zawodowych* – ZPZZ).

Галіновыя прафсаюзы штомесяц праводзілі свае сходы, на якіх прысутнічала ад 7 да 80 чалавек і абмяркоўваліся пераважна эканамічныя праблемы. Сярод партый актыўнасцю вылучалася дзейнасць OZN, які налічваў у горадзе 520 сяброў. На другім месцы па колькасці і ўплыву знаходзілася Нацыянальная партыя (SN), якія налічвала ў павеце 550 сяброў, большасць з якіх пражывала ў Гародні. Гэта ж датычыла даволі актыўнай Польскай сацыялістычнай партыі (PPS). Яна налічвала ў павеце 101 сябра, якія канцэнтраваліся пераважна ў горадзе. Моладзевае крыло OZN – Саюз польскай моладзі – меў 5 аддзяленняў і налічваў 150 сяброў[43].

Нелегальны палітычны рух у Гародні быў прадстаўлены Камуністычнай партыяй Польшчы (КПП), Камуністычнай партыяй Заходняй Беларусі (КПЗБ) і Нацыянальна-радыкальным аб'яднаннем (*Obóz Narowodo-Radykalny* – ONR). Паводле данясенняў паліцыі, КПЗБ мела больш моцныя пазіцыі, чым КПП, але ў Гародні напярэдадні вайны дзейнасць ні адных, ні другіх не была заўважанай, і *"згуртаваны рабочы фронт у горадзе не паўстаў"*. Следчае аддзяленне тлумачыла гэта дэзарыентацыяй, выкліканай рашэннем Камінтэрна ў 1938 г. зліквідаваць КПП і КПЗБ. У Гарадзенскім павеце дзейнасць азначаных партый зводзілася да рэдкіх акцый збору сродкаў на МОПР, групавога слухання савецкага радыё ды спявання "камуністычных песняў". Адзначыўшы *"спад дынамізму"* у дзейнасці камуністычных арганізацый, ваявода ў сваёй справаздачы з красавіка 1939 г. звяртаў увагу, што заўважальнае іх імкненне да легалізацыі шляхам пранікнення ў прафсаюзы, стварэння культурна-асветніцкіх аб'яднанняў ды колаў самаадукацыі[44].

У той жа час паліцыя папярэджвала аб росце актыўнасці ў Гародні крайне правага Нацыянальна-радыкальнага лагеру (ONR), асабліва яго моладзевага крыла "Рух моладзі" (*Ruch Młodych* – RM). Прадстаўнікі гэтай арганізацыі рэгулярна збіраліся па 16-20 чал., каб запланаваць свае акцыі, якія зводзіліся галоўным чынам да байкатавання габрэйскага гандлю. Адна з буйных акцый гэтага тыпу, у якой удзельнічалі 42 асобы, адбылася 18 студзеня. Яе

ўдзельнікі раздавалі ўлёткі з заклікамі да барацьбы з "жыдакамунай", масонамі, капіталізмам і... абыякавасцю грамадства. Іх прысылала гарадзенцам арганізацыя "Фаланга".

Як можна меркаваць па данясеннях паліцыі, праварадыкальная моладзь не абмяжоўвалася палітыкай і барацьбой з *"габрэйскай дамінацыяй"*. Следчае аддзяленне інфармавала, што ў Гародні ONR-RM кожную суботу арганізоўвала танцавальныя вечарыны, на якіх акрамя сяброў арганізацыі заўсёды прысутнічалі *"жанчыны з не вельмі прыстойнай рэпутацыяй"*. Плата за білеты выкарыстоўвалася на пакупку алкаголю, адбываліся п'янкі, пасля якіх *"некаторыя жанчыны заставаліся ў памяшканні арганізацыі на ноч"*. Адна з такіх вечарын у лютым скончылася гучным скандалам і ўмяшаннем паліцыі. Разам з бацькамі паліцэйскія прыбылі вызваляць дзяўчыну, якую актыўна "спакушаў" кіраўнік сектара прапаганды ONR-RM Дамінік Ярашэвіч[45].

З грамадскіх таварыстваў і саюзаў у 1939 г. найбольш шматлікімі ў Беластоцкім ваяводстве былі параміліітарныя аб'яднанні. Гэта датычыла і Гародні, дзе існавалі прадстаўніцтва саюзаў падафіцэраў-рэзервістаў, афіцэраў-рэзервістаў, легіянераў, былых дабраахвотнікаў Войска Польскага, Польскай арганізацыі вайсковай, ваенных інвалідаў, рэзервістаў Войска Польскага і Федэрацыі польскіх саюзаў абароны Айчыны[46]. Яны не былі колькасна вялікімі, але праводзілі актыўную дзейнасць у рэчышчы *"надання польскага характару ўсходнім землям"*, што адпавядала ўрадавым задачам.

Па колькасці ж сяброў на першым месцы значылася Ліга супрацьпаветранай і супрацьгазавай абароны, створаная дзеля дапамогі арміі, а другое месца належала моладзевым арганізацыям. Найбольш шматлікімі сярод іх былі дзявочае і юнацкае Каталіцкія таварыствы, Саюз польскага харцэрства і Стралецкі саюз[47]. Усе гэтыя арганізацыі ў той ці іншай ступені дзейнічалі ў накірунку патрыятычнага выхавання. З нацыянальных аб'яднанняў у 1939 г. у горадзе засталіся толькі габрэйскія. Даволі актыўная руская меншасць пасля закрыцця Дабрачыннага таварыства, якое было цэнтрам культурнага і грамадскага жыцця, пачала збліжацца з PPS. Менавіта ад гэтай партыі ў склад гарадской Рады ў 1939 г. увайшоў адвакат Беляеў[48].

Палітычнае жыццё ў 1939 г. мясцовыя ўлады ацэньвалі, як "*спакойнае*". Гэта не азначала, што ў Гародні яго ўвогуле не было. У студзені быў забаронены часопіс „Czyn Młodych" ("Дзеянне моладзі" ) – орган моладзевага крыла OZN, але яго адразу ж замяніў адпаведнік "Jutro Polski" ("Паранак Польшчы"). "Саюз Маладой

Польшчы" (*Związek Młodej Polski*) у ліпені 1939 г. працягваў весці *"інтэнсіўную антыгабрэйскую дзейнасць"*, якая заключалася ў размяшчэнні антыгабрэйскіх надпісаў, распаўсюджванні ўлётак антысеміцкай накіраванасці і байкатаванні габрэйскіх крамаў[49].

У гэтым жа месяцы быў прыгавораны да трох месяцаў арышту старшыня Рады Класавых прафсаюзаў Станіслаў Рашкоўскі за артыкул у газеце "Ilustrowany Dziennik Ludowy" ("Ілюстраваная народная газета")[50]. Перастала выходзіць газета "Głos Grodzieński" ("Гарадзенскі голас"). Прэса левага накірунку крытыкавала становішча ў магістраце, а касерватыўная – канцэнтравала ўвагу на міжнародным становішчы. Вось традыцыйны набор газетных загалоўкаў – "Сельская гаспадарка і абарона краіны"[51], "Кожная полька павінна быць салдатам"[52], "Станем усе абаронцамі краіны" "Дзе крыецца небяспека вайны", "Польшча будзе біцца за Гданьск" і г.д.[53] Нацыянальна арыентаваная інтэлігенцыя крытыкавала высылку ў Бярозу Картузскую рэдактара віленскага "Słowa" Мацкевіча, а г.зв. "філасеміцкія колы" былога Беспартыйнага блока супрацы з урадам (BBWR) – дзейнасць старшыні мясцовай акругі OZN Яна Валіцкага.

Здараліся сур'ёзныя антыгабрэйскія інцыдэнты (забойства, нанясенне цялесных пашкоджанняў, разбой, рабунак), якія фіксаваліся ў паліцэйскіх рапартах у асобнай графе. У 1939 г. у павеце такіх здарэнняў было: у студзені 16, лютым – 5, сакавіку – 7, красавіку – 4, маі – 3, чэрвені – 3, ліпені і жніўні – не зафіксавана. Лічбы сведчаць, што па меры набліжэння вайны гэтая праблема знікала[54].

У лютым у гарадскім тэатры адбыўся сход PPS, дзе старшыня Таварыства рабочых універсітэтаў (TUR) С.Кузьняк кінуў вокліч: *"Няхай жыве рабоча-сялянская Польшча"*. У гэты ж час дзеячы OZN Бруна Хлябовіч і Антон Палаш правялі маніфестацыю пад дэвізам абароны Польшчы, а Камітэт барацьбы з камунізмам актыўна раздаваў свае ўлёткі. Пачынаючы з сакавіка паліцыя адзначала, што сярод насельніцтва Гародні адчувальны выразны антынямецкі настрой, і пануе меркаванне, што вайны не пазбегнуць. Некаторыя грамадзяне, сярод якіх пераважалі габрэі, пачалі забіраць з банкаў свае сродкі, штодзённа здымаючы да 30 тыс. зл. А пасля таго, як савецкае радыё абвясціла пра нямецкі ўльтыматум у справе Гданьска, гарадзенцы пачалі масава скупаць прадукты харчавання. Сітуацыя абвастрылася настолькі, што стараста загадаў паліцыі выкрываць і прыцягваць да адказнасці тых, што сеюць паніку і настроі паражэння[55].

Летам паліцыя акрэслівала настрой гараджан, як *"ультрапатрыятычны"*. Гэта датычыла таксама нацыянальных меншасцяў

(за выключэннем нямецкай), што пачалі выказваць большую лаяльнасць да дзяржавы[56]. Гарадзенскія габрэі нават *"далі зразумець"*, што ў выпадку вайны дапамогуць Польшчы сваімі капіталамі і масава ўступяць у войска[57]. Пры гэтым лідэры мясцовай Нацыянальнай партыі (SN) не хавалі сімпатый да нацыянал-сацыялізму. Старшыня акругі Альгерд Даніловіч на сходзе 4 чэрвеня выказаў меркаванне, што *"праграма Гітлера падобная да праграмы Нацыянальнай партыі. Розніца палягае на тым, што SN грунтуецца на падставах рэлігійных і каталіцкіх, а Гітлер змагаецца з каталіцызмам"*[58].

Аднак подых блізкай вайны ліквідаваў атмасферу палітычнага спаборніцтва, бо ўвагу людзей усё больш займалі міжнародныя праблемы, чаканне вырашэння польска-нямецкага канфлікту.

## РЭЛІГІЙНАЕ І КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ

Гародня ў міжваенны перыяд была горадам шматканфесійным, дзе колькасна дамінавалі каталікі і іудзеі, але даволі актыўную палітычную ролю адыгрывалі таксама праваслаўныя. Горад быў сталіцай праваслаўнай дыяцэзіі і каталіцкага дэканату, які ўваходзіў у Віленскую архідыяцэзію. Каталіцызм, паводле Канстытуцыі, лічыўся дамінуючым веравызнаннем, хаця ні ў Гародні, ні ў Гарадзенскім павеце каталікі не былі большасцю (каля 46%). Улады клапаціліся пра "польскі характар" каталіцызму і бачылі ў ім падставу палітычнай стабільнасці.

Лічылася, што настаўленне вернікаў залежыць галоўным чынам ад пазіцыі пробашча, таму гэтай катэгорыі святароў Беластоцкі ваявода ў справаздачы ў МУС з 1939 г. даў падрабязную характарыстыку. Так, у Гарадзенскім павеце сярод 23 пробашчаў 10 захоўваліся апалітычна, 9 з'яўляліся прыхільнікамі не існуючай фармальна Хрысціянскай дэмакратыі (ChD), а 4 – Нацыянальнай партыі (SN). Пры гэтым ваявода адзначыў, што "хадэцыя" не ўяўляе асаблівай пагрозы, бо не мае маладых энергічных лідэраў, і адпаведна не мае ў ваяводстве перспектывы развіцця.

Негатыўнай з'явай ваявода прызнаў канцэнтрацыю ўсяго грамадскага жыцця вакол парафій, паколькі гэта падкрэслівала выразны канфесійны падзел і тым самым ускладняла працэс паланізацыі праваслаўных, якіх у павеце налічвалася 35%. Калі верыць справаздачы, то гэтая паланізацыя паволі, але няўхільна ішла наперад[59]. Асноўную ролю ў гэтым адыгрывала вайсковае духавенства. У першым нумары журнала "Місіянерскія лісты" (*"Listy*

*Misjonarskie"*), органа Таварыства праваслаўных палякаў (далей - ТПП), вайсковы капелан а. Павел Каліновіч адзначаў: *"Ужо не толькі праваслаўныя палякі, якіх можна спаткаць амаль ва ўсіх епархіях, але і моладзь іншых нацыянальнасцяў гаворыць, піша і думае па-польску"*[60].

Аднак у Гародні дзеянні ТПП у 1939 г. сустракалі моцны супраціў. Нягледзячы на афіцыйную ліквідацыю Рускага дабрачыннага таварыства (РДТ) і высылку з горада *"аднаго з самых вядомых русіфікатараў"* а. Сагайдакоўскага, паводле ацэнкі паліцыі, РДТ працягвала ўяўляць сабою актыўны "цэнтр русіфікацыі", як зрэшты і жаночы кляштар у Гародні. Згодна з данясеннямі ў ваяводскую ўправу, дабрачынныя акцыі і рэлігійныя мерапрыемствы 1939 г., у якіх удзельнічала да 500 чалавек разам з біскупам Савай, падтрымлівалі нацыянальную свядомасць рускай супольнасці, якая ўпарта не жадала станавіцца праваслаўнымі палякамі[61]. Тым не менш ТПП працягвала наступ і перад пачаткам вайны 8 жніўня стварыла ў Гародні свой павятовы камітэт, каб больш эфектыўна *"настаўляць праваслаўнае насельніцтва"* і, між іншым, выступаць за ўвядзенне Грэгарыянскага календара[62].

Іудзейскую супольнасць, паводле згаданай справаздачы ваяводы, нельга было разглядаць толькі ў аспекце рэлігійным, паколькі яна ўяўляла сабою *"сурагат габрэйскай культурна-нацыянальнай аўтаноміі"*. Гэта азначала, што рэлігійная супольнасць была фактычна органам нацыянальнага самакіравання, прыцягваючы да сябе розныя палітычныя сілы. Напярэдадні вайны асаблівы непакой улады выклікала павялічэнне ўплываў левых груповак і аслабленне ролі рабінаў. Няздольнасць рабінату належным чынам кіраваць духоўнымі справамі тлумачылася іх невысокай адукацыяй. Толькі 2 рабіны ў ваяводстве (з 96!) мелі вышэйшую адукацыю і толькі некалькі чалавек скончылі два класы гімназіі. У якасці іншага фактара "непакою" ваяводы фігуравалі *"значныя матэрыяльныя сродкі"* іудзейскай супольнасці, якія нібыта дазвалялі ёй пашыраць габрэйскую эканамічную манаполію ў гарадах[63]. З пачатку 1939 г. пры сінагогах гарадзенскія габрэі пачалі актыўны збор грошай на ўтрыманне габрэяў-уцекачоў з Германіі. Гэтую акцыю падтрымалі хрысціянскія прафсаюзы і PPS[64].

Прадстаўнікі евангеліцка-аўгсбурскага веравызнання, якіх у 1939 г. у Гародні налічвалася 647 чал., ядналіся вакол Лютэранскай парафіі. Большасць евангелікаў адносіла сябе да немцаў, але з прыходам на пасаду пробашча Карла Месершміта, які лічыў сябе палякам, паводле меркавання ваяводы, *"нямецкія ўплывы зніклі"*[65].

Аднак ваявода памыляўся, і з набліжэннем вайны нямецкая меншасць апынулася пад падазрэннем небезпадстаўна. У 1939 г. контрвыведка арыштавала аднаго з вядомых у горадзе акулістаў Яна Рупа (Jan Rupp). У яго доме насупраць штабу III акругі знайшлі падслухоўваючую апаратуру. Доктар Я.Рупп быў актывістам мясцовай нямецкай супольнасці, а ягоная жонка кіравала дабрачыннай дзейнасцю пры евангеліцкай парафіі.

На працягу 1938 – 1939 гг. у горадзе дзейнічала, выкрытая ўжо пасля 1 верасня, група выведкі Абвера ў складзе прадстаўнікоў нямецкай супольнасці Эмы Бакер (Emma Backer), Вольгі і Марты Лясоўскіх (Olga i Marta Lasowskie) і Эмы Бонар (Emma Bonnar). Яны сябравалі пераважна з афіцэрскімі сем'ямі і любілі фатаграфавацца ў таварыстве афіцэраў на фоне ваенных аб'ектаў, слухалі іх размовы[66]. У групу ўваходзіў таксама арганіст і кіраўнік канцылярыі кірхі Георг Мелькe, які пазней служыў у Варшаўскім гестапа[67]. Да гэтай жа сеткі належаў і ўладальнік крамы з ткацкімі вырабамі па вул. Ажэшкі па прозвішчу Гейко (Hejko), шырока вядомы сярод жонак афіцэраў, паліцэйскіх і чынавенства. Ён збіраў інфармацыю пра розныя бакі дзейнасці гарнізону і перамяшчэнні войска, спрытна вывуджваючы яе з нявіннай жаночай балбатні. Дарэчы, контрвыведка III акругі яшчэ ў 1934 г. прыйшла да высновы, што нямецкая выведка ў Гародні абапіраецца на *"добра арганізаванай і выдатна згуртаванай нямецкай меншасці"*[68].

І ўсё ж нягледзячы на відавочнае набліжэнне бяды, гарадзенцы, паводле аповядаў старажылаў, весела праводзілі апошнія перадваенныя дні. Самым эксклюзіўным месцам правядзення афіцыйных урачыстасцяў быў гарадскі тэатр, а неафіцыйных спатканняў – рэстаран "Рояль" на вул. Гараднічанскай, 20. У гэтым рэстаране ад 14 гадзіны выступалі танцавальныя дуэты, артысты кабарэ і заезжыя спевакі, а пасля 21 гадзіны адбываліся танцы ў суправаджэнні аркестраў Бжазоўскага або Тадлеўскага. У 1939 г. у "Раялі" гарадзенцы аглядалі танцавальнае трыо Янішэўскай, слухалі англамоўную спявачку Фрыдэрыку, артыстак Ніну Левандоўскую і Яніну Далтуманаву[69]. Балі і танцавальныя вечарыны праходзілі таксама ў афіцэрскім і падафіцэрскім казіно, у іншых рэстаранах і клубах. Уступны білет каштаваў ад 50 гр. да 3 зл. Як адзін з найбольш шыкоўных у прэсе быў адзначаны карнавальны баль, арганізаваны Таварыствам Белага Крыжа ў афіцэрскім казіно ў лютым 1939 г.[70]

На пачатку году, калі ў Гародні ўжо гучалі вучэбныя трывогі, горад наведалі "зоркі" тагачаснай польскай эстрады – у студзені хор Дана з салістамі Янінай Гадлеўскай і Адамам Высоцкім[71],

а ў лютым папулярная спявачка Ханка Ардануўна[72]. У гэты ж час мясцовая тэатральная трупа рыхтавала два новых спектакля ў пастаноўцы Уладзіслава Чэнгеры: камедыю Марыі Яснажэўскай-Паўлікоўскай "Літаратурная ўзнагарода" з Альжбетай Лабуньскай у галоўнай ролі і "Цвыркун за комінам" па матывах рамана Чарльза Дзікенса[73].

Моладзь актыўна наведвала кінатэатры: "Пан" ("Pan"), "Апола" ("Apollo"), "Уцеха" ("Uciecha"), "Геліос" ("Helios"), "Маленькае-Люкс" ("Maleńkie-Lux"), дзе білеты каштавалі ад 25 да 40 гр. Акрамя галівудскіх фільмаў з удзелам такіх "зорак", як Катрын Хэпберн ці Кэры Грант, у апошнім перадваенным годзе папулярнасцю карысталіся польскія фільмы з удзелам знакамітых акцёраў: Адольфа Дымшы, Мечыславы Цвіклінськай, Гэлены Жэліхоўскай, Гэлены Грос і набіраючага папулярнасць Ежы Піхельскага, якога называлі "польскім Гары Куперам". У "топ-лісце" гарадзенцаў 1939 г. значыліся фільмы вядомага польскага рэжысёра Юзафа Лейтэса "Дзяўчаты з Навалíпак" па матывах рамана Полі Гаявічыньскай і "Мяжа" паводле рамана Зоф'і Налкоўскай.

У 1939 г. у ваколіцах Гародні і в. Багатыревічы праходзілі здымкі фільма "Над Нёманам" па аднаіменнай аповесці Элізы Ажэшкі. Рэалізавалі гэтую экранізацыю маладыя рэжысёры Караль Шэлахоўскі і Ванда Якубоўская (аператар Станіслаў Воль), а галоўную ролю выконвала вядомая польская акторка Эльжбета Баршчэўская. Прэм'ера павінна была адбыцца 5 верасня, але не адбылася. Усе копіі гэтага фільма загінулі[74].

Напярэдадні вайны працягвалі ўслаўляць горад сваімі дасягненнямі гарадзенскія спартоўцы. Ураджэнец горада трохразовы ўдзельнік Алімпійскіх гульняў (Стакгольм, 1912, Парыж, 1924, Амстэрдам, 1928) падпалкоўнік Караль Румель[75] у маі 1939 г. на Міжнародных спаборніцтвах па коннаму спорту ў Варшаве на сваім кані "Дынгус" ўстанавіў новы рэкорд Польшчы ў скоках у вышыню і заняў 4 месца ў скачках на 950 м[76]. З мясцовых футбольных дружын найбольшыя поспехі праяўляў вайсковы клуб "ВКС-Гародня", які ў чэрвені 1939 г. перамог каманду майстроў Літвы (4:2) і моцную зборную Вільні (2:1). За гарадзенскі "ВКС" выступалі Вацлаў Зелянко, Канстанцін Лупачы, Ян Сакалоўскі, Канстанцін Мельнікаў, Тадэвуш Адамчык, Аляксандр Лупачы, Ежы Касперчык-Цыган, Яўген Адамчык, Ежы Дыяс, Зянон Буга. Старшынёй клубу быў палкоўнік А.Журакоўскі. Матчы праходзілі на стадыёне па вул. Сабескага і збіралі да 10 тыс. гледачоў пры кошце білетаў у 1 зл.[77]

У чэрвені ў Варшаўскай рэгаце прыняла ўдзел “чацвёрка” гарадзенцаў з “ВКС” у складзе: Чартарыйскі, Велічка, Селіцкі, Грынюк і рулявы Чарноцкі[78].

## ГАРАДЗЕНСКІ ГАРНІЗОН НАПЯРЭДАДНІ ВАЙНЫ

У міжваеннай Гародні з насельніцтвам каля 50-ці тыс. знаходзіўся даволі вялікі гарнізон. Горад быў цэнтрам камандавання акругі III корпусу[79], адной з трох самых вялікіх на тэрыторыі Польшчы, якому былі падначаленыя гарнізоны ў Вільні і Беластоку, а таксама крэпасць Асавец. Камандаваў акругай у 1939 г. ген. Юзаф Альшына-Вільчыньскі (Józef Olszyna-Wilczyński[80]), які ў мірны час вырашаў мабілізацыйныя, гаспадарчыя, вучэбныя ды іншыя адміністратыўныя задачы.

Гэта азначала, што ў горадзе знаходзілася ўся акруговая адміністрацыя: акруговы і гарнізонны суды, пракуратура, камендатура горада, склады, шпіталь, дывізіён жандармерыі (камандзір – падпалк. Станіслаў Куцель (Stanisław Kuciel)) і тэлеграфны батальён, а таксама каталіцкі вайсковы дэканат. З лінейных частак[81] дыслацыравалася камандаванне 29 пяхотнай дывізій (камандзір – палк. Ігнат Азевіч (Ignacy Oziewicz), начальнік штабу – падпалк. Тадэвуш Лояк (Tadeusz Łojak)), а таксама 76 полк імя Людвіка Нарбута (камандзір – падпалк. Станіслаў Сянкевіч (Stanisław Sienkiewicz)) і 81 полк імя Стэфана Баторыя (камандзір – палк. Эдвард Банашак (Edward Banaszek)). Таксама ў Гародні дыслацыраваліся запасныя эскадроны 3 палка Мазавецкай лёгкай кавалерыі і 23 палка гарадзенскіх уланаў (камандзір – ротм. Бернард Раманоўскі (Bernard Romanowski)), 29 полк лёгкай артылерыі (камандзір – падпалк. Тадэвуш Граф (Tadeusz Graff)), 2 дывізіён супрацьпаветранай артылерыі, 3 санітарны батальён (камандзір – падпалк. мед. служ. Отан Самайловіч-Саламановіч (Otton Samojłowicz-Sałamanowicz)) і 7 танкавы батальён (камандзір – падпалк. Пётр Рудзкі (Piotr Rudzki)).

У Гародні мясцілася таксама камандаванне адной з трох брыгад КАП[82] – “Гародня” (камандзір – палк. Стэфан Леон Бестэк (Stefan Leon Biestek)). У 1939 г. яна складалася з двух пяхотных батальёнаў, сапёрнай роты і кавалерыйскага эскадрону, а яе заданнем была абарона польска-літоўскага і часткова польска-нямецкага памежжа. У Гарадзенскім павеце памежнымі лічыліся гміны Гожа (7 населеных пунктаў), Парэчча (7 населеных пунктаў) і Марцынканцы (17 населеных пунктаў)[83]. Пасля ўстанаўлення 31 сакавіка 1938 г. паміж Літвой і Польшчай афіцыяльных дыпламатычных

адносінаў польска-літоўская мяжа не выклікала непакою. Літва заняла пазіцыю "прыязнага нейтралітэту" і адвяргала ўсе нямецкія прапановы, накіраваныя супраць Польшчы.

У сувязі з польска-нямецкім напружаннем на пачатку 1939 г. было праведзена ўзмацненне Корпусу аховы памежжа, а пасля ўводу 15 сакавіка 1939 г. нямецкіх войскаў у Чэхію, асноўныя яго сілы – амаль уся пяхота і кавалерыя – пачалі перакідвацца на заходнія і паўднёвыя межы[84]. Дзеля ўзмацнення брыгады пад Аўгустоў быў перакінуты з усходняй мяжы батальён "Слабодка"[85].

Міжваенная Польшча была краінай шматнацыянальнай, што знаходзіла адлюстраванне і ў войску. У першыя гады незалежнасці паўстала вайсковае душпастырства пяці асноўных канфесій: каталіцкай, грэка-каталіцкай, праваслаўнай, іудзейскай і евангеліцкай. Гарадзенскі гарнізон таксама знаходзіўся пад духоўнай апекай ваенных капеланаў: кс. Францішка Лорэнца (каталіцкі), а. Барыса Барысевіча (праваслаўны), кс. Карла Месершмідта (евангеліцкі), раб. Натана Рубнэра (іудзейскі). Каталіцкім дзеканам III корпусу быў у 1939 г. кс. Валеры Пончэк (Walery Pączek), а гарнізонным лічыўся касцёл Найсвяцейшай Марыі Панны (Фара Вітаўта)[86].

У Гародні вайскоўцы мелі казармы ў розных канцах горада, а самыя вялікія часткі дыслацыраваліся на вул. Нарбута (76 пяхотны полк і штаб 81 пяхотнага палка), на вул. Маставой (81 пяхотны полк), на вул. Ерусалімскай (29 артылерыйскі полк), на вул. Лянкевіча (арганізацыі вайсковай падрыхтоўкі), на вул. Грандзіцкай 1/10 (дывізіён жандармерыі). Таксама былі казармы на вул. Ягелонскай, Нарутовіча і на Фолюшы. Афіцэрам, калі яны не жылі на тэрыторыі вайсковай часткі, камандаванне здымала кватэры ў прыватных гаспадароў або ў будынках, што з'яўляліся гарадской нерухомасцю. Паводле ўспамінаў, шмат афіцэрскіх сямей жыло ў раёне вуліц 11 Лістапада, Міцкевіча, Пушкіна, Алеі 3 мая.

Войска мела ўласную інфраструктуру, да якой належалі Дом Стральца, афіцэрскае і падафіцэрскае казіно, аматарскі тэатр, Яхтклуб, Паляўнічы клуб, спартыўны клуб "ВКС" ды інш. Афіцэры III корпусу ўдзельнічалі ў працы гарадской Рады, розных камісій і ўваходзілі ў склад грамадскіх арганізацый.

Трэба адзначыць, што войска ў міжваеннай Польшчы было атачана вялікай грамадскай пашанай, што было звязана з ягонай роляй у працэсе здабыцця і абароны незалежнасці. Гэтая пашана культывавалася на ўзроўні сямейнага і школьнага выхавання, праз прэсу, кіно і літаратуру. На г.зв. "крэсах" гэта адчувалася яшчэ мацней, бо войска больш падкрэслівала сваю сувязь з насельніцтвам і шырока

ўдзельнічала ў грамадскіх акцыях. Між іншым збірала грошы на дапамогу школам, беспрацоўным, высаджвала дрэвы і г.д.

Акрамя таго ў вачах сярэднястатыстычнага гарадзенца, для якога заробак у 100 зл. быў марай, вайсковец лічыўся багатым чалавекам і выгаднай шлюбнай партыяй. Зрэшты прымаўка „Za mundurem panny sznurem" існавала не толькі ў Гародні. На самой справе афіцэры, асабліва маладыя, калі не паходзілі з заможнай сям'і, жылі не асабліва шыкоўна. У 1939 г. аклад падпаручыка складаў 206 зл. (266 зл. сямейнага), паручыка – 265 зл. (324 зл. сямейнага), капітана – 345 зл. (400 зл. сямейнага)[87]. Кожны афіцэр павінен быў сам сябе апрануць і ўзброіць. На гэтыя мэты ім выплачвалі 300 зл. у год, але гэта была невялікая сума, бо адныя толькі боты каштавалі прыкладна 100 зл., а да таго ж далучаліся: шабля (30-40 зл.), пісталет тыпу "Наган" (82 зл.) або VIS 9 мм (130 зл.) ды іншая амуніцыя, а таксама некалькі гатункаў абмундзіравання, выплата дробных узнагародаў ардынарцу, харчаванне ў казіно (для нежанатых), г.зв. прадстаўнічыя выдаткі і шмат чаго яшчэ[88]. Часам у афіцэрскім асяроддзі гаварылася пра сябе самых – „błyszcząca nędza" (бліскучая галеча), але гарадзенцы думалі інакш. Для іх нават падафіцэр (харунжы з заробкам 230-300 зл. ці капрал з заробкам 137-167 зл.) быў элітай, бо меў у хаце прыслугу і не павінен быў клапаціцца пра штодзённае ўтрыманне[89].

Аўтарытэт войска падтрымлівалі розныя параміліtарныя арганізацыі. Сярод іх асаблівую актыўнасць у 1939 г. праяўляў акружны Стралецкі саюз, старшынёй якога быў сенатар Канстанцін Тэрлікоўскі. У склад управы ўваходзілі Баляслаў Казон (віцэ-старшыня), Міхал Монкелевіч (сакратар), маёр Станіслаў Банэк (скарбнік) і яшчэ 5 сяброў, якія адказвалі за розныя галіны дзейнасці. Адной з іх была арганізацыя ў Гародні курсаў для дапрызыўнікаў па спецыяльнасцях: рахункавода, тынкоўшчыка, майстра па будоўлі дахаў, капялюшніка[90]. Стралецкі саюз ствараў таксама ў павеце свае падраздзяленні, у т.л. конныя, г.зв. "Кракусы" ("Krakusi"), якія праходзілі пачатковую вайсковую падрыхтоўку пад кіраўніцтвам афіцэраў-рэзервістаў пры кавалерыйскім палку ў Ваўкавыску[91].

Вайсковую падрыхтоўку праходзілі і вучні гарадзенскіх школ і гімназій. У кожнай з іх існавалі асобныя мужчынскія і жаночыя дружыны "Вайсковага прыстасавання" ("Hufiec Przysposobienia Wojskowego") пад кіраўніцтвам афіцэра, упаўнаважанага камандаваннем акругі. У мужчынскай гімназіі імя Адама Міцкевіча, напр., дружынай кіраваў паручык Дзяконьскі. Дружыны мелі

арганізацыю на ўзор вайсковай, праводзілі заняткі абарончага характару, а часам выязджалі на палявыя вучэнні, дзе хлопцы вучыліся страляць, а дзяўчаты – аказваць першую медыцынскую дапамогу[92].

У Гародні існавалі таксама цывільныя аб'яднанні, якія займаліся патрыятычным выхаваннем і іншай дзейнасцю на карысць абароны: "Вайсковая сям'я" ("Rodzina wojskowa"), Ліга супрацьпаветранай і супрацьгазавай абароны (LOPP), але перш за ўсё "Таварыства белага крыжа", якое непасрэдна апекавалася войскам. У складзе яго ўправы былі такія вядомыя ў горадзе асобы, як адвакат В. Фюрстэнберг, дырэктар мужчынскай гімназіі кс. В.Патшэбскі ці евангеліцкі пастар К. Месершмідт, але ў большасці жонкі афіцэраў гарнізону. Дзейнасць Таварыства заключалася ў правядзенні адукацыйных курсаў для жаўнераў і падафіцэраў[93].

З студзеня 1939 г., калі інфармацыя ў прэсе пачала выклікаць ўсё большы непакой, падаграваючы патрыятычныя настроі, у горадзе ўзрасла актыўнасць у зборы сродкаў на будаўніцтва падводнай лодкі, самалётаў, узбраення для палкоў, у т.л. гарадзенскіх. Перадача закупленага ўзбраення, якім бы нязначным яно не было, прымала форму афіцыйных ўрачыстасцяў, з удзелам гарадскога кіраўніцтва, святара, камандавання гарнізону, і суправаджалася патрыятычнымі прамовамі.

Калі ўваход нямецкіх войск у Чэхаславакію развеяў апошнія надзеі на магчымасць захавання міру, 21 сакавіка была праведзена першая "ціхая" мабілізацыя, якая грунтоўна закранула толькі корпус у IX акрузе з камандаваннем у Берасці[94]. У Гародні часцей пачалі праводзіць вучэбныя трывогі і курсы па падрыхтоўцы цывільнага насельніцтва да вайны, між іншым курсы санітарак (higienistek) пад кіраўніцтвам вайскоўцаў[95]. Паводле ўспамінаў дырэктаркі комплексу жаночых рамесных школ Гражыны Ліпіньскай, у маі 1939 г. гарадзенскія прафесійныя жаночыя школы, як і паўсюль у Польшчы, распачалі шыццё супрацьгазавых масак. Самую Г.Ліпіньскую выклікалі ў чэрвені на спецыяльныя курсы кіраўнікоў жаночай "Грамадзянскай дапамогі" ("Pogotowie Społeczne"), як элемента грамадзянскай абароны. У ліпені яе накіравалі на курсы інструктараў "Вайсковай падрыхтоўкі жанчын" ("Przysposobienie Wojskowe kobiet")[96].

Цывільныя ўлады горада ведалі, што 23 мая 1939 г. нямецкі памежны пастарунак насупраць в. Пшеросць Аўгустоўскага павету (зона адказнасці брыгады КАП "Гародня") быў узмоцнены армейскімі часткамі[97].

З чэрвеня 1939 г. подых вайны адчуваўся ўсё больш выразна. Змест артыкулаў настойліва прывучаў грамадскую думку да непазбежнасці вайны. Сярод жыхароў пачала распаўсюджвацца "Інструкцыя па супрацьпаветранай абароне", якая паведамляла, што трэба рабіць у выпадку налёту варожых бамбардзіроўшчыкаў (гасіць пажары, дапамагаць параненым, мець пры сабе ліхтарыкі, працігазы і г.д.)[98].

Над памежнай тэрыторыяй пачалі з'яўляцца лёгкія самалёты без распазнавальных знакаў. Такія выпадкі былі адзначаны ў зоне аховы брыгады КАП "Гародня" 4 і 6 ліпеня над в. Лахава і Чорнаўка, 7 ліпеня над м. Граева, а 18 ліпеня нават над Індурай. У ліпені салдат КАПу страляў у мужчыну, які з літоўскага боку спрабаваў пераплысці Нёман у раёне в. Каўшова Гарадзенскага павету. У самой Гародні 15 ліпеня ў начным рэстаране затрымалі "агента замежнай выведкі" з фальшывым пашпартам, а 27 ліпеня на вакзале – транзітнага пасажыра, грамадзяніна Швейцарыі, які фатаграфаваў чыгуначныя аб'екты горада. За фатаграфаванне аўтамабільнага мосту праз Нёман 31 ліпеня быў затрыманы ўжо польскі грамадзянін. Дарэчы контрвыведка ў акрузе III корпусу лічылася адной з чатырох найлепшых у Польшчы. Яна ўваходзіла ў склад Самастойнага інфармацыйнага рэферату (Samodzielny Referat Informacyjny)[99] пры камандаванні акругі, які быў падначалены II аддзелу Генеральнага штаба. Напярэдадні вайны рэфератам у Гародні кіраваў капітан Т.Залеўскі (T.Zalewski)[100]. Контрвыведка мела шмат працы. Так, за 8 месяцаў 1939 г. на тэрыторыі ўсёй Польшчы было выкрыта 300 фактаў шпіянажу толькі з боку Абвера, з чаго 60% на памежнай тэрыторыі[101].

У першую нядзелю жніўня ў гарадскім парку яшчэ адбыўся канцэрт вайсковага аркестра[102], а 22 жніўня гарнізон атрымаў загад камандуючага III акругай ген. Ю.Альшыны-Вільчынскага аб прывядзенні ўсіх падраздзяленняў у баявую гатоўнасць. На наступны дзень была абвяшчана частковая мабілізацыя. Як успамінала Гражына Ліпіньская: *"З раніцы я ўжо на вуліцы. Людзі збіраюцца ў групы, усхвалявана размаўляюць, спяшаюцца. [...] Школьны будынак аддаем на час мабілізацыі ў карыстанне камандаванню 133 і 134 пяхотных палкоў[103]. У школе адбываецца рэгістрацыя прыбываючых з самай раніцы рэзервістаў, іх экіпіроўка. [...] Я і Марта Вільмус[104] шмат размаўляем з рэзервістамі. Гэта перш за ўсё палякі і беларусы, ёсць трошкі габрэяў, татараў і некалькі літоўцаў. [...] Усе, незалежна ад нацыянальнасці, спакойныя, размоўныя, упэўненыя і дысцыплінаваныя"*. Уначы з 28 на 29 жніўня першыя калоны вайс-

коўцаў накіраваліся на вакзал па святочна дэкарыраваных вуліцах горада *“сярод узрушаных воклічаў насельніцтва, якое выбягала на вуліцы, нягледзячы на позні час”*[105]. Разам з пехацінцамі з Гародні выступіў 31 танкавы дывізіён, сфарміраваны з рэзервістаў (камандзір – капітан Бруна Блэндзкі (Brunon Błędzki)). Пяхотныя палкі накіравалася ў бок мясцовасці Чырвоны Бор, а танкісты – у накірунку г. Алецка.

Абвесткі пра агульную мабілізацыю з’явіліся ў Гародні 30 жніўня ў другой палове дня. У іх гаварылася, што прызыву падлягаюць усе афіцэры, падафіцэры і жаўнеры, незалежна ад узросту[106]. Мабілізаваныя ўключаліся ў 76 і 81 пяхотныя палкі ды іншыя падраздзяленні 29 пяхотнай дывізіі, якая ўвайшла ў склад арміі “Прусія” пад камандаваннем ген. Стэфана Домб-Бернацкага (Stefan Dąb-Bernacki). Гарадзенцы павінны былі прыняць на сябе ўдар немцаў на адрэзку Тамашаў Мазавецкі – Кельцэ – Радам. Вайсковыя эшалоны вырушылі з горада ўжо 31 жніўня. Як пісала Г.Ліпіньская, не было ўжо часу ні на арганізацыю харачавання, ні на ўрачыстае развітанне з войскам. Агульная мабілізацыя праходзіла ў поспеху, але так і не была завершаная да 1 верасня. А 1 верасня на горад падалі першыя нямецкія бомбы.

1939 год паклаў пачатак радыкальным пераменам, якія адны гарадзенцы ўспрынялі, як катастрофу, а другія – як надзею на лепшую будучыню. Але для ўсіх іх без выключэння гэты год стаў апошнім, бо закрыў эпоху “даваеннай” Гародні, перагарнуўшы чарговую старонку яе доўгай, пераменлівай і трагічнай гісторыі. Гісторыі, якая сёння мае працяг і патрабуе далейшага вывучэння.

---

[1] ДАГВ. Ф. 336-1П/В-90, ад.з. 1259. Арк. 1.

[2] Гл. Albert A. [W. Roszkowski]. Najnowsza historia Polski 1918-1980. Londyn, 1991. S. 253-255.

[3] Materski W. Na widecie. II Rzeczpospolita wobec sowietów 1918-1943. Warszawa, 2005. S. 520.

[4] Ширер У. Берлинский дневник. Европа накануне Второй мировой войны глазами американского корреспондента. Москва, 2012. С. 9.

[5] На Берасцейскім працэсе (1931-1932) былі асуджаны 10 апазіцыйных дэпутатаў Сейму - дзеячаў г.зв. “Цэнтралеву” (з партый PPS і PSL). У акце абвінавачвання значылася, што яны мелі намер *“сілай адсунуць членаў дзеючага ўрада”*.

[6] Kowalski W.T. Ostatni rok Europy (1939). Warszawa, 1989. S. 266-267.

[7] Гл. Materski W. Na widecie. S. 520-522, 530.

[8] Казімір Саснкоўскі (1885-1969) у міжваенны перыяд – генерал, віцэ-міністр вайсковых спраў, а ў 1922-1924 гг. – міністр вайсковых спраў, у 1939 г. – інспектар арміі ў Галоўным інспектараце ўзброеных сіл. Падчас Другой сусветнай вайны быў першым камендантам

Саюзу ўзброенай барацьбы, у 1943-1944 гг. – галоўнакамандуючы ўзброенымі сіламі на выгнанні, з 1944 г. – у эміграцыі ў Канадзе.

[9] Kowalski W. T. Ostatni rok Europy (1939). S. 406.

[10] Гл. Rocznik Ziem Wschodnich. Pod red. E. Ruchlego. Warszawa, 1939, S. 172-176.

[11] Sprawozdanie Towarzystwa Rozwoju Ziem Wschodnich 1933-1936. Warszawa, 1936, S. 50, 60, 67.

[12] ДАБВ. Ф. UWB, ад.з. 121. Арк. 53, 56, 57.

[13] ДАБВ. Ф. UWB, ад.з. 121. Арк. 57.

[14] Białostocki Dziennik Wojewódzki. 1936. Nr 19.

[15] Mały Rocznik Statystyczny za 1939 r.

[16] Гл. Montaż samochodów w przedwojennej Polsce // www.oldtimery.com. Рэжым доступу: 21.08.2011.

[17] Białostocki Dziennik Wojewódzki. 1936. Nr 19.

[18] Сведчанне гарадзенца Баляслава Валасевіча (1985).

[19] Dziennik Urzędowy. 1938. Nr 14. Poz. 20.

[20] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, ад.з. 376. Арк. 5.

[21] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, ад.з. 305. Арк. 22-45.

[22] ДАГВ. Ф. 336-1П/В-90, ад.з. 1213. Арк. 168-169.

[23] Wilno i województwo wileńskie. Informator na rok 1939. Pod red. P. Krasnopolski. S. 40.

[24] Głos Nadniemeński z 25.02.1939 r.

[25] Сведчанні гарадзенцаў Марыі Дэска і Баляслава Валасевіча (1985).

[26] Гл. Bojarski J. Moje Grodno. Europa Nieprowincjonalna. Warszawa, 1999. S. 233.

[27] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, ад.з. 281. к. 70; адз. зах. 375. Арк. 94..

[28] ДАГВ. Ф. 103, воп. 1, ад.з. 11. к. 27; сведчанні Ю. Баярскага, Б. Валасевіча, Г. Хасіда.

[29] ДАБВ. Ф. UWB, ад.з. 106. Арк. 41-172.

[30] Głos Grodzieński z 27.01.1939 r.; z 7.02.1939 r.

[31] Głos Nadniemeński z 23.02.1939 r.

[32] ДАГВ. Ф. 46, воп. 2, ад.з. 25. Арк. 2-12.

[33] ДАБВ. Ф. UWB, адз.зах. 106. Арк. 117-148.

[34] ДАГВ. Ф. 336. 1П/В-90, ад.з. 1259. Арк. 12, 18, 39.

[35] ДАГВ. Ф. 57, воп. 1, ад.з. 216. Арк. 12.

[36] Sprawozdanie z działalności Towarzystwa Popierania Budowy Publicznych Szkół Powszechnych za rok 1938 i plan pracy na rok następny. Warszawa, 1938. S. 84.

[37] Гл. Міхайлік Л. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. Людзі даўняй Гародні. XV – XX стст. / пад рэд. А.Смаленчука, Н.Сліж. Гродна, 2013. С. 321-341.

[38] Dzięnnik Urzędowy.1939. Nr 1. Poz. 11.

[39] Гражына Ліпіньская - удзельніца абароны Львова, бітвы пад Варшавай і паўстання ў Сілезіі (1919-1921 гг.), у 1942-1944 гг. выведніца на акупаванай тэрыторыі БССР, двойчы арыштаваная НКУС (1940,1944 гг.), знаходзілася ў лагерах у 1944-1956 гг., маёр АК. Пасля вайны працавала ў бібліятэцы Варшаўскага палітэхнічнага інстытута.

[40] Dyslokacja urzędów policyjnych. Warszawa, 1938. S. 158.

[41] ДАГВ. Ф. 55, воп. 1, ад.з. 320. Арк. 6.

[42] ДАБВ. Ф. 47, воп. 1, ад.з. 107. Арк. 13.

[43] ДАБВ. Ф. 47, воп. 1, ад.з. 106. Арк. 1-75.

[44] ДАБВ. Ф. 47, воп. 1, ад.з. 121. Арк. 88-91.

[45] ДАБВ. Ф. 47, воп. 1, ад.з. 106. Арк. 18, 46v.
[46] ДАБВ. Ф. 79, воп. 1, ад.з. 108. Арк. 60.
[47] ДАБВ. Ф. 79, воп. 1, ад.з. 108. Арк. 61 .
[48] ДАБВ. Ф. 79, воп. 1, ад.з. 107. Арк. 66.
[49] ДАБВ. Ф. 47, воп. 1, ад.з. 101. Арк. 78.
[50] ДАБВ. Ф. 79, воп. 1, ад.з. 107. Арк. 3-4.
[51] Nasza Okolica. 1939. Nr 8.
[52] Nasza Okolica. 1939. Nr 5.
[53] Nasza Okolica. 1939. Nr 16.
[54] ДАБВ. Ф. 47, воп. 1, ад.з. 106. Арк. 9-152.
[55] ДАБВ. Ф. 79, воп. 1, ад.з. 106. Арк. 66-69.
[56] ДАБВ. Ф. 79, воп. 1, ад.з. 107. Арк. 85-86.
[57] ДАБВ. Ф. 79, воп. 1, ад.з. 106. Арк. 69.
[58] ДАБВ. Ф. 79, воп. 1, ад.з. 107. Арк. 75-75v.
[59] ДАБВ. Ф. 79, ад.з. 121. Арк. 22-27.
[60] ДАГВ. Ф. 2(П)/П-63, ад.з. 2731. Арк. 3.
[61] ДАБВ. Ф. 47, воп. 1, ад.з. 107. Арк. 14.
[62] ДАБВ. Ф. 47, воп. 1, ад.з. 107. Арк. 96.
[63] ДАБВ. Ф. 79, воп. 1, ад.з. 121. Арк. 32-33.
[64] ДАБВ. Ф. 47, воп. 1, ад.з. 107. Арк. 13.
[65] ДАБВ. Ф. 79, воп. 1, ад.з. 121. Арк. 29.
[66] Gondek L. Działalność Abwehry na terenie Polski 1933-1939. Warszawa, 1974. S. 212.
[67] Зорина Л. Из истории лютеранства. Гродно, 2012. С. 6.
[68] Gondek L. Działalność Abwehry na terenie Polski 1933-1939. S. 213.
[69] Ilustrowany Dziennik Ludowy z 28.07.1939 r.
[70] Głos Nadniemeński z 17.02.1939 r.
[71] Głos Grodzieński z 24.01.1939 r.
[72] Głos Nadniemeński z 22.02.1939 r.
[73] Głos Grodzieński z 03.01.1939 r.
[74] Toeplitz J. Historia sztuki filmowej. Cz. IV. Warszawa, 1969. S. 243.
[75] Караль Румель нарадзіўся ў 1888 г. у Гародні, скончыў Акадэмію выяўленчага мастацтва і Паўлаўскае ваеннае вучылішча ў Пецярбургу. Падчас Першай сусветнай вайны ў званні ротмістра служыў у 14 кірасірскім палку ў г. Каліш. У перыяд польска-савецкай вайны ў званні маёра камандаваў 8 палком уланаў, у 1924 г. служыў у элітным палку лёгкай кавалерыі імя Ю. Пілсудскага ў Варшаве. З 1929 г. у адстаўцы. Памёр у 1967 г. у г. Эльблёнг (Польшча).
[76] XII Międzynarodowe oficjalne zawody konne w Warszawie // Przegląd Kawaleryjski, sierpień R.16. 1939. Nr 8.
[77] Melnikau I. Kresowe tradycje piłkarskie // www.dobroni.pl /// Рэжым доступа: 6.07.2013 г.
[78] Dziennik Kresowy z 11.06.1939 r.
[79] Уся тэрыторыя Польшчы была падзелена на 10 карпусных акругаў. На тэрыторыі Заходняй Беларусі знаходзіліся III Акруга (Гародня) і IX Акруга (Берасце).
[80] Генерал брыгады Ю.Альшына-Вільчыньскі (1890-1939) растраляны савецкімі вайскоўцамі 22 верасня 1939 г. каля в. Новікі, пахаваны на могілках у м. Сапоцкін Гарадзенскага раёна.

[81] На тэрыторыі акругі дыслацыраваліся тры дывізіі пяхоты, тры брыгады кавалерыі, а таксама асобныя дывізіёны і батальёны розных родаў войска. (Гл. Ordre de Bataille Wojska Polskiego w 1939 r. // www.wikipedia.pl). Рэжым доступу: 6.07.2013 г.

[82] Корпус аховы памежжа, створаны ў 1924 г. з мэтай *"стабілізацыі становішча на усходніх памежных тэрыторыях Польшчы"*. Да 1939 г. складаўся з шасці пяхотных брыгад, у 1939 г. – з трох брыгад, васьмі пяхотных палкоў, невялікіх падраздзяленняў кавалерыі і артылерыі.

[83] Dziennik Ustaw. 1937. Nr 11. Poz. 83.

[84] Materski W. Na widecie… S. 531.

[85] Гл. Sabak J. Korpus Ochrony Pogranicza // www.mojeopinie.pl. Рэжым доступу: 18.10.2009.

[86] Міхайлік Л. Вайсковае душпастырства і яго традыцыі на тэрыторыі Заходняй Беларусі да 1939 г. // Studia Theologica Grodnensia. 2012. № 6. Гродна, 2012. С. 262-265.

[87] Wilno i województwo wileńskie. Informator na rok 1939. S. 41.

[88] Jaźwiński P. Oficerowie i dżentelmeni. Życie prywatne i służbowe kawalerzystów Drugiej Rzeczpospolitej. Warszawa, 2011; Ceny, koszty, zarobki w II RP // www.lowyb.fora.pl. Рэжым доступу: 11.03.2008.

[89] Гл. Bojarski J. Moje Grodno. Europa Nieprowincjonalna. Warszawa 1999. S. 238.

[90] Sprawozdanie z działalności Związku Strzeleckiego (1.06.1938-31.05.1939). Grodno, 1939. S. 17, 31.

[91] Nasza Okolica. 1938. Nr 4.

[92] Паводле распараджэння Міністра вайсковых спраў з 1936 г. выпускнікі гарадзенскіх гімназій атрымалі права на скарочаную тэрміновую вайсковую службу (Гл. Міхайлік Л. Адукацыя ў міжваенным Гродне. С. 332).

[93] ДАГВ. Ф. 355. 2П/Р-49, ад.з. 2180. Арк. 1-8.

[94] Тры дывізіі корпуса IX Акругі і Навагрудская брыгада кавалерыі былі перакінуты на мяжу з Усходняй Прусіяй.

[95] Nasza Okolica. 1939. Nr 6.

[96] Lipińska G. Jeśli zapomnę o nich… Warszawa, 1990. S. 9-10.

[97] ДАБВ. Ф. 79, ад.з. 106. Арк. 143.

[98] Instrukcja dla organizowania obrony przeciwlotniczej domu. Warszawa, 1939. S. 8, 11, 19.

[99] SRI мела 3 аддзяленні: контрвыведкі, абароны вайсковай таямніцы і кантролю нацыянальных меншасцяў у войску.

[100] ДАГВ. Ф. 55, воп. 1, ад.з. 326. Арк. 22.

[101] Gondek L. Działalność Abwehry na terenie Polski 1933-1939. S. 325, 335.

[102] Ilustrowany Dziennik Ludowy z 3.08.1939 r.

[103] 133 і 134 палкі ўвайшлі ў 33 пяхотную дывізію, сфарміраваную на базе брыгады КАП "Гародня". Яна ўваходзіла ў склад аператыўнай групы "Нараў" пад камандаваннем палк. Тадэвуша Зелянеўскага (Tadeusz Zieleniewski).

[104] Марта Вільмус – выкладчыца Дзяржаўнай жаночай настаўніцкай семінарыі, інструктар гарадзенскага жаночага атрада харцэраў.

[105] Lipińska G. Jeśli zapomnę o nich… S. 14.

[106] Markert W. Wybuch wojny // Ziemia Lidzka // http://pawet.neT. Рэжым доступу: 7.03.2013 г.

*Анатоль Трафімчык, канд. гіст. навук*
*(Менск)*

# Станаўленне савецкай сістэмы школьнай асветы ў заходніх абласцях БССР і яе асаблівасці на Гарадзеншчыне (1939–1941)

У сферы культуры і асветы з прыходам савецкай улады пачаліся кардынальныя пераўтварэнні. Тут таксама стаяла задача хуткай уніфікацыі з усходняй часткай рэспублікі, дзе *"ширилась и расцветала культура, национальная по форме, социалистическая по содержанию"*[1]. Савецкая ўлада надавала асаблівую ўвагу асвеце як аднаму з асноўных каналаў ідэалагічнай апрацоўкі мас і галоўнаму сацыяльнаму інстытуту выхавання моладзі. У пастанове Бюро ЦК КП(б)Б (лістапад 1939 г.) адзначалася, *"што існуючая сістэма народнай адукацыі цалкам не адпавядае інтарэсам працоўных мас насельніцтва Заходняй Беларусі"*, і прапаноўвалася *"Наркамасветы БССР (тав[арыш]Уралавай) у двухмесячны тэрмін перабудаваць усю сістэму народнай адукацыі ў Заходняй Беларусі ў адпаведнасці з існуючай савецкай сістэмай"*[2].

Рэалізаваць праграмныя ўстаноўкі планавалася ў самыя кароткія тэрміны. Часу на пераходны перыяд для такіх кардынальных пераўтварэнняў адводзілася зусім мала – няпоўны 1939/1940 навучальны год. У першыя яго месяцы ствараліся планы дзеянняў па пераўтварэннях, а пасля Новага года дзве чвэрці другога вучэбнага паўгоддзя адводзіліся на прыстасаванне сістэмы адукацыі заходніх абласцей БССР пад агульнасаюзную на аснове пераходных праграм, наладжвалася праца навучальных устаноў ад школ да ВНУ. Прычым многія з навучальных устаноў пачыналі працаваць з нуля, г. зн. адкрываліся новай уладай. Далей павінна была наступіць поўная ўніфікацыя.

Найперш увагу сталі ўдзяляць школам, каб мінімізаваць перапынак у іх працы. Навучальныя ўстановы неабходна было забяспечыць матэрыяльнай базай. Спецыфіка Гародні заключалася ў тым, што ў горадзе з-за ваенных дзеянняў былі разбураны школьныя будынкі[3]. Да таго ж некаторыя школы займаліся вайсковымі част-

камі. Улады на аднаўленне старых будынкаў і ўзвядзенне новых накіроўвалі субсідыі. На гэтыя мэты разам з капітальным рамонтам школ па заходніх абласцях Беларусі на 1940 г. вылучалася згодна з бюджэтам 7487 тыс. рублёў, то бок амаль на 1 млн больш, чым на ўсходнія вобласці[4]. Прымаліся таксама загады аб вызваленні нерухомасці навучальных устаноў. Аднак карэнных зменаў не адбылося. Вучэбныя будынкі па-ранейшаму перадаваліся вайсковым часткам (у Гародні і Беластоку планавалі адчыніць там шпіталі[5]).

Тым не менш сетка школ у заходніх абласцях пашыралася. Аднак Гародні гэта не датычыла. Больш таго, колькасць зменшылася ў перыяд з 20 верасня 1939 г. па 20 сакавіка 1940 г. з 27 да 21. Затое, калі верыць інфармацыі мясцовага гаркама партыі, за той жа часавы прамежак колькасць класаў вырасла на 58 адзінак, вучняў – на 1217 чал. (з 10352) і настаўнікаў – на 98 чал. (282)[6].

Ва ўжо адкрытых школах існаваў шэраг надзённых праблем, якія ставілі пад пагрозу арганізацыю нармальнага працэсу навучання. Шматлікія сігналы сведчаць аб тым, што асабліва востра па ўсім заходнебеларускім рэгіёне адчувалася праблема ацяплення школ у 1940/41 навучальным годзе[7]. Дарэчы, у папярэднім навучальным годзе аб крытычным недахопе паліва звестак не знаходзіцца, што гаворыць пра своечасовае правядзенне падрыхтоўкі школ да зімовага сезону яшчэ польскай уладай. Саветы ж не змаглі арганізаваць забеспячэння школ палівам, некаторыя з навучальных устаноў, напрыклад, у Гародні, напярэдадні зімы зусім не мелі запасу паліва.

Як выключэнне сустракаюцца паведамленні аб арганізацыі ў школах Гародні буфетаў, дзе дзеці беднаты атрымлівалі бясплатныя сняданкі, а часам школы дапамагалі маламаёмасным абуткам[8].

Матэрыяльныя праблемы ўскладняліся нястачай навучальна-метадычных матэрыялаў. Як паведамлялі супрацоўнікі народнай асветы, *“исключительно неудовлетворительное снабжение учебниками школьной сети Белостокской области в прошедшем 1939/40 учебном году в значительной степени послужило тормозом в деле реорганизации и советизации школ”*[9]. Так, у гарадзенскай школе № 6 на 24 сакавіка 1940 г. падручнікаў не было зусім[10].

Акрамя звычайных сярэдніх школ савецкая ўлада адразу падтрымала дзіцячыя дамы і спецшколы. Прычым у прапагандысцкіх мэтах падкрэслівалася розніца ў стаўленні да гэтых установаў паміж папярэдняй і новай уладамі (на карысць апошняй, зразумела). Да 15 снежня 1939 г. Наркамат асветы БССР абавязваўся скласці план сеткі ўсіх дзіцячых установаў, а пасля, *“учитывая на-*

*личие на территории Западной Белоруссии значительного количества детей-сирот, беженцев, патронированных и других детей, лишенных родителей, организовать детские дома из расчета по 10-15 на область"*. Для гэтай мэты меркавалася выкарыстоўваць *"дома бывших помещиков, фабрикантов и другие подходящие помещения из муниципализированного фонда"*[11].

Між тым у Гародні з прыходам савецкай улады колькасць дзіцячых дамоў да вясны 1940 г. папоўнілася яшчэ адным і налічвала шэсць установаў з 410 дзецьмі (а было на 210 меней). Але напрыканцы таго ж года іх колькасць скарацілася ў два разы і на тры ўстановы ўжо прыпадала 300 гадаванцаў. Планавалася адкрыццё яшчэ аднаго дзіцячага дома на 60 чал.[12] Савецкія дакументы, паведамляючы пра добрае забеспячэнне гэтых установаў, не тлумачаць гэтага скарачэння. Магчыма, дзяцей вывозілі на ўсход, бо персанал дзіцячых дамоў у Заходняй Беларусі не задавальняў новую ўладу.

Важным крокам у развіцці адукацыі заходніх абласцей Беларусі было адкрыццё спецыяльных агульнаадукацыйных школ для дзяцей з фізічнымі недахопамі. Так, па Беластоцкай вобл. з 1940/41 навучальнага года для невідушчых функцыянавала школа ў Гародні, для глуханямых – школы ў мястэчку Белавежа Гайнаўскага раёна і ў Ломжы[13]. Упершыню ў такіх дзяцей з бедных сем'яў з'явілася магчымасць атрымаць адукацыю. Дзейнасць гэтых школ да вайны з Германіяй не набыла выразнага контуру, крыніцы ўтрымліваюць мінімум інфармацыі. Аднак прагрэсіўнасць новаўвядзення для насельніцтва заходнебеларускіх земляў відавочная.

У абласных цэнтрах і найбольш буйных раённых адкрываліся музычныя школы, балазе першапачатковая база для іх засталася ад ранейшых часоў. На пачатку 1940/41 навучальнага года працавала дзевяць музычных школ, а напрыканцы, па дадзеных савецкай гістарыяграфіі, іх было ўжо 17[14] (лічба магла быць завышаная). Значна ўзрасла колькасць іх вучняў. У трох музычных школах Беластоцкай вобл. (Беласток, Гародня, Ваўкавыск) на пачатак 1941 г. вучылася 787 чал.[15] Хуткі рост абцяжарваў забеспячэнне музычных школ памяшканнямі, што змушала праводзіць заняткі па хатах. А жадаючых было шмат. Нават паступалі просьбы аб пераводзе ў музычныя школы заходніх абласцей з усходняй часткі Беларусі[16]. Аднак не выключана, што тут фігуруюць запазычаныя з савецкіх дакументаў таго часу фармальныя паказчыкі, бо ўспаміны настаўніцы музычнай школы ў Навагрудку прадстаўляюць зусім процілеглую карціну. Паводле яе словаў, пры наяўнасці настаўніцкіх кадраў (і далёка не лепшых) адсутнічалі вучні, паколькі

савецкая рэчаіснасць прымушала палякаў, як і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў вырашаць больш важныя справы[17].

Заслугоўвае асобнай увагі нацыянальная палітыка ў школьнай адукацыі. З аднаго боку дэкларавалася поўная адпаведнасць нацыянальнаму складу і патрабаванням насельніцтва, а з іншага, назіралася татальная неадпаведнасць дэкларацыям. Лідэрамі па парушэннях з'яўляліся Беластоцкая і Вілейская вобл. Толькі ў Гародні (другім па велічыні населеным пункце Беластоцкай вобл.) з 30 няпоўных сярэдніх і сярэдніх школ амаль у палове былі выкрытыя абуральныя парушэнні (гл. табл. 1), а ў самім Беластоку з 535 вучняў беларускай нацыянальнасці па-беларуску навучаліся толькі 63, у той жа час у рускамоўных класах бығ навучаліся 3961 чал. пры 1524 прадстаўніках рускай нацыянальнасці ва ўсіх школах горада[18]. Прычым замест таго, каб размеркаваць вучняў рускай і іншых нацыянальнасцяў па асобных школах, іх перамешвалі, што стварала падставы для пераводу такіх школ на рускую мову навучання.

У сельскай мясцовасці таксама назіралася неадэкватнае фарміраванне сеткі нацыянальных школ. Так, у Гарадзенскім раёне большасць няпоўных сярэдніх школ мела відавочныя парушэнні[19]. На першы погляд, здаецца, што сетка школ фармавалася хаатычна. Напрыклад, як растлумачыць адкрыццё беларускай школы ў Скамарошках, дзе амаль усе вучні дэкларавалі сваю польскасць, і наадварот – адкрыццё польскай школы ў Скалубове з вучнямі-беларусамі? Здзіўляе відавочны перакос на карысць беларускіх школ там, дзе не было такой неабходнасці. Аднак ва ўсім гэтым прысутнічала пэўная заканамернасць. Практыка паказала, што ў далейшым нацыянальныя меншасці адмаўляліся ад беларускамоўнасці сваёй школы дзеля пераводу яе на рускую мову навучання, што стварала ўражанне добраахвотнасці насельніцтва ў справе русіфікацыі.

Табліца 1

Нацыянальны склад вучняў школ Гародні перад 1940/41 навучальным годам з відавочнымі парушэннямі пры арганізацыі[20]

| Ступень | № | Мова выкладання | Вучняў па нацыянальнасці | | | | | Усіх |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | рус. | бел. | пал. | яўр. | інш. | |
| ПШ | 8 | руская | 17 | – | 12 | 40 | – | 69 |
| НСШ | 3 | беларуская | 13 | 31 | 122 | 7 | – | 173 |

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| НСШ | 4 | беларуская | 24 | 10 | 39 | 321 | – | 394 |
| НСШ | 6 | руская | 191 | 71 | 255 | 10 | 8 | 537 |
| НСШ | 10 | беларуская | 64 | 54 | 248 | 16 | – | 382 |
| НСШ | 15 | руская | 75 | 14 | 84 | 46 | – | 219 |
| НСШ | 17 | беларуская | 29 | 49 | 343 | 2 | 2 | 426 |
| СШ | 5 | беларуская | 9 | 106 | 155 | 81 | 1 | 352 |
| СШ | 7 | руская | 32 | 10 | 3 | 809 | 2 | 856 |
| СШ | 11 | руская | 210 | 93 | 161 | 338 | 12 | 814 |
| СШ | 13 | руская | 58 | 28 | 10 | 333 | – | 439 |
| СШ | 18 | беларуская | 123 | 150 | 700 | 28 | 2 | 970 |

Архіўныя дакументы пазнейшага часу паведамляюць пра *“выпраўленне памылак нацыянальнай палітыкі”*[21]. Аднак адзначалася, што *“скрыўленні выпраўленыя не цалкам”*. Так, у Беластоцкай вобл. *“колькасць школ на польскай мове павялічылася на 39”*[22], але гэтая лічба непараўнальна меншая за колькасць школ, раней пераведзеных на рускую мову навучання.

Працэнт школ на польскай мове так і не дасягнуў узроўню канца папярэдняга навучальнага года. Гэта і нядзіўна, улічваючы тое, што замест “убывшего” па розных прычынах насельніцтва з перавагай асоб польскай нацыянальнасці ў рэгіён прыбывалі рускамоўныя партыйныя і савецкія функцыянеры, а таксама вайскоўцы, якія размяркоўваліся ў гарадах. Гэты працэс гарантаваў рускамоўнасць гарадскіх школ і іншых навучальных установаў.

Характэрным прыкладам *“выпраўлення памылак”* называе беларускі гісторык Янка Трацяк сітуацыю ў Гародні, цытуючы савецкі архіўны дакумент, менавіта дакладную запіску Беластоцкага абкама партыі аб выпраўленні памылак у правядзенні нацыянальнай палітыкі ў школьным будаўніцтве: *“По г. Гродно проведена разъяснительная работа по национальному вопросу и о правах каждого обучаться на родном языке. Был разрешен перевод учащихся с одной школы в другую по желанию. В результате этого перевода число белорусских школ сократилось с 10-ти до 4-х школ, уменьшилось количество учащихся в белорусских школах с 3899 до 2145 человек, еврейские школы уменьшились с 5-и до 4-х и учащихся в них с 2256 человек до 1385 человек. Число польских школ увеличи-*

*лось с 3-х до 4-х с увеличением учащихся в них с 1190 человек до 2374 человек, русских школ увеличилось с 3-х до 8-ми школ с соответствующим увеличением учащихся с 1706 до 4195 человек”*[23].

Больш падрабязная статыстыка колькасці нацыянальных школ у Беластоцкай вобл. прыведзеная ў Табліцы 2, дзе падаецца пяць “зрэзаў”: тры за другое паўгоддзе 1939/40 навучальнага года і на пачатак кожнага паўгоддзя наступнага 1940/41 навучальнага года.

Табліца 2

Колькасць нацыянальных школ Беластоцкай вобл. па ступені адукацыі[24]

| Мова выкладання | На 1 лютага 1940 г. | | | | Вясна 1940 г. | | | | Канец 1939/40 нав. г. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | ПШ | НСШ | СШ | Усяго | ПШ | НСШ | СШ | Усяго | ПШ | НСШ | СШ | Усяго |
| Польская | 634 | 205 | 19 | 858 | 598 | 198 | 19 | 815 | 747 | 209 | 14 | 769 |
| Руская | 5 | 7 | 9 | 21 | 6 | 8 | 9 | 23 | 12 | 13 | 9 | 34 |
| Беларуская | 338 | 71 | 6 | 415 | 382 | 81 | 7 | 470 | 343 | 60 | 5 | 408 |
| Яўрэйская | 10 | 44 | 8 | 62 | 11 | 44 | 8 | 63 | 10 | 46 | 9 | 65 |
| Літоўская | 18 | 1 | – | 19 | 17 | 1 | – | 18 | 10 | 2 | – | 12 |
| Усяго | 1005 | 328 | 42 | 1375 | 1014 | 332 | 43 | 1389 | 1122 | 330 | 37 | 1288 |

| Мова выкладання | Пачатак 1940/41 нав. г. | | | | Пачатак 1941 г. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | ПШ | НСШ | СШ | Усяго | ПШ | НСШ | СШ | Усяго |
| Польская | 608 | 176 | 12 | 796 | 601 | 177 | 12 | 790 |
| Руская | 19 | 28 | 25 | 72 | 21 | 27 | 22 | 70 |
| Беларуская | 391 | 91 | 3 | 485 | 393 | 90 | 3 | 486 |
| Яўрэйская | 8 | 38 | 3 | 49 | 10 | 40 | 2 | 52 |
| Літоўская | 19 | 1 | – | 20 | – | – | – | – |
| Усяго | 1045 | 334 | 43 | 1422 | 1025 | 334 | 39 | 1398[25] |

Такая раскладка дазваляе прасачыць, у які бок змянялася колькасць нацыянальных школ на кожным з узроўняў школьнай адукацыі. Агульныя тэндэнцыі складваліся на карысць рускамоўных школ з адначасовым звужэннем сеткі іншых. І калі пачатковых

школ кожная з прысутных у рэгіёне нацыянальнасцей мела дастаткова шмат, то колькасць сярэдніх значна зменшылася ва ўсіх акрамя рускіх. Як змяняліся прапорцыі ў сетцы нацыянальных сярэдніх школ па вобласці, адлюстравана на мал. 1.




***Мал. 1. Колькасць нацыянальных сярэдніх школ Беластоцкай вобл. (у працэнтах, па мовах навучання)***[26]

Бальшавіцкай індактрынацыі як першаснай мэце была падпарадкавана і кадравая палітыка ў галіне асветы. Патрэбны былі людзі перш за ўсё для саветызацыі тэрыторый, а не для развіцця нацыянальных культур. У заходнія вобласці БССР прысылалі спецыялістаў педагогаў нават з-за Урала. Ажыццяўляўся кантроль на "добранадзейнасць"[27]. Недахоп кадраў для школ, пра якія часта паведамляецца ў дакументах, трэба разумець як адсутнасць кадраў, патрэбных для саветызацыі школы. Доказам гэтага з'яўляецца факт звальнення настаўніка СШ № 11 Гародні 1 красавіка 1940 г. *"по причине отсутствия свободных мест для работы"*[28]. Той факт, што многія школы з-за недакамплекту кадраў вымушаныя былі праца-

ваць у тры змены[29], заставаўся ў дадзеным выпадку не істотным.

Пра тое, што рэарганізацыя асветы мела ідэалагічны характар, сведчыць і правядзенне курсаў нібыта па павышэнні кваліфікацыі педагогаў. Замест профільных дысцыплінаў, як правіла, выкладаліся тыя, дзе можна было праводзіць своеасаблівую бальшавіцкую палітычную інфармацыю.

Якія ж прадметы выкладаліся прысланымі з усходу спецыялістамі для заходнебеларускіх калегаў? Вось падлікі, зробленыя на падставе праграмы трохтыднёвых курсаў павышэння кваліфікацыі настаўнікаў матэматыкі і фізікі ў Беластоку і Гародні ў чэрвені 1940 г.:

- гісторыя УКП(б) – 30 гадзін,
- педагогіка – 15 гадзін,
- руская мова – 24 гадзіны,
- беларуская мова – 24 гадзіны[30].

Толькі зрэдку кароткатэрміновыя курсы сапраўды датычылі выкладання школьных прадметаў. Курсавыя мерапрыемствы па падрыхтоўцы настаўнікаў для нацыянальных школ таксама засталіся толькі ў планах на 1941/42 навучальны год, ды і яны не меліся быць маштабнымі[31]. Дзейнасць г.зв. "Універсітэтаў працоўнага дня", якія адкрыліся ў Гародні і Баранавічах[32], таксама не набыла значных памераў.

Адразу пасля 17 верасня 1939 г. адбылася замена каляндарных святаў. Менавіта школы часцяком станавіліся базай для арганізацыі новых святаў з масавым прыцягваннем насельніцтва[33]. Архіўныя дакументы перадаюць рэакцыю людзей на гэтыя перамены. Асабліва смелыя праявы антыпатыі да савецкай улады выяўлялі школьнікі Гарадзеншчыны і Гародні. Антысавецкія дзеянні і настроі тут мелі масавы характар[34]. У адказ улада прымала жорсткія контрмеры[35].

Прадпрынятыя радыкальныя метады рэфармавання неўзабаве прынеслі вынік і далі падставы органам улады рапартаваць, што *"за время после реорганизации школ города (Гародні – А. Т.) и перехода их на советские программы преподавания, партийные и советские организации города оказали помощь школам в наведении большевистского порядка, парторганизация сплотила учительский коллектив, значительно очистила его от враждебных элементов"*[36]. Такім чынам, ужо да 1940/41 навучальнага года, як правіла, сілавымі метадамі ўлады ў асноўным "вырашылі" праблему тых педагагічных кадраў, якія засталіся ім у спадчыну ад Польскай Рэспублікі. Частка іх была рэпрэсаваная (колькасць эліміна-

ванай польскай інтэлігенцыі ў заходніх абласцях БССР, паводле некаторых ацэнак, складае 80%[37]), а астатнія запалоханыя.

Школьная асвета не абмяжоўвалася адукацыяй дзяцей. Вялікая ўвага надавалася ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці сярод дарослага насельніцтва. Адкрывалася шмат адпаведных школ. Прычым паказчыкі па ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці на Гарадзеншчыне былі аднымі з лепшых. Некаторыя, што праўда, не могуць не выклікаць здзіўлення. Калі, напрыклад, на Палессі планы па "лікбезу" (ад рускага тэрміну "ликвидация безграмотности") недавыконваліся, то на Гарадзеншчыне нават перавыконваліся, напрыклад, у Гародні або ў Ядвабнаўскім раёне[38]. У планах улады было дасягненне 100% ўзроўню пісьменнасці да сярэдзіны 1941 г. Шляхам перавыканання павышаліся агульныя паказчыкі па "лікбезу".

Падводзячы вынікі, яшчэ раз адзначым, што з прыходам савецкай улады на далучаных да БССР землях сталі праводзіцца карэнныя пераўтварэнні, у тым ліку ў галіне асветы. Матэрыяльнае і навучальна-метадычнае становішча ў школах Гародні было больш складаным, чым у сярэднім па заходнебеларускім рэгіёне (прычыны: баі ў верасні 1939 г., блізкая мяжа, што абумоўлівала канцэнтрацыю вайсковых частак, якія займалі школьныя будынкі ды інш.).

Тым не менш навучанне было арганізаванае. Больш таго, адкрываліся спецшколы, падтрымліваліся дзіцячыя дамы і музычныя школы. Навучанне ва ўсіх установах пераводзілася на савецкія праграмы. У шматэтнічнай Гародні савецкая ўлада дэкларавала правядзенне палітыкі нацыянальнай роўнасці. Аднак на справе мелі месца яе сур'ёзныя парушэнні, за якімі стаялі русіфікацыйныя задачы. Ім была падпарадкаваная і кадравая палітыка: навучальныя ўстановы імкліва напаўняліся педагогамі-"ўсходнікамі", звальняліся мясцовыя настаўнікі, адбывалася ідэйнае замбіраванне ўсіх педагогаў. На Гарадзеншчыне гэтыя працэсы працякалі асабліва востра.

У цэлым за два няпоўныя гады савецкая асвета, нягледзячы на сістэмныя факты яе непрыняцця (асабліва на Гарадзеншчыне), усталявалася і стала дзейсным рычагом індактрынацыі насельнітцва, што і было галоўнай мэтай бальшавіцкай улады.

---

[1] Улучшить преподавание языков в школе // Советская Белоруссия, 1939, 4 октября. С. 1.

[2] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей – НАРБ). Ф. 4, воп. 21, ад.з. 1503. Арк. 46. (У канцы 2007 г. змянілася нумарацыя фондаў. У гэтым даследаванні выкарыстоўваецца папярэдняя).

[3] Wincenciak W. Łomżyńskie tradycje oświatowe a szkolnictwo w czasie radzieckiej i niemieckiej okupacji. Łomża: Łomżyńskie Towarzystwo Naukowe im. Wagów. 2001. S. 92;

Народное образование в БССР. Сборник документов и материалов. Т. 2. 1928-1941 гг. Мінск.: Народная асвета, 1980. С. 317.

[4] Дзяржаўны бюджэт Беларускай ССР на 1940 год. Мінск, 1940. С. 212-213.

[5] Паводле: Басюк І. А. Пачатковы перыяд Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Беларусі. Гродна: ГрДУ, 2003. С. 74.

[6] Народное образование в БССР. Сборник документов и материалов. Т. 2. С. 317.

[7] Дзяржаўны архіў грамадскіх арганізацый Гарадзенскай вобл. (далей – ДАГАГВ). Ф. 2, воп. 50, ад.з. 16. Арк. 59; Ф. 6195, воп. 1, ад.з. 400. Арк. 36; Дзяржаўны архіў Гарадзенскай вобласці (далей – ДАГВ). Ф. 127, воп. 1, ад.з. 5. Арк. 15; Дзяржаўны архіў Берасцейскай вобл. (далей – ДАБВ). Ф. 7580“П”, воп. 1, ад.з. 26. Арк. 308 ды інш.

[8] Народное образование в БССР. Сборник документов и материалов. Т. 2. С. 318.

[9] НАРБ. Ф. 4, воп. 27, ад.з. 247. Арк. 47.

[10] ДАГВ. Ф. 127, воп. 1, ад.з. 5. Арк. 15.

[11] НАРБ. Ф. 4, воп. 21, ад.з. 1503. Арк. 49.

[12] Народное образование в БССР. Сборник документов и материалов. Т. 2. С. 318, 378.

[13] ДАБВ. Ф. 279, воп. 1, ад.з. 1. Арк. 70-73; ДАГА ГВ. Ф. 6195, воп. 1, ад.з. 399. Арк. 147.

[14] ДАБВ. Ф. 7580 “П”, воп. 1, ад.з. 427. Арк. 49; Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. Мінск: Народная асвета, 1968. С. 434.

[15] Паводле: Śleszyński W. Okupacja sowiecka na Białostocczyźnie w latach 1939-1941. Propaganda i indoktrynacja. Białystok, 2001. S. 461; Pietrowska O. Polityka w dziedzinie oświaty i kultury na obszarze Polesia Brzeskiego w latach 1939-1941 // Społeczeństwo białoruskie, litewskie i polskie na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej w latach 1939-1941. Warszawa, 1995. S. 172.

[16] НАРБ. Ф. 4, воп. 27, ад.з. 244. Арк. 245, 267.

[17] Chreptowicz-Butieniewa O. Przełom // Karta. 2001. Nr 32. S. 43.

[18] Śleszyński W. Struktura szkolnictwa sowieckiego w Białymstoku // Białostocczyzna. 1999. Nr 1. S. 130-133.

[19] НАРБ. Ф. 4, воп. 27, ад.з. 246. Арк. 18-19.

[20] НАРБ. Ф. 4, воп. 27, ад.з. 246. Арк. 22.

[21] ДАГА ГВ. Ф. 6196, воп. 1, ад.з. 424. Арк. 52-54.

[22] ДАГА ГВ. Ф. 2, воп. 50, ад.з. 67. Арк. 38.

[23] Трацяк Я. Рэлігійная і нацыянальная палітыка КП(б)Б у Заходняй Беларусі ў 1939 – 1941 гг. // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 2000. Nr 13. S. 184.

[24] Складзена аўтарам паводле дадзеных: ДАГА ГВ. Ф. 6195, воп. 1, ад.з. 398. Арк. 66; ад.з. 399. Арк. 12, 86; ад.з. 410. Арк. 297адв.

[25] Акрамя таго былі дзве школы “змешаныя”, якія не трапілі ні ў якую графу.

[26] Складзена аўтарам па дадзеных: ДАГА ГВ. Ф. 6195, воп. 1, ад.з. 398. Арк. 66; ад.з. 399. Арк. 12, 86; ад.з. 410. Арк. 297 адв.

[27] Jasiewicz K. Pierwsi po diable. Elity sowieckie w okupowanej Polsce 1939-1941 (Białostocczyzna, Nowogródczyzna, Polesie, Wileńszczyzna). Warszawa, 2001. S. 154.

[28] ДАГВ. Ф. 127, воп. 3, ад.з. 1. Арк. 37.

[29] ДАБВ. Ф. 279, воп. 1, ад.з. 5. Арк. 11; Ф. 282, воп. 2, ад.з. 20. Арк. 41.

[30] ДАГАГВ. Ф. 6195, воп. 1, ад.з. 399. Арк. 18.

[31] У Народным Камісарыяце Асветы БССР (хроніка) // Савецкая школа. 1941. № 1-2. С. 124.

[32] Драбышэўская М. Марксісцка-ленінскае выхаванне педагагічных кадраў рэспублікі ў гады трэцяй пяцігодкі (1938 – чэрвень 1941) // Народная асвета. 1973. № 6. С. 90.

[33] См. падрабязней: Śleszyński W. Rocznice i święta państwowe obchodzone na Białostocczyźnie w latach okupacji sowieckiej 1939 – 1941 // Biuletyn Historii Pogranicza. 2001. Nr 2. S. 89-97.

[34] Гл. падрабязней: Трафімчык А. Праявы антысаветызму ў сістэме школьнай адукацыі на Гарадзеншчыне ў 1939 – 1941 гг. // Гарадзенскі палімсест. XII – XX стст. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Горадня, 7 лістапада 2008 г.) / Пад рэдакцыяй А.Ф. Смаленчука, Н.У. Сліж. Горадня-Беласток: ІГДБ (ЕГУ), 2008. С. 173-176.

[35] Гл. падрабязней: Трофимчик А. Оппозиционные настроения и антисоветская деятельность в школах западных областей БССР. Меры по их ликвидации (репрессии) // Перекрестки. 2009. № 1-2. С. 134-170; Трофимчик А. В. Меры по ликвидации оппозиционных настроений и антисоветской деятельности в школах западных областей БССР (1939 – 1941) // Западная Белоруссия и Западная Украина в 1939-1941 гг.: люди, события, документы. СПб.: Алетейя, 2011. С. 406-418.

[36] ДАГАГВ. Ф. 2, воп. 50, ад.з. 70. Арк. 22-25.

[37] Jasiewicz K. Liczba deportowanych // Karta. 2001. Nr 32. S. 145.

[38] ДАГАГВ. Ф. 6195, воп. 1, ад.з. 376. Арк. 10.

*Анатоль Вялікі, канд. гіст. навук*
*(Менск)*

# “Зыход” або перасяленне польскага насельніцтва з Гародні ў Польшчу ў 1944 – 1946 гг.

Трагедыя Галакосту ў перыяд нямецкай акупацыі і пасляваенные перасяленне польскага і габрэйскага насельніцтва з БССР у Польшчу карэнным чынам змянілі дэмаграфічнае становішча Гародні, якая з “польска-габрэйскай” стала “беларуска-расейскай”.

Трэба адзначыць, што перасяленне адбывалася на аснове беларуска-польскага пагаднення ад 9 верасня 1944 г. паміж БССР і Польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення (ПКНВ). Адпаведна ўрад БССР стварыў на тэрыторыі заходніх абласцей рэспублікі 10 раённых прадстаўніцтваў, сярод якіх было і Гарадзенскае. Менавіта яно адказвала за перасяленне польскага і габрэйскага насельніцтва з Гародні. Яго першым кіраўніком быў прызначаны Д.Бліноў, але неўзабаве яго замяніў Ул.Пуцята, які ўзначальваў яго на працягу амаль двух гадоў[1].

На пачатку кастрычніка 1944 г. работнікі Гарадзенскага прадстаўніцтва прыступілі да працы. Адной з галоўных задачаў з’яўлялася вызначэнне колькасці польскага і габрэйскага насельніцтва, якое пажадала б выехаць у Польшчу, а таксама распаўсюджванне інфармацыі аб перасяленчай акцыі.

Вайна і акупацыя цяжкім “катком” пракаціліся па Гародні. У кастрычніку 1944 г., якраз тады калі распачало працу Прадстаўніцтва, па загаду Гарадзенскага РК КП(б)Б была падлічана колькасць усяго насельніцтва горада. Гарадское партыйнае кіраўніцтва атрымала даволі сумныя лічбы. Паводле дадзеных гаркама партыі, перад вайной у Гародні пражывала 73,8 тыс. чалавек, у тым ліку 32% палякаў, 30% - габрэяў, 19% - рускіх, 17% - беларусаў і 2% прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў[2].

На пачатку кастрычніка 1944 г. у горадзе заставалася 32,2 тыс. гарадзенцаў, да якіх далучыліся каля 4 тыс. чал., што прыехалі у горад з усходніх абласцей БССР і СССР, а таксама прыбылі з партызанскіх атрадаў. Агульная колькасць насельніцтва, якое было

знішчана ў час вайны і акупацыі складала каля 27 тыс. чал., галоўным чынам габрэяў – каля 23 тыс. чалавек. Па нацыянальнаму складу насельніцтва размяркоўвалася наступным чынам: палякі складалі 61%, беларусы – 27,7%, рускія – 10%, прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей – 2,3%[3].

Работнікі Прадстаўніцтва ў Гародні распачалі ўлік і рэгістрацыю насельніцтва і адразу сутыкнуліся з праблемай вызначэння кола грамадзянаў, што мелі права на выезд у Польшчу. У адпаведнасці з пагадненнем права выехаць мелі тыя гарадзенцы, якія дакументальна маглі пацвердзіць факт пражывання на тэрыторыі Польшчы да 17 верасня 1939 г., а таксама засведчыць польскую нацыянальнасць. Дзеля гэтага пры рэгістрацыі неабходна была прадставіць любыя польскія дакументы: пашпарт, ваенны білет, пасведчанне аб нараджэнні, прафсаюзны білет ды іншыя афіцыйныя дакументы. Спрэчным напачатку было пытанне аб прызнанні нямецкіх пашпартоў ("аўсвайсаў") у якасці дакументаў, якія давалі права на рэгістрацыю і перасяленне. Аднак неўзабаве яно было вырашана станоўча, і гэтыя пашпарты таксама набылі моц юрыдычных дакументаў[4]. Людзі маглі выязджаць і па савецкіх дакументах, у якіх было пазначана, што па нацыянальнасці яны палякі і да 1939 г. пражывалі ў Польшчы. Акрамя гэтага, дазвалялася рэгістрацыя таксама па вусных заявах.

Пачатак рэгістрацыі ў Гародні паказаў, што значная частка мясцовых палякаў лічыла, што "саветы" і пракамуністычны ПКНВ пад выглядам "перасялення ў Польшчу" збіраюць вывозіць палякаў у Сібір, Казахстан ды іншыя аддаленыя раёны СССР. Апроч таго частка палякаў спадзявалася, што Гародня застанецца горадам Польшчы. Яны не жадалі рэгістравацца на выезд і займалі чакальную пазіцыю.

Гэтыя настроі заўважыла гарадское партыйна-савецкае кіраўніцтва. Так, ужо ў кастрычніку 1944 г. Гарадзенскі РК КП(б)Б паведамляў у ЦК КП(б)Б, што падчас *"дакладаў і гутарак у сувязі з падпісаннем пагаднення паміж Польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення і ўрадам БССР аб эвакуацыі польскіх грамадзянаў з тэрыторыі БССР і беларускага насельніцтва з тэрыторыі Польшчы высветлілася, што большая частка польскага насельніцтва гораду эвакуіравацца ў Польшчу не жадае"*[5]. У гэтым жа дакуменце адзначаліся *"контррэвалюцыйныя факты"* настрояў польскага насельніцтва ў сувязі з перасяленнем. Так, Арнольд Андрушэвіч у гутарцы з сваімі суседзямі па кватэры заявіў, што *"хутка бальшавікі будуць выгнаныя з Гародні нашай польскай арміяй"*[6].

Кіраўнік Гарадзенскага раённага прадстаўніцтва Ул.Пуцята паведамляў Галоўнаму прадстаўніку ўрада БССР па перасяленню Ул.Царуку, што *“насельніцтва Гародні першапачаткова адносілася да гэтага мерапрыемства (перасялення – А.В.), з вялікім недаверам, адзначаючы, што ў Польшчу не павязуць, а ўсіх зарэгістраваных павязуць у Сібір”*[7].

Гэтыя настроі падтрымлівала таксама польскае падполле, якое актыўна дзейнічала ў Гародні. Адзін з яго ўдзельнікаў сцвярджаў, што *“польская нацыянальная дзяржава існавала і будзе існаваць у папярэдніх межах, а не па лініі Керзона, як зараз яны ўсталёўваюцца па дамове Савецкага ўрада з Вандай Васілеўскай, якую польскі народ не прызнае, бо яна прадалася камуністам. У нас маецца наш законны ўрад у Лондане [...]”*[8]. Калі ў Гародні ў снежні 1944 г. пачалі вывешваць абвесткі пра ўмовы перасялення, то польскае падполле прыкладала ўсе намаганні, каб як мага менш людзей даведаліся пра гэта. Адначасна патаемна перадавалі палякам загады, каб яны не рэгістраваліся і не выязджалі ў Польшчу. Так, Ул.Пуцята паведамляў Ул.Царуку, што *“па Гародні абвесткі вывешваліся 7 дзен запар, але раніцай наступнага дня ніводнай абвесткі не заставалася. З боку польскіх бандытаў (так у тэксце – А.В.) былі пагрозы знішчэння тых, хто зарэгіструецца”*[9].

Аналіз дзейнасці польскага падполля і яго ўплыў на перасяленне дазваляе вылучыць два перыяды гэтай дзейнасці, якія кардынальна адрозніваліся адзін ад другога. Першы пачаўся з моманту абвяшчэння ўмоваў пагаднення і з пачаткам рэгістрацыі насельніцтва (кастрычнік-снежань 1944 г.) і працягваўся да Крымскай канферэнцыі (люты 1945 г., Ялта), на якой была канчаткова вызначана канфігурацыя савецка-польскай мяжы. Ён характарызаваўся тым, што ўрад у Лондане і польскае падполле не пакідалі надзеі на вяртанне ўсходняй мяжы, якая існавала напярэдадні 17 верасня 1939 г. Падполле, выконваючы загад лонданскага ўрада, фактычна забараняла палякам рэгістравацца і выязджаць у Польшчу.

Пасля Крымскай канферэнцыі, калі стала відавочна, што межы канчаткова вызначаны і пераглядацца яны не будуць, тактыка падполля кардынальна змянілася. Другі этап (люты 1945 г. – 1946 г.) характарызаваўся тым, што падполле пачало максімальна спрыяць рэгістрацыі і выезду ўсяго польскага насельніцтва ў Польшчу. Гарадзенскае прадстаўніцтва адзначала, што *“пасля Крымскай канферэнцыі, дзе было заяўлена, што мяжа Польшчы на ўсходзе будзе праходзіць па лініі Керзона [...] польскія белабандыты ўзяліся*

*за новую агітацыю. Польскае насельніцтва пад пагрозай зброі вымушалі рэгістравацца і пераязджаць у Польшчу любым шляхам"*[10].

Адпаведна ў студзені – лютым 1945 г. пачалася масавая рэгістрацыя палякаў на выезд. Так, калі ў эшалоне, які адпраўляўся ў Польшчу 8 студзеня 1945 г. выязджала ўсяго 39 гаспадарак, то ў наступным, які адпраўляўся 22 студзеня выязджала ўжо 82 гаспадаркі, якія налічвалі 162 чал.[11]

Перасяленне вызначалася сукупнасцю розных фактараў. Найбольш значнымі былі сацыяльна-эканамічныя, грамадска-палітычныя, канфесійныя і сваяцкія. Так, інтэлігенцыю, у прыватнасці настаўнікаў, не задавальняла дыскрымінацыйная палітыка савецкай улады ў галіне адукацыі. Між іншым яна праяўлялася ў масавым пераўтварэнні польскамоўных школаў у беларуска- і рускамоўныя. Разам з гэтым, пачалося звальненне з школ "ненадзейных" польскіх настаўнікаў, якія атрымалі адукацыю "за польскім часам".

Ад'езд палякаў-настаўнікаў абярнуўся вострай кадравай праблемай у Гарадзенскай вобл. і самой Гародні. Асабліва вострая сітуацыя склалася ў вобласці, у якой з агульнай колькасці 1640 настаўнікаў налічвалася 756 палякаў. З іх 706 зарэгістравалася на выезд у Польшчу. Гарадзенскі абкам партыі летам 1945 г. з трывогай адзначаў, што *"на працягу навучальнага года па няпоўных дадзеных у Польшчу выехала 228 настаўнікаў. Яшчэ 250 зарэгістраваліся на выезд. У Гародні да пачатку вучэбнага года (1945/1946 гг. - А.В.) мелася 104 настаўнікі-палякі. На 1 чэрвеня 1945 г. засталося 68, з якіх 54 зарэгістраваліся на выезд"*[12].

Разам з настаўнікамі выказалі жаданне перасяліцца ў Польшчу медыцынскія работнікі. Ад'язджалі не толькі ўрачы, але і сярэдні медыцынскі персанал. Напрыклад, з Гарадзенскай дзіцячай бальніцы, у якой працавалі 24 работнікі, на выезд зарэгістравалася 13 медыкаў, з інфекцыйнай з 44 – 24, з 1-й гарадской з 49 – 22[13]. Разам з інтэлігенцыяй выязджалі работнікі прамысловасці і транспарту. Так, з 71 работніка Гарадзенскага велазборачнага завода ў 1945 г. у Польшчу выехалі 25 рабочых і служачых, а 9 зарэгістраваліся на выезд[14].

Аналіз дадзеных рубрыкі "месца пастаяннага жыхарства" дазваляе прасачыць гарадскую тапаніміку і ўстанавіць назвы вуліцаў, якія яшчэ не паспелі перайменаваць. Так, сустракаюцца вуліцы, якія насілі імёны Юзафа Пілсудскага, Станіслава Нарутовіча, Іахіма Лялевеля, Марціна Бема, Канстанціна Каліноўскага, Тамаша Зана, а таксама вул. Станіславаўская, Збожавая, Касінерская, Святога Мікалая, Млынарская, Вітольдава, Віленская, Ягелонская,

Назарацянская, Легіёнавая ды інш.[15] Значная частка гэтых вуліцаў у выніку перасялення цалкам апусцелі. Так, напрыклад, з вул. Станіславаўскай толькі з 1 студзеня па 6 чэрвеня 1945 г. выехалі 23 гаспадары[16].

На пачатку студзеня 1946 г. назіраўся масавы запіс польскага насельніцтва на выезд у Польшчу. Ён прыняў такі характар, што, як паведамляў кіраўнік Гарадзенскага прадстаўніцтва Галоўнаму прадстаўніку СНК БССР Ул.Царуку, жадаючых запісацца на выезд было столькі, што *“апошнія дні рэгістрацыі выліліся ў цэлы працэс. У камісіі не вытрымлівалі ні вокны, ні дзверы. Узброеная група міліцыі не змагла забяспечыць парадку. Натоўп ламіўся дзень і ноч”*[17].

Людзі, як правіла, выязджалі цэлымі сем’ямі, нават з немаўляткамі, нягледзячы на кепскае надвор’е. Так, напрыклад, у студзені 1945 г. з Гародні выехала сям’я Адольфа Камінскага, у якой былі дзве дачкі і сын. Крысціна нарадзілася ў 1938 г., Зоф’я – у 1940 г., Мечыслаў – у 1943 г.[18] У Феліцыі Канюшык, якая таксама выязджала ў студзені 1945 г., было шасцёра дзяцей. Старэйшы Вікенцій нарадзіўся ў 1930 г., а малодшы Адам – у 1944 г.. Нягледзячы на моцныя маразы, маці разам з імі выехала ў Польшчу[19].

Колькасныя дадзеныя аб перасяленні польскага насельніцтва з Гародні ў Польшчу адлюстраваныя ў табліцы 1.

Табліца сведчыць, што адбываўся сапраўдны зыход польскага насельніцтва з Гародні. Калі ўзяць пад увагу дадзеныя гаркама партыі аб колькасці насельніцтва ў Гародні ў кастрычніку 1944 г. (каля 36 тыс. чал.), то за два няпоўныя гады (да лета 1946 г.) з гораду выехала, паводле дадзеных Гарадзенскага прадстаўніцтва, 14 426 палякаў. Сацыяльны склад перасяленцаў сведчыць, што савецкую ўладу не прынялі перш за ўсё рабочыя, служачыя, рамеснікі-кустары, якіх выехала найбольшая колькасць. Значная частка настаўнікаў, інжынерна-тэхнічных работнікаў, урачоў таксама не бачылі для сябе перспектываў у савецкай Беларусі.

Куды ехалі палякі з Гародні? Трэба адзначыць, што яны, як правіла, не жадалі засвойваць “землі адзысканыя”, а выязджалі галоўным чынам у Беласток, Сакулку, Лукаў, Люблін, Замбраў г.зн. сяліліся паблізу мяжы. Напрыклад, у эшалоне, якія адпраўляўся з Гародні ў Польшчу 22 студзеня 1945 г., налічвалася 82 гаспадаркі. З іх пажадала выехаць у Беласток 60 гаспадарак[20]. Магчыма, людзі не гублялі надзею калісьці вярнуцца ў родныя мясціны. Апроч таго, частка блізкіх сваякоў заставалася ў савецкай Беларусі, і людзі спадзяваліся, што з Беласточчыне будзе лягчэй падтрымліваць стасункі з роднымі і блізкімі, якія засталіся ў Гародні.

Табліца 1. Колькасць гарадзенцаў, якія зарэгістраваліся, выехалі і якім было адмоўлена ў выездзе ў Польшчу. Кастрычнік 1944 г. – 15 чэрвеня 1946 г.

| | Па нацыянальнасці | | | | | | Па полу | | | Па роду заняткаў | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | Членаў сямей | Палякаў | Членаў сямей | Габрэяў | Членаў сямей | Мужчынаў | Жанчынаў | Дзяцей да 16 год | Сялянаў | Рабочых | Кустароў | Служачых | Настаўнікаў | Урачоў | ІТР | Святароў | Чыгуначнікаў | Іншых |
| Зарэгістраваліся | 7492 | 19039 | 7384 | 18861 | 108 | 178 | 5049 | 8219 | 5771 | 187 | 3403 | 752 | 1170 | 206 | 44 | 119 | 38 | 258 | 7091 |
| Пазбаўленыя права выезду, бо не з'явіліся на цягнік | 2153 | 5649 | 2142 | 5685 | 11 | 14 | 1462 | 2525 | 1712 | 89 | 1060 | 309 | 361 | 55 | 13 | 34 | 19 | 109 | 1938 |
| Адмовіліся ад выезду | 159 | 441 | 159 | 441 | - | - | 108 | 180 | 153 | 1 | 78 | 44 | 10 | - | - | - | - | 4 | 151 |
| Выехалі | 6134 | 14426 | 6033 | 14256 | 101 | 170 | 3983 | 6177 | 4266 | 641 | - | 419 | 812 | 152 | 34 | 86 | 19 | 148 | 5049 |

Крыніцы: НАРБ. Ф.788, воп.2, ад.з.70. Сведения Гродненского райпредставительства по эвакуации. 15 мая 1945 г. – 25 июня 1946 г. Арк. 1-38.

Улады дазвалялі выязджаць не толькі чыгуначным транспартам, але і гужавым. Так, у памежных з Польшчай мясцовасцях (Скідаль, Гародня, Сапоцкін) перасяленцы маглі карыстацца ўласнай падводай. Пры гэтым у адрозненні ад чыгуначнага транспарту яны маглі зарэгістравацца і выехаць у любы зручны для іх момант.

Выбарачны ўзроставы склад гарадзенскіх перасяленцаў выглядаў наступным чынам. Вось дадзеныя па эшалону, якія выехаў з Гародні 8 красавіка 1945 г.: 24 чалавекі нарадзіліся паміж 1868 і 1900 г., 26 – паміж 1900 і 1910 г., 17 – паміж 1910 і 1920 г., таксама 17 - паміж 1920 і 1930 г., 40 – паміж 1930 і 1940 г., 23 – паміж 1940 і 1946[21]. Пры гэтым перасяленцы пакінулі ў Гародні 644 дамы коштам у 3 747, 4 тыс. руб.[22]

25 чэрвеня 1946 г. на сумесным пасяджэнні прадстаўніка СНК БССР па Гарадзенскаму прадстаўніцтву і ўпаўнаважанага польскага ўраду па эвакуацыі былі падведзеныя вынікі амаль двухгадовай працы па перасяленню насельніцтва. Бакі падкрэслілі, што *“эвакуацыю грамадзян польскай і габрэйскай нацыянальнасці з тэрыторыі БССР у Польшчу на аснове існуючай дамовы паміж урадамі БССР і Польшчы, якая пачалася 10 лістапада 1944 г., лічыць скончанай 15 чэрвеня 1946 г.”*[23]

Таксама падкрэслівалася адсутнасць узаемных прэтэнзій. Адзначалася, што як беларускі, так і польскі бок рабіў усе намаганні, каб забяспечыць паспяховую працу і стварыць усе ўмовы дзеля таго, каб жадаючыя змаглі перасяліцца з Гародні ў Польшчу ў вызначаныя тэрміны. Фактычна, так яно і адбылося.

Нягледзячы на ўсе складанасці і супярэчнасці гэтага працэсу, палякі і габрэі мелі магчымасць выехаць у Польшчу. Тысячы палякаў скарысталі з яе. Перасяленцаў, якія мелі розны сацыяльны статус, адукацыю, палітычныя погляды і маёмаснае становішча, яднала непрыняцце савецкай улады і спадзяванне на тое, што ў Польшчы ўсё ж будзе лепей.

---

[1] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей – НАРБ). Ф. 789, воп. 1, ад.з. 5. Арк. 1. Дакладныя запіскі аб правядзенні работы па эвакуацыі рускага, украінскага і беларускага насельніцтва з Польшчы. 15 мая 1945 г. – 20 лістапада 1945 г.

[2] НАРБ. Ф. 4, воп. 42, ад.з. 140. Арк.18. Гарадзенская вобл. Інфармацыя ГК і РК. 1944-1945 гг.

[3] Тамсама. Арк. 18.

[4] НАРБ. Ф. 788, воп. 1, ад.з. 4. Арк. 39. Данясенні і дакладныя запіскі пра ход эвакуацыі. 9 лістапада 1944 г. - 21 студзеня 1946 г.

[5] НАРБ. Ф. 4, воп. 42, ад.з. 140. Арк. 31.

[6] Тамсама. Арк. 32.

[7] НАРБ. Ф. 788, воп. 1, ад.з. 11. Арк. 52. Данясенні раённых прадстаўнікоў пра эвакуацыю насельніцтва. 1 студзеня 1945 г. – 27 мая 1946 г.

[8] НАРБ. Ф. 4п, воп. 42, ад.з. 140. Арк. 32.

[9] НАРБ. Ф. 788, воп. 1, ад.з. 11. Арк. 52.

[10] Тамсама.

[11] НАРБ. Ф. 788, воп. 2, ад.з. 74. Арк. 44, 48.

[12] НАРБ. Ф. 4, воп. 42, ад.з. 375. Арк. 100. Гарадзенскі АК. Інфармацыя АК. 1946 г.

[13] Тамсама. Арк. 101.

[14] Тамсама. Арк. 102.

[15] НАРБ. Ф. 788, воп.2, ад.з. 75. Арк. 18-35. Списки граждан Гродно и Гродненского района, выехавших в Польшу. 10 июня 1945 г. – 17 июня 1946 г.

[16] Падлічана па: НАРБ. Ф.788, воп.2, ад.з.74. Арк.1-193.

[17] НАРБ. Ф.788, воп.1.спр.11. Арк.71.

[18] НАРБ. Ф.788, воп.2, ад.з.74. Арк.77.

[19] НАРБ. Ф.788, воп.2, ад.з.74. Арк.12.

[20] Падлічана па: НАРБ. Ф.788, воп.2, ад.з.74, лл. 64-75. Списки граждан г. Гародні и Гродненского района, выехавших в Польшу. 16 ноября 1944 г. – 15 июня 1946 г.

[21] Падлічана па: НАРБ. Ф.788, воп.2, ад.з.74. Арк.101-107

[22] НАРБ. Ф.788, воп.2, ад.з.70. Арк.39

[23] НАРБ. Ф.788, воп.2, ад.з.70. Арк.67. Сведения Гродненского рапредставительства по эвакуации. 15 мая 1945 г. – 25 июня 1946 г.

*Таццяна Касатая*
*(Гародня)*

# Ахова помнікаў гісторыі і культуры ў Гародні (1950-я – 1960-я гг.): страта культурнай спадчыны

Якім бы эфектыўным ці прыгожым
не было новае, разрыў пераемнасці
можа выклікаць нясцерпны стрэс.
**Д. Лоуэнталь**

## ІНСТЫТУАЛІЗАЦЫЯ АХОВЫ ПОМНІКАЎ

У пасляваенны перыяд назіраліся агульнасусветныя тэндэнцыі пераасэнсавання мінулага праз захаванне і актуалізацыю культурнай спадчыны. Англійскі даследчык Д. Лоуэнталь у 1980-я гг. слушна заўважыў, што яго пакаленне, больш чым якое іншае мела цягу да мінулага, ператвараючы вуліцы гарадоў у "алеі памяці"[1]. Такая цікавасць праяўлялася не толькі на індывідуальным узроўні, але і на дзяржаўным. Амаль адразу пасля вайны ў БССР былі прыняты асноўныя нарматыўна-прававыя акты па ахове помнікаў гісторыі і культуры. У 1957 г. была ратыфікавана міжнародная Гаагская канвенцыя аб ахове культурных каштоўнасцяў у выпадку ўзброенага канфлікта. У 1967 г. было створана Беларускае добраахвотніцкае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. У 1969 г. быў прыняты першы ў БССР Закон аб ахове помнікаў культуры.

Акт прызнання помніка каштоўным суправаджаецца яго трансфармацыяй. Ахова помніка – гэта адначасова і непазбежнае яго змяненне. У дачыненні да гістарычных будынкаў кожная эпоха робіць выбар паміж прызнаннем, павагай, або іх адмовай. Інстытуалізацыя аховы спадчыны на Захадзе з'яўлялася каталізатарам калектыўнай гістарычнай ідэнтычнасці і фарміравання нацыянальнай свядомасці. У Савецкім Саюзе маніпуляванне памяццю набыло адыёзны і жорсткі характар. Паралельна з прыняццем пастаноў і Закона аб ахове помнікаў гісторыі і культуры знішчаліся шматлікія гістарычныя будынкі. Разбурэнне таго ці іншага будынка было выклікана шматлікімі прычынамі. Але асноўнай прабле-

май руйнавання было тое, што помнікі ў афіцыйным дыскурсе не разглядаліся і не прэзентаваліся як *культурная спадчына*.

Сёння вельмі часта азначэнні "помнік" і "культурная спадчына" выкарыстоўваюцца як сінонімы, але другое паняцце ўтрымлівае не толькі памяць, але паказвае і на *сувязь паміж пакаленнямі*[2]. У савецкіх нарматыўна-прававых дакументах азначэнне "культурная спадчына" не выкарыстоўвалася. Зразумела, што там быў распрацаваны свой тэрміналагічны апарат, але катэгорыя пераемнасці ў характарыстыцы большасці помнікаў гісторыі і культуры Гародні адсутнічала. Вырыванне з гістарычнага кантэкста ці рэпрэзентацыя помніка як прыклада чужой, гвалтоўна насаджанай культуры (касцёлы, кляштары) не садзейнічалі фарміраванню ў грамадскасці разумення каштоўнасці будынкаў.

Помнікі ў савецкі час разглядаліся не толькі як рэліквія, але з большага як сацыяльная катэгорыя, якая была напоўнена класавым і патрыятычным зместам. Яны былі падзелены на 4 катэгорыі: археалагічныя, гістарычныя, мастацкія і помнікі архітэктуры. Мы будзем разглядаць толькі нерухомыя помнікі - будынкі, пахаванні і помнікі ў гонар выбітных дзеячоў – гэта значыць гістарычныя і архітэктурныя аб'екты. Прыярытэт такіх рэліктаў заключаецца ў тым, што яны непасрэдна ддаступны органам пачуццяў, бо суіснуюць з сучаснасцю, і адначасова дзякуючы сваёй апазіцыі сучаснасці даюць магчымасць адчуць мінулае[3].

Помнікі гісторыі і архітэктуры ў разглядаемы час мелі сваю градацыю. Па сваёй "каштоўнасці" яны падзяляліся на помнікі агульнасаюзнага, рэспубліканскага і мясцовага значэння. Помнікаў звязаных "з важнейшымі гістарычнымі падзеямі ў жыцці народаў СССР, рэвалюцыйным рухам, заваёвамі і абаронай Савецкай улады, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнамі, сацыялістычным будаўніцтвам"[4] у Гародні амаль не было. Таму ў спісе гістарычных помнікаў саюзнага значэння 1950 г., гэта значыць помнікаў, якія атрымалі вышэйшую ступень прызнання ў СССР, гарадзенскія мемарыялы адсутнічалі[5]. А ў спіс помнікаў рэспубліканскага значэння ўвайшлі наступныя гарадзенскія аб'екты: брацкая магіла, дзе былі пахаваны салдаты Савецкай Арміі, якія загінулі ў баях падчас "вызвалення" Заходняй Беларусі ў 1939 г. (сёння вул. Перамогі), дом, дзе "жыла польская пісьменніца Эліза Ажэшка"[6]. У 1957 г. спіс гістарычных помнікаў быў дапоўнены будынкам аблдрамтэатра (сёння тэатр лялек). Аргументацыяй для гэтага былі не яго гістарычная і архітэктурная каштоўнасці – будынак XVIII ст., эпохі дзейнасці Антонія Тызенгаўза, самы старажытны дзеючы тэатральны

будынак у Беларусі, - а тое, што ў тэатры 26 студзеня 1919 г. адбылося паседжанне Гарадзенскага Савета працоўных дэпутатаў, а 26 снежня 1940 г. праходзіла першая сесія Гарадзенскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных. Акрамя тэатра ў спіс патрапілі будынак на вул. Савецкіх памежнікаў, дзе знаходзілася падпольная тыпаграфія ЦК КПЗБ у 1927 – 1936 гг.; магіла генерала-маёра С.М. Ланскога на старых праваслаўных могілках; брацкая магіла ў цэнтры гарадскога парка і бюст "польскай"[7] пісьменніцы Элізы Ажэшкі[8]. У Гародні трэба было ці пераасэнсоўваць "старых герояў", ці ствараць новых. Ідэалагізацыя помнікаў звужала не толькі кола людзей, якіх ушаноўвалі, але і храналагічныя межы з'яўлення рэліквій. Апошні крытэрый быў звязаны з помнікамі архітэктуры. Большасць гістарычных будынкаў у Гародні датавалася перыядам "панска-каталіцкага" панавання і сярод іх пераважалі культавыя помнікі. Таму ў спіс ахоўваемы помнікаў архітэктуры ў 1953 г. былі ўключаны толькі 6 гарадзенскіх аб'ектаў: комплекс старажытных пабудоў XII ст. на Замкавай гары (руіны Ніжняй царквы, рэшткі баявой вежы і Верхняй царквы); Каложская царква; палац Старога замка; рэшткі абарончых сцен замка; Фарны касцёл; палац Новага замка. У 1967 г. Замкавая гара з усімі архітэктурнымі і гістарычнымі помнікамі была аб'яўлена гісторыка-археалагічным запаведнікам[9].

Спіс помнікаў архітэктуры амаль не папаўняўся. Больш таго, з яго нават выключаліся аб'екты. 20 верасня 1961 г. 15 помнікаў па ўсёй БССР былі пазбаўлены статуса ахоўваемых[10]. Сярод гарадзенскіх – Бернардынскі касцёл і дом Тызенгаўза[11]. Гэта пастанова была прынята літаральна за 2 месяцы да знішчэння Фары Вітаўта. У гэты ж перыяд былі знесены так званыя басняцкія дамы на вуліцы Э. Ажэшкі, будынкі на месцы сучаснага Моладзевага цэнтра "Гродна" і інш.

Прыярытэт у фарміраванні вобраза помніка як каштоўнасці належаў дзяржаўным органам, бо толькі ў іх былі неабходныя для гэтага рэсурсы. Але ў публічным дыскурсе прысутнічалі і меркаванні спецыялістаў (гісторыкаў, архітэктараў, мастацтвазнаўцаў), якія мелі магчымасці выдаваць свае працы. Паміж чыноўнікамі і навукоўцамі не існавала яўнага супрацьстаяння. Большасць прац, прысвечаных помнікам гісторыі і культуры, напісаны з ідэалагічна правільных пазіцый. Але навукоўцы свядома ці несвядома падкрэслівалі каштоўнасць і ўнікальнасць шматлікіх аб'ектаў, якіх пасля ці выключалі са спіса ахоўваемых ці руйнавалі. Пры гэтым даследчыкі вельмі часта выкарыстоўвалі ў дачыненні да гістарычных будынкаў азначэнне "спадчына", што паказвала на пераемнасць і сувязь паміж пакаленнямі. У разглядаемы перыяд асноўнымі

працамі па гісторыі архітэктуры Гародні былі “Горадабудаўніцтва Беларусі” прафесара, доктара мастацтвазнаўства Ю. Ягорава[12], “Гродна” супрацоўніка інстытута гісторыі мастацтва АН СССР В. Кудрашова[13], артыкул “Будаўніцтва Тызенгаўза ў Гародні” гісторыка архітэктуры А. Квітніцкай[14].

## АКТУАЛІЗАЦЫЯ ПОМНІКАЎ І ПРАКТЫЧНЫЯ ДЗЕЯННІ Ў ІХ АХОВЕ

Разгледзім на прыкладах недарэчнасці ў ахове помнікаў Гародні і спробы грамадскасці ўключыцца ў гэты працэс. Згодна з вышэй згаданай Пастановай Савета Міністраў БССР ад 20 верасня 1961 г. “Аб частковай змене спісаў археалагічных і гістарычных помнікаў і помнікаў архітэктуры” статус ахоўваемых страцілі Бернардынскі касцёл і дом Тызенгаўза. Аргументацыя па Бернардынскаму касцёлу гучала наступным чынам: “Архітэктура будынка з’яўляецца мала арыгінальнай”. Ю. Ягораў сцвярджаў, што “Бернардынскі касцёл у Гародні з’яўляецца адным з лепшых з мастацкага пункту погляда каталіцкіх культавых будынкаў у гарадах Беларусі”[15]. Называючы касцёлы і кляштары “фарпостамі каталіцызма і чужой, нянавіснай архітэктуры”[16], даследчык лічыў іх адначасова і арганічнай часткай забудовы горада, яны стварылі яго архітэктурны вобраз.

Кудрашоў у дачыненні да каталіцкіх комплексаў зазначаў, што “пры іх еўрапейскім выглядзе... яны ўсё ж такі маюць сваю мясцовую афарбоўку. Архітэктурныя дэталі, якія маюць свае пачаткі ў класіцы, атрымоўваюць перапрацоўку ў духу *нацыянальнага беларускага* дойлідства”[17]. Пра Бернардынскі кляштар даследчык пісаў, што ён сведчыць пра вялікае разуменне кампазіцыі майстрамі, якія яго будавалі[18]. Яшчэ ў 1958 г. Кудрашоў са шкадаваннем казаў пра разбурэнне кляштарнай агароджы, якую яшчэ можна было адрамантаваць, захаваўшы гістарычны комплекс[19].

Даследчык выказваў абурэнне і наконт стану фабрычнай канторы (кантар) часоў Антонія Тызенгаўза. Гэты будынак акурат у той час руйнавалі. “Верагодна ў Вільні ці Таліне такі помнік архітэктуры пачалі б аднаўляць,”[20] – пісаў Кудрашоў. Кантора (у спісе - дом Тызенгаўза) у 1961 г. была пазбалена статуса ахоўваемага (прычына – архітэктура дома паўтараецца ў іншых больш капітальных будынках[21]) і знішчана.

Вельмі цікавымі архітэктар называў басняцкія дамы ці дамы майстроў на вуліцы Э. Ажэшкі. Пасля рамонту, сцвярджаў Кудра-

шоў, яны маглі б яшчэ выкарыстоўвацца доўгі час. Але якраз у той перыяд яны ўжо знішчаліся[22].

Будынкі часоў Антонія Тызенгаўза даследчыца Алена Квітніцкая, як і Кудрашоў, называла цікавымі. Па меркаванню Квітніцкай у іх ставіліся і вырашаліся пытанні планіроўкі і комплекснай забудовы значных плошчаў, пытанні тыпавога будаўніцтва, таннасці і масавасці канструкцыі, пытанні стварэння вызначанага абрыса будынка новага тыпу[23]. Сярод якасных характарыстык будынкаў на Гарадніцы ў публікацыі выкарыстоўваліся: прагрэсіўнасць, пазнавальнасць, практычнасць. Квітніцкая не выкарыстоўвала паняцці "помнік", "каштоўнасць" у адрозненні ад Кудрашова і Ягорава, але пра значнасць аб'ектаў сведчыць выснова, да якой прыйшла даследчыца – ідэі маламетражных дамоў, эканомнае спалучэнне розных матэрыялаў, максімальная выразнасць будынкаў пры мінімальных выдатках дэкаратыўных сродкаў былі блізкія сучаснаму (савецкаму – Т.К.) будаўніцтву[24].

Даследаванні таго часу сведчаць пра працэс *інтэрпрэтацыі* помнікаў, што з'яўляецца адным з галоўных шляхоў іх успрыняцця грамадскасцю як каштоўнасці. Выконваючы функцыю інтэрпрэтатараў, навукоўцы рэпрэзентавалі некаторыя з помнікаў як *сімвалы нацыянальнай ідэнтычнасці*. Прыярытэтнае становішча ў такім успрыняцці помніка займала Каложская царква XII ст[25]. Але гэтыя публікацыі па аб'ектыўных прычынах не маглі паўплываць на вялікую колькасць жыхароў горада. Навуковыя працы заўсёды маюць абмежаванае кола мэтавай аўдыторыі. А ў СМІ самым грунтоўным артыкулам, напісаным на тэму аховы *спадчыны*, быў артыкул ужо згаданага В. Кудрашова[26]. У гэты перыяд не выдаваліся навукова-папулярныя даведнікі ці буклеты пра помнікі архітэктуры Гародні[27], якія маглі ахапіць больш шырокае кола людзей у актуалізацыі гістарычных будынкаў.

Што датычыцца катэгорыі *атрактыўнасці* помніка, то яна адносная, эстэтычныя густы не заўсёды супадаюць. І на той час (1950-я – 1960-я гг.) шматлікія будынкі Гародні знаходзіліся ў паўразбураным і занядбаным стане. Усё гэта ўскладнялася паступовай стратай і такой складаючай успрыняцця помніка як *сентыментальныя пачуцці*. Паколькі змяняўся склад насельніцтва горада – выязджалі палякі, габрэі, якія не загінулі падчас вайны, прыязджалі жыхары з іншых гарадоў і вёсак – то ўсё менш заставалася людзей, у якіх помнікі выклікалі *гістарычныя ўспаміны*.

Але спробы супрацьстаяць разбурэнню гістарычных будынкаў у Гародні былі. Напрыклад, абарона Фары Вітаўта (гарнізоннага

касцёла)[28]. Аднак з боку ўладаў была праведзена “тлумачальная кампанія”, што, маўляў, яго палякі да вайны перабудавалі, будынак зараз не мае ніякай гістарычнай каштоўнасці, ён з’яўляецца аварыйным, і толькі псуе выгляд. А яшчэ пусцілі чуткі пра тое, што калі людзі пачнуць пярэчыць, то і Фарны касцёл знясуць”[29]. У выніку велічны касцёл у цэнтры Гародні быў зруйнаваны. Пасля разбурэння Фары Вітаўта, з’явіліся ідэі знішчэння і касцёла Св. Францішка Ксаверыя (Фарнага касцёла). Але супраціў грамадства быў настолькі моцны і маштабны, што ўлады адмовіліся ад гэтай задумы. У абароне Фарнага касцёла з большага ўдзельнічалі вернікі. Яны ўспрымалі касцёл як культурную *спадчыну*, якая падмацоўвалася рэлігійнымі пачуццямі. Для вернікаў Фарны касцёл з’яўляўся больш каштоўным, чым гарнізонны. Да 1960 г. ён быў дзеючым. Адразу пасля закрыцця касцёла пачалася шырокая кампанія па аднаўленню правядзення службаў у храме. За перыяд з чэрвеня 1960 г. да студзеня 1961 г. было напісана 13 заяў, лістоў, тэлеграмаў у вышэйшыя партыйныя і дзяржаўныя органы ўлады з просьбамі аднавіць дзейнасць касцёла. У адной з заяў на імя Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР было пастаўлена больш 200 подпісаў[30]. Трэба дадаць, што Фарны касцёл на той час афіцыйна з’яўляўся помнікам архітэктуры. Але, як мы ўжо зазначылі вышэй прыведзенымі прыкладамі гэты статус меў тады фармальны характар. У выніку касцёл не быў зруйнаваны, але і службы ў ім не праводзіліся да 1987 г.

Менш заўважна і амаль без супраціву былі знесены дамы майстроў на вуліцы Э. Ажэшкі. “Калі нам з Аляксеем Карпюком стала вядома, што іх хочуць знесці, мы пайшлі з пратэстам да старшыні гарвыканкама Г. Ахрыменка, - узгадваў Барыс Клейн. - Ён паводзіў сябе нахабна і агрэсіўна. Не толькі не прыпыніў разбурэнне, а наадварот, загадаў хутчэй знесці”[31].

Лаўэнталь сцвярджаў, што цікавасць да тых ці іншых слядоў мінулага расце, калі ўзрастае пагроза іх знікнення[32]. Але ў 1950-я – 1960-я гг. у Гародні гэтая тэндэнцыя не стала заканамернасцю. Стварэнне інстытута аховы помнікаў без фарміравання разумення каштоўнасці помніка па ўсіх трох накірунках: атрактыўнасць, даступная і шырокая інтэрпрэтацыя, і сентыментальныя пачуцці, не садзейнічала з’яўленню ў гараджан усведамлення гістарычнай спадчыны. З боку ўладаў адбывалася фармальнае маркіраванне помнікаў гісторыі і архітэктуры. Гародня не ўпісвалася ў іканаграфічныя патрэбы і перавагі савецкай рэчаіснасці. Мемарыялы і будынкі трэба было прыстасоўваць да пануючай ідэалогіі. Пры

гэтым адбываўся разрыў з традыцыямі і ліквідацыя пераемнасці, у выніку – адсутнасць грунта для фарміравання нацыянальнай ідэнтычнасці. Маніпуляванне гістарычнай памяццю ў той час спрыяла таму, што Гародня, маючы вялікую колькасць гістарычных будынкаў, страчвала іх як матэрыяльна, так і духоўна.

---

[1] Лоуэнталь Д. Прошлое – чужая сторона. Москва: Владимир Даль; Русский Остров, 2004. С. 580.

[2] Стурейко С.А. Антропология архитектурного наследия: взгляд на Беларусь. Мн.: Юнипак, 2010. С. 24.

[3] Лоуэнталь Д. Прошлое – чужая сторона. Москва: Владимир Даль; Русский Остров, 2004. С. 380 – 386.

[4] Советское законодательство о памятниках истории и культуры. Мн.: Полымя, 1972. С. 42

[5] Усяго па БССР было 32 помніка агульнасаюзнага значэння.

[6] Советское законодательство о памятниках истории и культуры. Мн.: Полымя, 1972. С. 156

[7] Падкрэслівалася польскасць Элізы Ажэшкі. Яна была “чужая” для большасці гараджан, але яе творы разглядаліся як блізкія па духу рэвалюцыйнаму змаганню.

[8] Советское законодательство о памятниках истории и культуры. Мн.: Полымя, 1972. С. 233 – 240.

[9] Тамсама. С. 289

[10] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 952, воп. 3, спр. 25. арк. 96 - 103

[11] Хутчэй за ўсё так званы “кантар” (XVIII ст..) на перакрыжаванні вуліц Э. Ажэшкі і Акадэмічнай.

[12] Егоров Ю.А. Градостроительство Белоруссии. Москва, 1954.

[13] Кудряшов В. И. Гродно. Москва: Государственное издательство литературы по строительству, архитектуре и строительным материалам, 1960.

[14] Квитницкая, Е.Д. Строительство Тизенгауза в Гродно // Архитектурное наследство. Москва, 1958. №11.

[15] Егоров Ю.А. Градостроительство Белоруссии. Москва, 1954. С. 63 – 74.

[16] Тамсама.

[17] Кудряшов В. И. Гродно. Москва: Государственное издательство литературы по строительству, архитектуре и строительным материалам, 1960. С. 43.

[18] Тамсама. С. 48.

[19] Гродненская правда. 23 мая 1958 г.

[20] Гродненская правда. 23 мая 1958 г.

[21] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 952, воп. 3, спр. 25, арк. 104.

[22] На сённяшні дзень застаўся толькі адзін дом майстра, дзе зараз знаходзіцца філіял Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея – музей гісторыі Гарадніцы.

[23] Квитницкая, Е.Д. Строительство Тизенгауза в Гродно // Архитектурное наследство. Москва, 1958. № 11. С. 21.

[24] Тамсама. С. 42.

[25] Егоров Ю.А. Градостроительство Белоруссии. Москва, 1954. С. 20.

[26] Гродненская правда. 23 мая 1958 г.

[27] Акрамя фотаальбома з тэкстамі А. Карпюка і вершамі Д. Бічэль-Загнетавай, выдадзенага ў 1966 г.

[28] Смалянчук А. Знішчэнне храма ў вусных успамінах. Рэжым доступу: http://harodnia.com/be/uczora/pasliavajenny-hrodna/349-znishchenne-hrama-u-vusny-h-uspamina-h. - Дата доступу: 03.11.2013

[29] З успамінаў Барыса Клейна

[30] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 952, воп. 3, спр. 25, арк. 2

[31] З успамінаў Барыса Клейна.

[32] Лоуэнталь Д. Прошлое – чужая сторона. – Москва: Владимир Даль; Русский Остров, 2004. С. 600.

*Вольга Растоўская*
*(Віцебск)*

# Гарадскія могілкі: сацыяльна-гістарычнае даследаванне (на прыкладзе Віцебска)

Могілкі з'яўляюцца неад'емным элементам культурнага ландшафту горада, месцам індывідуальнай і калектыўнай памяці і выразным прыкладам публічнай мемарыялізацыі ў гарадской прасторы. У Беларусі навуковая цікавасць да некропаляў актывізавалася толькі ў 1990-я гг. На працягу апошніх двух дзесяцігоддзяў апублікаваны вынікі даследаванняў месцаў пахавання ў гарадах ды іншых населеных пунктах Гарадзенскай вобл. (у т.л. Гародні і Наваградку) і Менску. Гэта даследаванні Юрыя Гардзеева, Мікалая Гайбы, Валерыя Чарапіцы і Сяргея Груntова.

У Віцебску габрэйскія могілкі вывучалі мясцовыя краязнаўцы Аркадзь Падліпскі і Міхаіл Рыўкін. Хрысціянскія месцы пахавання яшчэ чакаюць даследчыкаў розных дысцыплінарных накірункаў – гісторыі (у т.л. ваеннай гісторыі), археалогіі, мастацтвазнаўства, рэлігіязнаўства, культуралогіі і г.д. Некаторыя звесткі можна знайсці ў аўтараў XIX ст. (Мікалая Нікіфароўскага, Міхаіла Без-Карніловіча), у гісторыка-юрыдычных матэрыялах, даведніках, работах археолагаў (Вольгі Ляўко, Таццяны Бубенькі, Міхаіла Чарняўскага) і газетных артыкулах (Іны Абрамавай, Святланы Дзядзінкінай). Але пакуль адсутнічаюць працы, у якіх падаецца цэласны грунтоўны агляд гісторыі віцебскіх некропаляў ад старажытнасці да сучаснасці. Гэта абумоўлівае неабходнасць развіцця даследаванняў у галіне некрапалістыкі ў Віцебску і ўвогуле ў Падзвінні.

Мэта дадзенага артыкула – абагуліць інфармацыю пра калектыўныя месцы пахавання ў гістарычнай прасторы Віцебска, пазначыць магчымыя накірункі даследавання могілак і выявіць характэрныя для іх тэндэнцыі.

Вынікі маштабных археалагічных даследаванняў, праведзеных у старажытнай частцы горада на працягу XX ст., дазваляюць рэканструяваць яго некрапалістычную карту ад курганнага перыяду.

Паводле меркавання археолага Леаніда Аляксеева, кожная частка старадаўняга Віцебска, першапачаткова існуючы як самастойнае пасяленне, мела свой курганны некропаль. Так, на левым беразе Віцьбы, на месцы, якое было ядром фарміравання горада, вучоны канстатаваў мноства курганных груп IX ст. ці нават ранейшых часоў[1].

Рэканструкцыя старажытнай тапаграфіі Віцебска Л.В.Аляксеевым паказала месцазнаходжанне валатовак у раёне Задунайскай слабады, у Заручаўі (менавіта там на карце пазначаная іх найбольшая колькасць), у раёне слабады Ільіншчына і слабады Русь[2]. Валатоўкі на правым беразе Заходняй Дзвіны (у раёне Ільінскай слабады) і на яе левым беразе ("на пасадзе Заручайскім") згадваюцца ў "Гісторыка-юрыдычных матэрыялах", выбраных з актавых кніг Віцебскай і Магілёўскай губ.[3] Археолаг Вольга Ляўко таксама адзначыла наяўнасць валатовак на Кстоўскай гары, дзе пазней знаходзіліся храмы (Святадухаўскі і Нікольскі) і могілкі, датаваныя XIV–XVIII стст.[4] Магчыма, былі пахаванні на гары Вострая Магіла і на Плоскай гары. Што да самога тэрміна "валатоўкі", то ёсць звесткі, што гэта адна з назваў курганаў, якая была распаўсюджана ў арэале Віцебска і Полацка і адлюстроўвала старадаўнія славянскія ўяўленні аб волатах.

На аснове дадзеных археалогіі можна зрабіць выснову, што віцебскія курганныя могільнікі адносяцца да другой паловы I – пачатку II тысячагоддзя. Паводле дакументаў канца XVI – XVII стст., курганныя могільнікі атачалі горад, але, як сцвярджаў Л.В.Аляксееў, іх рэшткі былі знішчаны падчас пашырэння гарадской тэрыторыі ў XVIII – XIX стст.

Археолаг Георгій Штыхаў звычай пахавання ў курганах даводзіць да канца XI ст.[5] А вось Леанід Аляксееў лічыць, што такія пахаванні мелі месца яшчэ ў другой паловы XII – пачатку XIII ст., пасля чаго пачаўся ўжо "паслякурганны" час. У гэты гістарычны перыяд валатоўкі паступова замяняюцца пахаваннем у магілах (жальнікі і магілы сучаснага тыпу). Паводле меркавання Барыса Рыбакова, менавіта жальнікі (бескурганныя могільнікі з апушчаным у мацярык пахаваннем і невысокім насыпам, па контуры абкладзеным камянямі, з каменем ці каменным крыжам над галавой нябожчыка) прыйшлі на змену курганным могільнікам[6]. Пра жальнікі, распаўсюджаныя на полацкіх землях, узгадваў і Л.В.Аляксееў, разумеючы іх як пераходны тып пахавання паміж курганамі і сучаснымі магіламі. Верагодна, яны існавалі ў паўночнай Беларусі да сярэдзіны II тысячагоддзя і нават пазней, бо Л.В.Аляксееў датаваў паступовы пераход ад жальнікаў да магіл сучаснага тыпу толькі XV ст.[7]

Што да пахаванняў у горадзе, у хрысціянскіх храмах ці на іх тэрыторыі, то, верагодна, яны з’явіліся ў Віцебску не раней за сярэдзіну XII ст. Магчыма, найбольш раннія хрысціянскія магілы размяшчаліся на Замкавай гары (гістарычнае месца дзяцінца, а з XIV ст. – Верхняга замка), пры княжацкім храме Святога Міхаіла (датуецца XII ст.), а таксама ў раёне Дабравешчанскай царквы на тэрыторыі пасада (з XIVст. – Ніжняга замка).

XIV ст. датуецца пахаванне ва ўсходняй частцы Заручаўя, дзе на ўзвышшы (“Духава гара”) размяшчалася праваслаўная царква Святога Духа і Свята-Духаў жаночы манастыр, а пазней і базыльянскі манастырскі комплекс (1697-1872). У 1980-я гг. падчас археалагічнага даследавання там быў выяўлены фрагмент каменнага надмагілля з надпісам на стараславянскай мове, які можа быць суаднесены з узростам ранніх фундаментаў храма. Існуе меркаванне, што тут была пахавана заснавальніца манастыра другая жонка князя Альгерда Улляна. Пры вывучэнні падвальных памяшканняў храма XVIII – XIX стст. у больш познім культурным слаі знойдзеныя пахавальныя нішы[8]. Такім чынам, існуюць навуковыя сведчанні пра шматслойныя пахаванні на месцы Свята-Духава манастыра.

Выразны матэрыял гарадскога могільніка XVI – XVII стст. сабраны віцебскім археолагам Таццянай Бубенькай у 1994–1997 гг. падчас археалагічнага даследавання ў зоне рэстаўрацыі Дабравешчанскай царквы.

Старажытныя праваслаўныя могілкі выяўлены ў 2000-я гг. пры даследаванні паўднёва-заходняга ўчастка Узгор’я, ніжэй Уваскрасенскай царквы, пабудаванай не пазней за сярэдзіну XVI ст. У больш высокім культурным слоі сярод падмуркаў каменнага ўніяцкага Уваскрасенскага храма знойдзены пахаванні XVIII ст.

Таксама ў раёне Ўзгор’я ў 2003–2004 гг., у паўночна-заходнім баку сучаснага сквера імя Уладзіміра Маякоўскага знойдзены фрагмент царкоўных могілак, якія паводле В.Ляўко, існавалі раней канца XVII – пачатку XVIII ст. і належалі Увядзенскаму храму.

Археалагічнае даследаванне Успенскага сабора археолагамі Вольгай Ляўко і Ігарам Цішкіным дазволіла выявіць розначасовыя ўзроўні некропаля, які, магчыма, існаваў там яшчэ пры ранніх драўляных пабудовах храма з XV – XVII стст.

Падчас раскопак 2005 г. у паўднёва-заходнім баку Кстоўскай гары ў будаўнічых траншэях каменнай пабудовы, якая, паводле меркавання В.Ляўко, магла быць Нікольскім храмам, знойдзеныя рэшткі пахаванняў XVIII ст. Існуе верагоднасць існавання каля драўлянай Нікольскай царквы магіл XVII ст.

Падчас археалагічных раскопак 1987 г. на тэрыторыі сучаснага Свята-Пакроўскага кафедральнага сабора, на тэрыторыі, дзе ў перыяд з 1760-х па 1830-я гг. размяшчаліся трынітарскі касцёл і кляштар, былі знойдзены рэшткі трох пахаванняў, якія могуць быць сведчаннем існавання тут некропаля яшчэ да ўзвядзення манастырскіх пабудоваў[9]. Калі ўлічыць, што падмуркі каменнага касцёла трынітарыяў былі закладзены ў 1814 г., а каменны манастырскі комплекс вядомы з 1806 г., то могілкі маглі быць там з другой паловы XVIII ст. пры драўляным храме.

З 1990 г. археолагі працавалі ў задзвінскай частцы Віцебска насупраць левабярэжнай тэрыторыі Ніжняга, Верхняга і Узгорскага замкаў. На месцы аднаго з былых саляных складаў у 1993 г. І.Цішкіным былі знойдзеныя падмуркі каменнай Стрэчанскай царквы, пабудаванай прыкладна ў першай палове XVII ст. У 2000 г. на гэтым месцы былі выяўлены сляды прыхрамавых могілак, якія існавалі яшчэ да будаўніцтва складоў да сярэдзіны 1770-х гг.[10]

Некаторыя звесткі па некрапалістычнай гісторыі Віцебска захаваліся ў пісьмовых крыніцах. Напрыклад, у "Гісторыка-юрыдычных матэрыялах" 21 выпуска (1891) ёсць інфармацыя пра тэстамэнт 1623 г. нейкага Вайтэхоўскага, які прасіў пахаваць яго па хрысціянскім абрадзе пры Евангеліцкім зборы[11]. Можна меркаваць, што там таксама былі могілкі.

Падрабязней спынімся на асобных дакументах 1920-х гг. з Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобл. Дакументы сведчаць, што ў снежні 1922 г. у Камунальным аддзеле Віцебска зарэгістравана 22 месцы могілак: у першым раёне – Лякарніцкія, Багаслоўскія, Троіцкія, Трайчанскія, Стараверніцкія, Габрэйскія; у другім раёне – Нікольскія, Іванаўскія, могілкі Божага Нараджэння, Уваздзвіжанскія, Царскія, Габрэйскія; у трэцім і чацвёртым раёнах – Міхайлаўскія, Сямёнаўскія, Лютаранскія, Ваенныя, Брацкія, Барбарынскія, Нікольскія, Адзінаверскія і двое Габрэйскіх. Ёсць сведчанне пра тое, што 10 з іх (Троіцкія, Трайчанскія, Стараверніцкія, Нікольскія, Іванаўскія, Уваздзвіжанскія, Царскія, Міхайлаўскія, Лютаранскія і Адзінаверскія) былі "зачынены для агульнага карыстання" і адкрытыя толькі для пахавання сваякоў. Таксама вядзецца гаворка пра неабходнасць зачыніць Ваенныя могілкі па прычыне іх перапоўненасці і павялічыць плошчу Лякарніцкіх і Брацкіх могілак[12].

Стараверніцкі, Ваенны і Лютаранскі некропалі, пазначаныя ў спісе зачыненых, існуюць да гэтага часу ў культурным гарадскім ландшафце. З агульнай колькасці названых 22-х могілак захаваліся

толькі пяць: праваслаўныя Сямёнаўскія, Лютаранскія і Ваенныя, сёння вядомыя як Стара-Сямёнаўскія могілкі, а таксама Стара-верніцкія і габрэйскія Стара-Уланавіцкія.

Сучасная візуальная гарадская прастора ўтрымлівае 33 некропалі: 2 ваенныя мемарыяльныя, 31 гарадскі грамадскі (30 з іх падначаленыя дзяржаўнаму прадпрыемству "Віцебскі спецыялізаваны камбінат грамадзянскага абслугоўвання"[13]) і адно месца пахавання (каля Казанскай царквы Маркава манастыра) знаходзіцца пад наглядам Віцебскай праваслаўнай епархіі. Толькі сем некропаляў афіцыйна з'яўляюцца адкрытымі для пахавання, двое (Яроменкі і Клінічны) закансерваваныя, а 22 – закрытыя з правам пахавання сваякоў у вызначаным агароджаным месцы.

Калі палічыць таксама месцы пахавання, візуальна не акцэнтаваныя ў культурным ландшафце Віцебска, то іх колькасць дасягне 39 некропаляў, уключаючы нямецкія ваенныя. Але гэтая лічба не з'яўляецца дакладнай і канчатковай, бо падчас далейшых даследаванняў магчыма будуць выяўлены іншыя забытыя старадаўнія могілкі, як мясцовых жыхароў, так і іншаземцаў.

Зыходзячы з канцэпцыі, што гарадскі ландшафт утрымлівае візуальна (эйдэтычна) аб'ектываваныя і неаб'ектываваныя культурныя формы[14], усе вышэй пазначаныя могілкі можна змясціць у табліцу, падзяліўшы на два тыпы – эйдэтычна аб'ектываваны і эйдэтычна неаб'ектываваны (гл. Табліцу). Старажытныя курганныя могільнікі ў табліцу не ўключаны.

| | **эйдэтычна аб'ектываваны тып** | **эйдэтычна неаб'ектываваны тып** |
|---|---|---|
| **Хрысціянскія** | 1. праваслаўныя, лютаранскія і ваенныя Стара-Сямёнаўскія (не пазней сяр. XIX ст., закрытыя для пахавання ў 1972 г.),<br>2. праваслаўныя Нова-Сямёнаўскія (1913-1972),<br>3. Стараверніцкія (1913-1972),<br>4. Пяскавацінскія (1920-1972),<br>5. Абрадавыя,<br>6. Чэпінскія,<br>7. Мішкаўскія,<br>8. Лучоскія (1928–1972),<br>9. Тарныя-1, | 1. каля храма Св. Міхаіла на Замкавай гары (з XII ст.),<br>2. каля Дабравешчанскай царквы (не раней сяр. XII ст.; пахаванні XVI-XVII ст.),<br>3. на Свята-Духаўскай гары пры Свята-Духавым жаночым манастыры (з XIV ст.),<br>4. на Успенскай гары (з XV ст.),<br>5. каля Уваскрасенскай (Рынкавай) царквы (XVI ст., XVIII ст.),<br>6. Увядзенскія (раней к. XVII ст.),<br>7. Троіцкія (магчыма, з XVII ст.), |

| | | |
|---|---|---|
| | 10.Тарныя-2,<br>11. Арэхаўскія,<br>12. Загорскія (узніклі ў пер. чв. XX ст.),<br>13. Грышана-Залатагорскія (стараверніцкія пахаванні пер. пал. XX ст.),<br>14. Нікраполле,<br>15. Білева,<br>16. ст. Лучоса,<br>17. Руба (дзейсныя),<br>18. Уланавіцкія,<br>19. Васьковічы,<br>20. Баронікі-1,<br>21. Баронікі-2 (дзейсныя),<br>22.Стара-Слабадскія (Вярхоўе) (дзейсныя),<br>23. Васюты,<br>24. Шпілі,<br>25. Лучоса-май,<br>26. Яроменкія (закансер.),<br>27. Клінічныя (закансер.),<br>28. Мазурынскія (дзейсныя),<br>29. Копці (дзейсныя з 1997г.),<br>30. каля праваслаўнай Казанскай царквы Маркава манастыра (дзейсныя). | 8. пры Евангеліцкім зборы на тэр. Ніжняга Замка (узгадваюцца ў крыніцы ў 1623 г.),<br>9. Нікольскія або Мікалаеўска-Завіцьбенскія (з XVII ст.),<br>10. могілкі Божага Нараджэння (з XVIII ст.),<br>11. Уваздзвіжанскія ці Смаленскія (з XVIII ст.),<br>12. пахаванні кн. Агінскіх у езуіцкім кляштары (XVIII ст.),<br>13. пахаванні пры раннім Трынітарскім касцёле (др. пал. XVIII ст.),<br>14. Тадулінскія,<br>15. Трайчанскія (раней за 1860-я гг.),<br>16. Іванаўскія (уздоўж Тулаўскай дарогі),<br>17. Лякарніцкія (з 1845 г.),<br>18. Адзінаверскія Багаслоўскія (з 1852 г.),<br>19. Царскія (1812 г. – пач. XX ст.) – раён Слабадской вуліцы,<br>20. могілкі пры царкве Мікалая Цудатворца (к. XVIII ст.),<br>21. каля Ільінскай царквы ў Задзвінні (з XV ст. ці XVII ст.),<br>22. у Задзвінні каля каменнай Стрэчанскай царквы (1 пал. XVII ст. – да к. XVIII ст.),<br>23. каля каменнай Міхайлаўскай царквы ў Задзвінні (да к. XVIII ст.),<br>24. каля Троіцкай царквы Маркава манастыра ў Задзвінні (з 1 пал.- сяр. XVII ст.),<br>25. каля Мікалаеўскай царквы Маркава манастыра,<br>26. пахаванні фундатараў Піпчанак у Казанскай царкве Маркава манастыра,<br>27. каталіцкія Барбарынскія могілкі ў Задзвінні (раней за 1785 г.),<br>28. каля Георгіеўскай (Юр'еўскай) царквы на Юр'евай гары (з XV–XVI ст.),<br>29. Адзінаверніцкія (на паўночным схіле Юр'евай гары), |

| | | |
|---|---|---|
| | | 30. Міхайлаўскія (к. XVIII ст.) у Задзвінні на былой Стара-манастырскай вуліцы,<br>31. Нікольскія (Мікалаеўскія, або Вайсковыя) могілкі каля Мікалаеўскай царквы ў Задзвінні (XVIII ст.),<br>32. Міхайлаўскія (сучасная вул. Гарбачэўскага),<br>33. Брацкія ў Задзвінні. |
| **Габрэй-скія** | 1.Стара-Уланавіцкія (дзейсныя з 1905 г. ці 1909 г.) | 1. могілкі на Ўзгор'і (суч. вул. Путна) (дзейнічалі з 1750 г. да сяр. XIX ст.),<br>2. могілкі на левым беразе Дзвіны, паміж ракой і сучасным праспектам Чарняхоўскага (існавалі з сяр. XVIII ст. да 1960-х гг.),<br>3. могілкі на правым беразе Дзвіны, недалёка ад перасячэння суч. вул. Герцана і Паўлава (дзейнічалі з пач. – сяр. XIX ст. да пач. 1920-х гг., знесеныя ў 1934-1936 гг.),<br>4. могілкі на Гарадоцкай шашы, (суч. вул. Ленінградская) (узніклі пасля 1904 г.). |
| **Вайско-выя** | 1. на Успенскай гары – у скверы Герояў 1812 г. па вул. Савецкай,<br>2. на вул. Цітова. | 1. нямецкія пахаванні на вул. Праўды,<br>2. пахаванні нямецкіх салдат 1941-1943 гг. на тэрыторыі Віцебскай абласной дзіцячай лякарні і па вуліцы Жасткова, 19. |

Выкарыстоўваючы адносна віцебскіх могілак паняцце субстытуцыі (пад ім разумеецца працэс і вынік замяшчэння адных культурных формаў іншымі, што садзейнічае змене індывідуальнай і калектыўнай памяці і ідэнтычнасці)[15], можна казаць пра наяўнасць двух відаў субстытуцыі – татальнага і частковага.

Праяўленнем частковай субстытуцыі з'яўляецца "наступленне" жылога фонду на мемарыяльную прастору – на тэрыторыю старых могілак, якія ў выніку ўрбанізацыйнага працэсу апынуліся ў межах горада (напрыклад, пахаванні ў раёне Білева). Гістарычныя Стара-Сямёнаўскія могілкі, афіцыйна закрытыя ў 1972 г., утрымліваюць пазнейшыя пахаванні і знаходзяцца ў атачэнні "прыватнага сектара", у непасрэднай блізкасці да жылых пабудоў. Замацаваная законам адлегласць у 300 метраў не вытрымліва-

ецца[16]. Аналагічная сітуацыя на дзейсных габрэйскіх Стара-Уланавіцкіх могілках ды іншых.

Ёсць прыклады татальнай субстытуцыі – знікнення могілак з візуальнай гарадской прасторы ў выніку іх поўнага замяшчэння паркавай зонай, жылымі і грамадскімі пабудовамі. Так, на месцы Трайчанскіх могілак сёння дзіцячы сад № 55 на вул. Піянерскай, на месцы Уваздзвіжанскіх (Смаленскіх) могілак – дамы і паштамт на Маскоўскім праспекце і г.д.

Падводзячы вынікі, трэба адзначыць, што спроба скласці некрапалістычную карту Віцебска сутыкаецца з неабходнасцю працы з разнастайнымі відамі крыніцаў, сістэматызацыі інфармацыі, міждысцыплінарнага падыходу да даследавання могілак, існуючых у культурным ландшафце горада як эйдэтычна аб'ектываваны тып. Выкарыстанне пэўнай канцэптуальнай асновы, у прыватнасці тыпалогіі і канцэпцыі субстытуцыі можа садзейнічаць далейшаму навуковаму вывучэнню могілак і развіццю некрапалістыкі.

---

[1] Алексеев Л.В. Западные земли домонгольской Руси: очерки истории, археологии, культуры: в 2 кн. Москва, 2006. Кн. 1. С. 60.

[2] Алексеев Л.В. Полоцкая земля (Очерки истории Северной Белоруссии) IX – XIII вв. Москва, 1966. С.168.

[3] Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящиеся в Центральном архиве в Витебске и изданные под редакцией архивариуса сего архива М.Верёвкина (ИЮМ). Витебск, 1891. Вып. 21. С. 497, 480.

[4] Левко О.Н. Витебск. Минск, 2010. С. 222.

[5] Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли (IX–XIIIвв.). Минск, 1978. С. 123.

[6] Рыбаков Б.А. Язычество Древней Руси. Москва, 1987. С. 118.

[7] Алексеев Л.В. Полоцкая земля (Очерки истории Северной Белоруссии) IX–XIIIвв. Москва, 1966. С. 49.

[8] Левко О.Н. Витебск. Минск, 2010. С. 107.

[9] Тамсама. С. 108.

[10] Цішкін І.А. Пад мурамі саляных складаў. Невядомы помнік беларускага рэнесансу. Мінск, 2005. С. 9–10.

[11] Историко-юридические материалы… С. 496.

[12] Государственный архив Витебской области. Ф. 1001, воп. 1, ад.з. 287. Арк. 110.

[13] Архив Коммунального унитарного предприятия производственно-ритуальных услуг "Витебский специализированный комбинат гражданского обслуживания".

[14] Ростовская О.М. Город как место памяти: методологический анализ // Ученые записки УО "ВГУ им. П.М. Машерова": сборник научных трудов. Витебск, 2013. Т. 15. С. 105-110.

[15] Ростовская О.М. Феномен субституции в историческом исследовании городского кладбища // Социально-гуманитарные знания: материалы X Респ. науч. конф. молодых ученых и аспирантов, Минск, 29 ноября 2013 г. Минск, 2013. С. 65-68.

[16] Закон Республики Беларусь от 12.11.2001 N 55-З "О погребении и похоронном деле". ст. 17.

**Беларускае гістарычнае таварыства**
**Інстытут славістыкі Польскай акадэміі навук**
**Таварыства беларускай школы**
**“Гарадзенская бібліятэка”**

Запрашаем да ўдзелу ў VII міжнароднай навуковай канферэнцыі ў Гародні ў межах традыцыйных “Дзён святога Губерта”

## *Гарадзенскі соцыум: чалавек у прасторы горада (7-8 лістапада 2014 г.)*

У Гародні працягваюцца даследаванні сацыяльнай гісторыі горада ў кантэксце мінулага іншых гарадоў Беларусі і ўсёй Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Аб'ектам галоўнай увагі навукоўцаў застаецца гараджанін як суб'ект лакальнай гісторыі, а таксама грамадска-палітычны, канфесійны і культурны асяродак, у якім праходзіла яго жыццё. Нас цікавяць, як шэраговыя постаці, вывучэнне якіх паглыбляе веды пра пэўныя сацыяльныя колы жыхароў горада, так і асобы, што вылучаліся з гэтага шэрагу...

Наш праект заахвочвае да кампаратывістыкі і міждысцыплінарнага падыходу. Адпаведна вітаюцца рэфераты, якія закранаюць азначаную праблематыку на матэрыялах іншых гарадоў. Важную ролю ў даследаваннях гарадскога соцыума апроч гісторыкаў могуць адыграць культуролагі, сацыёлогі, лінгвісты, сацыяльныя антраполагі, а таксама прадстаўнікі іншых гуманітарных дысцыплінаў, якіх шчыра запрашаем прыняць удзел у канферэнцыі.

***Чарговая Гарадзенская канферэнцыя прысвячаецца тэме ўзаемадачыненняў гараджаніна і горада як пэўнай сацыяльнай, культурнай і канфесійнай прасторы.***

***Дыскусійнае поле канферэнцыі ахоплівае наступныя праблемы:***

- *гараджанін як аб'ект даследавання розных гуманітарных дысцыплінаў;*
- *асоба і соцыум у гарадской гісторыі;*
- *гарадскі соцыум і дзяржаўныя інстытуты;*
- *гараджанін ва ўмовах трансфармацыі канфесійнага ландшафту;*
- *сацыяльныя ролі гараджаніна: ад “традыцыйнага” да “індустрыяльнага” грамадства;*

- *культурная прастора горада як месца памяці і ідэнтычнасці;*
- *чалавек у шматмоўнай прасторы горада;*
- *гарадскі соцыум у “эпоху нацыяналізмаў”.*

Заяўкі на ўдзел просім дасылаць у два адрасы:
Алесю Краўцэвічу (akraucewicz @ gmail.com)
Алесю Смаленчуку (ales.ramuma@mail.com).

У заяўцы неабходна ўказаць навуковую ступень, месца працы, тэму рэферату і асноўныя тэзісы, кантактны тэлефон і адрас электроннай паштовай скрыні.

Аргкамітэт пакідае за сабой права адбору заявак.

Матэрыялы канферэнцыі будуць апублікаваныя.

*Алесь Краўцэвіч*
*Алесь Смалянчук*